# ქართული პოეზიის ანთოლოგია

ორ ტომად

ტომი

I

რედაქტორი
ალეს რაზანაუ

მინსკი
„მასტაცკაია ლიტარატურა"
1989

# Анталогія грузінскай паэзіі

*ў двух тамах*

Том

I

Рэдактар
Алесь Разанаў

МІНСК
«МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА»
1989

ББК 84Гр
А 72

*Пераклад з грузінскай*

Рэдакцыйная калегія:
*Васіль Зуёнак, Міхаіл Квлівідзе, Атар Нодзія, Алесь Разанаў, Максім Танк, Джансуг Чарквіяні*

Укладанне, падрадковыя пераклады і заўвагі падрыхтаваны Галоўнай рэдакцыйнай калегіяй па мастацкім перакладзе і літаратурных узаемасувязях пры Саюзе пісьменнікаў Грузіі.

Прадмова *Саргіса Цаішвілі*
Біяграфічныя даведкі *Уладзіміра Сіўчыкава*

В антологии отображен многовековой — от глубокой древности до наших дней — путь развития грузинской поэзии, органически соединивший в себе, на богатой и самобытной национальной основе, достижения цивилизации Востока и Запада.

Первый том составили произведения поэтов IX—XVIII столетий: Давида Строителя, Шота Руставели, Теймураза I, Арчила II, Вахтанга VI, Давида Гурамишвили и др.

$А \frac{4702170102-010}{М\ 302(03)-89} 128-89$

ISBN 5-340-00139-3 (т. 1)
ISBN 5-340-00181-4

# НАШЧАДКІ БАГАТЫХ ТРАДЫЦЫЙ

«Чаму Грузію называюць краінай паэтаў?» — на гэтае пытанне вялікага грузінскага паэта XX стагоддзя Галакціёна Табідзе, зразумела, цяжка даць адназначны адказ.

Можа, прычынай таму разнастайная прырода Грузіі, рамантычнасць яе далін і нагор'яў, што вызначылі мяккасць і лірычнасць характару грузіна, а можа, суровая веліч і дзікая прыгажосць яе скал і гор, што абумовілі гераічную цвёрдасць грузінскай натуры? Магчыма, прычынай таму — надзіва гнуткая і выразная мова, якая на працягу ледзь не двухтысячагадовага перыяду сваёй зафіксаванай гісторыі амаль не змянілася,— хто ведае?

Сучасныя гісторыкі сцвярджаюць, што продкі грузінаў рассяляліся не толькі на тэрыторыі сучаснай Грузіі, але і ў Малой Азіі і на паўднёва-ўсходнім узбярэжжы Чорнага мора. На працягу стагоддзяў многае істотна мянялася, але картвельскія (грузінскія) плямёны здолелі захаваць самыя істотныя элементы сваёй самабытнай культуры. Па розных прычынах, сярод якіх не апошняе месца займаў цяжкадаступны горны рэльеф, яны змаглі адстаяць свае дзяржаўныя аб'яднанні — Калхіду і Іберыю, а потым стварылі адзіную дзяржаву. Яе тэрыторыя аказалася на мяжы двух светаў — усходняга і заходняга. Гэта і вызначыла трагічныя бакі гісторыі грузінскага народа.

Каштоўныя звесткі па гісторыі Грузіі антычнага перы-

яду захаваліся ў творах старажытнагрэчаскіх аўтараў — Апалонія Радоскага, Філастрата, Герадота і інш. Як ні парадаксальна, але, на жаль, гісторыю і культуру Грузіі ў антычны час ведалі куды лепш, чым у познім сярэднявеччы — у працах заходнееўрапейскіх вучоных і падарожнікаў таго перыяду можна знайсці зусім фантастычныя звесткі пра Каўказ. Прычыну гэтага трэба шукаць перш за ўсё ў зменлівасці гістарычнага лёсу самой Грузіі.

Сярод выдатных дзеячаў, якія змагаліся за адзінства і росквіт Грузіі, вылучаюцца цар колхаў Губаз (VI ст.) і цар іберау Вахтанг Гаргасал (V ст.), які не раз наносіў паражэнні персам і ўсе свае сілы аддаваў аб'яднанню народаў Закаўказзя ў барацьбе супраць іншаземных захопнікаў. Ён ажыццявіў некалькі паспяховых паходаў на Паўночны Каўказ і перанёс сталіцу Іберыі са старажытнага горада Мцхета ў Тбілісі, які стаў сімвалам адзінай Грузіі.

У гэты час адбылася яшчэ адна падзея надзвычайнай важнасці. Амаль адначасова з Рымскай імперыяй, у 30-я гады IV стагоддзя, Грузія абвясціла хрысціянства афіцыйнай рэлігіяй, што канчаткова сцвердзіла яе заходнюю арыентацыю.

Паводле паданняў, хрысціянства ў Грузіі распаўсюдзіла святая Ніна, якая прыйшла з Кападакіі і зрабіла крыж з вінаграднай лазы, змацаваўшы яе сваімі валасамі.

Царква стала магутнай сілай і з'яднала народ у арганізацыйным і ідэалагічным сэнсе ў змаганні з іранскімі і турэцкімі заваёўнікамі, якія ажыццяўлялі сваю экспансію пад сцягам «сапраўднай» веры. У гэтым кантэксце хрысціянства стала сінонімам нацыянальнай незалежнасці грузінаў. Акрамя таго, новая рэлігія садзейнічала развіццю асветы і культуры. Адразу ж былі перакладзены біблейскія кнігі, пачала развівацца арыгінальная і перакладная (з грэчаскай, сірыйскай, арабскай, армянскай і іншых моў) канфесіянальная літаратура.

Культурна-асветніцкія цэнтры (у асноўным — манастыры) ствараліся ў розных рэгіёнах краіны, а таксама за яе

межамі — у Сірыі, Палесціне, Грэцыі, Балгарыі. Непасрэдныя кантакты з перадавымі цэнтрамі хрысціянскай культуры не давалі грузінскай літаратуры замыкацца ва ўласных межах.

Небеспадстаўна лічыцца, што ўзнікненне грузінскай пісьменнасці прыпадае на трэцяе стагоддзе да нашай эры. «І быў Фарнаваз першым царом у Картлі,— гаворыцца ў старажытным летапісе.— Ён распаўсюдзіў мову грузінскую, і не было мовы ў Картлі, апроч грузінскай. І стварыў ён пісьменнасць грузінскую». Аднак бязлітасны час, шматлікія нашэсці ворагаў і апалагеты хрысціянства знішчылі ўсе помнікі гэтай пісьменнасці.

Самыя старажытныя ўзоры грузінскай пісьменнасці, што дайшлі да нас, датуюцца апошняй чвэрцю V стагоддзя нашай эры («Пакутніцтва Шушанікі» Якаба Цуртавелі).

Найбольшага эканамічнага і культурнага росквіту краіна дасягнула ў XI—XII стагоддзях, аднак у далейшым яна аказалася ізаляванай ад Заходняй Еўропы і была вымушана ў адзіночку змагацца з магутнымі і жорсткімі агрэсарамі.

Самай значнай фігурай у барацьбе за стварэнне адзінай і моцнай дзяржавы быў цар Давід Будаўнік (1089—1125). Ён не толькі аб'яднаў Грузію, але і ажыццявіў метадычны наступ на мусульманскі свет. Яго справу працягвалі нашчадкі, сярод якіх дыяментам ззяе імя царыцы Тамары (1184—1213).

Грузінскія цары памяркоўна ставіліся да прадстаўнікоў іншых нацыянальнасцей, інакш іх імкненне аб'яднаць Закаўказзе было б марнае: гэты рэгіён засялялі народы розных нацыянальнасцей і веравызнанняў.

У Грузію ахвотна прыязджалі падарожнікі з розных краін, ажывіліся гандлёвыя сувязі з суседнімі народамі. Эканамічная і палітычная магутнасць садзейнічала ўздыму культуры. Давід Будаўнік заклаў падмурак архітэктурнага комплексу Гелаці — акадэміі і манастыра, а таксама многіх іншых цудоўных помнікаў. У часы царыцы Тамары завяр-

шылася ўзвядзенне знакамітай Вардзіі — горада, высечанага ў суцэльнай скале, што сведчыць пра грандыёзныя маштабы будаўніцтва і майстэрства дойлідаў. Высокага ўзроўню развіцця дасягнуў фрэскавы жывапіс. Дзякуючы рэформам Давіда Будаўніка, які падначаліў царкву дзяржаве, небывалы ўзлёт адзначаўся ў свецкай літаратуры.

Да нас дайшлі пераклады і арыгінальныя творы выдатных пісьменнікаў і вучоных Эквцімэ і Георгія Атанэлі, Арсена Ікалтаэлі, Іаанэ Петрыцы. У той час былі напісаны оды Шаўтэлі і Чахрухадзе, авантурна-гераічныя апавяданні Масэ Ханэлі «Аміран-Дарэджаніяні». Грузінскі чытач бліжэй пазнаёміўся з антычнай і візантыйскай філасофіяй і літаратурай, з усходняй паэзіяй. Саргісу Тмагвелі прыпісваецца выдатны пераклад персідскага рамантычнага эпасу «Вісраміяні».

Адметнае месца ў гісторыі грузінскага паэтычнага мыслення займае духоўная паэзія (гімнаграфія). Узнікненне яе ў Грузіі, як і ў іншых краінах, абумоўлівалася літургічнымі патрэбамі. Песнаспевы займаюць у хрысціянскай царкве значнае месца і складаюць абавязковы элемент набажэнства, як адну з форм выражэння рэлігійнага пачуцця. Поруч з перакладамі гімнаграфічных твораў у VIII стагоддзі ў Палесціне, Паўднёвай Грузіі, а пазней на Афонскай гары ўзніклі ўласна грузінскія гімнаграфічныя школы, якія шукалі самастойных шляхоў. Паводле звестак пісьменніка X стагоддзя Георгія Мерчулэ, у Паўднёвай Грузіі, у Хандзта ўжо ў VIII стагоддзі існаваў арыгінальны гімнаграфічны зборнік. Да таго ж часу належыць і так званая папірусна-пергаментная мінея.

У гісторыі грузінскай гімнаграфіі важнае месца займае мінея, складзеная ў X стагоддзі Мікаэлам Мадрэкілі, у якую разам з песнаспевамі замежных аўтараў уключаны дзесяткі арыгінальных грузінскіх твораў. Гэты зборнік мае своеасаблівыя нотныя і рытміка-пунктуацыйныя знакі, неабходныя для выканання песнаспеваў. Існавала ў Грузіі і даволі моцная школа меладосаў.

Даследчыкі грузінскага верша прытрымліваюцца розных пунктаў гледжання па пытанні аб яго рытмічнай прыродзе.

Некаторыя лічаць грузінскі верш сілаба-танічным (прафесар А. Гацарэлія), але ў апошні час было выказана меркаванне, што ён — чыста сілабічны, бо ў грузінскай мове націск не адыгрывае вызначальнай ролі. Паводле гэтага слушнага меркавання грузінскі класічны верш абапіраецца на натуральныя магчымасці мовы і з'яўляецца «рэгулярным сілабічным вершам» (акадэмік Г. Цэрэтэлі і інш.).

Грузінскі класічны верш генетычна звязаны з народнай паэзіяй. Што тычыць духоўнай паэзіі (гімнаграфіі), дык у ёй дамінуе мелодыя, якой падпарадкоўваецца тэкст. Гімнаграфічны верш, пабудаваны па мадэлі візантыйскай гімнаграфіі, аказаўся чужы і амаль не паўплываў на грузінскае вершаскладанне. Наадварот, фальклорныя вершаваныя памеры ўсё энергічней прапікалі ў гімнаграфію. Праз свецкі верш у духоўную паэзію прасачыўся такі кампанент народнага верша, як рыфма.

Аднак гэта тычыцца толькі вершаваных памераў, бо паэтычная мова гімнаграфіі плённа паўплывала на грузінскую свецкую паэзію, асабліва на лірыку.

У гімнаграфіі былі распрацаваны формы, што дазвалялі выяўляць глыбокія суб'ектыўныя пачуцці і медытацыі. Рэлігійнае пачуццё, адно з галоўных у эмацыянальным светаўспрыняцці тагачаснага чалавека, вымагала менавіта лірычных форм, якія надавалі паэтычнай мове адметную гнуткасць і выразнасць. Вось толькі адзін узор верша грузінскага гімнографа, што па сваім душэўным настроі нагадвае творы аднаго з родапачынальнікаў сусветнай гімнаграфіі Іаана Дамаскіна:

Жыццё міне і пагасне,
завяне краса, развеецца веліч,
і не ўратуе ад смерці багацце,
якім ганарыліся ўсе мы гэтак —
станем зямлёю мы, глінай, тленам!

Пойдзем, браты, зазірнём у магілы:
дзе яны — зайздрасць і ганарлівасць?!.
дзе яны — моц, варажнеча, цуды?!.
дзе яны — вабы, дзе — корць пачуццяў?!.
Стала ўсё тленам, зямлёю, глінай.

Гэты гімн вабіць сваёй простай, празрыстай паэтычнай мовай, дакладным асэнсаваннем адвечнай тэмы марнасці быцця. Гімнаграфічная паэзія наогул, усюды, дзе б яна не ўзнікала, ахоплівала шырокае кола агульначалавечых праблем.

Для яе асабліва характэрна кампазіцыйная дасканаласць лірычнага верша, абумоўленая асноўнай тэмай гімнаграфіі — імкненнем да бажаства, да ўсявышняга.

Зразумела, гімнаграфічная паэзія не магла не выкарыстоўваць біблейскую сімволіку. У гэтым сэнсе кнігі Старога і Новага запаветаў — невычарпальная скарбніца, бо аўтары гэтых кніг, як вядома, нярэдка дасягаюць сапраўдных вышынь мастацкага мыслення.

Знаёмства з грузінскай гімнаграфіяй адкрывае чытачу надзвычайную разнастайнасць містычных сімвалаў, здзіўляе майстэрствам, з якім гімнографы выкарыстоўваюць іх, каб выявіць боскую веліч.

З прычыны пэўнага моўнага бар'еру сучаснаму чытачу, зразумела, цяжка спасцігнуць у поўнай меры ўсе тонкасці гімнаграфічнай паэзіі, але галоўнае не выпадзе з-пад яго ўвагі: гэта — імкненне да чыстых і светлых ідэалаў, глыбокая скруха, выкліканая маральным заняпадам чалавека, клопат аб яго ўзвышэнні.

З гістарычнага пункту погляду гімнаграфія, прадстаўнікі якой у сваіх творах узвялі паэтычнае слова на новую вышыню, адыграла пэўную ролю ў развіцці грузінскай паэзіі наступных стагоддзяў.

На галоўнай жа магістралі грузінскага прыгожага пісьменства ўзвышаецца велічная фігура Шата Руставелі. Яго бессмяротная паэма «Віцязь у барсавай шкуры» ўвенчвае эпоху росквіту грузінскай культуры.

У сусветнай літаратуры знойдзецца нямнога кніг, што заваявалі такое шырокае прызнанне ў свайго народа, як руставелеўскі шэдэўр. «Як Гамер ёсць Элада, Дантэ — Італія, Шэкспір — Англія, Кальдэрон і Сервантэс — Іспанія, Руставелі ёсць Грузія». Гэтыя словы вядомага рускага паэта і перакладчыка «Віцязя...» Канстанціна Бальмонта дакладна вызначаюць месца Руставелі ў гісторыі грузінскай паэтычнай культуры.

Бязмежная вера ў чалавека — асноўны пафас эпапеі «Віцязь у барсавай шкуры» і менавіта ў гэтым аспекце трэба разглядаць яе стваральніка як вялікага гуманіста сярэдневякоўя. Слушна выказваўся вядомы французскі паэт і мысліцель Луі Арагон: «Паэма «Віцязь у барсавай шкуры» * — самы выдатны твор сярэдневякоўя. У адрозненне ад вялікіх паэм Заходняй Еўропы той жа эпохі, яна вольная ад усялякага роду містыкі і, як творы эпохі Адраджэння, стаіць вышэй за хрысціянскае вучэнне... Грузія нарадзіла свайго Дантэ, калі мы ледзь дасягнулі ўзроўню Крэцьена дэ Труа».

Найвялікшая заслуга Руставелі ў тым, што ён не толькі выказаў перадавыя ідэалы свайго часу, але і адкрыў новыя далягляды грузінскай паэзіі і філасофіі. Руставелі — заснавальнік новай літаратурнай мовы, а грузінскі верш у яго паэме дасягнуў надзвычайных вышынь.

У эпоху Руставелі і царыцы Тамары Грузія была самай магутнай дзяржавай Пярэдняй Азіі і адыгрывала вялікую ролю ў палітычным жыцці рэгіёна. Аднак не было народа, гістарычны шлях якога быў заўсёды ўсыпаны кветкамі. На сусветную арэну нечакана выступіла сіла, якая нанесла незаменныя страты многім краінам. Нашэсце мангольскіх ордаў цягнулася некалькі стагоддзяў, а потым пачалі-

---

* Назва руставелеўскага шэдэўра «Вепхісткаасані» літаральна перакладаецца як «той, хто носіць тыгравую (барсавую) шкуру». Але паводле апошніх даследаванняў руствелолагаў слова «вепхві» азначала ў XII ст. «барс».

ся заваёўніцкія напады персаў-кізылбашаў і шматлікіх цюркскіх заваёўнікаў.

У авангардзе барацьбы супраць захопнікаў стаялі і лепшыя прадстаўнікі грузінскай літаратуры і культуры, пра што сведчаць узнёслыя радкі Галакціёна Табідзе: «Паэт быў не толькі паэтам, паэт быў і воінам, коннікам». Змаганне за фізічнае захаванне нацыі стала асноўным зместам літаратуры.

Ажыўленне грузінскай паэзіі прыпадае на XVI стагоддзе і асноўную ролю ў гэтым адыграла адраджэнне традыцый класічнай літаратуры, цікавасць да паэзіі Руставелі. Узрасла таксама цікавасць да ўсходняй, асабліва персідскай, паэзіі: нанова былі перакладзены паэмы Фірдаўсі і Нізамі.

Адметнае месца займаюць і творы лірычнага жанру грузінскіх аўтараў. Тыповая ў гэтым сэнсе творчасць паэта XVII стагоддзя Тэймураза I, у якой арганічна зліваліся нацыянальныя традыцыі і глыбокае вывучэнне персідскай паэзіі. Яго пяру належыць паэма «Пакутніца Кетэван», прысвечаная маці паэта, якая прыняла пакутніцкую смерць за радзіму і хрысціянства.

У творах дзяржаўнага дзеяча і паэта наступнай эпохі цара Арчыла I яскрава адлюстраваны антыперсідскія тэндэнцыі і барацьба за чысціню мовы. Разам з іншымі паэтамі (Іосіфам Тбілелі, Давідам Гурамішвілі) Арчыл развіў жанр гістарычнай паэмы («Спрэчка Тэймураза і Руставелі»). Закранаў ён і сацыяльныя пытанні. Яму належыць некалькі нечаканае для сярэднявечча выказванне: «Калі гіне селянін, знясільвае Грузія». Наватарскай была і яго пазіцыя ў пытанні ідэйнага зместу мастацкай літаратуры: паэт горача адстойваў рэалістычны прынцып «праўдзівага апавядання».

Разам з пошукамі шляхоў палітычнага выратавання краіны культурная дзейнасць паэта ў тыя часы мела, па сутнасці, асветніцкі характар. Гэтай якасцю яна набліжалася да дзейнасці паэта, байкапісца і лексікографа Сулха-

на-Саба Арбеліяні (1658—1725), які ўзбагаціў грузінскую лірычную паэзію новымі формамі. Яго дыдактычная кніга баек і прытчаў «Мудрасць вымыслу», у якой выказаны асветніцкія ідэі, была накіравана супраць заган грузінскага феадальнага грамадства і з'яўляецца пэдэўрам баечнага жанру. Напружана працаваў паэт і над складаннем тлумачальнага слоўніка грузінскай мовы, які быў завершаны ў 1713 годзе, але ўяўляе вялікую каштоўнасць і сёння.

Вялікія заслугі перад грузінскай культурай мае выхаванец, а потым і паплечнік Сулхана-Саба Арбеліяні паэт і вучоны Вахтанг VI (1675—1737). Ён заснаваў першую ў Пярэдняй Азіі друкарню, дзе ў 1712 годзе была надрукавана паэма «Віцязь у барсавай шкуры» з яго навуковымі каментарыямі і тлумачэннямі.

Вахтанг VI працягваў пачатую яго продкамі справу выратавання Грузіі ад агрэсіі з Усходу. Пасля марных намаганняў наладзіць палітычныя кантакты з краінамі Заходняй Еўропы (Францыяй, Рымам і інш.) ён ажыццявіў энергічныя спробы збліжэння з адзінавернай Расіяй. Слушнасць палітычнай арыентацыі Вахтанга VI была пацверджана ходам гістарычных падзей. Па абраным ім шляху крочыў Іраклій II, які падпісаў у 1783 годзе руска-грузінскі трактат.

Сярод тагачасных паэтаў перш за ўсё трэба назваць Давіда Гурамішвілі (1705—1792). Яго лёс склаўся трагічна: большую частку свайго жыцця яму давялося правесці за межамі радзімы, у Расіі, а потым на Украіне, дзе ён знайшоў свой апошні прытулак. Гурамішвілі, поруч з аўтабіяграфіяй, у паэтычнай форме апісаў гісторыю сваёй айчыны. Нікому з папярэднікаў не ўдалося паказаць лёс грузінскага народа з такой сілай і гуманістычным пафасам, як Гурамішвілі ў лірыка-эпічнай паэме «Бядоты Грузіі». Вынікам асэнсавання і драматычнага ўвасаблення гэтай тэмы стала і кніга вершаў «Давідзіяні».

У лірычных вершах паэта вырашаюцца глыбокія філасофскія і агульначалавечыя праблемы: чалавек і яго зямны шлях, адвечны кругазварот жыцця і смерці, па-новаму па-

даюцца і асэнсоўваюцца духоўныя матывы старажытнагрузінскай гімнаграфіі і арганічна зліваюцца рэальныя і містычныя плыні.

Асветніцкі накірунак творчасці Гурамішвілі выявіўся не толькі ў дыдактычных вершах, якія і сёння карыстаюцца вялікай любоўю, але і ў тым, што ён звяртаецца да гутарковай мовы і робіць складаныя філасофскія вершы даступнымі шырокаму колу чытачоў.

Гурамішвілі адзін з першых сярод грузінскіх паэтаў адмовіўся ад квяцістага, мудрагелістага стылю, што ўжо вычарпаў сябе. Ён увёў у паэтычны ўжытак натуральную мову і прынцыпова супрацьпаставіў сябе ўсходняй традыцыі. Паэт нярэдка выкарыстоўваў народны (грузінскі, рускі, украінскі, польскі) песенны лад, што садзейнічала ўзбагачэнню грузінскай паэтыкі.

Навізной формы і зместу «Давідзіяні» стаіць ля вытокаў так званага «еўрапеізму» ў грузінскай паэзіі, а яе аўтар з'яўляецца адным з заснавальнікаў новай грузінскай паэзіі.

У кагорце паэтаў той эпохі шматфарбнасцю эмоцый і рэдкім артыстызмам стылю вылучаецца Бесікі (Бесарыён Габашвілі, 1750—1791). У той жа час жыў і тварыў пры двары цара Іраклія II ашуг Саят-Нова (1712—1795), творчая спадчына якога належыць тром народам. Саят-Нова выступаў супраць сацыяльнай несправядлівасці, быў майстрам інтымнай лірыкі і складаў свае цудоўныя вершы на грузінскай, армянскай і азербайджанскай мовах.

З'яднанне з аднаверным рускім народам дазволіла Грузіі далучыцца да ўсяго новага і перадавога, што было ў тагачаснай Еўропе. Менавіта з гэтага перыяду перакладаюцца лепшыя ўзоры сусветнай літаратуры новага часу, у прыватнасці, рускай і заходнееўрапейскай. Грузінскі народ паступова вяртаўся на арбіту той культуры, сувязь з якой перарвалася некалькі стагоддзяў таму назад.

Аднак галоўным у далучэнні Грузіі да Расіі быў мір, які дазволіў загаіць раны, нанесеныя стагоддзямі ўзброенай барацьбы.

У першай палове XIX стагоддзя пачаўся агульны ўздым грузінскай культуры і літаратуры. На паэтычнай арэне з'яўляецца выдатная плеяда рамантыкаў, у якой вылучаюцца зоркі першай велічыні: Аляксандр Чаўчавадзе (1786—1846), Грыгол Арбеліяні (1804—1883) і Ніколаз Бараташвілі (1817—1845). Паэзія Аляксандра Чаўчавадзе вызначаецца пераходам ад традыцый старажытнай грузінскай паэзіі да рамантызму. Прыкметныя ў ёй і ўплывы рускага класіцызму і сентыменталізму. Разам з нацыянальнай праблематыкай, асноўны матыў якой — смутак, выкліканы стратай нацыянальнай незалежнасці, у творчасці А. Чаўчавадзе праяўляецца цікавасць да сацыяльных пытанняў.

Грыгол Арбеліяні — зачынальнік рамантызму ў грузінскай паэзіі. Ён прымаў актыўны ўдзел у змове 1832 года супраць рускай дэспатыі, але пасля адбыцця пакарання дасягае генеральскага чыну і некаторы час нават выконвае абавязкі намесніка імператара на Каўказе. Асноўная тэма яго творчасці — гістарычныя лёсы Грузіі. Многія вершы і паэма «Тост за здароўе» адзначаны ідэалізацыяй мінулага.

Грузінскі рамантызм дасягнуў свайго апагея ў творчасці Ніколаза Бараташвілі. У яго паэзіі праявіліся амаль усе прыкметы рамантызму — ад творчага засваення хрысціянскай культуры сярэднявечча да напружаных пошукаў пад сцягам барацьбы за свабоду асобы. Творчасць Н. Бараташвілі характарызуецца новым асэнсаваннем нацыянальна-патрыятычнай праблематыкі і, разам з тым, пастаноўкай агульначалавечых маральна-этычных пытанняў, верай у будучыню народа, псіхалагізмам і глыбокім лірызмам. Лепшыя творы Н. Бараташвілі, натхнёныя ідэямі аб прызначэнні чалавека і яго барацьбе са зменлівасцю лёсу,— бліскучыя ўзоры філасофскай лірыкі. Верш «Мерані» — адзін з шэдэўраў усёй грузінскай паэзіі. Трагічнымі і аптымістычнымі матывамі «Мерані» пераклікаецца з вершамі Джорджа Гордана Байрана і Адама Міцкевіча, а яго аўтара па праву можна паставіць у шэраг лепшых прадстаўнікоў сусветнай рамантычнай паэзіі.

Канчатковы выхад грузінскай паэзіі на новыя шляхі адбыўся дзякуючы дзейнасці пакалення, многія прадстаўнікі якога атрымалі вышэйшую адукацыю ў культурных цэнтрах Расіі і Заходняй Еўропы. Якасны ўздым паэтычнай культуры перш за ўсё звязаны з імёнамі Ільі Чаўчавадзе (1837—1907) і Акакія Цэрэтэлі (1840—1915).

Перад І. Чаўчавадзе і яго паплечнікамі стаяла невырашальная, на першы погляд, задача. Каланіяльная палітыка царызму прывяла да таго, што творчы патэнцыял народа, які перанёс грандыёзныя гістарычныя катастрофы і ледзь пазбегнуў небяспекі фізічнай гібелі, у той час прыйшоў у заняпад. Здавалася, не было ніякіх надзей на лепшую будучыню. Пераймальніцтва і правінцыялізм вялі грузінскі народ да духоўнага і маральнага выраджэння.

Патрабаваліся найвялікшая самаахвярнасць і каласальнае напружанне сіл, каб пераадолець новы гістарычны рубеж. Гэты цуд здзейсніўся, і яго натхніцелямі сталі выдатныя паэты і грамадскія дзеячы І. Чаўчавадзе і А. Цэрэтэлі.

Іх творчасць спрыяла ўмацаванню рэалізму, дэмакратызацыі формы і зместу літаратуры. Паэзія, паводле іх канцэпцыі, павінна служыць народу, і мастацкае слова мусіла адыграць вялікую ролю ў барацьбе за нацыянальнае і сацыяльнае вызваленне. Грузінскае паэтычнае слова зрабілася асноўнай сілай развіцця нацыянальнай самасвядомасці, літаратура зноў набыла ранейшую значнасць на шляху да прагрэсу. Доказам гэтага служыць праграмны верш І. Чаўчавадзе «Паэт».

Нацыянальна-вызваленчыя і дэмакратычныя матывы былі ўласцівы і лірыцы А. Цэрэтэлі, які горача заклікаў народ да адраджэння.

Пафасам барацьбы за нацыянальнае вызваленне прасякнуты таксама эпас і лірыка волата грузінскай паэзіі Важа Пшавелы. Паэзія Важа Пшавелы — унікальная па форме і зместу. У ёй пераплятаюцца сучаснасць і былое. Глыбіня бачання для яго такая ж натуральная, як і светаадчуванне, працятае сумненнямі і болем, выкліканым роздумам

пра лёс свайго народа. Важа Пшавела — паэт глыбока нацыянальны. Любоў да роднай зямлі, да яе народа неаддзельная ад яго творчасці, але гуманізм Важа Пшавелы носіць агульначалавечы характар, і ўсялякая нацыянальная абмежаванасць гэткая ж чужая для яго, як для герояў яго твораў — ілжывая, паказная маральнасць. З гэтага пункту гледжання агульначалавечае ў творчасці Важа Пшавелы вынікае з нацыянальнага.

Новая веха грузінскай паэтычнай культуры вызначаецца пераўтварэннямі, што адбыліся ў выніку Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі і стварэння Грузінскай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі 25 лютага 1921 года.

Фармальна гісторыя грузінскай савецкай літаратуры пачынаецца з гэтай даты. Але глеба для яе рыхтавалася значна раней, на пачатку XX стагоддзя, калі паралельна з вострай сацыяльнай і ідэалагічнай барацьбой вяліся напружаныя творчыя пошукі. Менавіта яны рыхтавалі грузінскую літаратуру да вялікіх пераўтварэнняў, непазбежнасць якіх вызначалася ўсёй логікай сацыяльнага і нацыянальнага развіцця Грузіі.

У першым дзесяцігоддзі поруч з сіламі, што змагаліся за далейшую дэмакратызацыю прыгожага пісьменства і абапіраліся на традыцыі грузінскай класічнай паэзіі, выступілі групоўкі, якія патрабавалі карэнных перабудоў у галіне культуры. Дзейнасць апошніх была адзначана фармалістычнымі пошукамі і дэкадэнцкімі настроямі. Амаль усе накірункі сусветнай літаратуры знайшлі адбітак у грузінскай паэзіі таго перыяду: поруч з парнасцамі былі прадстаўлены імпрэсіяністы, вобразы сімвалісцкай паэтыкі змяняліся формуламі футурызму і дадаізму.

Грузінскае паэтычнае слова зноў апынулася на ростанях. Літаратура XIX стагоддзя мела дакладна акрэсленыя мэты і формы выказвання, але, па сутнасці, вычарпала свае магчымасці і пульсавала толькі па інерцыі. А інерцыя — зручны «рухавік» любой псеўдакультурнай плыні. Каноны

класічнай паэзіі ў руках запозненых паслядоўнікаў і эпігонаў прывялі да бяздарных перайманняў.

Вось чаму такія бязмерныя заслугі належаць, з аднаго боку, вялікаму паэту XX стагоддзя Галакціёну Табідзе, а з другога,— прадстаўнікам групы сімвалісцкай арыентацыі «Блакітныя рогі» Валерыяну Гапрындашвілі, Паола Яшвілі, Тыцыяну Табідзе і іншым. У барацьбе з засіллем эпігонства і правінцыялізму яны шырока выкарыстоўвалі вопыт тагачаснай сусветнай паэзіі.

Вялікую ролю адыграла і тое, што яны творча пераймалі традыцыі грузінскай паэзіі і не страцілі рэалістычнага ўспрымання свету. Таму і тэма Радзімы так натуральна гучала ў іх лепшых творах.

Найлепшы прыклад вернасці свайму галоўнаму арыенціру на шляхах пошукаў — творчасць Галакціёна Табідзе (1892—1959). Паэт авалодаў дасягненнямі сімвалізму і іншых літаратурных кірункаў, зрабіў іх адным з элементаў уласнага паэтычнага метаду, але ні на хвіліну не адрываўся ад роднай глебы і чэрпаў жыватворныя сілы ў нацыянальнай паэтычнай традыцыі. Усё гэта дапамагло яму глыбока спазнаць жыццё народа, зрабіць яго невычарпальнай крыніцай уласных пакут і шчасця і стаць найвялікшым песняром новай Грузіі.

Грузінскае прыгожае пісьменства, абноўленае Галакціёнам Табідзе, яго сучаснікамі і паэтамі наступных пакаленняў, годна адлюстроўвае новыя здзяйсненні ў жыцці свайго народа.

Сучасныя грузінскія паэты, нашчадкі багатых традыцый, уносяць свой пачэсны ўклад у скарбонку сусветнай літаратуры.

Але пра гэта хай скажуць самі паэты, іх пранікнёныя, таленавітыя радкі.

*САРГІС ЦАІШВІЛІ,*
*доктар філалагічных навук,*
*член-карэспандэнт АН ГССР*

## Георгій Мерчулэ

# УВАСХВАЛЕННЕ КЛАРДЖЭЦКІХ ПУСТЫНЯЎ

Адмысловая прырода ў гэтай краіны —
краіны пустыняў:
спалучаюцца добра ў ёй
паветра і сонца.

Людзей, што знаходзяць у ёй прыстанак,
не мучыць вар'яцкі сквар
і не даймае лютая сцюжа.
Яна трымаецца ў межах,
якія акрэсліліся прыродай:
у ёй пануе не спёка і не слата,
а сонца.

І не запэцкае гліна ніколі
сігні ног чалавечых,
калі чалавек пустынямі пойдзе.

У іхніх пясках багата
і свежай вады, і драўніны —
лясы і крыніцы іх жыватвораць,
і, адчуваючы ўвагу бога,
радуецца прырода.

Няма сенажаці і рольнага поля
у тутэйшых манастыроў,

з вялікай турботай
на спінах асліных
сюды прывозіцца харч.

Сюды не вядуць дарогі,
сюды няма доступу людзям,
якія жывуць у свеце.
У непрыступных скалах
гасподы тых,
хто адвярнуўся ад свету.

З аднаго боку горы,
з другога яры Кларджэці
іх акружаюць шчыльна,
і, як нерухомы рубеж,
апяразваюць іх затокі Шаўшэці.

Гэтак з усіх бакоў
яны адгароджаныя ад наваколля
гарамі, ярамі, вадой —
жахліва цяжка вандроўцу
мясціны тыя адолець.

І незайздросныя агароды,
і кволыя вінаграднікі
таксама пасаджаны тут
з руплівасцю найвялікшай.

Калі даймае голад — на ўсіх
варыцца страва з зелля.
І не палохае тут нікога
падступніцтва нехрысцяў,
і царская кара
ў часіну ўзрушэння
сюды не сягае.

Гэтак Хрыстовыя людзі
жывуць тут у міры, ў спакоі
і славяць Хрыста заўсёды.

Калі ўсявышні тварыў зямлю,
то з двухадзіным намерам
стварыў пустыні Кларджэці —
каб маглі тут сяліцца манахі
і знаходзіць прыстанак усе хрысціяне.

## Іаанэ Мінчхі

# ГІМНЫ ЦАРУ ГЕОРГІЮ

### ГІМН II

Дай майму розуму светлыню,
салодкі Ісус, і сэрцу —
дарунак разумнага распазнання.
Валадар, што сляпым даеш зрок,
што глухім даеш слых, гэтак мне,
ад нараджэння нямому,
дай той дар, у якім я патрэбу маю!
Дай гэткае ж дабраславенства
мне, які варты ганьбы,
каб абвясціць хвалу
мучаніку Георгію!

Накшталт ружы,
духмянай і цветам прыгожай,
узнік ты, Георгій, з бясплодных церняў
і запаліўся, нібыта свечка,
сярод сваіх суродзічаў цёмных,
што ісціны не спазналі.
Мучанік дабраслаўны,
ты высвядчаў наяве
ідалаў іх паганых — за гэта
цябе намерыліся забіць.

## ГІМН III

Спразарлівіў
ты запаветнаю мудрасцю тыя шляхі,
якія вядуць у жыццё,
непадуладнае смерці,
і распазнаў мяжу
жыцця грахаблуднага, бо яно
ва ўсіх сваіх з'явах — марнасць.
І з радасцю ты ступіў
на шлях святых праведнікаў, Георгій,
і ад шляхоў крывых адхіліўся.

Вострыя стрэлы магутнага бога
нацэліў, святы,
у сэрца ваўка сягоння,
і, быццам лоўчы Хрыстовы,
змог таго лютага звера.
Радзеюць жывыя душы
і хваласпевы спяваюць:
слава сіле тваёй, Хрыстос!

## ГІМН IV

Адхіліўся ад тленных спраў,
ад цёмных спакусаў цялесных,
бо прасвятліўся
святлом Хрыстовым,
святлом бесцялесным,—
Георгій!
Уцехі гэтага свету ён
узненавідзіў, абраўшы
сабе за ўцеху пакуту.
За гэта яго ахінуў
дух цудадзейны боскі:
вернікам — на пацеху,
бязбожным паганцам — на страх.

Абрынуліся на яго вятры
жахлівых выпрабаванняў —
на вежу,
што ўзведзена духам святым,
на апірышча вернікаў, на святога
мучаніка Георгія.
Аднак жа не павагалася яго моц,
бо ўзведзена вежа была
не на сыпкім пяску чалавечых дзеяў,
а на трывалай скале
запаведзяў Хрыстовых.

## ДА СВЯТОЙ ПАСХІ

Калі ты сышоў,
спасе наш, на зямлю з нябёсаў,
каб нарадзіцца
з лона цнатлівіцы беззаганнай,—
ты гэта ўчыніў, літасцівы,
дзеля заблудных нашчадкаў Адама,
дзеля жыцця чалавечага роду!

Ты, па прыродзе сваёй неўміручы,
целам распяты быў на крыжы,
у пекла сышоў
і спрамог уладарства цемры,
і адрадзіў
чалавечую зрынутую прыроду,
і яна ўслаўляе цябе!

Калі ты быў пахаваны,
збаўца, ў зямным скляпенні,

тужылі нябёсы
і ахіналіся смуткам свяцілы,
а чалавекаў, якія жылі ў цяні смерці,
святло,
дагэтуль нябачанае, азарыла!

Глыбокай жалобай
акрыліся твары тых, што цябе любілі,
калі яны плакалі горка,
калі шукалі гасподняе цела,
якое тры дні,
нібы чалавечае цела,
ляжала мёртвым!

Не смерцю, але жыццём
для нас труна гасподняя стала:
заззяла з яе
сонца спрадвечнай праўды
і асвятліла
усе бакі свету
славаю ўваскрашэння!

Ты ўзнёсся на неба,
суісны Айцу і Духу,
і спалучыў
чалавечае з боскім, збаўца,
і ўзвысіў
да боскай славы Адама
разам з ягоным зрынутым родам!

Калі ты прыйдзеш,
суддзя справядлівасці, на зямлю,
каб судзіць тут жывых і мёртвых,
уратуй нас ад кары вечнай
і вызнай і супакой
тыя душы,
якія спачылі ў Аўрамавым лоне!

Скрушная розумам,
сэрцам журботная багамаці
аплаквала сына свайго,
распятага на ганебным крыжы —
у гэты дзень Хрыстос уваскрос
з мёртвых, бо ён ёсць бог:
глядзі і радуйся, чыстая сэрцам!

Боскі агонь бесцялесны
абняў, як ядлоўцавы куст, яе,
цнатлівіцу найсвятую,
і дзіваваліся сілы нябесныя, як і тады,
калі на гары Сінайскай
стаяў Майсей!

## Іаанэ Зосімэ

### УВАСХВАЛЕННЕ І ЎВАСЛАЎЛЕННЕ ГРУЗІНСКАЙ МОВЫ

І пахавана грузінская мова
да дня другога прыпэсця, каб паверылі ўсе ў яе,
бо кожную мову
гасподзь высведчыць гэтаю мовай.

І гэтая мова
спіць да гэтага дня,
і ў Еванеллі
імя ёй — Лазар.

І новая Ніна яе хрысціла,
і баславіла Алена-царыца:
яны — дзве сястры,
як Марыя і Марфа.

І нездарма
пра сяброўства з Лазарам звеставана,
бо ўсялякая таямніца
у гэтай мове схавана.

І пра таго, што быў мёртвы чатыры дні,
сведчыў Давід-прарок,
бо «тысяча год, як мінулы дзень».

І напачатку, у Еванеллі грузінскім,
у першым раздзеле, што ад Мацвея,
гняздуецца літара цылі:
змяшчае яна ў сабе
чатыры тысячы кроцяў запасу.

І гэта — чатыры дні,
і той, хто быў гэтулькі мёртвы:
ён для таго быў узяты смерцю,
каб уваскрэснуць з бацькоўскага хросту.

І гэтая, упрыгожаная і баславёная
імем гасподнім, мова,
якую адрынулі і асудзілі,
чакае другога прышэсця.

І адзнакаю ейнаю сталі
сто чатыры гады,
на якія яна багацейшая за іншыя мовы
з дня прышэсця Хрыста па гэты дзень.

І ўсё, што напісана тут,
я абвясціў дзеля веры:
сто чатыры гады
і цылі грузінскага алфавіта.

## Іаанэ Мтбевары

### ПЕСНАСПЕВЫ СВЯТОМУ ВАСІЛЮ

Скарбу мудрасці боскай,
свяцільніку ісціны,
кароне царкоўнага царства —
святару Васілю аддадзім пашану
і песнаспевамі ўславім яго,
як таго ён варты!

У глыбіні сваёй мудрасці запаветнай,
нібы калясніцы, ты зруйнаваў
фараонавы войскі, вялебны!
А народу Хрыстову
стаўся правадыром
на шляху праўдзівага праваслаўя!

Брамаю смерці ты перайшоў
з гэтага свету да бога —
угатавана месца табе
у горадзе на нябёсах.
Другі Янох багаўгодны —
ты ўзвысіўся духам таемна
да боскага трону!

Падрыхтаваў беспахібнаю верай,
як Ной свой каўчэг — царкву

да патопу бязбожніцтва, згуртаваў
у ёй праваслаўнае людства
і навучыў славіць тройцу!

І, як беззаганны Авель, прынёс
жывую ахвяру госпаду богу,
гэтак і ты, дабрачынны,
прынёс у бяскроўным ахвяраванні
сябе самога Хрысту!
З гэтага часу, душою ўваскросшы,
узрадуешся перад ім!

І, як Майсей, ты ўзышоў, вялебны,
на тую гару, з якой прамаўляў гасподзь,
і, як азарыўся вобраз Майсея,
азарылася гэтак твая душа,
і ты ў змроку ерасі заільсніўся
святлом нязгасным!

І, як Ілля, успалаў агнём
гарлівасці боскай і папаліў
куколле ерасі, баганосца,
і, ўспоеная расою твайго вучэння,
закрасавала кветка Хрыстовай навукі!

І, як апостал Пётра, ты быў названы
апораю цэркваў, мудры!
І, як прапаведнік паганцаў Павел,
ты стаў падабенствам Хрыстовым,
і, як Багаслову Івану, табе
адкрыты былі спрадвечныя таямніцы!

Ты ў духу паўстаў
храмам божым, айцец вялебны,
на грунце апостальскім умацаваўся,
і, як золата і камяні-самацветы,
заззяў ты, найдабрачынны!

Зрабіўся ты пастухом
чалавечага гурту, Васіль шчаслівы,
сваімі ведамі ты ўзгадаваў
чалавечыя душы, вялебны,
і, як звяроў, парассейваў ерэтыкоў
посахам свайго слова.
За гэта цябе ўслаўляем!

Вобразам святасці аб’явіўся
у свеце, як новы Іосіф,
даў вернікам ежу жыцця,
якое не мае смерці,
і навучаннем сваім адамкнуў
вочы душ чалавечых!

Слоў тваіх бліскавіцы,
баганосца, свет увесь азарылі,
і вясёлкі духу твайго
звялі каламуць грахоў!

Каўчэгам веры цябе вызнаём,
бо акрэсліліся ў табе,
як на скрыжалях каменных,
што тояць духоўную мудрасць,
божыя словы!

Ты сцвердзіў у верніках, дабрачынны,
направы навукі і здрузгатаў
спакусы жаданняў словам сваім,
умудроны богам!

Аздобіў царкву Хрыстову
ты ка́занямі сваімі —
угоднымі богу, на вобраз
нябеснага скарбу, дабраславёны,
і стаў жыхаром нябеснага царства,

і сярод збору апосталаў атрымаў
пасад высокі!

Ты вызначыўся, Васіль,
сапраўдным узорам цноты,
мудрасцю веры,
ахвярніцкай дзеяй, угоднай богу,—
ты асвятліўся імі
і, як світальная зорка, заяскравеў
над светам!

Мовай святою, Хрыстовым
святым Еванеллем ты перамог,
нібы Давід Галіяфа,
адступніцтва Арыя
і прапаведаваў тройцу,
што па прыродзе сваёй
адзінасутная спакон веку!

Сейбіт, сеяў ты словы свае —
і закрасавала на ніве
калоссе веры, і сёння яно,
як таго належыць,
славіць свята тваё!

Малітвамі тройцы ты развагніў,
нібы Ілля, горан веры
і, нібы капланаў Ваала, расцерушыў
святароў няпраўды!

Гарчэчу крыўды,
нібыта бясплодныя воды, асаладзіў
ты мёдам уцехі, добрапамысны,
і прапаведаваў, шчырадумны,
праўдзівую споведзь
святой тройцы!

Дабраславёны той,
хто паставіў вялебнага Васіля
асветнікам вернікаў
і пастухом парафій!

Таго, хто боскім ключом адамкнуў
таямніцы нябёс і прымусіў
бруіцца крыніцу багаславення,
таго, хто нас мудрасцю боскаю асвятліў,
славасловім!

Вобразу ганьбы, Васіль вялебны,
ты не служыў
і пагарджаў пахвалой
дужых гэтага свету,
і ганьбавальнікам пазамыкаў раты,
баганосца!

Таго, хто мовай нядужы,
сваёй існасцю папаліў,
нібы вогненнай лямпай, церні
асуды на Духа Святога,—
святара Васіля ўславім!

Таго, хто боскімі ка́занямі праваслаўя
даў вернікам ласку спакою
і буру бязбожніцтва ўтаймаваў,—
свяціла людскога свету,
вялікага Васіля
услаўляем!

Таго, хто ўручыў ключы
ад царства нябеснага Васілю
як светачу мудрых
і як алтару царквы,—
Хрыста на векі вякоў
баслаўляем!

2 Зак. 1314

Таго, хто боскасцю духа
найменаваў сынам грому
і сябрам сабе шчаіснага Васіля
і ўвёў яго ў чын апостальскі,—
услаўляем
Хрыста на векі вякоў!

Стаўся ты боскай
лазой вінаграднаю і ўзрадзіў
гронкі мудрацнатлівасці, ойча,
і даў віно разумення, найдабрачынны,
піць чалавекам Хрыстовым!

Для нябесных відошчаў
ты сіламі ўзнесены быў на нябёсы
і ўгледзеў хароствы раю, вялебны,
і стаўся судзінаю чысціні,
як прапаведнік паганцаў Павел!

Словы твае заззялі
вышэй за сонца, вялебны,
калі ты акрэсліў канон манаскі,
калі развеяў хмары грахоўнасці
і звеставаў нам, не тоячы слёз,
жыццё, што не мае скону!

## Мікаэл Мадрэкілі

### ДЗЕВЯЦЬ ПЕСНАСПЕВАЎ

Без віны пакараны пакутамі, Хрысце божа наш,
адкупіў ты, Спасе, заганы свету гэтага,
калі целам узнёсся ты на крыж,
ніскінуў ты вышыні ворага
і ўваскрасіў прыроду чалавечую!

Не цялеснай, але боскай прыродаю
нятленны ты, Хрысце, Слова божае,
калі паклалі цябе ў магілу,
спрамог ты смерць, бо несмяротны ў смерці,
і ўваскрасіў мёртвых з магіл іх!

Дзеля непакорлівасці Адамавай памёр ты,
другі Адаме, Хрысце, Слова божае!
Калі ж убачыў ты яго спраможанага ніскінутым,
уваскрасіў ты яго сёння ўваскрасеннем тваім
і вярнуў яму славу былую!

Уцелясніліся жыватворныя пакуты
цела твайго, Хрысце, Слова божае,
калі закалолі ягня ў Егіпце,
каб выратаваць немаўлят, а ты воляй Айца
твайго прынесены ў ахвяру, каб выбавіць
грэшных.

Невыказнае багацце боскае
Іосіф знайшоў,
калі цела гасподне паклаў у грабніцу,
як цела мёртвага, несмяротнасць смяротных,
і знайшоў узнагароду.

Засвяціла сёння само свяціла светлае,
непарушнае, Хрыстос, сонца праўды,
якое засланіла памрока
магілы прыроды цялеснае,
і ўстаў ён воляю сваёй, бо бог ён.

Адзінародны, Хрысце, Слова божае,
калі ўзнёсся ты целам на крыж,
невінаватаю крывёю сваёю
ты асвяціў бажніцу паганых,
нібыта нявесту сваю, несмяротны гасподзь.

Адзінародны, Хрысце, Слова божае,
калі пакладзены быў ты воляй сваёю ў магілу,
ўваскрасіў ты мёртвых з магіл іх,
бо прыйшоў ты ў цямніцу душ
і вызваліў замкнутых у ёй.

Адзінародны, Хрысце, Слова божае,
калі ты, несмяротны божа, устаў з магілы тваёй,
адпрэчыў смерць, развеяў тленне
і даў нам, вернікам, нятленнасць,
і даў нам, смяротным, несмяротнасць!

Прышэсце тваё, Хрысце, Слова божае,
між дзвюх жывёлін прарочыў
Авакум, і быў ты, Спасе, укрыжаваны
між двух разбойнікаў на Галгофе,
і пакуты прыняў ты за нас на сябе.

Раскрыла пашчу сваю зямля
і прыняла ў сябе кроў цнатлівую
Авеля праведнага, і наклікала на сябе пракляцце,
а сёння, прыняўшы ў сябе цела боскае,
атрымала вечнае баславенне.

Веруем, вернікі Хрыстовы, у Сына адзінага,
спрадвечнага, у дзвюх іпастасях,
у бога і чалавека, несмяротнага і смяротнага,
які целам памёр і сёння ўваскрос
з ласкі неадольнае боскае сілы!

Распавёў нам Ісайя-прарок,
хто такі валадар славы,
венцаносец вянца цярновага,
абліты крывёю цнатлівай,
які прыняў пакуты і жыццё вечнае даў нам.

Увасобіўся ў чалавеку бог моцны, уладарны,
валадар і князь вякоў.
Ён збавіцель свету Імануіл,
з намі бог, ён целам сягоння прыняў пакуты
і неўвярэджаны ў боскай істоце сваёй.

Спраўдзіліся сёння словы
носьбітаў дабраты — прарокаў,
бог бо несмяротных дзеля смяротных
памёр целам сваім, і пакладзены быў у магілу,
і паўстаў з мёртвых з ласкі боскае сілы.

Памёр ты целам, непарушлівы божа,
пакуты прыняў ты, непадуладны пакутам,
і поўху прыняў ты ад рук
рабоў, цяпер анёлаў гасподзь,
і спрамог валадарства смерці.

У лона сваё смерць прыняла цябе,
ласкавы, бога ўсіх і ўсяго,
і не змагла яна, о нятленны, аддаць цябе тленню,
і валадарства яе не змагло завалодаць табой,
валадар несмяротнасці!

Спрамог ты смерць смерцю сваёй,
о Слова божае, і на вякі мёртвых
збавіў ты, божа, паводле вобраза Іоны
ад звера таго душагуба,
і ўваскрасіў ты іх уваскрасеннем сваім.

Нязмерная ласка твая
і найвялікшая слодыч, Хрысце,
падзвігнулі цябе, ласкавы, на дзеі,
і прыйшоў ты на мукі дзеля тварэння ласкі,
прыйшоў з крыжам і збавіў нас ад пакут.

Пазналі мы цябе, бо прыйшоў уцелясненны збавіцелем нашым
ад смерці, як збавіў трох юнакоў
ад вогненнай печы, бо акрапіў ты нас,
перш чым расою, боскай крывёй і вадою
і тым патушыў пошуг бязбожжа.

Прыйшоў вялікі сапраўдны настаўнік пастыраў
у доме божым, Ісус, Сын высокага бога,
які з уласнае волі прынёс сябе
у ахвяру Айцу свайму дзеля адкуплення грахоў свету
і ўваскрасіў мёртвых уваскрасеннем сваім.

Арасі, Хрысце, расой жыватворнай
душу маю бясплодную, добры,
і патушы жар грахоў
ручаём вады і крыві,
што з боку твайго пацёк!

Не схаваю ўчыненую добрасць
дабroты тваёй, Хрысце, Слова божае,
бо дзеля мяне багатых зрабіў ты ўбогімі,
і ўбоства маё праславіў, Спасе,
і зрабіў мяне несмяротным ты, хто стаў несмяротны
праз смерць!

І вось пячаткі магілы ляжаць
неламаныя, вось праз тры дні
мёртвы і тленны паўстаў нятленным,
знясла ўлена сціжма бязбожнікаў:
несмяротны бог паўстаў з мёртвых!

Убач, прасвятая, сына твайго ўкрыжаванага,
без шкоды пакаранага праз цела сваё,
маці божая, і спадзявайся цяпер на моц
яго моцную, бо валадар гэты
адпрэчыць смерць і ўваскрос сіць мёртвых.

Убач, Спасе, распнуты ў целе сваім,
маці сваю, цнатлівую дзеву,
ёй, тужлівай, скажы, велікадушны:
не смуткуй, прасвятая, аб пакутах маіх,
бо ўстану я з мёртвых, бо я гасподзь бог.

Спяшай да магілы, божая маці,
і пабач Сына свайго і нашага Бога,
які прыняў пакуты і памёр у целе,
паўстаў ён сёння боскаю сілай
і ўзыдзе на нябёсы ў вечнае валадарства.

Дай нам, Спасе, адпушчэнне грахоў,
і прымі з нягодных вуснаў
нямоглую хвалу боскасці тваёй,
дай перамогу валадару, які ў цябе, Хрысце, верыць,
і настаў нас на шлях міру!

## Іаанэ Балнэлі

### ПЕРШАСВЯТАРАМ

Хто б не ўзрадаваўся сягоння
успамненню першасвятароў святых?!.
Хто б нө заахвоціўся спраўдзіць
успамненне першасвятароў святых?!.

Хіба знойдзецца той, чыё сэрца
не далучылася б да ўслаўлення,
якое спраўджваецца сягоння
для ўспамнення першасвятароў святых?!.

Былі яны асветнікамі ацямрэлых,
былі настаўнікамі аблудных,
былі прыстанкам для грэшных,
былі апірышчам для гаротных.

Былі яны добрымі пастухамі,
святыя першасвятары,
і пасвілі дбайна гурт хрысціянскі,
авечак, што маюць слова.

Галодных насыцілі хлебам,
і напаілі вадой сасмяглых,
і апранулі галетнікаў у апранахі,
былі гасцінныя да чужынцаў.

Яны ацалялі хворых,
адведвалі вязняў астрожных,
яны вялі ўсіх заўсёды і ўсюды
да ўсеагульнай любові.

Былі бацькамі сіротам
і апекунамі ўдоў у сваім народзе,
былі дабрадзеямі жабракоў,
былі абаронцамі і спагадцамі.

Аздобілі яны абраз міратворны,
трымаліся шчыра закону і веры,
звеставалі і запаведвалі нам
багаслужэнне, і гэтак казалі:

«Хай нашы вусны вымавяць твае словы,
бо справядлівыя запаведзі твае,
хай будзе рука твая нашым збаўцам,
бо запаведзі твае мы абралі,

бо наша душа жадала твайго збавення,
бо жывімся верай тваёю, ўсявышні...»—
яны гарэлі гэтым жаданнем,
яны турбаваліся гэтай турботай.

Хаваліся многія з іх у пустынях,
у нетрах лясных, у гарах, пячорах,
спрагнёныя, змучаныя, адрынутыя ад свету—
тады, як свет быў не варты іх.

# Апізскі вершатворца

## ПЕСНАСПЕЎ ДУХА

Жыццё міне і пагасне,
завяне краса, развееццa веліч,
і не ўратуе ад смерці багацце,
якім ганарыліся ўсе мы гэтак —
станем зямлёю мы, глінай, тленам!

Пойдзем, браты, зазірнём у магілы:
дзе яны — зайздрасць і ганарлівасць?!.
дзе яны — моц, варажнеча, цуды?!.
дзе яны — вабы, дзе — корць пачуццяў?!.
Стала ўсё тленам, зямлёю, глінай.

# Царыца Барэна

* * *

Аддала ты належнае Еве,
Гаўрыілу сказаўшы: «Вось я, служанка гасподня»;
тады прыняла ты таго, хто на зямлю прыходзіць
у госці,—

нізверглася сіла, п'яная ад першай пралітай крыві;

багародзіца дзева, барані мяне, гаротную Барэну!

# Эпрэм Мцырэ

* * *

Мудрасць кліча цябе, прыйдзі і дасягні яе,
і пазнай кнігу апостальскую,
у ёй асноваю

дзеяў Хрыстовых апосталаў быў Лука,
і Якаў і Пётр разам з Іаанам
утвараюць сем святых супольна з Іудам,

а скляпенне яе ўпрыгожвае Павел,
з келлямі золатааздобнымі,
даючы вернікам мір
сваімі чатырнаццацю пасланнямі.
Усіх, хто гэтыя кнігі прымае,
божа, прымі і ты да сябе.

## Давід Будаўнік

# ПАКАЕМНЫЯ ПЕСНАСПЕВЫ

### I

О ты, перад кім усялякі род
схіляе свае калені
і перад кім вызнае
ўсялякая мова выспавяданне,—
о Слова, і на мяне,
выспавядаўцу, звярні свой позірк.

Ты мяне ўкшталтавала
па сваім вобразе і падабенстве,
вылучыла з неразумных істот,
і, каб супадала ўва мне быццё
разумнае і пачуццёвае, ўклала
у маё чалавечае сэрца словы,
сутнасныя табе,— я ж за гэта
няўдзякаю адказаў.

Прыроднымі сіламі карыстаўся
не гэтак, як вымагаў закон,—
і спарадзіў я зло,
і адхіліўся ад падабенства,
і асалодзе, якая ўражвае зрок,
адчыніў вароты пачуццяў.

О Дзева, заступніца чалавекаў,
што Слова ўвасобіла ў плоць
і апранула ў зямныя шаты,
роспачы транты здымі з мяне,
каб я ў пакаянні пайшоў за табою!

II

Разам з прыроднаю багранiцай
ты надзяліў мяне, божа,
царскаю аўрэоляй,
аднак жа я корцям паганым
прадаў сябе ў рабства,
бо «хто кім адольваецца, дык тым
і бярэцца ў рабства».

Каінавы замах,
Сіфавых спадчыннікаў бессаромства,
аблуднікаў п'яныя авантуры,
брыдоту блюзнерскую садамлянаў —
усё гэта я памножыў,
быццам рака,
што цячэ наўпроць.

Ханаанскія звычаі,
ахвяраванне нованароджаных, чарадзейства,
варожбу і іншыя дзеі, якія
загадаў ты не пераймаць,
саманатурліва я чыніў
болей, чым хто з папярэдцаў.

Для таго абвясцілася Дзева,
для таго ўцелясьнілася Слова,
каб мацярынскай апекай
ўратаваліся грэшнікі, між якіх

апошні, сярэдні і першы —
я, што падобны на бездань,
якая збірае брудлівыя ручаі.

## III

Бязбожнікаў-нехрысцяў і цароў
ізраільскіх браў я за прыклад і, як мажліва,
вабіўся шанаваннем высокіх
ідалаў-бостваў, паганскаю сараматою
і прысяганнем нябесным сілам.

Асірыйскае чарадзейства,
рухі свяціл,
злучэнне і разлучэнне вандроўных зорак,
долю, кон і час нараджэння,
быццам ніколі не ведаў боскага, вывучаў.

Як эліны, не разумеў
я вышняй мудрасці боскай
і адданне паклонаў з тварца
перанёс на творы, калі
служкаваў сваёй кожнай корці.

Таму стаўся ўсявышні бог
богачалавекам, каб ведаць
па-чалавечы ўсе нашы корці
і ратаваць ад злачынстваў па-боску тых,
якія ўважаюць Дзеву за богамаці.

## IV

Законы кніжныя я патаптаў,
законы існасці новай парушыў
і падпарадкаваў твой праўдзівы закон
закону аблуднага розуму
і неразумнай плоці.

Ад кожнага звера
займеў я ягоны нораў і стаў
падобны на звера-мяшанца,
што мае шмат існасцяў і абліччаў,
што рыкае і выглядае па-рознаму ў розны час.

І не праняў мяне страх
перад сярпом, што лятае
і ўсмерчвае тых, якія
хлусліва кляліся, накшталт мяне,
тваім грозным імем.

Для гэтага ад крыві
дзявоцкае плоці зрадзілася боская плоць,
і ў новым змяшэнні з'яднаўся
бог з чалавекам, каб ратавала
Маці ад роспачы гэткіх, як я.

V

Накшталт Саламонавай п'яўкі,
ніколі не сыты, я ўсё шукаў
абсягі краін чужаземных для заваёвы,
а боскімі межамі пагарджаў,
як ненадзейнымі і малымі, ад прагавітай
ніколі не сытай корці маёй.

Пераступіў я межы
злашкоднасці і далучыў
вёску да вёскі, і хату — да хаты,
і ад нямоглых адрынуў іхнюю долю,
і дамагаўся, каб знішчыць суседзяў,
быццам на гэтым свеце я жыў адзін.

Усім пастановам твайго закону
я ворагам стаўся

і беззаконнымі шлюбамі зганьбаваў
свой ложак,
і прыклад нядобры падаючы́, у грэх
увёў мой народ, нібы тыя
ізраільскія цары.

Прыйшла для таго Дзева-Маці
і для таго нарадзілася Слова,
каб даць у вобразе новым
другі раз быццё ўсім тым,
што зганьбавалі яго грахамі,
каб у горне руплівасці мацярынскай
расплавіць грахоўнае насланнё.

## VI

Срэбра, нібы зямлі,
назбіраў я, і золата — нібы гліны,
і схіліў
прад Мамонай багацця калені, нібы прад тымі,
якія трымалі ў палоне сваім старажытнасць:
Астартаю і Ваалам
і гнюсным Хамосам.

Ад слова святога і ад таго,
хто выкрывае няпраўду свету,
я адвярнуўся, прываблены крывадушшам
падлізнікаў, і прыняў задумы
паклёпнікаў, і чыніў
суд няпраўдзівы.

Я не азваўся
на слёзы ўдоў і на плач сірот,
не растуліў абдымкі свае ўсім тым,
што малілі аб літасці і дапамозе,
і найперш дык табе, Хрыстос,—

табе, хто прыходзіць да нас у асобе
балеснікаў і бедакоў.

Для таго і спраўдзілася нараджэнне
бога ад чалавека,
каб людзей, што зямлёю народжаныя,
выбаўляла
са згубы і грэшнікаў ратавала
уладаю Божае Маці святая Дзева.

## VII

У гэтым я грэшны
перад законамі Еванелля
і перад запаведзямі тваімі —
загадваў ты
падстаўляць другую шчаку,
аддаваць кашулю для ўбогіх
і не клясціся анічым,
і патуранне корцям, заканадаўца,
наказаў уважаць за спраўджаны блуд.

Хаця і разбэсціў гэтак
я ўсе пачуцці
і з усялякай распустаю пасябраваў,
але не ўзняў сваіх рук ні да кога другога,
і не ўсклаў свайго спадзявання
на іншага бога, і не ўчыніў
вучэннем душы маёй іншую веру,
апроч адзінай, якой
мяне багасловы твае навучылі.

Цяпер жа, схіліўшы калені сэрца,
гукаю, быццам другі Манасій:
даруй, о Ўладыка, даруй
і не загубі ў граху,
і не згадай злачынстваў маіх,

і не пакарай мяне ў апраметнай,
бо ты ёсць бог пакаемных,
нябеснымі сіламі ўзвышаны на нябёсы.

Найвышняю багамаці выспавядаем
цябе, нятленная Дзева,
і верым, што шана,
якую складаем твайму абразу,
як багасловы сведчаць пра гэта,
ідзе да цябе,
і што пасродкам яго падае́ш
знакі дароўвання грэшнікам, як пра гэта
сведчыць відошча двайнога свету,—
святая Марыя, егіпецкая дабрадзея!

VIII

Калі настане гадзіна
нямога скрушнага ўздыху,
калі ператворыцца ззянне царства
у друз і пыл,
калі развеецца слава,
радасці спустацеюць,
завянуць кветкі,
калі нехта другі возьме маё жазло,
калі другому падпарадкуецца войска,—
злітуйся, мой суддзя, тады нада мною!

Калі разгорнецца кніга
і я са схіленай галавою
паўстану, суддзя, прад табой,
калі будзе чыніцца твой суд справядлівы,
калі будуць анёлы разносіць гнеў,
калі грэшнікі будуць агнём карацца,
а праведнікі — раяваць,
злітуйся, мой Хрыстос, тады нада мною!

З таго часу, як выспавяданнем
я стаў адчуваць жыццё, і пачаў збіраць
частку цела да часткі і косць да косці,
і ў спарахнелыя члены ўдыхнуў
нанава дух жыватворны,
веру, што спраўдзіць гасподзь ува мне
справу ўсяго пакаемнага адраджэння.

О ты, дасканалы і просты,
суцэльна азораны, сонечны тройчы,
асвятлі зрок маёй душы,
каб у госпаднім святле я ўбачыў
Сына, які ў баслаўленні госпадняга Духа
прыходзіць да нас на векі вякоў.

Не бачыла сонца
іншую Дзеву-Маці, апроч цябе,
і аніякі, падобны мне, грэшнік,
святла не бачыў,
але тваёю турботай, царыца,
я спадзяюся ўбачыць святло
Сына твайго
і святло вякоў усявышніх.

## Арсен Беры

### ЦАРУ ДАВІДУ — МАНАХ АРСЕН *

*(Урывак)*

Ах, любіш ты мудрасць філосафаў, цар найяснейшы;
розумам усіх ты цароў пераважыў;
скляпенню нябеснаму пекнасць аблічча твайго дараўнае;
ерасяў розных пазнаў ты падступствы;
нечаканы й зіхоткі, як бліскавіца між воблакаў белых;
прамяністы, як усход сярод усіх бакоў свету;

ружу між кветак нагадваеш ты, о прыгожы;
аблічча божае, як каханне між розных дабротаў;
каменням ніякім не роўны бляскам фаянс;
непараўнаны, як фінік між дрэваў астатніх;

і, як лета сярод іншых пораў года, салодкі;
гожы, як рай сярод іншых сусветаў;
услаўлены, як дыямент сярод рэчываў усіх
непадзельных;
дужы, як леў сярод іншых звяроў;

законы вечныя даў ты, як цар Саламон наймудрэйшы;
ежы духоўнае зведаў ты слодыч;
і, як Самсон сярод суддзяў, ты мужны;
спакойны, як Давід сярод памазаных богам;

---

* Акраверш.

ваяўнічы, як цар македонскі;
як Ахілес сярод элінаў, непераможны;
ты, як Фінез між святароў, богу заўзята служыш;
храбры ты, як Навін між цароў ханаанскіх;

Аўгуст ты, бо, як і ён, пашыраеш свае ўладанні;
прыродаю бог ты паміж баславёных;
Осіі роўны сярод цароў ты, бо помсціш;
смелы, як Пётр сярод вучняў, што меч выняў з похвы;

твaё чалавекалюбства з Хрыстовым можа зраўняцца;
а шпаркасцю апостала Паўла нагадваеш ты хрысціянам;
любімы, як Іаан сярод вучняў Хрыста, нашага Спаса;
апірышча праваслаўнае веры, як Канстанцін, якога
ўважаюць вялікім сярод самаўладцаў.

## Арсен Ікалтаэлі

### ЭПІТАФІЯ ДАВІДУ БУДАЎНІКУ

У мяне ў Начармагеві былі сем цароў у гасцях,
ад мяне уцяклі туркі, арабы і персідскі шах,
пры мне з усходу Грузіі на захад знайшла рыба шлях,
зрабіўшы ўсё гэта, ляжу я, склаўшы рукі на грудзях.

# Дзмітрый I

## ШЫО-МГВІМЕЛІ

І ўбачыў я чалавека,
што з помаччу валаска
вісеў на небе.
У таго ж чалавека
на вастраку дзіды
стаялі палацы.
Сядзеў ён на мошцы
і гнаў па лугах
шпарканогіх аленяў.
Скакаў на кані па моры
і гаманіў: дабраславёны гасподзь!

## БАГАРОДЗІЧНЫ I

Багародзіца найсвятая,
Маці, Дзева, лілея-кветка,—
ёй анёл звеставаў крылаты:
ты народзіш цара-венцаносцу,
і цары, што рабоў шмат маюць,
самі будуць яму рабамі.

## БАГАРОДЗІЧНЫ II

Ты — квітнеючы вінаграднік,
лаза дабраплодная, пасаджаная ў Эдэме,
ладан пахучы з раю,
бог упрыгожыў цябе:
ты найлепшая між хваласлаўных,
ты — сонейка залатое!

## Ніколаз Гулаберыдзе

### ХВАЛАСПЕЎ ЖЫВАТВОРНАМУ СТАЎПУ

Растулі вусны мае і напоўні дабротаю іх, каб
вымавіць слова я мог, о Слова Айца,
годнае й вартае, каб праславіць храм твой і стоўп
жыватворны!

Збярыцеся зборы, вернікаў духоўная моц,
і, славячы, слаўце свята гэтае прасвятога
храма высокага, і стоўп прасвяты ды ўславім
і ўкленчым прад ім!

Стоўп прасвяты, светласць і ззянне,
і сонца, якое не зойдзе і свеціць у душах і ў розумах
вернікаў, якое з надзеяй мы прызнаём і якому
паклонімся з верай!

Табе, падабенству храма нябеснага, у якога на ўлонні
узвышаецца стоўп і шчодра дае нам, нібыта грудзі,
міра святое, пахучы алей, дык уславім у спевах яго
і ўзвялічым!

Стоўп прасвяты, светласць і ззянне, святлом
атулі нас, сыноў, якія
славасловяць ласку моцнага бога!

Вежа зіхоткая, якая ўвабрала святло,
мудрасць і бляск, якіх не заслоняць ніякія рэчы,
і богаўзорна ўзведзена сынам магутнага бога!

Маці жаданая, якой Хрыстос бог
апостальства даў, каб яна сузірала ўзнясенне
і другое сашэсце нябачнага воку людскому стаўпа!

О стоўп жаданы, цудоўна ўбачаны жанчынай святою,
з божае ласкі ўзышоў на нябёсы і зноў
да нас ён сышоў!

Стаўпом светлым цудадзейна прапаведаная
і прараканая святымі айцамі і прарокамі
царыца святая, божая маці, памажы нам!

Ты святло прасветлае, якое маланкаю ззяла
над Іярданам і Фаворам сведчаннем божага сына!

І табе явіў ён, о дзева, стоўп светлыні,
бог, прыняты табою ва ўлонне. За гэта
вызнаем цябе разам з ім!

Вера старая продкаў, і капішчы, і ахвярнікі
замяніліся чынам цудоўным, і замест іх нясеш святую
царкву, і міра пахучае, і стоўп жыватворны нам,
як надзею!

Ад бога была перамена, храм на месцы Армазі
і міра заміж паганскіх ахвярнікаў, а заміж капішчаў
стоўп святы
жыватворны даў нам сын божы!

З зямлі ўзышоў на нябёсы, на нябёсах мае пасад
вечна прысутны між намі стоўп жыватворны, царыца
святая, заступіся за нас, цябе хвалім!

Нябесны ваяр за мяне і зычлівец непераможны,
стаўпа святога і багалепна зіхоткага, які свеціць
над хітонам гасподнім і тканым на небе, і маланкаю
храм, падобны нябёсам, і славаслоўных
і тых, хто ягонае свята святкуе, упрыгожвае ён
і асвятляе,
і радасць двайную дае тым, хто славіць яго,
радуйся радасцю, стоўп жыватворны!

Збірайцеся на свята святое господа нашага,
усе бакі свету і анёлы разам з людзьмі,
усе разам, веру з'яднаўшы, прарокі
і патрыярхі, пакутнікі, архірэі,
манахі, манашкі, спяшайце усяк
і ляціце, спявайце хвалу, клічце, загаварыце,
правядзі па струнах ліры, прарок, усе святыя кнігі
адгарніце дзеля ўшанавання стаўпа жыватворнага
і кажыце:
«Радуйся радасцю, стоўп святы жыватворны, бо на
хітоне
боскім ты ззяеш! Радуйся радасцю, стоўп, праяснянльнік
нябёсаў, ты апладняеш несмяротнасцю душы!

Радуйся радасцю, стоўп жаданы, вечна святлівым вокам
хітон святы сузіраеш! Радуйся радасцю,
бо ты ззяеш, як твар бліскавіцы, і міра святое
струменіш
вернікам! Радуйся радасцю, стоўп, бо даеш ты боскую
слодыч душам! Радуйся радасцю, стоўп, суразмоўнік
і аднадумца вялікага багаслова Майсея!
Радуйся радасцю, правадыр і спадарожнік сыноў
Ізраілевых!
Радуйся радасцю, папярэднік новае веры, на Фаворы
і на Іярдане служыў ты божаму сыну! Радуйся, святло,
ты нізлілося, як сведчанне аб сыне любімым! Радуйся
радасцю

айцоў у пустэльнях і святых пакутнікаў нашых
надзея, час ад часу да нас ты сыходзіш!
Радуйся радасцю ты, бо кідаеш залатыя праменні,
як стрэлы,
у сэрцы вернікаў! Радуйся радасцю, бо на Сіёне
на апосталаў дванаццаццю зіхоткімі языкамі полымя
ты сышоў! Радуйся радасцю ты, бо прасвятой
багародзіцы
аблічча нам паказаў, дзевы, якая на зямлі нарадзілася
і да нябёсаў вяршыняй узнеслася,
якая з'яднала нас з богам!
Радуйся радасцю, стоўп жыватворны!»

Анёлападобна зіхоткага на небе і з дапамогаю хвалы
сіл вышніх
апетага, а на ўсякага, хто жыве на зямлі, ззяючага,
як сонца,
тыя, хто з дапамогаю цудаў бачыць, і мы, хто пазнаў
цябе,
утрапёныя, стоячы, молім цябе і гаворым:
«Радуйся радасцю, ззяннем тваім
свеціцца свет! Радуйся радасцю, тваёй цудадзейнасцю
ззяе свет! Радуйся радасцю, сонца нязгаснае,
вечна зіхоткае! Радуйся радасцю, светлыня,
усякую светлыню пераўзыходзіш ты ззяннем!
Радуйся радасцю, бо над святым і ласкавым ззяеш
хітонам! Радуйся радасцю, бо бліскавіцай ты храм
асвятляеш
божага сына! Радуйся радасцю, заняпалае веры
вяртальнік! Радуйся радасцю, руйнавальнік паганскіх
балванаў,
бо сапраўдную веру святлом
асвятліў! Радуйся радасцю, бо святлом азарыў ты
стварэнне ўсялякае! Радуйся радасцю ты, бо знішчыў
бязбожных Агары сыноў і аднавіў галіну жыцця
сапраўднага!

Радуйся радасцю, неперможны ваяр,
бо ты наперадзе ўсіх хрысціянаў ідзеш,
божым людзям розум даеш! Радуйся радасцю ты, бо
з пакліканых
выбраў народ для валадарства нябеснага! Радуйся
радасцю,
бо праз цябе пакланяюцца даўцу жыцця!
Радуйся радасцю, стоўп жыватворны!»

Вось боская радасць! Вось свята, якое трэба болей
за іншыя славіць! О слодыч, якая дала несмяротнасць
душам людскім, бо ў храме, які ўвасабляе тройцу
святую, стаўпу жыватворнаму і святому хітону
народ хрысціянскі песні пяе, іх славасловіць,
ім і анёлы песню пяюць!
Радуйся радасцю, храм высокага бога! Радуйся радасцю,
хітон, бо ты свеціш святлом! Радуйся радасцю,
стоўп жыватворны!

Пайшоўшы ў пякельную печ наперадзе ўсіх
і з божае ласкі ўцалелыя, скажам
і мовім: баславёны ты, божа!

Даўней на капішчы ў Армазі прыносілі юнакоў у ахвяру
і плакалі, а цяпер прычашчаюцца прад стаўпом у купелі,
мовячы: баславёны ты, божа!
Радуйся радасцю, багародзіца дзева цнатлівая!
Стоўп, наша цвёрдасць! Як бліскавіца, ты асвятляеш
і азараеш і душы, і сэрцы, і розум
наш!

Збавіцель, магутны наш божа! Хвалім
і славім цябе, бо ты даў нам гэтае свята
святое, душ весялосць
і розуму нашага!

Радуйся радасцю, стоўп, як маланка, ты ззяеш
між зямлёю і небам, і любоўую сабраў
і з'яднаў ты зямное з нябесным!

Ты, стоўп светлыні, што сам невідочна ў паветра
ўзнёсся,
сталіш, і анёлы разам з людзьмі пяюць табе славу
нязмоўчна: слава стаўпу, нашай надзеі!

Дом-прыстанішча божае славы,
о слава вялікаму хараству твае святасці,
бо разам з табою радуе нас, сыноў божых, стоўп
і бароніць!

Стоўп наш і святло наша, маці божага сына!
Ты гадавала грудзямі сваімі бога Ісуса,
гэтак і нас праз міра, што стоўп пасылае, ты нагадуй!

## Чахрухадзе

# ТАМАРЫЯНІ

### ОДА ПЕРШАЯ

Гэй, мудраслоўы, дасціпнікі слова,
Слаўце Тамару, веры аснову!
Гоман не ціхне з дзён Дзіяніса,
Шырыцца слава дзевы прыгожай.

Мудрасць Сакрата, спевы Гамера
Ўславіць не здольны ў поўную меру.
Энас з Платонам слоў пераздвонам
Ззянне прыўкраснай памножыць не можа.

Ні Арыстоцель, ні Сарамара
Ўславіць не змогуць годна Тамару.
Мудрасць твая ў запеў абярнецца,
Ёй адгукнецца кожнае сэрца.

Стану лунаць я соладкаструнна,
Шырыць пашану ў свеце падспудна.
Ты — нібы Кронас, бліск-бліскавіца,
Боскага ўвасабленне бяссмерця.

Ззяе твой позірк, як зараніца,
Мкне прад табою сонца схіліцца.
Месяц на небе згаснуць гатовы,
Зорам паблякнуць наканавана.

Страхам працяты — каб не сурочыць! —
Стаў я, пясняр, натхнёна прарочыць,
Праўды святой раскручваць сувоі,
Сілай загорнутыя нязнанай.

З боскае ласкі вешчыя словы
І пра наступнасць можаш прамовіць.
Ласку зрабіла — нам паказала
Твар, што суніме боль невыносны.

Бог усеўладны са светлай хмары
Шле расцвітанне царству Тамары.
Землі, дзяржаву, веліч і славу
Падараваў ён скіпетраноснай.

Ты — бліскавіца, шчасця крыніца,
Позірк твой ясны, нібы дзянніца.
Блякнуць і кветкі, і самацветы
Перад красою вабнай тваёю.

Ты — як апора злагады, міру,
Росквіту, дабрачыннасці шчырай,
Бо хрысціянства і правасуддзе
Абараняеш моцай сваёю.

## ОДА ПЯТАЯ

Рупна мудрацы шукаюць Слова,
Мкнуцца да асноў светабудовы.
Эліны, стваральнікі канонаў,
Што не маюць роўні ў красамоўстве,

Ці псаломшчыкі (без намаганняў
Вабяць дзіўных арфаў чараваннем),—
Хіба хто з іх можа годна ўславіць?!
Мусяць сарамліва ўсе замоўкнуць.

Параўнаю з поўняй, бліскавіцай —
Вобраз твой сярод святіл іскрыцца.
Голас твой спакутаваным душам,
Як бальзам, што ўмомант гоіць раны.

Чуў я воклічы на розных мовах:
«Яе вабнасці, пякноты сіла
Не пусціла на спачын свяцілы!»
Прамаўлялі так табе, абранай.

Кожны закаханы абяцанне
Даў — жыццё праводзіць у блуканнях:
«Зорнае святло ў вачах чароўнай,
З-за яго пакутваць нам бязмерна!»

Засмучоны Іліён славуты,
Што не з-за цябе яго пакуты.
«Ах, чаму Юдзіфі,— не Тамары
Стаў ахвярай?!» — плакаць Алаферну.

Валасы астрыжаны ў Самсона,
Здрадай паланёны волат сонны.
Хіба параўнаць з табой Далілу?! —
Не пачуе вераломная прызнанняў!

І Дэбора, племені апора
Не пасмее стаць з табою поруч.
Шарм Эсфіры растае ў эфіры,
Бо не спарадзіў ён уздыханняў.

«Дзе ты, Віс?» — рыдаў Рамін, не ведаў
Пра цябе, прычыну яго бедаў.
Спеў Азанаў з болем чуць каханцы:
Просіць не яе аб спачуванні.

Тужыць Саль (палае ад кахання),
Што не ты выток яго палання.

Шатбіер шукаў Алаць дарэмна:
Ты была вянцом яго шуканняў!

Каінам абодвум да сканання
Слёзы ліць — забойцу у чаканні
Кары, а Мяджнуну ў марнай празе
Не з Ляйлі сваёй,— з табой спаткання.

Ты скарыла ўсіх, разбіла ўпартых,—
Мусульманам зараз не да жартаў.
Рацъ іранская і злыя зоры
Пазбягаюць з намі барукання.

Мусіў Юры ў цяжкі час пакінуць
Твой удзел, вяртацца на радзіму,
І тады іранскі шах з табою
Захацеў саюзу і з'яднання.

Ды табе Давід наканаваны,
Князь ільвоў, што славіцца ў змаганні.
Цар Шырвана, даннік твой адвечны,
Зажадаў, гаротны, уладання.

Многім ты, усіх наўрад ці злічыш,
Беглым зіркам утрапенне зычыш,
Абуджаеш марна летуценні,
Дзіва ты — не знаеш пераймання!

З выгляду — адлюстраванне сонца,
На цябе мы молімся бясконца.
Гордая і чулая, ды дзёрзкіх
Страшыш ты пагрозай пакарання.

Ты — ялей салодкі дабрадзейства,
Непагаснае святло надзеі,
З мудрасцю заўсёды ў добрай згодзе,
Ненавідзіш хіжую двурушнасць.

Хто тваю зазнае палымянасць,
Захавае ў сэрцы закаханасць.
Дроцік, які шчок тваіх даткнецца,
Абярнецца водарнаю ружай.

На тваім чале, як на скрыжалях,
Бачым клятвы-абяцанні. Джаліць
Скруха ўсіх, адхіленых табою.
Чуеш тых выгнаннікаў стагнанні?

З твару ты падобна да нарцысаў,
Шыя — мармуровыя абрысы.
Хіба ёсць яшчэ душа без шнараў,
Не працятая стралой жадання?

Як твой стан апець? Султан за сведку:
Нікнуць прад табой Усходу кветкі.
Марна ўладары рукі прасілі,
Пехатою адышлі з рыданнем:

Ты прагнала іх без шкадавання,
А яны чакалі балявання!
«Ты палям падобна Елісейскім!» —
Чуем воклічы кругом, прызнанні.

Твар — як поўня паміж ясных зораў,
Вочы — як атраманту азёры.
Як убачыў першы раз Тамару,
Знерухомеў я ў зачараванні.

Зразумеў: хвалы мае слабыя,
Даць зарок маўчання вінен быў я.
Энас заспяваў,— Платон, замоўкні:
Не памогуць хору закліканні.

Пра Тамару распачаць паданне
Чутна ў перуновым грукатанні

Воля боская. Самсон з Гамерам
Знемаглі ў дарэмных намаганнях:

Прыгажосці царскай маляванне —
Людзям непасільнае заданне.
Той, хто на цябе зірне, аслепне:
Засланяеш яснасць існавання.

## ОДА СЁМАЯ

Сонца дзён, пачуй маё маленне,
О Тамара, богаўгоднае тварэнне!
Шыя у цябе — хрусталь і ружа,
Позірк твой — раскоша, асалода.

Воблік — бы сама ціхмянасць, ласка;
Нават мне выказваеш паблажку.
Ты свяцілы ззяннем засланіла,
Усклікаем утрапёна, згодна:

«Марса не канчаецца гарэнне,
Не зважае, дзёрзкі, на зіхценне
Роўнай сонцу. Побач ззяць ахвочы,
Як пачнецца ночы панаванне?!»

Асвятляеш сем планет, царыца,
І Сусвет табою ганарыцца.
Каб ушанаваць цябе і род Адамаў,
Бог сваё памножыў пільнаванне

І ахвяраваў ён, трыадзіны,
Дух нятленны шчодраю гадзінай.
Хто, нібы ўсясветлая, спазнае
Сутнасць рэчы кожнае дазвання?

Мо спытаць пра Энаса з Гамерам,
Хто відушчы з іх у большай меры?

«Розумам Асклепію ты роўня!» —
Вырвецца і ў мудрацоў прызнанне.

Ахілес, Харсоў, Дэбора, Дарый
Пра такую славу толькі мараць.
Фанабэрлівых ты сарамаціш,
Твой узлёт — суседзяў знеслаўленне.

Ты — не летуценне і не мроя,—
А праява боскага настрою.
Для сяброў душою ахвяруеш,
Ворагам прыносіш вынішчэнне.

Крыж узняўшы, зрынула каліфа,
І султан зазнаў пакут не з міфаў.
Застагнаў Бабкар Азербайджанскі:
І яму нанесла паражэнне.

Мусульманскіх ордаў аб'яднанне
Новае адчула замяшанне:
Прыбыў Асецін,— ён абцяжарыць
Іх мінулай моцы адраджэнне.

## ОДА ВОСЬМАЯ

Вытрымае позірк толькі мгненне
Асляпляльныя твае праменні.
Твае вочы — нібыта два негры,
Млявыя і хмельныя індыйцы.

Я — палоннік твой, хачу скарыцца.
Сэрцу грэшнаму не дай разбіцца!
Ты не смертная, цябе я ўбачыў —
Ланцугоў няволі не пазбыцца.

Быць у тым палоне — асалода,
За яе не разлічуся одай.

На цябе глядзім мы апантана.
Ды ніяк не можам наталіцца.

Хто цябе не бачыць, той пакутнік,
Той, хто ўбачыць — знерухомее, прыкуты
Ўвагай да аповесці Дзілара,
Будзе хваляваецца і дзівіцца.

Ахвяруюць віцязі сабою,
Каб аддана ўкленчыць прад табою.
Хто тваёй прыхільнасці шукае,
Падначаліцца гарыць жаданнем.

Дабрыня твая — уцеха людзям,
Усхваляць цябе бясконца будзем.
Твой паглядны твар назвалі сонцам,
Бо праменіш жыццядайным ззяннем.

На скрыжалях у нямым маленні
Высечаны ўсе твае здзяйсненні.
Як прад скініяй, перад табою
Ў скокі пажадаў Давід пусціцца.

Не да іншай, да цябе звяртаўся
Саламон, табе адзінай кляўся:
«О вачэй маіх старэчых зрэнка,
Дабрынёю прыгажосць свяціцца!

Мне кляліся, нібы з ранкам ночка
Зраўнавалася, о найсвятая дочка!
Ты сваім з'яўленнем загадала
Цёмнай ночы ў поўдзень абярнуцца».

Усявышні палюбіў нямала,
Ты ж яго памазанніцай стала.
Падначалены мідзяне, персы,
Да цябе прымушаны гарнуцца

І зняможана табе скарыцца.
Знак у небе нездарма іскрыцца:
Творца просьбу выканаў, паслаўшы
Мудрага, адважнага Давіда,

Віцязя, кім можаш ганарыцца,
Ён — твой сябра, грозны леў, о львіца!
Парастак з Яфрэмавага дрэва,
Як маланкай, паражае дзідай.

Ён не мае роўні ў ратным полі,
Нішчыць ліхадзеяў без патолі.
Лаша, спадкаемец дастаслаўны,
Зачароўвае сваім сталеннем.

Ён адзначаны ўселітасцівым богам,
Не зазнае ў барацьбе знямогі.
Мара пра Вахтангава нашчадка
Ў ім знайшла сваё увасабленне.

З першых дзён было відаць памкненне
Персіі нанесці паражэнне.
Чуюць у Дамаску і ў Алепа,
Як палац грузінскі весяліцца.

Зразумелі ворагі, што тоне
Карабель іх — зараз у палоне
Быць і несці цяжкую даніну,
Давядзецца, як рабам, схіліцца.

Рась выводзіць Саслані ўсясільны,
Нечакана б'е і неадхільна.
На Каркум, Аран, Арам пайшоў ён,
Жах навёў на недругаў парадкі.

Іх царам нанёсшы паражэнне,
Ён дыктуе ўмовы пагадненняў,
Іншых жа, каронай увянчаных,
Уцякаць прымусіў без аглядкі.

Дабрачынны, праведны абраннік
Ганіць баляванняў пацяшанні.
«Ён — маланка! — так Бабкар усклікнуў.—
Дрэва я, падлеглае спаленню!»

Пераможны сцяг пры гуках трубных
Царскі твой саюз уславіў шлюбны.
«Намі валадар тысячагоддзе!» —
Рытар усклікае ў захапленні.

Раздаеш прастолы і прасторы
Вартым, велічная і ў пакоры.
Нат калі і сарацын не ў сілах
Не спяваць салодкіх усхваленняў,

Месх вандроўны, хіба ў гонар дзевы
Не спасцігну серафімаў спевы?!
Многіх сваім ззяннем асляпіла,
Спараджаеш ты святціл зацьменне.

## ОДА ДВАНАЦЦАТАЯ

Прызнаю: ты — неба, о царыца!
Нам табой па праву ганарыцца!
Незгасальным светачам палаеш,
Знеслаўляеш нават бліскавіцу.

Толькі поруч з ясным сонцам станеш,—
Жыццядайна ззяць яно не ў стане.
Шчасцем ты праменіш,— дык навошта
Прымушаеш сонца засмуціцца?

Здолею сказаць я менш, чым знаю.
Клятву даў на Біблії: сканаю
Ў намаганнях велічнасць спасцігнуць.
Твайму ззянню нельга не дзівіцца.

Вочы — бы атраманту азёры,
Вейкі — дзіды з апярэннем чорным,
На трыснёг падобная надзіва
Гнуткім тонкім станам чараўніца.

Ружай райскай прада мной цвіцеш ты,
Наталіцца не магу дарэшты
Велічнасцю, славай царскай пары.
Мусілі і злоснікі суняцца.

Ды тыран з'явіўся з хіжай раццю
І пачаў, звер люты, вычварацца,
У палон забраў жанчын і кволых,
Не было каму за іх падняцца.

Ён перамагае баязліўцаў,
Свет не знаў такога крывапіўца.
Вось ужо з усходу к нашым межам
Войска незлічонае імчыцца.

«Будзе камфара ў Масуле слынным,
Пажывіцца ў Грузіі павінны!
Гэты край не раз апусташаў я!» —
Голасна пачаў султан хваліцца.

Мудрая не стала з ім спрачацца,
Загадала спешна рыхтавацца.
«Хрысціяне! — воінам сказала,—
Памажыце праўдзе ўсталявацца!

Мусім дружна, нечакана ўдарыць,
Не дамо, каб злыдзень уладарыў!»
Ты натхніла войска: кожны прагне
За Айчыну, веру пазмагацца.

Быць вайне! Давід выводзіць войскі,
Адбірае ўмела месца бойкі,
З агаранамі ўступае ў бітву,
Справядлівай помсты кроў струменіць...

Элінстваваць элінам пасуе,
Вершамі няхай Гамер чаруе,
Энас думкаю да хмар сягае,
Мудрасцю Сакрат няхай праменіць.

Не патрэбна на мяне злавацца,
Што наважыўся за пёрка ўзяцца.
Беглі мусульмане ад Давіда,
Нібы ад ільва ў нару лісіца.

Усвядомілі сваю бяздумнасць,
Сталі наракаць на лёс кашчунна.
Уцякалі ў роспачы ад нашых
Турак амірбары ў калясніцах.

Беглі і саюзнікі-васалы
Безаглядна, іскры выкрасалі.
Дваццаць смелых гналі дзесяць тысяч,
Не давалі нелюдзям спыніцца.

І Давід святкуе перамогу,
Кідаецца воям на падмогу,
Утрапёна, апантана б'ецца,
Прымушае пыл курэць, дыміцца.

Вынішчаў няшчадна басурманаў,
Спляжыў полчышча румійцаў знаных.
Воіны здабычаю каштоўнай
Здолелі тады абагаціцца.

Эрзінджана валадар у горы
Збег, знайшоў ратунак у Сігоры.
«Не па добрай волі шлі мы ў бітву»,—
Пачалі палоннікі прасіцца...

Нездарма цяпер, мая царыца,
Вязняў поўная твая сталіца.
Надзяляеш слуг сваіх адданых,
І бруіцца шчодрасцей крыніца.

Нашы галасы звіняць, каб зліцца:
«Бог тваім сямействам ганарыцца!
Росквіту, здароўя вам жадаем,
Покуль свет стаіць і час імчыцца!»

## Іаанэ Шаўтэлі

### АБДУЛ-МЕСІЯ

*(Урыўкі)*

Бог, адзіны ў трох асобах, правы,
Памажы мне не дзеля забавы:
Як Давід, на гуслях заіграю
І спяю «Хвалу» цару дзяржавы.
Зеўс мяне прызваў, і захацеў я
Вобраз даць твой у праявах справы.
Вучачы сягоння неразумных,
Адчыню свет мудрасці і славы.

Афіняне мудрыя, замрыце,
Як Давіда хваляць, паглядзіце.
Хваліць скрозь Усход: Кітай, Егіпет,
Хваліць Захад: Сірыя, на Крыце.
Візантыйцы, эліны! З Сакратам
Роўнымі сябе больш не лічыце,
Звездары, што сварыцеся вечна,
Кіньце турбавацца, адыдзіце.

Хай ніхто мяне не папраўляе:
Ці магутнасць знойдзецца такая
Між людзей? Эфір, што зззяе ў сонцы,
Нам пасланы богам ажно з раю.
Мы падобных віцязяў не знойдзем,—
Ісціна, шібы зямля, старая.

Хіба можа з небам падраўняцца
Бездань пекла хмурая, ліхая?!

Рызыкну пачаць — хай страх адрыне! —
Пра таго, хто — валадар айчыне,
Красамоўны, доблесны, бадзёры.
Стала з ім краіна — што цвярдыня.
Пра цара, што здраднікаў карае,
Адсылае ў пекла як начынне,
Цараваннем што зацьміў нашчадкаў,
Што ў нястачы бліжняга не кіне.

Дзе выток? Бог усяго жывога
Даў Давіду клятву, слова бога:
«Абярну ў цароў тваіх нашчадкаў,
Ва ўладык прастолу залатога».
Вось і стаў Давід царом дзяржавы
З ласкі божай, што так можа многа.
Так узняты Сім благаславёны,
І ад Хама збаўлен ты дурнога.

Ён мірапамазан, моцны станам,
Не Іянатанам, а Натанам.
Прыпыніў ён смуту і разбоі,
Мір настаў спакоем шматчаканым.
Так Давід магутны ўдала правіць
На пагібель злосцю апантаным.
Ён усталяваў закон і веру,
Стаў для нас аплотам багаданым.

Ён людзей сагрэў: так сонцам лета
У задыяку Льва зямля сагрэта.
Слугі бога яго ўсюды хваляць
І плямёны, і ўсе часткі свету.
Горы і лясы, звяры і долы
Схілены прад ім у знак прывету.

Ворагаў знішчае ён каварных,
Здраднікаў, паклёпнікаў адпетых.

Хай жа ўславіцца Давід вялікі,
Перамог чыіх паўсюдна клікі.
Ён варожай сілы нішчыць раці,
Перад ім трапеча варвар дзікі.
Верным — сябра, ворагам — пагібель,
Стройны, найхрабрэйшы, санцалікі.
За яго памру, душу аддам я,—
Хто ж мяне разлучыць з уладыкам?

О Сірах, Кранос, Энос и Зянонам,
Тонкіх спрэчак ён спасціг законы.
Лепш у лад дзесяціструннай арфе
Усхваліце вы яго з паклонам.
Ён прыцьміў Утрута і Саама
Воляй, сілай, норавам нязломным.
Што прад ім Салім і Тур ганебны?
Што Растом? — Давід на бой натхнёны!

Ён нашчадак слаўны Іясея,
Ён жыве — за ісціну хварэе,
А дзяржавай дзевы Неграхоўнай —
Грузіяй валодаючы, дзее
Войску агаран канец бясслаўны.
Вераю святой ён палымнее...
Ад халіфа паступае подаць:
Цар зрабіў слугою ліхадзея!

Па пяску народы ўсе гадаюць,
Летапісы даўнія чытаюць:
«Ён — паток вады жывое з раю!» —
На Давіда гледзячы, так баюць.
Гавару я: вось гарадь свяцілы,
А яны ад зайздрасці канаюць:

«Нават сонца перад ім памеркла!»
Так яны, палаючы, сцвярджаюць.

Радуе яго зямлі цвіценне,
А вакол — сямі планет свячэнне.
Нібы месяц у святле адбітым,
Ад яго ўвесь свет бярэ мігценне.
Як магніт — жалезу, зрок Давідаў
Мае для народаў прыцягненне.
Радасці спазнаў я, і нямала,
Доўжыцца для нас насаладжэнне.

Ён не мае ў перамогах роўных,
Стройны віцязь, доблесны ваёўнік.
Ён — градаправіцеляў уладнік,
Палкаводцам правадыр галоўны.
Лепшы лучнік, коннік, мечаносец,
Ён — галоўны ворагаў знаёўнік.
Што прад ім астролаг з талісманам?
Ён — празорца свету безумоўны.

Там, дзе праўдзе суджана прыжыцца,
Куст засохлы зможа адрадзіцца.
Ты раскошу адхіліў ва ўбранні,
З воўны грубай носіш валасніцу.
Для цябе і Сілаам узведзен,
Ты — як леў, ва ўсім твая дзясніца.
Ворагаў разбіў між вод Геёна,
Легіён твае стралы баіцца.

Вечны ты, як правільнасці ззянне,—
Не ўсхваліць цябе, хоць ёсць жаданне:
Ты прыгожы, шчодры, памяркоўны
І тваё чаруе абаянне!
Асірыйскай мудрасцю надзелен,
Рытара ты апрануў убранне.

Адпачні, зазнай жыцця акрасу,
Бо тваё ў здзяйсненнях парыванне.

Ты людзей, як светач, асвятляеш...
Дык чаму ж хвалу ты толькі знаеш?
А таму, што варвараў ты губіш,
Сарацынаў скрозь перамагаеш.
Маеш падабенства з Ісаакам,
Як Мелхіседэк благаслаўляеш!
А з табой — Ісаў. Ды зло адкуль жа?
Казачнікаў,— ведаць каб,— спытаеш!

Абаронай ты прыкрыў, як шчытам
Ўладара, чыё рабро прабіта,—
Бога, што адзін у трох асобах,
Твар чый у свяцілах неба скрыты.
Ты — пчала, чый мёд — як дабрадзейства,
Дзверы, што ў сцяне, мацней граніту.
Капішча Ваала і Астарты
Знішчана табой і ў прах зарыта.

Ты мячы варожыя расплавіў,
Нібы воск. А ў нерат, што паставіў
Іншаверац, сам ён трапіў з войскам,
У палон ты і мідзян прыбавіў.
А затым яны паўсталі, каб ты
Перамогаю сябе не ўславіў.
І тады расправіўся ты з імі:
Палкаводцаў іх галоў пазбавіў.

Здзейсніў ты вялікія праявы,
Раць грузінаў ведучы да славы.
Гаргасалаў і Давідаў сцяг ты
Уздымаеш не дзеля забавы.
І няма ваёўніка такога,
Хто б свае так не ўзвялічыў справы.

Абяссілеў наш праціўнік даўні:
Як Растом, узняўшы вояў лавы.

Ты панішчыў мусульман дружыны.
Раб уздрыгнуў — голас счуў ільвіны.
Хутка ўтаймаваў ты непакорных,
Супакоіў горы і даліны.
Баючыся слоў тваіх, прымоўклі
Ворагі твае, сагнулі спіны.
Як свяцілы меркнуць перад сонцам,
Прад табой памерклі варажыны.

Жэзл цароў ты ўзяў сабе з Гебала,
Слава твая грозна заблішчала!
Ты ў кальчузе, воін непрыступны,
Ворага страшыцца твайго кінжала.
Доблесная шабля неаднойчы
Сарацынаў хутка вынішчала.
Рукі моцныя герояў дужых
Загубілі ворагаў нямала.

Ты сядзіш у вопратцы бясцэннай —
Рызе, тканай золатам, свяшчэннай.
Пурпурам, вісонам ты ірдзееш.
Скіпетр і вянец — красы няземнай...
Разадзеты ў яркую парфіру,—
Бліскае смарагд там незаменны.
Ганарышся благаславёнай богам
Дыядэмай ты сваёй праменнай.

Ты аздобіў,— небам быў натхнёны,—
Харэзмійскім сердалікам троны.
Змайстраваны ці не з райскіх сосен,—
У палацы велічным калоны.
Золатам і срэбрам блішчуць сцены,
Пліты ўражваюць пагляд здзіўлёны.

Паміж імі ўкрапаны агніста
Лігрымоны і біурыліёны.

У тваім — дзесяткі тысяч — стане
Знатныя вяльможы і дваране.
Сэрцам ты Німврод, чалом — Іосіф,
Рукі што ў Самсона,— хто ні гляне.
Хітруноў ліслівасць ты знішчаеш,
Нішчыш подлых, вопытных у змане.
За цябе гатоў я стаць ахвярай,
Як ягня лагоднае, ціхмяна.

Адабраў ты ў сонца бляск чароўны,
Месяцавы промні, бліск дыхтоўны!
Варты бацькі,— сын яго шчаслівы,—
Тройчы слаўны, волаце цудоўны!
Мовіш ты — дабро і праўда мовяць.
Суддзям ты суддзя паўсюль шаноўны.
Ты для злосніка — агонь адплаты,
Для плямёнаў ты заступнік кроўны.

«Так» ёсць «так», а «не» ёсць «не»: ты многа
Здзейсніў, клятвы вытрымаўшы строга.
Перамогу ты каваў дзясніцай
З дапамогай і мяча, і бога.
Быў гразой для ворагаў і громам.
Ты — іх страх, і боязь, і трывога.
Войска слаўных ты вядзеш наперад,
Шчасце і дабро — твая дарога.

Воін бога, помыслам крылаты,
Маннаю нябеснаю багаты,
Светач ты, чыё пламенне кажа,
Здраднік дзе, а дзе шпіён заўзяты.
Ты спазнаў каварных, крывадушных,
Адплаціў ім грознаю адплатай.

Яны ўсе — нібыта Ахітофель,
Кожны — жорсткі вепр ці воўк пракляты!

Здолеў ты з навукай парадніцца
Прокла Дзіядоха, Патарыйца.
Эбеліты, што пайшлі не далей
Сузіральнай думкі Атыкійца,
Кажуць: паства іхняя зраўняцца
З мудрасцю Давіда пабаіцца.
Знаюць магі і сябры Зянона:
Перыпат Давідам ганарыцца.

Ты вярнуўся з Рыма з перамогай,
Зваяваць цябе — няма такога.
Ты — святой навукі прапаведнік,
Радасць сэрцу кожнага жывога.
Плуг арэ твой, каб невынішчальна
Ярына ўраджала, быццам з рога.
Над табой — туман. Няўжо зачыніш
Дзверы ласкі, што паўсюль так многа?

Асяніў цябе святлом стваральнік.
Мовіў Ірадзіка прадаўжальнік —
Іпакрат, а з ім Сакрат згадзіўся:
«Ён — зямлі і мора уладальнік!»
Між васьмі мудрэйшых ты, нібыта
Эбеліты, светлы сузіральнік.
Папрымаў ты немаўлят з купелі,
Юнакоў бязгрэшных выхавальнік.

Сілу даў ты льву, зары — світанне,
Золата — на захад, водар рання —
Мускусу і Кандагару — цукар,
Індыі — з жамчужынаў убранне.
Стаў для ўсіх планетаў ты таварыш,—
Гэтым іх спатоліў пажаданне.

Ты — паплечнік мноства сіл нябесных,
Як святы, праменіш зараванне.

Бачу: дрэва парасткі пусціла.
Гэта роду, што царуе, сіла,
Што не церпіць анідзе прыгнёту,
Што людзей сабой абараніла.
Багамольцам ты — палац навукі,
Гавань караблёў, прыстанак Ніла!
Над зямлёй ты высішся, як Этна,
Красамоўства, мудрасці свяціла.

Прыкладны ты муж, пяшчотны, страсны,
Дзеткам галубіцы — бацька ўласны.
Мы цярпелі, ды прыйшло збавенне
Ад цябе, наш валадар прыязны.
Ты для ўсіх працаўнікоў — уцеха,
Абаронца беднякоў няшчасных.
Ворагам ты — камень спатыкнення,
Варварам — скала ты. Лёс іх — ясны!

Ты — сіротам бацька, дом бяздомных,
Хлеб галодных і святло для цёмных,
Юных апякун, адзежа — голых,
Ты суддзя для ўдоў, жанчын саромных.
Ты старцам нямоглым — посах сілы,
Ты ратуеш нас ад вераломных,
Ты — глыбокіх ісцін тлумачальнік,
Ты — стваральнік, прыклад для нястомных.

## Шата Руставелі

# ВІЦЯЗЬ У ТЫГРАВАЙ ШКУРЫ

*(Урыўкі)*

### УСТУП

Той, хто сілаю магутнай даў сусвету існаванне,
Хто з нябёс паслаў дыханне для істоты нежывой,—
Падарыў зямлю нам гэту, ўсю ў шматколерным убранні,
А царам зямным надаў ён уладарны выгляд свой.

Бог адзіны! Даў ты вобраз целу кожнага стварэння,
Дык пашлі мне моц і дужасць сатану перамагчы.
Дай мне палкасць закаханых, жыць да скону
ў захапленні,
А памру — грахі зямныя на тым свеце аблягчы!

Льва, якому так пасуюць меч і шчыт, кап'ё і стрэлы,
Хараство Тамары-сонца — кос агаты, лалы шчок —
Ці ж адважуся я ўславіць, склаўшы гімн хвалы
нясмелы?
Асалоду піў, хто бачыць мог яе хаця б здалёк.

Дык уславім жа Тамару, спалучыўшы кроў і слёзы!
Я складаў хвалення гімны ад душы калісьці ёй.
З воч-азёраў браў атрамант, браў стыло я з ніцых
лозаў.
Раніць сэрца песня гэта, нібы вострае кап'ё.

Загадалі мне царыцу ўславіць вершам мілагучным,
Косы чорныя уславіць, вочы з бляскам агнявым,
Цесны рад зубоў крыштальных, як зара —
рубіны-вусны.
Хоць і з волава кавадла — камень крышыцца на ім!

Пачуцця, майстэрства, слова прагну я, пясняр,
нястрымна.
Дай жа мне, маё натхненне, розум, сілу палкіх слоў!
Тым паможам Тарыэлю, што дастойны славы гімна,
Тым праславім трох герояў, дружбе верных трох сяброў!

Дык сядайма і аплачам мы пакуты Тарыэля.
Хто з народжаных на свеце да яго падобны быў?
З сэрцам, што працята жалем, сеў складаць я, Руставелі,
Нібы перлы, нізкі вершаў пра паданняў даўніх быль.

Вершатворац Руставелі, ўзяўся я за гэту справу
З-за тае, хто стаў над войскам, як адзіны валадар,
І па кім, вар'ят, сумую я ў знямозе і няславе,
Хай пашле мне ці збавенне, ці зямлю ў магільны дар.

Я персідскаму паданню даў жыццё ў грузінскай мове,
Хай, нібыта перл дзівосны, па руках хадзіць пачне.
Я знайшоў яго і ў вершы пераклаў, вар'яцтва повен,
Ласкай велічнай красуня блаславіць няхай мяне!

Прагну зноў яе пабачыць, хоць і слепяць вочы любай,
Толькі, спалены каханнем, не схаваюся нідзе.
Я малю: душу пакінь мне, асудзіўшы плоць на згубу!
Як уславіць трох герояў, сілы мне набрацца дзе?

Прымем тое мы без крыўды, што паслаў нам лёс ад роду:
Хай арэ зямлю араты, воін б'ецца на вайне,
Хай шалее закаханы, ў тым знаходзіць асалоду,—
Хто нікога сам не судзіць, суд людскі таго міне!

Дар паэзіі спрадвеку — яснай мудрасці праява,
У напеўнасці чароўнай воля божая відна.
Здольны слухаць — будзе ўсцешан асалодай гэтай з'явы.
Сказ даўгі зрабіць кароткім — вось паэзіі цана!

Для каня выпрабаванне — шпаркі бег і шлях далёкі,
Для таго, хто ў мяч гуляе,— пільны зрок і трапны ўдар.
Гэтак вось і для паэта — дум спыніць узлёт высокі,
Калі сіла верша чэзне і пачуццяў гасне жар.

Вы зірніце на паэта і на верш яго няроўны,
Калі слоў агонь марнее і радкі губляюць строй,—
Ён скароціць красамоўства, ён не здасца усё роўна,
Ён чагана ўдарам трапным бой закончыць, як герой.

Той не можа быць паэтам, хто сяк-так дзве рыфмы
звяжа,
Хоць сябе ўяўляе роўным ён сапраўдным песнярам,
Хоць убогай думкі немач вершам кволым перакажа,
Хоць крычыць «Мой верш найлепшы!», нібы мул,
упарты сам.

Дробны верш — паэтаў дробных уласцівасць
і прызванне,
Не пратне людскія сэрцы сцёртых слоў нязграбны лад.
Параўнаў бы я іх з тымі, хто, йдучы на паляванне,
Звера буйнага баіцца — б'е адважна зверанят!

Верш у іншых для забавы, ці прысвечаны дзяўчатам,
Ці для кпінаў над сябрамі, ці для іншых дробных мэт.
І такі пацешыць можа, калі думкаю багаты,
Але толькі ў значным творы вызначаецца паэт!

Не, пясняр не мае права марнаваць сваё натхненне,
Сэрца хай аддасць адзінай, ахвяруе для яе —

Лепшай з лепшах ва ўсім свеце — вершаў палкіх
зіхаценне,
І на струнах сэрца песні пра яе адну пяе.

Пра сябе скажу вам шчыра: услаўляў я і ўслаўляю
Тую, што ў адно звязала гонар, шчасце і жыццё;
Хоць яна, нібы пантэра, ў гневе літасці не мае,
Для яе ў наступных песнях аддаю ўсё пачуццё!

Сутнасць вечная кахання горды дух наш уздымае,
Пра яго ў звычайнай мове слоў высокіх нестае.
Воля неба ў тым каханні, хоць зямныя скрухі мае,
Хто дасяг яго — хай гоніць прэч сумненні ўсе свае.

Ахапіць не ў сілах розум тых пачуццяў сэнс глыбокі,
Бо язык стаміцца можа, вушы — страціць востры слых.
Хоць і блізкі ён да плоці, ўсё ж кахання дух высокі,—
І распусны хоча ўзняцца да вышыняў чыстых тых.

Закаханы да вар'яцтва называецца «міджнурам»,
Бо разлучаны з каханай, вар'яцее ад тугі.
Той імкнецца да вышыняў, супярэчыць грозным бурам,
Ласкай пышнае красуні хутка ўсцешыцца другі.

Быць міджнурам — значыць трэба ззяць красою,
нібы сонца,
Сеяць мудрасць, красамоўства, шчодра ласку ўсім
дарыць,
Быць свабодным і цярплівым, быць бязлітасным
у бойцы —
Той не можа быць міджнурам, хто пазбаўлен гэтых рыс.

Сэнс кахання для міджнура — прыгажосці свет таемны.
Бедны той, хто на распусту маладосць змяняў сваю.
Ёсць багаты свет кахання, ёсць распусты свет
нікчэмны —
Іх не блытайце ніколі — я параду вам даю!

Быць міджнурам — значыць вернасць захаваць сваёй
каханай,
Каб падчас разлукі доўгай сэрцам палкім не астыць,
Быць адданым ёй адзінай, прэч адкінуўшы заганы.
Ганьба ўсім спакусам танным, пацалункам іх пустым!

Той памыліцца, хто скажа, што міджнур на гэта хцівы:
Сёння з гэтай, заўтра з тою, дзе жанчына, нібы рэч.
Не, залётніцтва такое ветрагонам уласціва.
Толькі той міджнур сапраўдны, хто спакусы гоніць прэч!

Закаханаму перш-наперш трэба ўмець хаваць пакуты,
Аб каханай штохвіліну ў адзіноце ўспамінаць,
Ад разлукі невычэрпнай палымнець душою скутай,
Часам гнеў сцярпець пакорна той, што між усіх адна!

Не павінен ён нікому адкрываць імкненняў мэты,—
Можа любую зняславіць і сляза, і горкі стогн,—
Не даваць заўважыць людзям пачуцця свайго прыкметы,
Быць гатовым, калі трэба, за яе пайсці ў агонь.

Як таму паверыць можна, хто кахання не шануе,
Хто на людзі ўсё выносіць, шкодзіць любай і сабе?
Як яе праславіць можа, калі ўжо зняславіў тую,
Боль каму прынёс і сорам, даўшы волю злой журбе?

Я дзіўлюся з тых няшчырых, хто пляткарыць аб каханні,
Хто дарэмна ганьбіць тую, што ўсхваляў сто раз на дню.
Не кахаеш — дык навошта знеслаўляць яе дазвання?
Але злыдзень вельмі любіць абгаворы і хлусню!

Плач і слёзы па каханай — для міджнура не загана,
Адзіноцтва і блуканні хай спазнае ён да дна.
Вобраз любай хай заўсёды сэрца будзіць несціхана,—
Толькі людзям не павінна быць душа яго відна!

## СКАЗ ПРА РАСТЭВАНА,
## АРАБСКАГА ЦАРА

У Аравіі ўладарыў, з ласкі божае шчаслівы,
Правадыр магутнай раці Растэван — арабскі цар.
Сціплы, велічны і шчодры, красамоўны, справядлівы,
Воін мужны і выдатны, меў ён розум мудраца.

Не было ў яго нашчадкаў, апрача дачкі адзінай,
Што красою зіхацела, нібы сонечным святлом.
Хто яе хоць раз пабачыў, той душой і сэрцам гінуў,
Усхваліць яе не мог бы і мільён прыгожых слоў.

Цінацін — царэўну звалі, ведаць гэта мусіць кожны!
Падрасла — ярчэй за сонца расцвіла сваёй красой.
Неяк цар сваіх візіраў у палац сабраў раскошны
І пачаў гаворку ветла, пасадзіўшы іх з сабой:

«Ад супольнай гэтай рады слова мудрага чакаю.
Калі вяне ружа — значыць, адцвітаць прыйшоў ёй час;
Але ж ёй на змену ў садзе расцвітае ўжо другая,—
Гэтак ноч ступае ў цемры, калі светлы дзень пагас.

Я сваё аджыў, а старасць — ёсць найгоршая хвароба.
Я памру не сёння — заўтра, кажа так жыцця закон,
Бо святло свяціць не можа, калі з цемрай ходзіць
побач;
Хай дачка — надзеі сонца, уладарны прыме трон!»

«Цар,— візіры адказалі,— ты здзівіў усіх нямала.
Дакараць не трэба старасць — мудрасць кажа з даўніх
пор.
Пах яшчэ танчэйшы ў ружы, калі ў росквіце завяла.
Месяц, нават і шчарбаты, свеціць лепш, чым сотні зор.

Не кажы, о цар, пра гэта,— ружа-кветка не завяла,
Даражэй чужой парады слова нам твайго закон!

Згодны мы: рабі па-свойму, так, як сэрца падказала,—
Хай па тропе будзе тая, сонца шле каму паклон!

Хай яна — жанчына, рады бачыць мы яе царыцай!
Без ліслівасці сцвярджаем: ёй да твару твой вянец,
Бо й цяпер дабром учынкаў, як праменнем твар
свіціцца,—
Дзеці льва на льва падобны, хоць саміца, хоць самец!»

Аўтандзіл — спаспет адважны, сын аміра-спасалара,
Станам роўны кіпарысу, тварам — месяцу раўня,
Хоць і быў юнак бязвусы, адчуваў царэўны чары,
Без яе стральчатых веек ён не мог пражыць і дня.

Ён хаваў глыбока ў сэрцы жар кахання патаемны,
Ад разлукі доўгай вянуць пачыналі ружы шчок,
Палымнеў агнём пакутным, калі бачыў зноў царэўну,—
Спачування варты кожны, хто каханню даў зарок.

З той часіны, як царэўна атрымала трон дзяржаўны,
Аўтандзілу, боль змяніўшы, засвяціў надзеяй лёс.
Ён сказаў: «Часцей убачу стан і твар яе крыштальны,
Можа быць, бальзам гаючы я знайду цяпер ад слёз!»

Разаслаў па ўсёй краіне Растэван ганцоў з загадам:
«Цінацін — царыца ваша, трон ёй свой перадаю.
Хай жа свеціць, нібы сонца, хай ёй кожны будзе рады!
Дык прыходзьце і ўслаўляйце валадарку вы сваю!»

Тут сышліся ўсе арабы, мноства госцяў знакамітых:
Аўтандзіл — военачальнік яснатвары быў між іх,
І Саграт — візір прыдворны, самы першы з царскай
світы.
Трон паставілі раскошны, што здзіўляў цаною ўсіх.

Цінацін падвёў да трона бацька ў шчасным захапленні
І сваёй рукою ўласнай на чало карону ўсклаў,

Скіпетр даў, надзеў на плечы пурпуровае адзенне.
Ліўся з воч царыцы-дзевы бляск праменнага святла.

Адступілі і з паклонам цар-дзяўчыну прывіталі
І, на царства благаславіўшы, асыпалі пахвалой.
Трубы гучна заігралі, гулка грукнулі кімвалы.
Слёзы дзевы не схавала веек чорнае крыло.

«Быць не варта я царыцай»,— дзеву мучыла здагадка,
І слязамі арасіла шчокі — ружаў дзіўны сад.
Цар даводзіў ёй: «Павінны замяняць бацькоў
нашчадкі,—
Не зрабіўшы гэта, быў бы я жыццю свайму не рад!»

Загадаў: «Даволі плакаць, лепш маю параду слухай:
Аравійскаю царыцай ты прызначана цяпер,
У тваіх руках дзяржава — будзь заўсёды мудрай духам,
Сціплай, шчодрай і разважнай, толькі чыстай праўдзе
вер!

І дзядоўніку і ружы сонца лье праменне роўна,—
Будзь жа й ты ласкавай роўна да вяльмож і да рабоў!
Шчодрасць неслуха ўтаймуе, а пакорны й так пакорны,
Шчодрай будзь: што возьме мора, ўсё аддасць назад
прыбой!

Шчодрасць так цару ўласціва, як Эдэму кіпарысы,
Падначаліцца ёй можа і двудушны чалавек.
Што здабыў — спажыць разумна, хцівы ж копіць
бескарысна,
Што аддаў — тваё заўсёды, што схаваў — згубіў навек!»

Словы бацькавай навукі мудра слухала дзяўчына,
Іх у памяці хавала, нібы іскры залацін.
Цар наладзіў баль вялікі, з ім гуляла ўся дружына;
Цінацінай сонца стала, сонцам стала Цінацін.

Загадала, каб з'явіўся скарбнік змалку ёй аддачы,
І сказала: «Ўсе пячаці з куфраў-скарбніц паздымай;
Што належыць мне па праву, ўсё нясі сюды дазвання,
Як царыца, ўсе багацці я хачу раздаць сама!»

Раздарыла ўсе багацці, некранутыя ніколі,
Абдарыла ўсіх нязнатных, надзяліла шчодра знаць;
І сказала: «Ўсё раблю я згодна з бацькаваю воляй,
Забірайце ўсё, нічога мне не трэба пакідаць!

Стайні ўсе паадмыкайце! — загадала слугам строга,—
Скакуноў маіх гарачых разбірайце — не шкада!»
Раздавала ўсё дарэшты, не шкадуючы нічога...
І грабла багацці чэлядзь, быццам дзікая арда.

Зграя тая ўсё хапала, быццам туркаў рабавала,—
І стаеннікаў арабскіх, і заморскіх жарабіц.
Як завея, там царыца ўсіх дарамі асыпала,
Ні мужчыну, ні жанчыну не схацела абдзяліць.

Першы дзень мінуў. Ракою ўсё ліліся віны, стравы,
Безліч войска балявала на бяседзе пышнай той.
Раптам штосьці зажурыўся цар, пакінуўшы забавы.
«Што з ім сталася?» — шапталі госці ціха між сабой.

На пачэсным месцы быў там Аўтандзіл непараўнаны —
Галава і гонар войска, смелы, спрытны, быццам леў;
Побач з ім Саграт паважны нечым быў усхваляваны.
Гаварыў адзін другому: «Што з царом? Чаму збялеў?»

Разважалі: «Цар, напэўна, повен сумных успамінаў,
Бо інакшых для маркоты мы не знойдзем тут падстаў».
Аўтандзіл сказаў Саграту: «Трэба высветліць прычыну.
Запытаем, пажартуем, каб на сэрцы лёд растаў».

Тут Саграт стары і мудры, Аўтандзіл, прыгожы станам,
Падышлі, наліўшы кубкі, да пахмурнага цара

І, ўсміхаючыся ветла, паклапіліся з пашанай.
Красамоўную прамову распачаў візір Саграт:

«Повен смутку ты, ўладар наш, спахмурнеў сваім
абліччам.
Маеш рацыю: дашчэнту ўся спустошана казна,—
Што дачка параздавала, дык таго цяпер не злічыш.
Лепш не быць бы ёй царыцай, чым табе бяду зазнаць!»

Усміхнуўся цар. Ніколі не чакаў ён ад Саграта,
Што пасмее той так дзёрзка церушыць у вочы пыл,
І сказаў яму: «Ты добра ўзычыў мне, мудрэц заўзяты!
Толькі брэша той, хто лічыць, што арабскі цар скупы!

Не, візір, не гэтай думкай сэрца я сваё ўстрывожыў;
Праляцелі дні юнацтва, старасць я сустрэў сваю.
Хто ж у справах ваяўнічых пераняць мой гонар зможа?
Перадам каму я зброю, славу ратную маю?

У пяшчотах і раскошы я дачку сваю выхоўваў,—
Не дало мне сына неба — лёс такі паслаў мне бог,—
Каб, як я, з мячом і лукам быў заўсёды ў бой гатовы.
Аўтандзіл — мой выхаванец — замяніць мяне б тут мог».

Словы тыя слухаў віцязь, галаву схіліўшы нізка,
Усміхнуўся — асвятліўся твар дзівосны пекнаты,
Рад зубоў, як жэмчуг белых, з-за пунсовых вуснаў
бліскаў.
Цар спытаў: «Чаго сумеўся і чаму смяешся ты?»

І дадаў: «Маю гаворку можа лічыш недарэчнай?»
«Цар,— сказаў пачціва віцязь,— адказаць табе гатоў,
Толькі слова дай, што ў гневе не адплоціш мукай
вечнай,
За абразу не палічыш гэтых дзёрзкіх маіх слоў!»

Цар сказаў: «Не буду ў крыўдзе, калі й скажаш крыўды
слова».
І пакляўся Цінацінай — сонца яркаю красой.
«Цар,— тады прамовіў віцязь,—праўду я сказаць гатовы.
Не хваліся ўмельствам збройным, славай лучніка былой.

Аўтандзіл — твой прах, аднак жа лепш, чым ты страляць
умее,
Войска сведкаю паклічам — хто мастак у справе той.
Загадзя, як ты, хваліцца я, вядома, не пасмею,—
Лук і стрэлы ў ратным полі хай рассудзяць нас з табой!»

Цар сказаў: «Прымаю выклік. Жартаваць я не дазволю.
Слоў сваіх ты не зракайся — адступаць назад не дам!
Лепшых воінаў у сведкі возьмем — праўду скажа поле,
Хто з нас варты гучнай славы, той убачыць гэта сам!»

Пакарыцца волі царскай давялося Аўтандзілу.
Зноў гучалі песні, жарты — кожны змене той быў рад.
Смеючыся, цар і віцязь так нарэшце парашылі:
Хай тры дні без шапкі ходзіць, хто прайграе свой
заклад!

Цар загад даў паляўнічым: «Аб'язджайце луг і поле,
Выганяйце нам насустрач зграі дзікія звяруг!»
У паход сабрацца войску — абвясціў ён тут жа волю.
Скончан баль, і разамкнуўся весялосці шумны круг.

## АРАБСКІ ЦАР УБАЧЫЎ ВІЦЯЗЯ Ў ТЫГРАВАЙ ШКУРЫ

Раптам глянулі: паблізу віцязь плакаў каля рэчкі,
Быў адзін той леў-асілак з вараным канём сваім,
Белы жэмчуг упрыгожваў і даспехі і вуздэчку,
Слёзы шэранню застылі на абліччы маладым.

Шкурай тыгравай стракатай стан прыгожы быў убраны,
З той жа самай шкуры шапка прыкрывала галаву,
У руцэ трымаў нагайку з рукаяткаю чаканнай.
Цар здзівіўся: што за дзіва, скуль ён, віцязь,
чым славут?

І паслаў слугу дазнацца, ў чым прычына горкай долі,
Ды з паніклай галавою віцязь вочы не падняў,—
З-пад агатаў веек чорных дождж крыштальны падаў
долу,
Падышоў слуга — ні слова той яму не адказаў.

Забаяўся раб спытацца, ад чаго ў гароце віцязь,
Доўга моўчкі ён вагаўся, покуль страх не перамог,—
Падышоў, сказаў нясмела: «Цар загадвае з'явіцца!»
Ды не бачыў яго віцязь і пачуць яго не мог.

Так ні слова не пачуў ён, безуважны і пануры,
Нават гоман тлумны войска, што было непадалёк.
У агні смылела сэрца, у грудзях кіпелі буры,
І з крывёй зліліся слёзы, нібы гаць прарваў паток.

Ён лунаў крылатай марай дзесь далёка ў іншым краі,
І калі, царом пасланы, паўтарыў слуга загад,
Віцязь нават не азваўся, ўвесь ахоплены адчаем,
Ружы вуснаў пабялелі, нібы іх крануўся град.

І, адказу не пачуўшы, ў царскі стан слуга вярнуўся
І сказаў: «Відаць, не хоча з намі знацца ён зусім.
Хараством, як сонца бляскам, страціць зрок мяне ён
змусіў;
Ты даруй, што не ўдалося мне вярнуцца разам з ім!»

Цар здзівіўся з той нагоды, закіпела сэрца гневам,
Клікнуў ён дванаццаць лоўчых — лепшых воінаў
і слуг,—

Загадаў: «Бярыце зброю і сілком дастаўце мне вы
Непакорнага чужынца, што да царскай волі глух!»

Людзі рушылі. Пачуўшы нечаканы бразгат зброі,
Ачуняў на момант віцязь, слёзы горкія суняў,
Азірнуўся і заўважыў войска шмат перад сабою.
«Гора мне!» — прамовіў толькі, больш нічога не сказаў.

Выцер ён рукою слёзы з воч пакутлівых і горных,
Меч на поясе паправіў, за плячо закінуў лук,
Моўчкі сеў на варанога — што там слухаць косці
чорнай?! —
І спакойна прэч паехаў ад назолы і дакук.

Затрымаць яго хацелі слугі спрытныя царовы.
Жах, што іх спаткала — вораг нават ім бы спагадаў:
Забіваў ён іх няшчадна, біў галовы аб галовы.
Некаторых жа па грудзі рассякаў нагайкі ўдар.

Цар, дарэшты раззлаваны, наўздагон паслаў дружыну.
Віцязь ехаў задуменны, не аглядваўся назад,
Хто ж яго схапіць імкнуўся — ад рукі асілка гінуў.
Ён людзьмі ў людзей кідаўся. Пацямнеў цара пагляд.

І тады на коней селі цар з адважным Аўтандзілам.
Той жа ехаў горда, толькі у сядле гайдаўся стан,
Конь яго, як сам Мерані, слаўся віхрам буйнай сілы.
Тут цара заўважыў віцязь і варожай раці стан.

Пазбягаючы сустрэчы, сцебануў каня нагайкай
І, нібыта прывід дзіўны, знік з вачэй, растаў як дым,—
Ці то ў бездань праваліўся, ці то ў неба ўспырхнуў
чайкай.
Марна гойсала пагоня — пыл замёў яго сляды.

Доўгі час сляды шукалі, ўсіх здзіўленне ахапіла:
Толькі дэвы-злыдні могуць гэтак знікнуць на вачах.

Па забітых галасілі, хто паранен быў — лячылі.
Цар сказаў: «Мінае радасць, калі сэрца цісне жах.

Я жыццём сваім шчаслівым, пэўна, богу надакучыў,
Што пазбавіў весялосці, надарыў душу тугой.
Дзе, паранены смяротна, я знайду бальзам гаючы?
Што ж, хай будзе гэтак! Божа, згодзен з воляю тваёй!»

І, сказаўшы гэта, рушыў спахмурнелы цар дадому,
На рысталішча не клікаў, ехаў моўчкі, уздыхаў.
Паляваць не давялося з той прычыны анікому.
Той казаў: «Цар праўду кажа», той маліўся ад граха.

Спахмурнелы і пануры, цар падыбаў у пакоі,
Аўтандзіла ўзяў з сабою, бо як сын лічыўся ён.
Людзі ж выйшлі, і змяніла ціша гоман неспакою,
Гукі арфы мілагучнай і кімвалаў перазвон.

Пра бяду і гора бацькі Цінацін вядома стала.
Падышла да спачывальні, тварам сонца прыгажэй.
«Спіць мой бацька,— запытала,— ці бяссонніца напала?»
Адказаў візір: «Смуткуе, нават з твару паблажэў.

Аўтандзіл адзін з ім толькі. Іх нягода напаткала:
Віцязь дзіўны іх абразіў, і таму туга ўзяла».
«Я пайду,— яна сказала,— мне заходзіць не прыпала.
Запытаецца — скажыце, што царыца тут была».

Неўзабаве цар спытаўся: «Дзе дачка, мой белы лебедзь,
Жыватворная крыніца і дзівосных ружаў сад?»
Адказалі: «Тут нядаўна ласку мела вас наведаць,
Ды пра гора ваша ўчула і вярнулася назад».

Загадаў: «Дачку паклічце, без яе няма спакою.
І скажыце ёй: «Навошта ты вярнулася назад?
Ты прыйдзі развеяць гора, падзялюся я з табою,
Дзе прычына тая злая, што жыццю я стаў не рад».

4*

І, паслухаўшыся бацькі, Цінацін прыйшла ахвотна,
Твар яе свяціў, як месяц, змрок наўкола праяснеў.
Цар, дачку пацалаваўшы, ушчуваў яе пяшчотна:
«Ты чаму без запрашэння не прыйшла сама раней?»

Адказала цар-дзяўчына: «Калі ты ў журбе ці гневе,
Самы горды не пасмее перайсці за твой парог!
Смутак твой і роспач могуць патушыць і зоркі ў небе.
Чым журыцца — добрай справай ты б сябе суцешыць
мог!»

Адказаў ёй цар: «Дачушка! Гора, скруха ці назола
Гінуць — толькі твой ласкавы погляд сэрца закране.
Боль душы маёй ты гоіш, як настой чароўных зёлак.
Раскажу пра ўсё — не будзеш дакараць тады мяне.

Віцязь дзіўны невядомы напаткаўся мне ў дарозе.
Ад вачэй яго праменных далягляд вакол яснеў.
Плакаў горка і няўцешна, ў адзіноце ліў ён слёзы,
Я паклікаў — не прыйшоў ён, моцна ўгневаўшы мяне.

А калі мяне заўважыў — верхам сеў і прэч паехаў.
Загадаў яго прывесці — шмат людзей панішчыў ён.
Не сустрэўшыся па-людску, знік ён д'яблу на пацеху.
І няўцям: было ўсё гэта ці прымроіўся мне сон?

Я дзіўлюся: хто ён? Прывід? І з якой такой уроды?
Перабіў маю дружыну, дол заліў крывёй людской.
Не ўявіць таго істотай, хто, як здань, знікае з ходу.
Быў шчаслівы я, карае бог цяпер сваёй рукой!

Асалоду існавання ён змяніў мне на атруту,
Весялосці дні мінулі, як чароўнай казкі сон.
Мне цяпер усё няміла, мне жыццё — адна пакута,
Колькі б я ні жыў на свеце, не пабачу светлых дзён».

Адказала дзева смела: «Цар, дазволь сказаць мне праўду:
Наракаеш ты дарэмна і на бога, і на лёс!
Слаць нашто таму дакоры, хто дае жыццё і радасць?
Зло тварыць не можа творца, што дабро для ўсіх прынёс!

Вось табе мая парада, над царамі цар уладны,
Ты валодаеш краінай, найвялікшай між краін,
Дык пашлі ганцоў старанных, хай дазнаюцца дакладна,
Чалавек той віцязь дзіўны ці нячыстай сілы сын?»

Цар паслаў ганцоў адборных у чатыры часткі свету,
Загадаў ім: «Смела йдзіце, не пужайцеся нягод,
А свавольніка знайдзіце, хоць нялёгка будзе гэта.
Шліце пісьмы, дзе не ўдасца вам адолець перашкод».

Абышлі ганцы паўсвету, не спаткала іх удача.
Год шукалі. Знік той віцязь, як былінка уначы.
Не маглі знайсці нікога, хто б хоць раз яго пабачыў,
І вярнуліся дадому, лёс пракляты кленучы.

«Уладар,— яны сказалі,— мы прайшлі зямную сушу,
Не знайшлі, каго шукалі, хоць заўжды былі з людзьмі,
Апыталі ўсіх сустрэчных, самі выматалі душы
І табе не дагадзілі,— іншы захад ты прымі!»

Цар прамовіў: «Як сказала ты, дачушка, так збылося:
Д'ябал тут зрабіў падкопы, насланнё паслаўшы нам;
З неба зрынуты, з'явіўся помсціць ён людскому лёсу.
Хай прыходзіць радасць — гора не да твару ўладарам!»

Так сказаўшы, цар наладзіў баль вялікі, нечуваны.
Спевакі, музыкі, блазны вычваралі хто што мог.
Шчодра ён усіх адорваў, хто быў званы і нязваны,
Гэткіх шчодрых і гасцінных не ствараў ніколі бог!

## ЦІНАЦІН ПАСЫЛАЕ АЎТАНДЗІЛА НА ПОШУКІ ВІЦЯЗЯ Ў ТЫГРАВАЙ ШКУРЫ

Аўтандзіл, адзеты лёгка, быў адзін у спачывальні,
Песні ён спяваў пад гукі струнаў арфы залатой.
Чорны раб з'явіўся раптам — Цінацін слуга аддany —
І сказаў: «Вас месяц ясны запрашае ў свой пакой».

Быў узрушаны прыемна Аўтандзіл жаданай весткай,
З лепшых лепшае адзенне на сябе надзеў хутчэй.
Як прыемна быць сам-насам з незраўнанай ружай-
кветкай,
Як прыемна быць з каханай, бачыць бляск яе вачэй!

Аўтандзіл ішоў паважны, з горда ўзнятай галавою,
Да тае, па кім так часта ў адзіноце слёзы ліў.
Цінацін, як бліскавіца, ззяла юнаю красою,
Перад ёю нават месяц непрыкметнай зоркай быў.

Тонкі стан чароўнай дзевы гарнастай укрыў пушысты,
Мармур белых плеч ахутаў шаль нябачанай цаны.
Працінալі сэрца стрэлы веек чорных, воч агністых,
Змеі доўгіх кос кранալі шыю чыстай белізны.

Твар нахмураны адценьваў тонкі вэлюм пурпуровы.
Запрасіла сесці поруч ціха віцязя яна.
Крэсла раб яму паставіў. Не гаворачы ні слова,
Сузіраў ён твар прывабны, шчасця міг п'ючы да дна.

Дзева віцязю сказала: «Я прызнацца не жадала,
Што душу маю трывожыць, ды маўчаць не маю сіл.
Але ты ці здагадаўся, для чаго цябе прызвала,
І чаму сяджу я ў смутку, і чаму мне свет не міл?»

Адказаў ён: «Што скажу я, калі сэрца страх сціскае?
Ад сустрэчы з сонцам ясным меркне месяц-маладзік;

Так і я, цябе сустрэўшы, ясны розум свой губляю,—
Ты сама мне дай параду, чым змагу я дагадзіць?»

Далікатна і прыхільна дзева віцязю сказала:
«Хоць дагэтуль быў далёка ад мяне ты, віцязь мой,
І хоць шчырасцю маёю зараз здзіўлены нямала,—
Ўсё ж паслухай, што за немач точыць скрытна мой
настрой.

Прыгадай, як з Растэванам вы былі на паляванні,
Як чужынца напаткалі, што над рэчкай слёзы ліў.
З той часіны успаміны раняць сэрца несціхана,
Дык знайдзі яго, а трэба — абыдзі абшар зямлі!

Ад цябе хаця й не чула я прызнання слоў гарачых,
Але ж сэрцам адчувала жар кахання я твайго;
Не таіся: раніў шчокі градам слёз ты ў горкім плачы,—
Ты накораны каханнем, ты ў палоне у яго!

Мне служыць ты абавязан — ёсць на гэта дзве прычыны:
Ты, па-першае, адважны — не знайсці такіх нідзе;
Па-другое, ты — міджнур мой, верыць мне заўжды
павінны,—
Дык ідзі, знайдзі, дзе віцязь — на зямлі ці на вадзе!

Здзейсніш гэта — і каханне акрыяе сілай дужай,
Ты мяне пазбавіш скрухі, змёўшы духа волі злой.
Пасадзі ж надзей фіялкі, прыгарні да сэрца ружу
І вяртайся, леў: як з сонцам, лёс я свой злучу
з табой!

Тры гады шукай чужынца, ўсё аддаўшы гэтай мэце,
І вяртайся з перамогай, смелы воін і спаспет;
А не знойдзеш — дык паверу, што няма яго на свеце.
Ты ж, вярнуўшыся, сустрэнеш незавялай ружы цвет.

Я табе клянуся, любы: калі іншы хто прыветны,
Будзь хоць сонцам ён у плоці, стане мужам для мяне,—
Хай пазбавяць мяне раю, хай згару я ў апраметнай,
Хай, як меч, тваё каханне сэрца помстай мне пратне!»

Віцязь ёй сказаў: «Як сонца не схаваць агатам-вейкам,
Так і мне свае пачуцці не схаваць перад табой!
Смерці я чакаў — вярнула ты мне вобраз чалавека.
Я гатоў, як раб слухмяны, век служыць табе адной!»

І яшчэ сказаў ёй віцязь: «Бог, цябе стварыўшы сонцам,
Падначаліў зорак скопы,— я ж пясчынка сярод іх.
Хоць не варты шчодрай ласкі, ўдзячны я табе бясконца:
Ружа сэрца не завяне у праменні воч тваіх!»

Узаемна пакляліся не парушыць запавету,
І салодкая размова пацякла, нібы ручай.
Знікла гора, што сціскала сэрцы юныя дагэтуль,
І усмешак белы жэмчуг бліскавіцамі блішчаў.

Селі поплеч. Адказала сэрца сэрцу на каханне.
Воч крышталь, рубіны вуснаў доля шчасцем абвіла.
Ён сказаў: «Вар'ятам стане, хто табе у вочы гляне.
Твой агонь з маім сустрэўся — сэрца мне спаліў датла».

Віцязь выйшаў, хоць пакутай апякала развітанне,
Азіраўся ўслед каханай, апантаны, як вар'ят,
Ружу шчок студзілі слёзы—град крыштальны несціханы,
Сэрца сэрцу аддалося, ўзяўшы вернасць у заклад.

Ён сказаў сабе: «О сонца, без цябе і ружа вяне!
Як рубін, раней іскрыўся, як бурштын пачаў я цьмець.
Што ж рабіць, калі разлука дух кране пякучай ранай?
Мой закон: дзеля каханай я гатоў ісці на смерць!»

Лёг на ложак, горка плакаў. Сон не браў да самай ночы.
Трапятаў, нібы асіна ў навальніцу ад вятроў;

Засынаў — красой дзівоснай прывід мілы песціў вочы;
Прачынаўся — боль пакутны вырастаў у сто разоў.

Так пазнаў упершыню ён смак разлукі і уцехі,—
Жэмчуг слёз на ружы твару дыяментамі іграў.
На світанні ён прачнууўся, апрануўся, ўзяў даспехі,
Моўчкі сеў на варанога і паехаў да цара.

Да цара паслаў эджыба ён з такою прапановай:
«Цар, асмелюся прасіць я думку выслухаць маю:
Падуладны край бязмежны і мячу твайму, і слову,—
Я жадаю, каб прызналі ўсе краіны моц тваю!

Я пайду ў паход вялікі, абвяшчу на ўсіх граніцах,
Што царыцай нашай стала Цінацін — твая дачка.
Тым узрадую пакорных, непакорных пакарыцца
Я прымушу. З добрай весткай ты ганцоў маіх чакай!»

Цар удзячнасць Аўтандзілу перадаў у цёплым слове:
«Льву ўласціва быць бясстрашным у крывавай барацьбе.
Шчодры дар — твая парада, ёй вядома бою мова,—
Дык ідзі і ведай — сумна будзе нам чакаць цябе!»

І тады з'явіўся віцязь да цара ў палац з паклонам:
«Уладар, не заслужыў я пахвалы высокіх слоў.
Калі зноў цябе пабачу, значыць, бог збярог ад скону,
Каб, шчаслівы, ўбачыць мог я ў шчасці царскае чало!»

Цар абняў яго за шыю, цалаваў яго, як сына,—
Выхавацель з выхаванцам мудрай пары ўзор сплялі.
Развітаўшыся, нарэшце Аўтандзіл палац пакінуў;
Мудры, добры і сардэчны цар слязу з вачэй праліў.

Віцязь рушыў у дарогу горды, смелы і шчаслівы.
Дваццаць дзён змяняла сонца серабрысты морак зор.
Радасць свету, скарб чароўны — вобраз любай зіхатлівы
Распаляў у сэрцы юным палымяных дум касцёр.

Вось нарэшце ён убачыў свайго царства край прыгожы.
З падарункамі насустрач выйшла радасная знаць.
Толькі віцязь — месяц ясны—заспяшаўся ў падарожжа,
Не схацеў яго надоўга на радзіме прыпыняць.

Меў ён замак старажытны — ад варожых зграй заслону,
Што цвярдыняй непрыступнай уздымаўся, як скала.
Паляваў тры дні там віцязь у лясах, лугах зялёных
І слугу па Шармадзіна на чацвёрты дзень паслаў.

«Шармадзін,— прамовіў віцязь,— друг мой даўні
і паплечнік,
Сорам мне, што не сказаў я праўду ўсю табе раней,
Колькі я спытаў гароты, колькі слёз і мук сардэчных
Ад тае, што зараз шчодра дорыць радасць, шчасце мне.

Цінацін агонь кахання ў юным сэрцы запаліла;
І з нарцысаў-воч сачыўся кіпень слёз на ружы цвет.
Не хацеў, каб таямніцу людзі гэтую раскрылі,
А цяпер прамень надзеі асвятліў мне цэлы свет.

«Ты дазнайся, дзе той віцязь,— загадала строга
дзева,—
А як вернешся дадому, стану жонкаю тваёй,—
Не патрэбен муж мне іншы, хай ён будзе райскім
дрэвам!»
І бальзамам слоў гаючых ажывіла мой настрой.

Як васал, свайму патрону я служыць перш-наперш
мушу,—
Быць аддданымі павінны мы сваім уладарам;
Па-другое, ласкай дзевы ў сэрцы жар агню патушан;
Дзе напасць і небяспека, віцязь быць павінен там.

Паміж знатных і залежных толькі мы сябры з табою,
Дык паслухайся мяне ты, шчыра я прашу аб тым:

Ты кіруй маёй краінай, будзь над войскам галавою,
Бо давер мой спраўдзіць здольны ў гэтай справе
толькі ты.

Да народу і да войска строгі будзь і справядлівы,
Праз ганцоў старайся ўведаць, як жыве там царскі двор;
Ад мяне дары і пісьмы шлі і шчодра і пачціва,
Каб цару маю адсутнасць не стаўляў ніхто ў дакор.

Быць, як я, ва ўсім старайся: у баі, на паляванні,
Захаваўшы тайну гэту, тры гады мяне чакай!
Я вярнуся, калі стан мой кіпарысам не завяне,
Не вярнуся — плач няўцешна, добрым словам памінай!

І тады цару абвесціш ты пра лёс мой нежаданы
І, глыбей стаіўшы гора, пра маю раскажаш смерць;
Растлумач яму, што доля гэта ўсім наканавана.
Скарбы ўсе раздай галоце: срэбра, золата і медзь.

Вось тады старанней справай давядзі сваю адданасць,
Не губляй адразу памяць — успамінам волю дай.
Ты аплач мой дух малітвай, як гаворыць звычай даўні,
І, як маці, зарыдаўшы, справы юных дзён згадай».

Шармадзін, пачуўшы гэта, анямеў, скаваны жалем,—
Слёз гарачых перлы градам пакаціліся з вачэй.
Ён сказаў: «Ад горкіх думак сэрца болем задрыжала,—
Не спыню цябе ўсё роўна, горш хіба зраблю яшчэ.

За намесніка застацца загадаў ты мне ахвотна,—
Дык хіба ж магу хоць кропляй быць падобным да цябе?
Лепш няхай зямля прыгорне, чым пусціць цябе
самотным!
Едзем разам. Я з табою буду ў шчасці і ў журбе!»

У адказ прамовіў віцязь: «Слухай ты мяне уважна.
Гэта ісціна: міджнуру быць належыць аднаму.

Толькі ў цяжкасцях і працы жэмчуг робіцца дасяжным.
Хто ж свайму сумленню здрадзіў — смерць хай шле
капʼё таму.

Я табе даверыў тайну, ад якой душа згарала,
Дык каму другому ўладу я б яшчэ даверыць мог?
Ты мацуй граніцы царства ад ліхой варожай зграі;
Спадзяюся я вярнуцца, калі мне паможа бог!

Лёс няшчадны без разбору нішчыць сотні і адзінкі;
З ласкі ж божай і адзінка пераможа ў барацьбе.
Тры гады чакай,— не буду, дык спраўляй тады памінкі!
Дам загад, што знаць і войска падначалены табе».

## ПЕРШАЕ ПІСЬМО НЕСТАН-ДАРАДЖАН ДА СВАЙГО КАХАНАГА

Я ад той пісьмо убачыў, што агнём спаліла сэрца.
Мне пісаў праменьчык ясны: «Леў, боль ран схавай
глыбей;
Я твая, але ж ты ведай: хто ў варʼяцтве прагне
смерці,—
Вораг мне. Асмат раскажа пра астатняе табе.

Смерць і роспач за каханне — ў гэтым выхад твой
адзіны?
Не! Для любай лепш, калі ты — мужны воін і герой!
Падуладны край хатайцаў зрокся нам плаціць даніну,—
Ты свавольства непакорных пакарай сваёй рукой!

Быць тваёй шчаслівай жонкай—пешчу я даўно жаданне,
Ды не мела я выпадку, каб цябе спаткаць раней.
Я цябе з-пад балдахіна неяк бачыла нядаўна
І адразу зразумела: варʼяцееш ты па мне!

Вось і праўда і парада — слухай ты маю гаворку:
Руш у бойку на хатайцаў, сілай іх перамажы!

Гэта лепш, чым ружу-кветку палівадь слязою горкай!
Жджэш чаго яшчэ ад сонца, што прагнала змрок імжы?»

Сарамлівасць адагнаўшы, ўсё Асмат мне расказала.
Што сказаць? Душу без меры радасць хваляй заліла!
Сэрца білася, трымцела і ад шчасця замірала;
Твар мой стаў святлей крышталю, шчокі сталі нібы лал!

## СУСТРЭЧА ТАРЫЭЛЯ З НЕСТАН-ДАРАДЖАН

У пакой слуга з пасланнем увайшоў неспадзявана,
Мне, ахопленаму смуткам, ад Асмат пісьмо ўручыў.
«Ты прыходзь,— яна пісала,— кліча месяц твой
жаданы,—
Гэта лепш, чым горка плакаць, лёс няўдалы кленучы».

Быў я рады так, як можа гэта толькі закаханы,
Зноў пайшоў у сад знаёмы, хваляванне ледзь трываў;
І Асмат на тое ж месца падышла у час чаканы
І з усмешкаю сказала: «Месяц там чакае льва!»

Павяла мяне па ўсходах, дзе ўзвышаліся тэрасы;
Глянуў: выйшаў месяц ясны, ўсё наўкол заліў святлом;
Шоўк зялёны ўбораў пышных ахінаў дзівос акрасай
Стан дзявочы непаўторны. Быў узрушан я суздром.

На дыван ступіў нясмела. Пачала згасаць трывога,
Знік сумнення морак; радасць узышла, як слуп святла:
Там сядзела дзіва-дзева, сонца хто ярчэй намнога,
Твар схавала, толькі ў бок мой мелькам вокам павяла.

І прыслужніцы сказала: «Дай прысесці амірбару».
Мне Асмат дала падушку, сеў я побач каля той,
Хто магла быць сонцу парай, перад кім знікалі хмары.
Я дзіўлюся, як дагэтуль не расстаўся я з душой.

«Ты даруй,— яна сказала,— мне за гонар мой дзявочы,
Што прымусіла маўчаннем стрэчы шчасны міг забыць,
Што лілі ад крыўды гэтай слёз паток нарцысы-вочы,—
Але ж дзеве з амірбарам вельмі сціплай трэба быць.

І хоць стрыманай жанчына быць павінна пры мужчыне,
Але горш хаваць пачуцці, калі гора ў сэрцы шмат.
Так і я прыкрыла ўсмешкай гора тайнага прычыну;
Вось таму я і паслала да цябе сваю Асмат.

З тых часін, як пакахалі мы з табой адзін другога,
Аднаму табе належу — клятвы слоў не забывай!
І на тым стаяць нязменна буду я па волі бога;
Калі ж здраджу — хай мне пекла дасць прытулак,
а не рай!

Дык ідзі, мой віцязь мілы, ў бой рашучы на хатайцаў;
Дай жа бог, каб з перамогай ты вярнуўся, як герой.
Як мне выцерпець разлуку, як цябе мне дачакацца?
Сэрца мне сваё пакінь ты, а маё вазьмі з сабой!»

Адказаў: «Дзеля цябе я галаву гатовы скласці;
Ты жыццё мне захавала, каб з нуды не спапялеў;
Ты вачэй маіх свяцільня, ты нязгасны промень шчасця!
Дык пайду я на хатайцаў, як адважны грозны леў!

Так, як я табой адоран, не пасмеў ніхто б і марыць,
Бог цябе паслаў, каб вечна быў пазбаўлен я трывог,
Ты вачэй агністым бляскам разагнала ў сэрцы хмары,
Твой я — покуль не разверзне ў гневе нетраў бездань
бог!»

Мы над кнігай вечнай клятвы пакляліся з ёю разам,
А яна ў сваім каханні прысягнула двойчы мне:
«Калі я парушу вернасць, хай абрушыцца адразу
Кары грозная дзясніца гневам божым на мяне!»

Хутка час прабег кароткі у гаворцы задушэўнай,
Паміж слоў салодкіх елі мы салодкія плады.
У хвіліну развітання грудзі боль сціскаў страшэнны,
Ліўся ў сэрца бляск праменны з воч каханай маладых.

Цяжка мне было не бачыць твар з крышталю і рубінаў.
У штачасным аднаўленні лашчыў вока свет дзівос,
Мне эфір струменіў сонца праз блакітныя глыбіні.
Сам дзіўлюся, што разлуку перанёс, як буру ўцёс.

## СКАЗ ПРА ВЯРТАННЕ АЎТАНДЗІЛА Ў АРАВІЮ

Аўтандзіл сяброў пакінуў і, тугою апавіты,
Ружы шчок сваіх скрывавіў — не стрымаў разлукі
жах,—
І звяры лізалі прагна след яго, крывёй паліты,
Падганяў свайго каня ён, скарачаў дадому шлях.

Вось ён дома, дзе чакала ўся любімая дружына,
Адусюль спяшылі людзі прывітаць яго як след.
Пасланцы хутчэй пабеглі, перадалі Шармадзіну:
«Той прыехаў, без каго нам быў нялюбы гэты свет!»

Шармадзін насустрач выйшаў, а за ім услед дазорцы;
Цалаваў ён нібы сына, слёзы падалі, як град.
Ён сказаў: «Ці сон, ці яву ты паслаў, вялікі творца?
Я шчаслівы, што жывы ты, што вярнуўся зноў назад!»

Віцязь шчыра прывітаўся, як з настаўнікам, з пашанай,
І прамовіў: «Дзякуй богу, што пазбавіў нас бяды!»
Стан вяльможны нёс паклоны, стрэчай той усхваляваны,
Быў узрадаваны кожны — і стары, і малады.

Ля палаца люд сабраўся прывітаць яго ўрачыста,
Кожны рад яму засведчыць і пакору, і любоў.
На бяседзе ён, як сонца, быў вясёлы, прамяністы.
Апісаць сустрэчу тую не хапае ў мове слоў!

Расказаў ён Шармадзіну, дзе пабыў і што пабачыў,
Як сустрэў ён Тарыэля, як ён другам стаў яму,
І, стрымаць не ў сілах слёзы, Аўтандзіл з тугой
зазначыў:
«Без яго й палац раскошны мне нагадвае турму!»

Шармадзін падчас бяседы расказаў пра ўсе навіны;
«Твой ад'езд застаўся ў тайне — ўсё было, як загадаў».
Аўтандзіл, ахвяраваўшы дзень бяседзе і спачыну,
Рушыў конна у дарогу, толькі золак залунаў.

Ехаў ён без адпачынку ўдзень і поўначчу бяссоннай,
Шармадзін — вястун нястомны — сам паперадзе ляцеў.
За тры дні адолеў віцязь доўгі шлях дзесяцідзённы,
Каб хутчэй спаткаўся з сонцам акрылёны марай леў.

Ён паслаў ганца з пасланнем: «Цар вялікі і магутны!
Зноў убачыцца з табою з ласкі бога зычыць лёс!
Дакладаю, повен шчасця: знойдзен віцязь той
славутны,—
Вестку гэтую, як радасць, я табе у дар прывёз!»

Перад мудрым Растэванам Шармадзін ступіў два крокі
І, схіліўшыся ў пашане, так цару ён дакладаў:
«Аўтандзіл гатоў з'явіцца, доўг ён выканаў высокі!»
Цар сказаў: «Я ўсё ад бога атрымаў, чаго жадаў!»

Цінацін, пачуўшы гэта, пунсавей світанку стала;
Шармадзін сказаў ёй: «Віцязь паспяшаецца да вас!»
І смялей, чым сонца ў небе, тая радасцю заззяла,
І багата адарыла пасланца у той жа час.

Верхам цар насустрач рушыў, каб як след сустрэць
героя,
Той пашанаю крануты быў юнак да глыбіні.
Асыпаў адзін другога шчырай ласкаю сваёю,
Некаторых момант гэты нібы хмелем ап'яніў.

Аўтандзіл з каня саскочыў, пакланіўся Растэвану,
Той жа ў радасці вялікай Аўтандзіла цалаваў;
І вясёлыя абодва у палац пайшлі прыбраны,
І натоўп людскі на плошчы гучна віцязя вітаў.

Пакланіўся сонцу сонцаў леў найпершы над ільвамі.
Ружы шчок, агаты зрэнак асвятліў пяшчот крышталь;
І ярчэй, чым сонца промні, дзева бляск ліла вачамі,
Стаў палац ім вельмі цесны, небасхіл ім дахам стаў.

Цэлы дзень банкетавалі, баль вясёлы йшоў гарою,
Цар, нібы ласкавы бацька, ўсё на віцязя глядзеў;
Ззялі: руж расой — юнацтва, старасць снегам-сівізною.
Нібы драхмаў, жменю перлаў у гасцінец кожны меў.

Баль закончыўся нарэшце, госці рушылі дадому,
Пасадзіў з сабою побач цар героя і вяльмож.
Слухаў ён, як ездзіў віцязь па краінах невядомых,
Як сустрэў ён незнаёмца, што сабою быў прыгож.

Ён сказаў: «Сумую слёзна, як згадаю Тарыэля!
Дабраты ў ім, як у сонца невычэрпнага святла;
З незямной красой яго я параўнаю сёння смела,—
Толькі стаў ён нібы ружа, што пад восень адцвіла!

Калі блізкага няшчасця мы адчуем раптам крокі,
Дык крышталь шафранам стане, цвет красы з галін
спадзе».
Аўтандзіл, згадаўшы друга, арасіў слязамі шчокі,
Як жыве той, расказаў ён, і ў якой цяпер бядзе:

«Ён пабіў пачвараў-дэваў і жыве у іх пячоры,
З ім прыслужніца каханай — верны сябра абаіх;
Ходзіць ён у шкуры тыгра, сам згараючы ад гора,
Ні парчы яму не трэба, ні адзенняў дарагіх».

Скончыў ён сваю аповесць пра нягоды Тарыэля,
Як спаткаў ён тое сонца, што чаруе ўсіх красой.
Слухачы яго ўсхвалялі, што знайшоў ён ружу смела:
«Найвышэйшаю адвагай ты пакрыў сябе, герой!»

Цінацін ад той размовы ўся была у захапленні,
Аўтандзіл, адчуўшы гэта, яшчэ больш вясёлы стаў;
А калі прыйшоў дадому, раб з'явіўся з запрашэннем
Да яе прыйсці — такога шчасця віцязь не чакаў!

Ён пайшоў лагодны, ціхі, гнеў былы змяніўшы ласкай,
Часам так між зграі львінай ціхамірны крочыць леў.
Быў прыгожы ён, нібытаззяў рубін дзівосным бляскам:
Сэрцу любай сваё сэрца ён аддаць хутчэй хацеў.

Быццам тая кветка рая з берагоў святых Еўфрата,
На раскошным царскім троне ззяла сонца-Цінацін.
Вуснаў лал, узоры броваў, шчок крышталь і кос агаты
Ухваліць пад сілу толькі мудрацам сівым Афін.

Дзева віцязю з сабою сесці побач загадала —
Гэтай радаснай хвіліны кожны з іх даўно чакаў,—
І лагодная гаворка паміж імі загучала;
«Ці знайшоў,— спытала дзева,— ты таго, каго шукаў?»

Адказаў ён: «Калі людзі дасягаюць пэўнай мэты,
Дык ці варта уваскрошваць цень мінулае бяды?
Адшукаў я кіпарыс той, сонцам поўдня абагрэты,
Што на ружу быў падобны, а цяпер, як снег, бляды.

Ён пазбаўлены надзеі, марна вяне на чужыне,
Памутнеў крышталь аблічча, воч памеркла біруза.
З ім адным агнём палаю па адной і той прычыне».
І пра ўсё, што сам уведаў, віцязь дзеве расказаў.

Расказаў пра ўсе прыгоды, пра вандроўны шлях вялікі,
Як героя ў шкуры тыгра ён здзічэлага знайшоў:

«Свет жыцця яму агідны, ён як звер зрабіўся дзікі
І блукае, як шалёны, сам па стэпах між звяроў.

Хай цябе не дзівіць тое, што кажу пра Тарыэля,
Бо хто раз яго пабачыў, будзе памятаць заўжды,—
Дзіўны бляск яго аблічча позірк промнямі засцеле,
І хоць жоўкне ружа твару — воч святло чысцей вады!»

Расказаў ён падрабязна, як жыве той валацугам,
Як, нібыта тыгр, пячору палічыў за родны кут,
Як Асмат жыццё з ім дзеліць, стаўшы служкаю і другам.
«Лёс пракляты,— ўсклікнуў,— колькі шлеш ты людзям
слёз, пакут!»

Доўга слухала дзяўчына Аўтандзілаву размову,—
Быў як месяц ясны ў небе твар яе, чароўны стан.
«Чым змагу,— яна сказала,— памагчы яму гатова,
Адшукаць гатова лекі для яго балючых ран!»

Адказаў ён: «Легкадумным хто свой лёс даверыць
здолен?
З-за мяне згарае віцязь, як яго я падману?
Я пакляўся, што вярнуся з ім дзяліць цяжкую долю,
Я сваім пакляўся сонцам, я табою прысягнуў!

Друг павінен дзеля друга і ў бядзе быць другам
спраўным,
Сэрцам сэрцу адгукацца — другу ты, а друг табе!
Так міджнур з міджнурам гора дзеліць, як міджнур
сапраўдны,
Калі ж дружбе сваёй здрадзіў, значыць, здрадзіў сам
сабе!»

Цінацін сказала: «Спраўдзіў сэрца ты майго жаданні:
Ты, па-першае, вярнуўся, чым прынёс мне радасць сам;
Па-другое, Тарыэля ты знайшоў; майму каханню,
Што ў грудзях агнём палала, даў гаючы ты бальзам!

Лёс наш зменлівы, нясталы, як асенняе надвор'е,—
То на небе сонца свеціць, то нахлыне хмараў тлум;
Зараз радасць паміж намі, зніклі ўсе нягоды й гора,—
Калі свет напоўнен шчасцем, дык навошта яму сум?

Добра тое, што ты клятву спраўна выканаць гатовы,—
Не пакіне друг сапраўдны друга добрага нідзе.
Дык усцеш яго надзеяй, падбадзёр сяброўскім словам!
Як жа, сонца, без цябе мне жыць самотнай у нудзе?»

Ён сказаў: «Да сёмай скрухі дорыш восьмую згрызоту.
На ваду дарэмна дзьмухаць, раз скаваў яе мароз;
Не сагрэе тое сонца, што ўжо страціла ясноту,
Быць з табой — бяда; разлука ж — выклікае мора слёз!

Калі я цябе пакіну і ў бадзяннях буду крочыць,
Ад няшчасных стрэлаў лёсу як мне сэрца ўратаваць?
Дзень мой схіліцца да змроку і павее холад ночы,
І тады душы пакуты непатрэбна ўжо хаваць!

Закаханаму заўсёды зразумелы любай словы:
Дзіды ружы раняць сэрца, з раны свежай кроў цячэ!
Будзь жа сонцам мне ў дарозе, для цябе на ўсё гатовы,
Дай хоць знак якой надзеі ў падарунак мне яшчэ!»

Віцязь стрымана, пяшчотна просьбу выклаў сціплым
словам,
Гаварыў ён дзеве-сонцу, поўны смутку і трывог,
І яна дала на памяць падарунак жамчуговы.
Юнаку і дзеве юнай хай даруе шчасце бог!

Як прыемна шчок рубіны сузіраць вачэй агатам,
З кіпарысам побач пальму пасадзіць у халадку!
Прыгажэе ўсё пад сонцам, дзе жыве кахання свята,
А цяжар разлукі гора шле міджнуру-юнаку!

Любаваўся віцязь дзевай, быў у шчасным захапленні,
Потым з любай развітаўся і тужлівы прэч пайшоў.
Праліваў ён у дарозе слёз крывавае струменне.
Гаварыў: «О свет няўмольны, зноў з мяне ты смокчаш
кроў!»

Ехаў віцязь, поўны смутку, моцна біў сябе у грудзі,
Бо каханне прымушае слёзы ліць, мякчэць душой;
Калі хмара ўкрые сонца, над зямлёю цемра будзе,—
Так разлука Аўтандзіла ўкрыла згаслаю зарой.

Слёзы, змешаныя з кроўю, па абліччы ўніз збягалі;
Ён сказаў: «Не будзе сонца больш у вочы мне свяціць».
І скрываўленае сэрца вейкі любай праціналі:
«Без яе, о свет нікчэмны, як магу на свеце жыць?!

Быў падобны я на пальму, што расце ў эдэмскім садзе,
А сягоння лёс няшчадны сэрца мне працяў нажом,
Нібы ў вогненных цянётах яно тлее ў заняпадзе,
Тлен — усе людскія справы, марна лезці на ражон!»

Разважаў ён так і плакаў і не мог заснуць да ранку,
Кляў ён злую волю неба, бо не знаў сваёй віны.
Час разлукі пасля стрэчы горш усякай ліхаманкі!
Лёс цяжкі. Ніхто не ўнікне века ўласнае труны!

Так пакутаваў бяссоннем, так душа яго смылела,
Цінацін адною трызніў, быў ён з ёю ў чадзе мар;
Твар бялеў, нібы на лісце слаўся сцюжы іней белы,
Вось як хутка ружа ўчула, што скаціўся сонца жар!

Вечна прагне асалоды сэрца прагнае людское,
Каб адолець скрухі мукі дзеля радасці жыцця,
І ніхто яго не спыніць, вечна ўладнае, жывое,
Ні багі ў высокім небе, ні цары без пачуцця!

Так, ахоплены гаркотай, ён схапіў, як апантаны,
Падарунак, што ад любай каля сэрца свайго нёс,
І прыклаў яго да вуснаў, быццам рад зубоў каханай,
І была рацэ падобна плынь яго гарачых слёз.

Пасланец прыйшоў уранку і ў палац яго паклікаў,
Віцязь рушыў паслухмяна, хоць хвіліны не паспаў.
Там натоўп ужо сабраўся, гоман там стаяў вялікі,
Рыхтавалі паляванне, гурт музык на трубах граў.

На кані сваім гарачым цар імчаўся стрымгалова,
Скрозь трашчалі барабаны, скрозь скуголілі рагі,
Ў небе сокалы лунаді, псы брахнёй глушылі словы;
Шмат крыві звяроў забітых арасіла там лугі.

Цар паклікаў у палацы ўсіх, хто быў на паляванні,
Там былі князі, вяльможы і адважныя стралкі;
Перапоўнілі пакоі, што ў шаўкі былі прыбраны,
Загучалі ліры, лютні, ў лад запелі спевакі.

Цар і віцязь, сеўшы побач, задушэўна размаўлялі,
Пунсавелі вусны-лалы, ззяла перлаў прыгажосць.
Царадворцы і вяльможы ўкруг натоўпамі стаялі,
Аб адважным Тарыэлю тут успомніў кожны госць.

Вось дамоў вярнуўся віцязь, і зайшлося сэрца з гора,
Зноў каханую згадаў ён, як святло агню ўначы:
То ўставаў ён, то лажыўся,—
не засне каханнем хворы!
Не знайсці на свеце лекаў, каб яму дапамагчы!

Думаў: «Што ты нарабіла з маім сэрцам, чарадзейка,
Хараство садоў Эдэма, трапіў я к табе ў палон!
Позірк твой мне дорыць радасць, раняць сэрца
стрэлы-вейкі,
Калі ўяве не пабачу, дык прыйдзі ты ў позні сон!»

Так, заліўшыся слязамі, ён шаптаў сабе употай:
«Сэрца, будзь спакойна-мудрым, сціхні шалам
палымнець!
Бо калі сцярпець не зможаш — не адчэпіцца журбота,
Калі ж мудрым быць жадаеш, навучыся перш цярпець!

Не спяшайся разарвацца, сэрца, з крыўды і папроку,
Трэба жыць і жыць для любай, ёй аддаць да кроплі кроў;
А сапраўднае каханне хай нябачным стане воку,
Толькі той кахае шчыра, хто не кажа пра любоў!»

## АЎТАНДЗІЛАЎ ЗАПАВЕТ ЦАРУ РАСТЭВАНУ

Сеў пісаць ён запавет свой — словы сумныя ліліся:
«Цар, я змушаны таемна ехаць, каб знайсці таго,
Без каго агнём палаю, без каго жыцця не мыслю,—
Будзь жа літасцівы, гневу ты пазбаў мяне свайго!

Добра ведаю, што ўчынак для цябе мой нечаканы,
Што шукаць іду я друга — не такая ўжо віна.
Словы мудрыя Платона прывяду табе з пашанай:
«Разам з целам губяць душу і няшчырасць, і мана!»

У мане ляжыць пачатак і няшчасця й цяжкай страты,—
Ці ж забыць магу я друга, што за брата даражэй?!
Што бяздзейнаму навука філасофіі багатай?
Мэта ўсякага пазнання — стаць да ісціны бліжэй.

Што апосталы пісалі пра каханне — верыць трэба:
Сэнсу мудрых запаветаў у вяках не пастарэць.
«Нас каханне узвышае!» — звон іх слоў ляцеў да неба;
Калі ты не разумееш, як жа іншым зразумець?

Творца даў мне досыць сілы, каб нікому не скарыцца,
Бачыць ён усё на свеце, хоць не бачым мы яго;
На зямлі істоце кожнай вызначае ён граніцы,
Ён з адзінкі робіць сотню, з сотні робіць аднаго!

Што яму непажадана, дык таго павек не будзе.
Без прамення ружа звяне, ператворыцца ў асцё.
Ўсё прыгожае на свеце асалоду ў душах будзіць;
Мне без друга стане хутка немагчымасцю жыццё!

Ты прабач за неслухмянасць, не пазбаў сваёй увагі:
Я, палоннік дум агнёвых, твой не выканаў загад.
Мой ад'езд — бальзам гаючы, ён глыток вады ад смагі.
Дзе б ні быў я — вольнай волі я ўсё роўна буду рад!

Слёзы мне не дапамогуць, мужнасць — шлях цяпер
адзіны,
Бо не ўнікнеш волі вышняй, што прызначана з нябёс.
Муж цярплівы быць павінен, не скарыцца злой хвіліне,—
Ні адна душа жывая не абыдзе ўласны лёс!

Што прызначыць бог — прыму я і пакорна і пачціва,
А вярнуся — будзе ў сэрцы хай не попел, а спакой.
Хай цябе я зноў убачу і багатым і шчаслівым;
Памагаць жа пабраціму — гэта ўвесь набытак мой!

Цар, прыму любую кару, калі ў чым я вінаваты,
Хіба ж гэты мой учынак пакладзе на твар твой сум?
Калі здраджу Тарыэлю, буду я людзьмі пракляты,
Ён жа зганьбіць на тым свеце, як сустрэнем страшны
суд!

Пра сяброў сваіх адданых клапаціцца трэба людзям.
Праклінаю бессаромных, што хаваюць здрады лёд.
Ці ж сапраўдны друг героя ў час цяжкі падводзіць
будзе?
Горш няма таго ваякі, што спазніўся у паход!

Хто у бойцы забаяўся — асмяюць таго нашчадкі,
Лепш не бачыць баязліўца, што бяжыць схавацца дзе б.
Славу здабываць пачэсней, чым багацце і дастаткі,—
Баязлівец горш жанчыны, што на прасніцы прадзе!

Смерць не спыняць пуцявіны, што ляглі між кручаў
горных;
Ці ваяка ты адважны, ці маленькае дзіця —
І старых і юных, зрэшты, да сябе зямля прыгорне,—
Смерць са славай лепш усё ж ткі зганьбаванага жыцця!

Цар, асмелюся нарэшце і такое я зазначыць:
Памыляецца, і двойчы, хто забыў смяротны час,—
Ходзіць смерць і ўдзень і ўночы, хоць ніхто яе не
бачыць!
Калі я цябе не ўбачу, значыць, я навек пагас!

Калі я сваю пагібель на чужыне напаткаю
І бадзягаю сканаю на чужой зямлі сырой,
Не загорнуць мяне ў саван людзі ў тым нязнаным
краю,—
Ты ж згадай у сэрцы з жалем — выхаванец быў я твой!

Ты раздай маю маёмасць незаможнаму народу,
Хай багатым стане бедны, стануць вольнымі рабы;
Дай прытулак сіраціне, хто не бачыў шчасця зроду,—
Каб мяне благаслаўлялі, за мяне дабро зрабі!

Што тваіх не варта скарбніц, ты аддай таксама людзям,
Што сіротам на прытулкі, што на новыя масты.
Не шкадуй маіх багаццяў, шчасця бедным хай прыбудзе.
Пагасіць агонь мой можаш ва ўсім свеце толькі ты!

Ад мяне ты болей вестак не чакай цяпер ніколі,
Я душу аддаў з даверам, я раскрыў свае шляхі.
Ні сябе, ні думак чыстых д'яблу я не дам адолець.
За мяне маліся богу, дараваў каб мне грахі!

Я прашу: ты Шармадзіна падтрымай сваёй увагай,
Шмат нягод яму паслала ў гэты год жыццё, як ноч.
Да яго, прашу, будзь ласкаў, не цвялі яго зняважай,
Каб дарэмна слёз не ліў ён са сваіх старэчых воч!

Запавет уласнаручны мой на гэтым я канчаю.
Я знікаю, мой настаўнік, у трывозе і ў журбе.
Не смуткуй дарма, ўладар мой, ад душы табе жадаю,
Жыць на страх варожым злыдням, зычу шмат гадоў
табе!»

Скончыў ён і запавет свой даў у рукі Шармадзіну:
«Не марудзь, ідзі ў палацы, ўсё зрабі, як я сказаў!
Ты з усіх, адданых службе, быў дарадцам мне адзіным!»
І з крывавымі слязамі моўчкі ён слугу абняў.

## МАЛІТВА АЎТАНДЗІЛА

Ён маліўся: «Бог вялікі, цар над небам і зямлёю,
Шлеш ты людзям і пакуты, шлеш ты людзям і дабро,
Непазнаны, невыказны, мудрай воляю сваёю
Памажы стрымаць каханне, што вар'юе ў жылах кроў!

Божа, ўсё табе пакорна: высі гор, прасцяг бясконцы,
Даў ты жар кахання сэрцу і стварыў яго закон.
Разлучае свет няўмольны зноў мяне з чароўным
сонцам,—
Не губі ж кахання зерне, што ўзрасло з юнацкіх дзён!

Божа мілы! Без цябе я ў гэтым свеце — сіраціна.
Дзе б ні йшоў я, дзе б ні ехаў, ты мяне не пакідай:
Памажы мне знішчыць злыдняў, буру ў моры, д'ябла
кпіны!
Адслужу, калі ўратуеш, прынясу ахвяру ў дар!»

Памаліўшыся, ускочыў на каня і — за вароты,
Развітаўся з Шармадзінам; той, нябога, зарыдаў,
Біць пачаў сябе у грудзі, шчокі драць з тае гароты,—
Точыць сэрца жаль васалу, што пакінуў гаспадар!

## АЎТАНДЗІЛ ЕДЗЕ ДРУГІ РАЗ ДЛЯ СУСТРЭЧЫ З ТАРЫЭЛЕМ

Зіхаціць чароўны месяц, калі знікне сонца з неба;
Побач з сонцам прамяністым ён пакорна растае.
А без сонца чэзне ружа, для жыцця святло ёй трэба.
Так і мы гібеем марна, калі мілай нестае.

А цяпер расказ прадоўжым пра блуканні Аўтандзіла.
Поўны смутку ехаў віцязь, засцілалі слёзы даль.
Ён маліў, каб сонца ярка вобраз любай азарыла,
А калі не бачыў сонца, змрокам слалася нуда.

Зубы сціснуўшы маўчаў ён, слова вымавіць не ў сілах.
З плынню шпаркай рэчкі Тыгра слёзы ён свае мяшаў.
Сам не ведаў, куды ехаў, бо з дарогі ліха збіла,
І смылела ў адзіноце шматпакутная душа.

Думаў так ён аб каханай: «Як мне вытрымаць разлуку?
Розум я з табой пакінуў, думкай мкнуся наўздагон.
І ляціць гарачы позірк, абмінуўшы тлен дакукі.
Лёс нялёгкі шле каханне, толькі горай без яго.

Не знайду нідзе спакою, смутку цяжкаму аддаты.
Я б даўно з сабой пакончыў, ды шкадую слёз тваіх.
Не магу я быць прычынай гора горкага каханай,
І нягоды, і пакуты ўсё сцярплю за абаіх».

Сонца, ты — ўладар сусвету, ноч у дзень ператвараеш,
Часу ты не падуладна, моц вышэйшага ў табе,
Ты сузор'яў мірыяды можаш зрынуць з небакраю,—
Дык пашлі сустрэчу з любай і не дай з нуды гібець.

Ты, каго лічыў за бога мудры род людскі спрадвеку,
Дай пазбавіцца пакуты, зняць няволі ланцугі.
Я шукаю лал дзівосны, а згубіў агату кветы,
З любай быў — гарэў пакутай, без яе — памру з тугі».

Раставаў ён тонкай свечкай у пакутных тых маленнях,
Але сам ляцеў стралою, каб другім дапамагчы.
Высыпала неба зоркі — бачыў любых воч мігценне,
З імі вёў, нібы з каханай, ён гаворку уначы.

Ён упрошваў месяц ясны: «Богам я малю—будзь ласкаў,
Ты распальваеш каханнем, ты міджнурам мукі шлеш,
Але ж ты даеш збавенне, свеціш ім надзеі бляскам,—
Дай злучыцца з той, што ззяе мне здаля ў тваім
святле».

Днём, знясілены спякотай, ён чакаў заходу сонца.
Каля рэчак прахалоду ён знаходзіў і начлег.
І ліліся ў плынь рачную слёз крывавыя азёрцы,
А назаўтра віхрам мчаўся ён, прыгнуўшыся ў сядле.

Як чынара, зграбны станам, ехаў віцязь, поўны жалю,
І, падстрэліўшы казулю, сеў падсмажыць пад гарой.
Сам, сілкуючыся, думаў: «Грудзі Марс працяў
кінжалам,—
Ружу страціў, дык ці знойдзеш шчасце ў красцы
палявой?»

Не знайду я слоў патрэбных расказаць пра ўсе нягоды,
Як бадзяўся віцязь бедны, як ён небу скаргі слаў,
Як крывавіў ружу твару, як мінаў узгоркі, броды,
Покуль сцежка да пячоры ўжо вядомай прывяла.

Тут Асмат з пячоры выйшла і, заўважыўшы героя,
З крыкам радасным падбегла, слёзы ззялі уваччу.
Абняліся яны моцна, быццам родны брат з сястрою,—
Той бясконца рад сустрэчы, хто разлукі боль адчуў.

Аўтандзіл спытаў у дзевы: «Ну, а дзе ж мой брат
названы?»
Адказала тая з плачам, не стрымаўшы слёз ручай:

«З той пары, як ты паехаў, не чуваць аб ім нізвання,
Дзе ён, як ён — невядома, я адна прыйшла ў адчай».

Гэта вестка-неспадзеўка, як кап'ё, працяла сэрца:
«О сястра,— сказаў са скрухай,— як жа гэта можа быць?
Мы кляліся узаемна, я спяшаўся, каб сустрэцца,
Як жа мог ён слову здрадзіць, як ён клятву мог забыць?

Мне ж была зусім нялёгкай з ім кароткая разлука.
Як магло такое стацца, што ён дружбу занядбаў?
Як забыцца мог на тое, што злучыла нашы рукі?
Але што дарма здзіўляцца — лёс даўно мне ліхам стаў!»

Зноў яму сказала дзева: «Разважаеш ты цвяроза,
Але ўважліва паслухай, што скажу табе цяпер:
Той стрымае слова клятвы, хто яшчэ не страціў розум,
Ён жа стаў зусім вар'ятам і блукае, быццам звер.

Розум з сэрцам і душою у адзін ланцуг скаваны,
Гіне розум, дык астатніх за сабой туды ж вядзе.
Так і віцязь звар'яцелы шнырыць зверам зацкаваным.
Мусіш ведаць, што спакою не знаходзіць ён нідзе.

Не крыўдуй на Тарыэля, што пакінуў свайго друга;
Як душа яго палае, сіл не маю расказаць:
Ад пакут язык нямее і няволіць сэрца скруха,
Так кажу, бо лёс прымусіў з ім супольна гараваць.

Не, такіх выпрабаванняў не адчуў ніхто спрадвеку,
Іх не вытрымаў бы камень — перацёрся б ён на друз,
А ад слёз, што ім праліты, з берагоў бы выйшлі рэкі,
Кожны з нас мудрэц вялікі, у бядзе пакуль не ўгруз.

Запытала Тарыэля я ў хвіліну развітання:
«Што сказаць мне Аўтандзілу, калі вернецца сюды?»
Адказаў: «Пакуль жывы я — не парушу абяцання,
Буду блізка, хай чакае мяне віцязь маладзы.

Слова я сваё стрымаю — дружбе здрадзіць я не здольны.
Дачакаюся сустрэчы, хоць гарыць душа тугой.
Хай паплача, калі буду смерцю скошаны няўмольнай,
А жывым застане — разам шчасны момант стрэнем той».

З той пары схавала сонца для мяне сваё аблічча,
Мае стогпы паўтарае толькі рэха гэтых скал.
Я блукаю па цяснінах — іх буджу я сваім клічам,
Абмінае мяне нават смерці жорсткая рука.

Кажуць людзі, што ў Кітаі камень ёсць з мудрэйшым
сказам:
«Хто сяброў шукаць не хоча — першы вораг сам сабе»,
Ружы шчок шафранам сталі у таго, хто знік адразу.
Ты знайсці яго павінен — лёс падказвае табе».

Адказаў: «З табою згодзен і апраўдвацца не буду,
Толькі ведай, што для друга не шкадую я ахвяр.
Сам сябе ўсяго пазбавіў, што шукаю — я здабуду,
Так алень вады шукае, калі зморыць спёкі жар.

Тую, хто ярчэй рубіну у жамчужным абрамленні,
Я пакінуў, хоць каханнем сэрца з сэрцам не злучыў.
Тым жа, хто асыпаў ласкай, адплаціў я несумленна,
Ім замест падзякі шчырай засмучэнне несучы.

Валадар мой і заступнік, той, хто даў мне выхаванне,
Хто, як снег, багацці сыпаў шчодрай жменяю сваёй,
Тым благім маім учынкам вераломна ашуканы.
За грахі мне ўсемагутны не пашле цяпер спакой.

Так я ўсё раблю для друга, хоць зазнаў нягод замнога,
Дзень і ноч хаджу, блукаю, а яго нідзе няма.
Дзе ж ён, той, па кім сумую, дзе лягла яго дарога?
І я, стомлены, ўжо бачу, што пакутаваў дарма.

Скончым гэтую размову, не памогуць справе словы,
Што мінула — не шкадую, як гаворыць мудрасць нам.
Не знайду, дык не вярнуся, да пагібелі гатовы;
Што ўпікаць дарэмна бога, калі тут свая віна».

Змоўк на гэтым і паехаў праз лагчыны і цясніны,
Перасек ручай бурлівы і памчаўся ў край чужы.
Халадзіў павеўны ветрык ружу, вартую рубіну,
Зноў бяздомным валацугам віцязь бедны затужыў:

«Чым жа, божа, саграшыў я, што мне шлеш цяжкую
кару,
Я цярплю разлуку з другам, сам пазбаўлены ўсяго.
Аб дваіх адзін сумую, над жыццём навіслі хмары,
А загіну — божай кары спапяліць мяне агонь.

Мне асцём калючых ружаў сэрца друг параніў моцна.
Я застаўся верны клятве, ён жа здрадзіў ёй і знік.
Калі ён загіне дзесьці, стане дзень мне ноччу змрочнай,
Не знайду такога болей, хоць наш свет людзьмі вялік.

Неразумна аддавацца толькі смутку ў час няшчасны,—
Хіба слёзы калі-небудзь ратавалі ад бяды?
Лепш спакойна ўсё узважыць і кірунак выбраць ясны,
Я знайду таго, хто станам быццам ясень малады».

Зноў на пошукі паехаў па нязведанай краіне,
Ён шукаў і клікаў друга без спачынку ноч і дзень.
Трое сутак вандраваў ён па лясах і па далінах,
Толькі друга Тарыэля адшукаць не мог нідзе.

Гаварыў ён: «Божа мілы, я жыццю свайму не рады,
Чым я грэшны, што прыпала толькі скруха ды бяда?
Ты для ўсіх суддзя адзіны, адары сваёй спагадай,
Скараці жыцця гадзіны — перамогу толькі дай!»

## АД'ЕЗД АЎТАНДЗІЛА ДА ПРЫДОНА

Ты навошта, свет падступны, прымушаеш нас круціцца?
Хто табе, як я, паверыў, будзе вечна наракаць.
Ты адкуль, куды нас гоніш, загадаеш дзе спыніцца?
Абароніць занядбаных толькі боская рука.

Аўтандзіл слаў скаргі небу, голас рэхам слаўся ў полі:
«Па-ранейшаму я плачу, слёзы разам з кроўю лью.
Мне цяжкой была сустрэча, а разлука яшчэ болей:
Між сабой не роўны людзі, кожны мару тчэ сваю».

Слёзы, што на дол ліліся, звер вылізваў ненаедны,
У грудзях смылеў няспынна смагі вечнае агонь.
Цінацін успамінаў ён, троп згубіўшы свой бясследна,
Праз пялёсткі вуснаў алых перлы вабілі яго.

Адцвіла і звяла ружа, нахіліўся стан таполі,
Стаў блакітным лал чырвоны, бляск крышталю цьмяным стаў.
Але ён трымаўся моцна, адхіліўшы смерці волю:
«Мусіць з цемрай пагадзіцца той, хто сонца не ўтрымаў».

І звярнуўся ён да сонца: «Ты падобна да каханай.
Долу, горам вы абое шчодра дорыце святло.
Я, сагрэты вашым ззяннем, вам малюся несціхана,
Дык чаму ж вы ў змрок схавалі ад мяне сваё чало?

Пакідае ненадоўга сонца нас парой зімовай.
Я ж пакінуў сам два сонцы — на зямлі і ў вышыні.
Як магу пакут не зведаць, я ж не камень шматвяковы?
Нож, лязом крануўшы рану, можа толькі боль чыніць».

Зноў ён сонцу шле малітву, цяжкай зmoраны дарогай:
«Ты ўладар над цэлым светам, ты мацнейшага мацней!
Ты малых узвысіць можаш, ашчаслівіць можаш многіх,
Ноч спаліўшы дня праменнем,— к Цінацін вярні мяне!

О Зуал, планета жалю! Будзь бязлітасны і строгі.
Ахіні мне сэрца цемрай, апусці ў спрадвечны змрок!
Мук паклажаю, як мула, нагрузі мяне ў дарогу,
Але ёй скажы — на вернасць не парушу я зарок!

О Муштар, заступнік праўды, валадар зямлі і неба!
Сэрца з сэрцам б'юцца ў спрэчцы—рассудзі ты мудра іх.
Не паддайся звадам пекла — не карай каго не трэба,
Не парань таго, хто раны даўняй боль не загаіў.

О Марых, адважны воін, ты кап'ём пратні мне грудзі
І крывёй маёй гарачай шчодра акрапі зямлю.
Толькі ёй скажы, малю я, без яе жыцця не будзе,—
Бачыш сам, якія мукі ў адзіноце я цярплю.

Аспіраз, кахання зорка! Апякла мяне пажарам
Тая, хто дзівосны жэмчуг апранула ў яркі лал.
Род жаночы надзяляеш ты красы дзівосным дарам,
Каб, ад страсці ашалелы, я табе праклёны слаў.

Атарыд, блукання зорка! Нас адна злучыла доля:
Ты гарыш ад жару сонца, я ў агні яго знямог.
Вось атрамант — мае слёзы, апішы маю нядолю,
Хай пяром мой стан паслужыць, што станчэў, нібы
трыснёг.

Дай мне літасць, месяц ясны, стаў падобны да цябе я,—
То, як ты, я сонцам повен, то без сонца ў змрок лячу.
Раскажы маёй каханай, як у смутку я гібею,
Што да смерці яе вобраз прада мною ўваччу».

Сем свяціл — жывыя сведкі — паўтараюць страсці голас:
Атарыд, Муштар і Сонца, і Зуал у зорны час,
Аспіраз, Марых і Месяц, апусціўшы вочы долу,
Клічуць: «Дзева, я згараю, апаліў душу адчай!»

5 Зак. 1314

І сказаў ён сэрцу ціха: «Ты стамілася празмерна,
Але, прагнучы да смерці, станеш сябрам сатане.
Ну а той — чорнавалосай, як дакажаш сваю вернасць?
Лёгка дужым быць у шчасці — ў горы будзь скалы
мацней!

Не, жыццё я не пакіну, хоць грызуць душу сумненні.
Я пабачу дзеву-сонца — сэрца беднае, не плач!»
Заспяваў скрозь слёзы песню — гімн салодкім
летуценням.
Перад песняй той салоўка выглядаў бы, як пугач.

І звяры на голас дзіўны з гушчароў выходзіць сталі,
Нават доннае каменне павыходзіла з вады:
Ўсе, кранутыя той песняй, разам з віцязем рыдалі,
Аўтандзіл спяваў і ехаў, сам не знаючы куды.

## ПІСЬМО НЕСТАН-ДАРАДЖАН ДА КАХАНАГА

З плачам горкім і няўцешным да каханага пісала,
Слёзы жар душы гасілі, абуджалі толькі жаль.
Тым пісьмом любому сэрца вострым болем працінала,—
Скрозь пялёсткі ружы кволай мігацеў душы крышталь.

«Любы мой! Радкі прызнання я сваёй рукой пісала,
Быў пяром мне стан мой гнуткі, а чарнілам жоўць
і кроў.
А паперай — тваё сэрца, што з маім сама з'яднала.
Дык нашто ты рвешся, сэрца, з тых чароўных ланцугоў?

Бачыш, любы, свет існуе скрозь няпраўдаю адною!
Як бы сонца ні свяціла — праглыне яго імгла.
Мудрацы, жыццё пазнаўшы, асудзілі ўсё зямное!
Гора мне! З табой разлука у труну ледзь не звяла.

Разлучылі нас з табою свет і час, даўно пракляты.
Радасць нам не давялося ў згодзе між сабой дзяліць.

З сэрцам, што тваім каханнем, як кап'ём наскрозь працята,
Што зраблю я? Хай твой розум дасць параду, як мне быць!

Я клянуся сонцам светлым, што не марыла жывога
Напаткаць цябе і сілам я не верыла сваім.
Зараз я ад шчасця плачу, праслаўляю літасць бога,—
Гора знікла, стала дыхаць я з табой жыццём адным.

Мне яно надзеяй свеціць, больш нічога і не трэба,—
Хоць параненае сэрца спапяліў агонь нягод.
Пра мяне ўспамін сардэчны хай табе згадае неба,
Я ж кахання рунь жывую зберагу ад непагод.

Што яшчэ ў пісьме скажу я, мой каханы і адзіны?
І язык стаміцца можа, і паверыць цяжка ў зло.
Мне Фацьма дала ратунак — вызваленне з рук двух злыдняў,
А цяпер па волі лёсу зноў няшчасце надышло.

Спалучыўшы з горам гора, свет дадаў пакут мне болей,—
Палічыў, відаць, што мала ён няшчасця мне прынёс:
Я да злых і дужых каджаў зноў патрапіла ў няволю.
Бачыш, любы, не шкадуе нам сваіх праклёнаў лёс!

Я сяджу ў высокай вежы, недасяжнай нават воку,
Патаемны ход пільнуюць вартавыя дзень і ноч,—
Далятаюць гулкім рэхам да мяне цяжкія крокі,
Смерць нясуць яны любому, хто прайсці сюды ахвоч.

Ты не думай, што іх войска ваяваць па-людску здольна!
Не шукай бяды,— загінеш, значыць, больш і мне не жыць.
Калі ўбачу нежывога — я згару, як трут, павольна;
Будзь скалы цвярдзей, трымайся, да спаткання каб дажыць!

Ты адкінь, каханы, думку, што, знясіленая горам,
Станам, зграбным, як тапаля, дастануся каджам злым;
Без цябе я жыць не буду, не зламлюся я ў пакоры,—
Або нож пратне мне сэрца, або рыну са скалы.

Сонцам я клянуся — месяц твой другому не засвеціць,
Хоць прыйшлі б тры сонцы разам, каб красу яго
сустрэць.
Лепш я кінуся ў бяздонне — хай спрадвечны змрок
прывеціць,
Хай душа ўзляціць на крылах,— ты ж даруй мне гэту
смерць!

За мяне маліся богу, каб паслаў мне вызваленне,
Каб не даў ператварыцца пачуццю ў агонь і тло,
Каб мне крылы даў узняцца і тваім зрабіцца ценем,
Сузіраць цябе, нібыта сонца яснага святло.

Без цябе не будзе сонца, бо ты сам яго часцінка,
Неаддзельны спадарожнік, ты навекі зліты з ім!
Вобраз твой я ў ім убачу — задрыжыць слязы расінка;
Горка мне жылося — стань жа, смерць, салодкім сном
маім!

Я, душу табе аддаўшы, смерці ў твар без страху гляну;
Але вечна ў нашых сэрцах дух кахання будзе жыць.
Хоць разлука ранай свежай да другой кладзецца раны,
Ты не плач па мне, каханы, памяць сэрца зберажы.

Лепш у Індыю спяшайся, бацька там без дапамогі
Не адолее асады ордаў ворагаў ліхіх.
Падтрымай яго ў нядолі, за мяне пазбаў трывогі,
Пра мяне згадай, пра рэкі несціханых слёз маіх!

Наракаць на долю годзе! Досыць скаргаў і праклёнаў!
Ведай: з сэрца — проста ў сэрца слова праўды пападзе.

За цябе памру — хай трызну мне пракаркаюць вароны,
А жывая — буду плакаць па табе ў цяжкой нудзе.

На ўспамін я шлю істужку ад падоранага шаля,
Ты калісь, як знак кахання, мне той шаль з вайны
прывёз.
Хай згадае нашы мары ён табе ў хвіліну жалю,—
Закружылася над намі кола ўсіх сямі нябёс!»

Дзева скончыла пасланне, перапоўненае смуткам,
І адрэзала ад шаля на ўспамін адзін шматок.
Абвілі, як змеі, плечы валасоў тугія скруткі,
І, нібы з таполі стройнай, пах даносіўся здалёк.

Чорны служка з Гуланшара зноў памчаўся у дарогу
І Фацьме дакладна ў тэрмін вестку гэтую прынёс.
Пра палонную пачуўшы, Аўтандзіл уславіў бога,—
Поўны ўдзячнасці і шчасця, ён праліў нямала слёз.

Ён сказаў Фацьме: «Я рады, што збылася гэта справа.
Чым аддзякую табе я за стараннасць і дабро?
Ехаць трэба мне адразу да таго, хто з гордай славай
Разаб'е праклятых каджаў, нібы з неба грозны гром».

«Леў,—Фацьма яму сказала,—стаў агонь крыві пажарам,
Больш святло не льецца ў сэрца — прадчуваю змрок
нуды.
Але ты павінен ехаць, затрымаць цябе не мару,
Бо раней прыбудуць каджы — не адолець іх тады!»

Віцязь склікаў слуг адданых, што належалі Прыдону,
І сказаў: «Ад сна нябыту ўсе мы зараз ажылі.
Доўга весткі мы чакалі — маем мы яе сягоння:
Час прыйшоў, і будзе вораг кроў сваю няшчадна ліць!

Перадайце гэту вестку вы свайму цару Прыдону,
Я спяшаюся, і зараз немагчыма стрэцца нам.

Хай склікае гучным клікам войска вернага калоны.
А цяпер усё, што маю, вам да каліва аддам.

Паслужылі вы мне добра, вам я многа вінаваты:
Як сустрэнуся з Прыдонам — ўсё дарэшты заплачу.
А цяпер бярыце скарбы, што здабыў я у піратаў,
І скупым не палічыце, скнарай быць я не хачу!»

Карабель аддаў багаты, з ім тавары ўсе і рэчы,
Хоць быў сам ён на чужыне і не меў багацця шмат.
Загадаў: «Цару Прыдону вы пры першай жа сустрэчы
Гэты скрутак перадайце, я пісаў, як брату брат!»

## АД'ЕЗД АЎТАНДЗІЛА З ГУЛАНШАРА І СУСТРЭЧА ЯГО З ТАРЫЭЛЕМ

Пераплыўшы цераз мора, Аўтандзіл прыстаў да сушы,
І ў настроі ціхамірным ехаў верхам ён далей;
З весткай радаснай, гаючай на сустрэчу з другам рушыў,
Уздымаў да неба рукі у маленні і хвале.

А вясну змяніла лета, стракацелі ў лузе краскі,
Надыходзіў росквіт ружаў, набліжаў спаткання час.
Перасек сузор'е Рака сонца шлях агністым бляскам,
Уздыхаў глыбока віцязь, хоць агонь вачэй не гас.

Трос нябёсы гул грымотаў, з хмар ліліся рос крышталі,
Ружай вуснаў ружу-кветку стаў ён палка цалаваць,
Гаварыў: «Сваёй красою ты мне тую нагадала,
З кім я мару, як з табою, дзень шчаслівы напаткаць».

З думкай добрай пра сабрата праліваў ён слёз нямала,
Пракладаў свой шлях нялёгкі да няходжаных мясцін
Праз магутныя дубровы, рэкі шпаркія і скалы,
Паляваў на львоў і тыграў у прывозерным трысці.

Ён здаля пячору ўбачыў і сказаў: «Мой мілы дружа,
Тут з табой мы бедавалі, разам слёзы тут лілі;
Весткай шчаснай разганю я дум тваіх самотных сцюжы,
А няма цябе — дарэмна, значыць, пошукі былі.

Толькі ён наўрад ці будзе бавіць час у адзіноце,
Пэўна, гойсае па стэпу, як загнаны дзікі звер;
Лепш паеду я тудою, дзе шумяць вятры ў чароце».
І пусціў каня праз рэчку, праз асокі ды аер.

Ехаў віцязь памаленьку, а душа яго спявала,
Клікаў друга ён уголас — рэха слалася наўсцяж;
Раптам бачыць, нібы сонца над гушчарнікам заззяла,—
Тарыэль з аблiччам светлым там стаяў сярод трысця.

Побач леў ляжаў забіты — бездыханная ахвяра,—
Па лязу мяча сцякала кроў гарачая яго.
Тарыэль пачуў той покліч, што ляцеў, як гром з-за
хмары,
Схамянуўся, распазнаўшы друга вернага свайго.

Тарыэль свой меч адкінуў і падбег да Аўтандзіла,
Той з каня саскочыў, нібы мкнуў за зоркаю ў палёт.
Цалаваліся сяцілы, скрыжаваўшы шыі сілы.
Голас вуснаў—спелых ружаў—саладзейшы быў за мёд.

І гучалі красамоўна Тарыэля нараканні,
Чырваніў ён слёзнай плынню веек стрэльчаты агат:
«Без цябе хіліўся долу, як альяс я, стройны станам,
Прэч зляцелі жаль і смутак, як з табой сустрэўся,
брат!»

Аўтандзіл на скаргі тыя адказаў усмешкай яснай —
Праз каралы вуснаў ззялі перлы чыстыя зубоў:
«Вестку добрую прынёс я — вырак лёсу нам
не страшны,—
Тая ружа, што завяла, зацвіла цяпер ізноў».

Тарыэль сказаў: «Даволі мне й таго, што ты са мною,
Ты прынёс душы уцеху, камень важкі з сэрца зняў,
Хай жаданняў нашых мэта прамільгнула стараною;
Што чакаць дарэмна шчасця, калі бог яго не даў!»

Аўтандзіл здзівіўся вельмі недаверу Тарыэля,
І паспешна ад палоннай ён пасланне перадаў,
Разам з ім істужку шаля. Той узяў усё нясмела,
Паглядзеў і здрыгануўся, бо пазнаў свой даўні дар.

І, дашчэнту ўсхваляваны, прытуліў ён іх да твару,
І патух агонь у зрэнках, ахінуў яго туман,
Кінуў чорны лес агатаў цень на белы твар ахвяры,—
Мук такіх не ведаў Каін, не стрымаў бы й Саламон.

Аўтандзіл убачыў гэта і пабег на дапамогу,
Тарыэль ляжаў, як мёртвы, нерухома на зямлі.
Ды не мог ніякай сілай друга ён падняць на ногі,—
Дар каханай нечаканы дух міджнура спапяліў.

Плач, як песні гук працяжны, ліўся з вуснаў Аўтандзіла,
І над ружай твару ўзняўся цень журботнага крыла.
І струменнем алым слёзы шчок крышталі баразнілі,
Бо гранёным дыяментам быў рассечан яркі лал.

Ён з адчаю драпаў шчокі і лічыў сябе няшчасным:
«Як я мог, вар'ят бяздумны, друга страціць задарма!
Хіба ж можна так раптоўна ліць ваду ў агонь нязгасны,
Столькі радасці ці ж зможа сэрца беднае стрымаць?

Загубіў свайго сабрата я учынкам неразумным:
І за гэтую правінку я караю сам сябе.
Лепш развагі поступ цвёрды, чым даніна спешцы
тлумнай,
Лепш павольны рух наперад, чым на месцы шпаркі бег».

Тарыэль не варушыўся, быццам скон крануў здранцвеннем,
Аўтандзіл шукаў дарэмна — хоць бы дзе вада цякла;
Льва забітага пабачыў і, крыві набраўшы ў жменю,
Другу грудзі акрапіўшы, цела сінь змяніў на лал.

Кроў ільвіная вярнула льву патрачаныя сілы,
Задрыжалі вейкі дружна, як вайсковых коп'яў лес.
Тарыэль расплюшчыў вочы, ўбачыў воблік друга мілы,
І ў яскравым бляску сонца промень месяца збялеў.

Ружы кволыя пялёсткі ад зімовай гінуць сцюжы,
Летам іх спякота сушыць, асыпае ветравей.
Хоць пяшчотна аб каханні салавей спявае ружы,
Ні ад спёкі, ні ад сцюжы не ўратуе салавей.

Так і сэрца чалавека раўнавагі не здабудзе:
То ад радасці квітнее, то завяне ад бяды,
То надзеяй светлай цешыць, то трывога б'ецца ў грудзі;
Той, хто верыць зменам свету — вораг сам сабе заўжды.

Тарыэль абняў вачыма словы той, каму да скону
Прысягаў служыць, і позірк засцілаў туман яму,
Ён з-за слёз не бачыў свету, сэрца стукала шалёна;
Аўтандзіл сказаў з дакорам другу лепшаму свайму:

«Так трымацца не павінен той, хто розум мае ўласны,
Не рыдаць — смяяцца трэба, калі ўдача надышла.
Дык хутчэй жа пойдзем, дружа, мы туды, дзе сонцам ясным
Свеціць тая, што чакае быць арліцай у арла.

Хай не слёзы, толькі радасць цешыць зараз нашы сэрцы,
Дык хутчэй сядлайма коней і ў Каджэці паляцім.
Пракладуць мячы дарогу і заплацяць каджы смерцю
За пакрыўджаную дзеву, будзе страшнай помста ім».

Ачуняўшы ад шаленства, Тарыэль зірнуў навокал —
Чорна-белая маланка мільганула у вачах,
І, як лал пад сонцам ясным, залівала чырвань шчокі.
Толькі вартаму шле неба міласэрнасці ачаг.

Адказаў ён Аўтандзілу: «Для падзякі слоў не маю,
Каб цябе належна ўславіць, трэба слова мудраца.
Як вада крынічкі чыстай ажыўляе кветку мая,
Так ад слёз вачэй нарцысы асушыў ты да канца.

Я аддзякаваць за гэта не змагу, відаць, ніколі,
Бог сваёй дзяснiцай шчодрай хай пашле дабротаў шмат».
І на коней пасядалі і памчаліся праз поле
Да пячоры, дзе ў самоце час праводзіла Асмат.

У адной кашулі сподняй дзева сумная сядзела
І убачыла раптоўна — едуць віцязі ўдваіх,
Нібы пошчак салаўіны, песні радасна звінелі;
І Асмат, пра ўсё забыўшы, з крыкам рушыла да іх.

Незвычайным ёй здалося бачыць гэткім Тарыэля,—
Быў заўсёды ён у смутку, а цяпер вясёлым быў;
І Асмат ад з'явы гэтай раптам нібы анямела,
І збягаў паволі з твару след нядаўняе журбы.

А сябры дарылі ўсмешкі — белізною перлы ззялі.
«Гэй, Асмат! — яны крычалі.— Бог паслаў нам шчасны дар!
Здабылі мы цуд нязнаны, ў цемры месяц адшукалі,
Што змяніў на радасць гора, патушыў маркоты жар».

Аўтандзіл з каня саскочыў, як сястру, абняў ён дзеву,
Як да стройнае чынары, прытуліла тая стан,
Шчокі, шыю цалавала, ў сэрцы песціла надзею:
«Адкажы мне, я чакаю весткі добрай пра Нестан!»

І ад той, што, нібы месяц, нікне цьмяна перад раннем,
Ён з далёкае чужыны перадаў Асмат пісьмо
І сказаў: «Ад гаспадыні вось прыветнае пасланне,
Узыходзіць наша сонца, чэзне морак чорных змоў».

Выхаванкі мілай почырк па пісьму Асмат пазнала,
Задрыжала так, нібыта страх яе наскрозь працяў,
І, знямеўшы ад здзіўлення, ўсё збянтэжана пытала:
«Калі праўда ўсё, дык будзе ёй канец або працяг?»

Адказаў ёй віцязь: «Страху хай не будзе болей месца,
Адляцела наша гора, радасць светлая прыйшла,
Знікла цемра над зямлёю, вадаспадам сонца льецца;
Дабрата не мае межаў, перамогшы сілу зла!»

Індаў цар з Асмат вясёла між сабою гаварылі,
Абдымаліся, злучыўшы гукі голасу свайго.
Росы слёз цяклі на ружы з веек, нібы з чорных крылляў.
Бог не кіне тых, хто варты міласэрнасці яго.

Дружна бога услаўлялі, уздымалі рукі ўгору:
«Шлеш не зло ты, а збавенне ад цяжкіх і горкіх страт!»
А пасля ўвайшлі ў пячору, з ног і з плеч зляцела змора,
Ад душы іх частавала рознай ежаю Асмат.

Тарыэль прамовіў другу: «Ты уважліва паслухай,
Раскажу табе пра тайну, што хавае гэты кут.
З той часіны, як пабіў я зграі дэваў — злосных духаў,—
Безліч скарбаў засталося, захаваных імі тут.

Не чапаў я іх ніколі, не было патрэбы пільнай,
А цяпер давай пабачым, што схавапь яны маглі».
І пайшлі ўсе трое ў цемру, несучы з сабой свяцільні,
Сорак сховаў адчынілі, сорак залаў абышлі.

Шмат было багаццяў розных захавана ў тых скарбніцах,
Ззялі грані самацветаў пераліўнаю ігрой.

Там ляжалі перлаў скрыні, дыяменты-бліскавіцы,
Зліткі золата блішчэлі незлічонаю гарой.

Сорак сховаў пад скляпенні там былі дабром набіты,
Шмат вайсковага рыштунку, шмат даспехаў баявых
Там валяліся навалам, груд гародніны нібыта,
І вялікасна ўзвышаўся даўні куфар паміж іх.

Надпіс быў на вечку: «Зброя тут найлепшая схавана,
Шлемы, латы і кальчугі, з Басры вострыя мячы.
Як на дэваў пойдуць каджы — смерць ім будзе ўсім
дазвання.
Хто ж кране да часу, зробіць царскай гібелі пачын».

Не зважаючы на гэта, куфар віцязі зламалі,
Ўсё, што трэба, каб у бітве злыя ворагі ляглі,—
Тры наборы лепшай зброі — стрэлы, коп'і, меч,
забрала,—
Нібы муміі ў грабніцы, там пакладзены былі.

На сябе сябры надзелі ўсе даспехі, зброю тую,
Іх трываласці адменнай не зраўняеш ані з чым:
Меч крышыў, нібы паперу, рэч жалезную любую,
З гэткай зброяй іх не здольны аніхто перамагчы.

«Надпіс нам прарочыць поспех! — так яны сабе
сказалі.—
Бог, відаць, паслаў на шчасце нам вось гэтую скрыжаль».
І цудоўныя даспехі для паходу ўсе пабралі,
Захапілі й для Прыдона незвычайнай зброі сталь.

Перлаў, золата, каменняў узялі яны з сабою,
Сорак сховаў зачынілі, апячаталі ўваход.
Аўтандзіл сказаў: «Трывала зросся меч з маёй рукою.
Адпачнём, а на світанку заўтра рушым у паход!»

## ПАРАДА ТАРЫЭЛЯ

Тарыэль сказаў: «Адвагай вы сваёй вышэй герояў,
Вашы мудрыя парады — непахіснай волі знак.
Меч не вымеце дарэмна, бачу — прагнеце да бою,
Каджаў нішчыць разам з вамі я гатоў. Скажу аднак:

Хоць і тут нямала справы, толькі там удар галоўны:
Што, калі пачуўшы бойку, з вежы ўніз Нестан зірне
І мяне між вас не ўбачыць сваім позіркам чароўным?
Ганьбай вечнаю знясславіць бойка гэтая мяне.

Вось найлепшая парада — ўдачы пэўная аснова:
Возьмем мы людзей па сотні, ледзь займацца дзень
пачне,
І да трох варот ахоўных паляцім адначасова,
Вораг выйдзе нам насустрач — скорай кары не міне.

Распачаўшы бой крывавы, мы іх выклічам за браму,
Хай адзін прарвецца ў горад, два пачнуць іх тут сячы,
Кроў пальецца там ракою зграй варожых, бітых намі,—
Толькі хітрасць і адвага могуць нам дапамагчы».

Тут Прыдон сказаў: «Я згодзен, праўду ты, мой дружа,
кажаш.
Толькі вось шкада — аддаў я ў дар найлепшага каня.
Ведаў ліха б тое, пэўна, сам на ім лупіў бы каджаў,
Ты б каня таго ўбачыў, хай лічыўся б скваііным я».

Так сказаў Прыдон жартоўна. І вясёлую размову,
Спалучыўшы з мудрым словам, доўгі час вялі сябры.
За забавай той, аднак жа, не забыліся асновы —
Рыхтавалі зброю, коней да світальнае пары.

І хоць многа жартавалі, кожны ведаў — справа рупіць.
Тарыэлева рашэнне даспадобы ўсім было.
Узялі па сотні конных, што ў змаганні не адступяць,
І, на коней сеўшы, шлемы апусцілі на чало.

## ВЯСЕЛЛЕ ТАРЫЭЛЯ І НЕСТАН-ДАРАДЖАН

Тарыэль дасяг вяршыні разам з жонкай маладою:
Сем прастолаў атрымалі,— ў сэрцы, радасць, гучна грай!
Адышлі ў нябыт нягоды — ліха з чорнаю бядою,—
Толькі той адчуе радасць, хто гаркот хапіў праз край!

Вось яны паселі разам, юных двое — сонцу пара!
Ён царом абвешчан. Гучна затрубілі трубачы.
«Ты наш цар!» — усе крычалі. Загрымелі ў лад літаўры,
І ад скарбніцы дзяржаўнай падалі яму ключы.

Крэслы царскія прынеслі Аўтандзілу і Прыдону,
Пасадзілі іх пачэсна, скрозь грымела ім хвала.
Не ствараў яшчэ ніколі бог істот, да іх падобных!
Аб мінулых днях і справах тут гаворка пацякла.

Пілі, елі, балявалі — спраўна слугі ўсім служылі.
Слаўна справілі вяселле — не было такога век!
Падарункамі пароўну ўсіх пазваных адарылі;
Міласцінай абдзялілі бедных, хворых і калек.

Аўтандзіла і Прыдона як збавіцеляў віталі:
«Вы прынеслі шчасце індам!» — пагалоска скрозь ішла;
Іх лічылі ўладарамі, іх жаданням дагаджалі,
Іх наведвалі няспынна, ім пашану кожны слаў.

Тарыэль Асмат заўважыў і прамовіў ёй сардэчна:
«Ты служыла шчыра. Дзеці не паслужаць так бацькам.
Сёмы трон зямлі індыйскай аддаю табе навечна,—
Будзь, шчаслівая, царыцай, паслужы шчаслівым нам!

Ты прыдбай па сэрцу мужа, трону будзе хай апорай.
Ты кіруй разумна царствам, падуладнай будзь маёй!»
Тут Асмат упала ў ногі: «О мой сокал ясназоры,
Не знайсці мне лепшай долі, як рабыняй быць тваёй!»

Тры героі-пабрацімы дні праводзілі шчасліва;
Падарункі дарагія нёс штодня удзячны люд:
Скакуноў гарачых колькі! Перлаў колькі зіхатлівых!
Ды тугою па каханай Аўтандзілаў дух быў скут.

Тарыэль заўважыў гэта і сказаў яму спагадна:
«Адчуваю: мне папрокі ў сэрцы носіш ты цішком.
З мук сямі зрабіў ты восем, затужыўшы так няшчадна.
Зноў разлуку шле мне доля і на сэрца гора ком!»

Тут Прыдон пачаў прасіцца: «Час і мне дамоў вяртацца,
Ды таптаць я часта буду сцежку, што вядзе сюды.
Як малодшы са старэйшым, рад з табой заўсёды знацца;
Буду так сустрэчы прагнуць, як у спёку лань вады!»

Тарыэль сказаў: «Я згодзен, калі цягне так дадому!
Ды мяне ты не цурайся, шлях сюды не забывай!»
Аўтандзілу ж ён прамовіў: «Сумна будзе мне, вядома.
Што ж рабіць? Чакае месяц з нецярплівасцю ільва!»

Растэвану ў падарунак футраў шмат паслаў адменных,
Дарагой чаканкі посуд — кубкі, келіхі, каўшы.
«Перадай ты Растэвану ўсё з павагаю нязменнай!»
Той сказаў: «Смяротны холад будзе без цябе ў душы».

Шубку-цуд Нестан паслала Цінацін, сястры названай,—
Іншы хто не варты быў бы мець такі раскошны ўбор!—
Лал паклала ў дадатак, што гарэў іскрыстым ззяннем,
Што свяціўся ў цемры ночы, як праменны водбліск зор.

Развітанне з Тарыэлем апаліла Аўтандзіла,
Болем сэрцы іх смылелі, кожны слёз патокі ліў;
Інды плакалі няўцешна, белы свет ім быў нямілы.
Аўтандзіл сказаў: «Атрутай свет хлуслівы напаіў!»

Быў нядоўгім шлях супольны у Прыдона
з Аўтандзілам,—
Разышліся іх дарогі — кожны ў край падаўся свой;
Іх задумы-летуценні набылі жывую сілу,—
Аўтандзіл сустрэўся хутка з Аравійскаю зямлёй.

Выйшлі ўсе арабы дружна, каб з красою царства
стрэцца.
Сонца ён сваё убачыў — знік тугі зацяты боль.
З Цінацін на царскім троне, шчаслівейшы ў цэлым свеце.
Быў прыгожы венцаносец — асяняў яго сам бог!

Тры цары паміж сабою дружбу шчыра шанавалі:
Часта ладзілі сустрэчы — свой трымалі запавет;
Хто іх волі супярэчыў, грозна тых мячы каралі,
І славутымі дзяржавы іх былі на цэлы свет.

Нібы снег, людзям даброты рассыпалі ўсім пароўну:
Сірацін і ўдоў кармілі; плач жабрачы ўсюды змоўк.
Каб маглі ягняткі ў полі матак ссаць сваіх спакойна,
Жыў з авечкамі у згодзе ў тых краях драпежны воўк.

## ЗАКАНЧЭННЕ

Вось і скончана аповесць, нібы сон уяўна-зменны.
Свет пакінулі героі. Не спыніць няўмольны час.
Хоць жыццё здаецца вечным, пралятае ж вокамгненна.
Як жа месху Руставелі не стварыць пра гэта сказ?!

Сонцу Грузіі — Давіду, чый праменна свеціць розум,
Хто на Захад ад Усходу шлях магутнасці праклаў,
Хто — заступнік для адданых, хто для здраднікаў —
пагроза.
Гэты сказ паклаў я ў вершы, каб жыла яму хвала!

Толькі веліч спраў Давіда хіба ж мог я ўславіць цалкам?
І таму пра край заморскі склаў аповесць гэту я,
Пра змаганне і пра бітвы, што вяліся без канца там,
І пра віцязяў адважных, што жылі ў чужых краях.

Свет не варт людской надзеі. Цяжкі троп зямное долі.
А жыццё — адна хвіліна, што як зрэнкі бляск відна.
Не дагнаць нам прывід шчасця—лёс кіруе нашай воляй.
Той шчаслівы, хто з ім ладзіць, і не ў страх яму —
труна.

Песні пеў пра Амірана наш пясняр Масэ Ханэлі,
Пра Абдул-Месію вершы на вякі Шаўтэлі склаў.
Дыларгета звонкім словам узвышаў Саргіс Тмагвелі,
Тарыэля ж — Руставелі ваш скрозь слёзы апяяў.

# Тэймураз I

## ПАКУТНІЦТВА ЦАРЫЦЫ КЕТЭВАН

*(Скарочаны варыянт)*

Сэрцу кожнаму, о божа, ты адвёў мяжу цярпення;
Подзвіг Кетэван выходзіць аж за межы спасціжэння,
Шматпакутны гэты подзвіг — мне крыніца захаплення,
Пачуццю майму і думцы дай прастору блаславення.

Я аповесць пачынаю пра Кахеціі царыцу;
Як была яна пры ўладзе, свет ішоў ёй пакланіцца.
Я цяпер у чорнай скрусе дажываю ў чужаніцаў
І малю цябе, мой божа, лёту слова дай адбыцца.

Блізкі вобраз не размылі, не зацьмілі хвалі часу —
Пераношу на паперу, адкідаю прэч прыкрасу.
Чысціні крыштальнай сэрца не сабе шукала спасу
І даверылася проста шаху лютаму Абасу.

Кетэван Абасу-шаху ваяўнічага Ірана
Аддала ў залог унукаў — Аляксандра і Левана,
Каб Кахеція-радзіма не была ім зруйнавана.
Толькі грэла кроў чужая заваёўніка-тырана.

На Кахецію ён рушыў і палямі, і лугамі,
Бы звярамі, аж кішэла ўся прастора варагáмі *.

* Гэта было ў 1615 годзе.

Шах таптаў святыні нашы, лёсы падбіваў нагамі,
Нашай цешыўся крывёю і сірочымі слязамі.

Зруйнавалі край чужынцы, наляцеўшы ураганам,
Усяго на свеце мала ім, захопнікам паганым,
Быццам нішчыць і палоніць ім дазволена каранам,
Ім — уцеха ды багацце, нам жа — скруча і тугá нам.

Нам — няволя, нам — нядоля! Павязалі вязням рукі,
У Ганджы сярод палонных — Кетэван, яе унукі,
Я там быў тады таксама, бачыў я людскія мукі,
Ланцугі вакол звінелі, сэрца ранілі іх гукі.

Але ў лютасці і гневе шах Абас не знаў парога:
Кетэван схіляў да бога мусульманскага, чужога,
Ён паздзекавацца думаў з пачуцця яе святога,—
Уяўлялася няпоўнай без кашчунства перамога.

Ды захопніку царыца згоду здрадзіць не давала,
З добрай верай хрысціянскай сыноў сына гадавала,
Пяць гадоў адным лякарствам душу верна ратавала,
І здавалася лягчэйшай лёсу страшная навала.

Толькі што ж я доўжу слова? Шах палонных перакінуў
З Ганджы, першага астрога, у Шыразскую краіну.
Папрасілася царыца з імі разам, на чужыну,—
Каб хоць трохі быць карыснай ёй унукам, свайму сыну.

Не дамогся шах пакоры ад галоўнае ахвяры,
Кетэван за вернасць веры не пакінуў ён без кары:
Адышлі ўжо ўнукі-зоркі — іх не споўніліся мары,
І яна, як поўня, гасне, скруха — ў сэрцы і на твары.

Белы свет у бездань пекла абярнуў тады шах люты.
Як данесці да нашчадкаў матчын боль, адчай, пакуты!
Сэрца жаласна стагнала: «Божа праведны, чаму ты
Столькі нам паслаў знянацку невымоўнае атруты?!»

Над магiламi унукаў галасiла яна ў горы:
«Вы ў зямельцы, мае сонцы,— і няма святла ў прасторы!
Вы ў зямліцы — і пагаслі залатыя ў небе зоры!
Вас няма — і я згараю ў вогненным нябачным моры.

Вас няма — і я знікаю, станаўлюся непрыкметнай,
Разлучылася я з вамі і старонкай запаветнай,
Знемагаюся ў балоце, у дрыгве я апраметнай,
Гора мне ў разлуцы з вамі, ў гэтай скрусе
беспрасветнай!»

Ані месяца, ні сонца болей бачыць не хацела,
Прабывала ў стогне, плачы, мардавала постам цела,
І малілася бясконца, гора з вераю цярпела,
Свой духоўны подзвіг несла, бо душа не апусцела.

У суцэльны час зліліся дні працяглыя і ночы.
У свяшчэнныя пісанні скіравала яна вочы,
Не прадаўся д'яблу чысты, незалежны дух жаночы,
Шчыра верыла, што прыйдзе страшны божы суд
аднойчы.

«Трыста шэсцьдзесят пяць ранкаў у адзін калі сальюцца,
Пратрубяць тады анёлы, і нябожчыкі прачнуцца,
Знікне гэты свет фальшывы, на тым свеце ўсе збяруцца,
І Хрыстос з яго святымі ва ўсіх душах разбяруцца.

Што ж маю душу чакае? Што ёй там наканавана?
Што, калі і там не стрэну Аляксандра і Левана,
Сына роднага не ўбачу, разміномся нечакана?
Ці хоць буду на тым свеце я ад пекла ўратавана?»

Ад пакуты, ад гаркоты хараство жанчыны вяне:
І святло вачэй прыгасла, і прапала твару ззянне,
Вусны колеру граната страцілі сваё палянне,—
Кетэван, аднак, чакала большае выпрабаванне.

У Шыраз, да Халар-хана вось такі загад імчыцца:
«Больш на свеце не павінна жыць Кахецii царыца.
Выпіць кроў яе хачу я, каб крывёю наталіцца,
Каб мой кожны год пражыты мог за дзесяць залічыцца.

А для лiтасцi вялікай можа быць адна прычына:
Прыме веру Магамета гэта вольная жанчына —
Абяцаю абысціся з ёй даволі дабрачынна,
Калі ж не — яе катуйце, мучыцца яна павінна!»

Са здзіўленнем успрымае Халар-хан загад Абаса.
«Абыходзіцца так жорстка нельга з маці Тэймураза.
Мусульманкаю ж не стане ўжо яна, дачка Каўказа.
Што ж рабіць мне? Што прыдумаць?» — не знаходзіць ён
адказу.

Хан шыразскі карыстаўся добрай славаю ў народзе,
Ціхамірны, міласцівы, жыў з сумленнем ён у згодзе,
Мудрацы і нават неба ад яго былі ў лагодзе.
Аж тры месяцы рашэння не прымаў ён — не знаходзіў.

«Як жа мне сказаць ёй гэта, як тут словы падбяру я? —
Думаў ён.— І як жа ўрэшце паслужу цяпер дабру я?
Чым царыцу я суцешу, чым жанчыне памагу я?
Як адно загад не споўню, гасудар мне не даруе».

Кампрамісную паставіў прад людзьмі сваімі мэту —
Ёй сказаць пра волю шаха, жудасную волю гэту,
Хай яна не пагарджае ўсё-ткі верай Магамета,
Хай яна не пакідае без пары зямнога свету.

Набліжаць хіба разумна дзень жахлівы свайго скону?
Патушыць яшчэ не позна злосць Абаса, гнеў ягоны.
А Хрыстос?.. Ну што ён зробіць ёй за новую ікону?
Магаметавы не горшы ані вера, ні законы...

Ды Кахецііі царыца шаха ўмовы не прымае:
«Калі страчу вашу веру, што́ ўзамен я атрымаю?
Дзе яшчэ знайду я тое, параўнання што не мае?
Як змагу пасля падзення паважаць сябе сама я?»

Моліцца яна: «Мой божа, трыадзіны і жаданы,
Ты стварыў так многа цудаў і астаўся непазнаны,
Зрушыш воляю сваёю з месца горы, акіяны,
Ды аснову ты не зменіш, о Тварэц непараўнаны!

Я малю цябе, о тройца, не давай мне анічога
Для зямнога існавання, для жыцця майго зямнога,
Ты не дай душы прапасці—не пра плоць мая трывога,—
Ты прышлі мне Гаўрыіла, душ нятленных вартавога».

«О ўсявышні! Я баюся сатанінскіх сецяў, путаў
З-за майго цяжкога скону, маіх жудасных пакутаў.
О галоўны між анёлаў — Гаўрыіл, я жахам скута,
О пакутнікі, святыя, уратуйце з цемры лютай!»

«Я малю цябе, ўладыка, у імя уваскрашэння
Зберажы, засцеражы ты ад палёгкі спакушэння,
Мудрых дзеў мяне ўдастой ты, дай мне сілы і цярпення,
О Хрыста-ўладыкі маці, дай свайго мне суцяшэння!»

«Ад грахоў паспавядацца ўсе імкнуцца чалавекі,—
Так цячэння не спыняюць, не мяняюць нашы рэкі.
Загаі мне, божа, раны,— я прайду праз мукі, здзекі.
Хай жа ўсе, усе, хто верыць, у табе знаходзяць лекі!»

«У жыццёвай гэтай бітве грэх мой гнётам стаў, о божа!
А цяпер твой чую голас — і лягчэе мая ноша.
Адшукаць жа браму раю толькі вера мне паможа,
Браму Пётр святы адчыніць * у свет вечны і прыгожы».

---

* Па евангеллю Хрыстос апосталу Пятру даў права пускаць ў рай чалавечыя душы, уручыўшы яму «ключы ад райскай брамы».

«Загубіў мяне, вядома, шах бязлітасны, крывавы.
Госпадзі, нам пакажы ты знак дзівоснае праявы.
Тэймуразу перамогу я прашу не дзеля славы —
Ён апіша маю драму, подзвіг мой, не змажа явы.

Прыняла яна прычасце і сказала ўсхвалявана:
«О ўладыка! Мусульманкай я не стала і не стану.
Што, калі прад сатаною я душой сваёй паўстану?!
Уратуй, цябе малю я, дай бальзаму мне на рану».

І, жагнуўшыся, пайшла к сабе, не ў сіле што зыначыць,
І сказала: «Пакаранне ўжо нічога мне не значыць,
Хай мучыцелі заходзяць, за старанне шах аддзячыць,
Хай пральецца кроў,— за гэта і малюся я, і плачу».

Да царыцы падыходзяць у адно імгненне каты,
А з сабой яны прынеслі абцугі, ражны, лапаты;
Гора мне, так цяжка, горка узнаўляць той час пракляты!
Кетэван душой мужнела і маўчала ўжо зацята.

Ёй сказалі: «Стань татаркай *—будзеш мець уратаванне,
А іначай пашкадуеш, ды што зменіць шкадаванне!
І агонь яны расклалі без усякага вагання,
Напалілі ў ім жалеззе, каб замучыць катаваннем.

Гэта ўбачыўшы, служанкі ўсе памкнуліся гурбою,
Рукі, ногі абнімалі, гаварылі ёй з журбою:
«Сонца наша, не спяшайся разлучыць ты нас з сабою!
Не спяшайся стаць ахвярай, стань ты грэшнаю, слабою».

Сонца-Кетэван сказала: «Дзеля веры, ачышчэння
Заклінаю вас: прыміце вы таксама боль-мучэнне!
А не прымеце, дык станьце сведкамі майго знішчэння».
Гора мне, папера плача, я ў зеніце засмучэння.

---

* Мусульман у Грузіі часта называлі татарамі.

Хварамзе-служанка з плачам ля царыцы галасіла:
«Ты, царыца-прыгажуня, жэмчуг, золата насіла.
Бы аслепла я, не знала, ў чым краса твая і сіла:
Ты не здрадзіла і ў горы літасці не папрасіла.

Ох, няма з табою побач родных, блізкіх, знакамітых,
Бачылі б, на што ідзеш ты, сэрцам прымеш боль які ты!
Скажа хто пра гэта пекла — пра агонь, пра катаў сытых?
О няўжо твой подзвіг будзе невядомы ці забыты!

Сэрца, вырвіся ты з клеткі, са свайго глухога дома,
І, душа, ўзляці на волю неспакойнаю, рухомай,
Плоць, не стой жа ты на месцы, скутая журбою, стомай,
Вецер, вецер легкакрылы, вестку ты зрабі вядомай!»

Цінацін-служанка зараз да царыцы завітала.
«Будзьце тут, хто ў бога верыць»,— усім Кетэван
сказала.
Цінацін бяду адчула і ад жаху закрычала,
«Веру госпаду!» — раз-пораз, як малітву, паўтарала.

Воіны яе прагналі з непакрытай галавою,
Шыю, твар яна прыкрыла доўгаю змяёй-касою;
Ды прыбліжаны царыцы нечакана стрэўся з ёю —
Даў кушак, пазбавіў ганьбы перад публікаю ўсёю *.

«Гора мне,— яна сказала,— дажыла вось да чаго я!
Мусульмане паланілі наша сонца дарагое,
Басурманскай стала світа — добра з вераю другою...
А мяне зусім прагналі»,— дадала яна з тугою.

На Асмат была падобна Цінацін у час выгнання,
Слёзы падалі на грудзі, слёзы гора, хвалявання.

---

* Знаходзіцца на людзях без галаўнога ўбору для жанчыны лічылася не толькі вялікаю ганьбаю, а і грахом.

Гром раздаўся труб, літаўраў — знак пачатку
катавання —
І з'явіўся поп Георгій без вялікага жадання.

Напалохаўся свяшчэннік, калі вогнішча убачыў,—
Здагадаўся ён, вядома, што цяпер агонь той значыў.
Як лісток прад ураганам, так дрыжаў ён, не іначай.
Крыкнула яму царыца: «Што ж ты так дрыжыш,
зямляча?!

Сам ты знаеш, як з Хрыстосам абышліся яго каты:
Трыснягом працялі ногці, за дабро панёс расплату,—
Рукі, ногі прабівалі, на крыжы ён быў распяты.
Што ж прыняць не хочаш мукі? Хіба прагнеш не дабра
ты?»

Больш ніхто не пагадзіўся за Хрыста пайсці на плаху,
Людзі воскам раставалі нават перад ценем страху,
Занядбалі свайго бога, павярнуліся к алаху,
Крах Кахецііі любімай не прынёс яшчэ ім краху.

Кетэван чакала кары, знала: смерць не за гарамі.
Ёй звязалі рукі, ногі, вырвалі саскі кляшчамі,
Цела моцна апякалі распалёнымі шчытамі,
З галавы здзіралі скуру жывадзёрнымі рукамі.

Гора мне, бо назаўсёды дзень пакутлівы са мною,
Працінае маё сэрца вострай вогненнай стралою,—
Шкадаваць да скону буду, што з матуляю сваёю
Я не быў і аказаўся не распяты побач з ёю.

Абсыпаючы ўсё цела невыноснымі цвікамі,
Характва крышталь душылі ўсё каменнымі нагамі,
З плоці скуру лёгка дралі, нібыта кару, шматкамі,—
Каты гэтую навуку ўдасканальвалі вякамі.

Каты множылі мучэнні, імі сэрца раздзіралі,
Спрэс прылады катавання. Дзе ж вянец і дзе каралі?
Бранзалетамі — вяроўкі, што запясці ёй звязалі,
Замяняў агонь румяны, што на ёй зарой ігралі.

Прыняла ўсе катаванні ты жаночаю прыродай,
Адарыўшы, азарыўшы сябе вечнаю свабодай.
Я ж, мужчына, мужны воін, цешыўся чужой пагодай *.
Не купілі цябе, маці, аніякаю выгодай!

Аддала душу Хрыстосу, да святых прыйшла святая.
Адслужылі паніхіду. Свет жыве, сябе шукае,
Паглядае часта ў неба — знаку боскага чакае,
І ніхто з забойцаў-катаў шчасця, радасці не мае.

Свет у верасні расстаўся з незабыўнаю жанчынай,
А вясною цуд адбыўся, навіна пайшла лавінай:
Выйшла Грузія з-пад гнёту хрысціянскаю краінай
(Аж дванаццаць год на персаў давялося гнуць ёй спіну).

Вера Кетэван у бога ёй прадвызначыла долю:
Дзесяць год была ў палоне і не ведала там болю,
Смерць яе была цяжка́я, ды яна прынесла волю,—
У вянцы святой царыца не памрэ цяпер ніколі.

Ну а я нібыта збоку на сябе як гляну строга,
Разумею: не бязгрэшны я адпраўлюся да бога,
Не паспеў душу ачысціць і пакутую я многа,
Мо й кажу пра гэта позна, бо канчаецца дарога.

Як узняць у неба вочы — к сонцу, месяцу і зорам,
Як мне з імі падзяліцца невыносным гэтым горам!

---

* Доўгі час Тэймураз І жыў у дастатку пры персідскім двары, фактычна як палоннік, які да канца жыцця астаўся хрысціянінам.

Гаўрыіл-архангел прыйдзе — будзе ў вочы глянуць
сорам,
Апушчу я нізка голаў прад судом, яго дакорам.

Дзе ж на твор я ўзяў адвагі — вось ужо і сам дзіўлюся.
Мудрацам па сіле тое, чым са светам я дзялюся.
Скруха мною кіравала і прызнацца не баюся:
Я хацеў, каб у слязах мы прысягнулі нашай скрусе.

## МАДЖАМА

*(Скарочаны варыянт)*

Я ў журбе найбольш баюся слова марнага, пустога,
Асуджаю спячку духа, слаўлю рух жыцця зямнога.
Разаб'ецца аб *вароты* легкадумная дарога;
Што й евангельскія дзевы, мы пачуем *там* ад бога *.

Месца я адводжу ў кнізе вершам рэдкасным, адметным.
Тое, што душу хвалюе, не павінна быць сакрэтным.
Слова складнае, хто знае, можа, зробіцца прыкметным,
Мо захопіцца нашчадак маім словам запаветным.

«Маджама» — сабраны разам,— з мовы персаў азначае;
Гэта кніга з маіх кніжак вершы блізкія злучае;
Кажуць людзі, баль ніякі параўнання з ёй не мае,—
Сэрца песні гэты творца ўсё любімай прысвячае.

* Аўтар спасылаецца на евангельскую прытчу пра дзесяць дзеў, якія чакалі жаніха «Ад Мацв., раздз. 25, 1—13).

## СОНЦА ТАК ДАРМА ШЧЫРУЕ

Сонца так дарма шчыруе — не, з табой не параўнацца!
Хто, як ты, яшчэ зрабіў бы ўвесь сусвет сваім палацам?
Ў цёмным лесе чорных веяў лёгка позірку схавацца;
Позірк вылецеў стралою — раніў, мне не ўратавацца.

Залатога сонца промні — штó з тваімі ў параўнанні?!
Не яно, а ты прыносіш мне пагодлівае ранне.
Веяў чорны лес вартуе воч-азёраў чараванне,
На сабе я добра зведаў коп'і тога вартавання.

Не скажу, хто вінаваты — стрэлы мне прабілі грудзі.
Хто яшчэ, як не паэты, апяваць свяцілы будзе?
Нешта ж юныя не могуць расказаць аб дзіўным цудзе.
Прагну збегчы я ў пустыню, каб не чулі стогнаў людзі.

Мудрацы ажно знямелі: у красы так многа сілы,
Ад цябе святло займелі ўсе нябесныя свяцілы,
Ад цябе гажэе ружы й без таго пялёстак мілы.
Лью я слёзы, іх, напэўна, свету б цэламу хапіла.

## ПРАЗ ЦЯБЕ Я СТРАЦІЎ РОЗУМ

Без цябе адно мне гора — звар'яцеў я, апантаны,
Спапяліў бутон спакою твой агонь непараўнаны,
Веі, бровы — майму сэрцу прычынілі болю раны,
Незямная, і нябёсы ўсе табой зачараваны!

У палон душу ўзяла ты прыгажосцю незямною.
Дзе мне ўзяць душу для смерці — бог не даў мне
запасное.
Ружы губ, крышталь усмешкі ўсіх маіх няўдач віною,—
Я палонны тваіх чараў; як паступіш ты са мною?

Сам пакуты выбіраю, розум сэрца не карае.
Што рабіць мне, калі сэрца ў промнях полымя згарае?
Для мяне ты ў белым свеце будзеш пеклам, а ці раем?
Стаць магу на шлях Мяджнуна — быць ка мне глухой
не раю.

Плоду б гэтаму ў эдэме прарасці, каб не прапасці.
Мне з чарнюткімі вачыма перайшло дарогу шчасце.
Ружы-вусны назаўсёды адвялі б усе напасці,
Бессмяротны той, хто зможа хоць бы раз да іх прыпасці.

Гэты свет мяне прымусіў плакаць, выплакаў я слёзы,
Хай бы выпіў чашу смерці я на розум свой цвярозы.
Свет мяне пазбавіў родных. Гінуць ружы ад марозу.
Не кідай мяне ў балота, адвядзі хутчэй пагрозы.

## ТЫ КРАСОЙ ЗАЦЬМІЛА СОНЦА

Ты красой зацьміла сонца — бляск яго адметны згінуў,
Промні зыркія высока вобраз твой над светам кінуў,
Мне надзеі на ўзаемнасць ён амаль што не пакінуў;
Вусны — чыстыя рубіны, больш няма такіх рубінаў.

Мудрых рытараў збяру я — хай хвала ліецца морам,—
Калі розум іх не стане прад табой, царыца, кволым.
Поўня ўбачыла твой вобраз — адарыла арэолам,
А сама плыве над светам з тварам бледным, невясёлым.

Цуд пяшчотна-кучаравы, што са мною ты зрабіла!
Лёгка коп'ямі з нарцысаў сэрца на кускі разбіла,
Узняла ты веі-войскі, каб забіць мяне,— забіла
І звяроў драпежных, птушак ты на труп мой запрасіла.

Свет мне ворагам зрабіўся, ці ж я гора зведаў мала?!
Не для нас сусвет віруе, і быццё мне брыдкім стала;
Я няшчасны, адзінокі — супраць любая паўстала,
Біла ў сэрца, хоць яно мне й так балець не перастала.

# Я ЛЮБУЮСЯ ТАБОЮ

Я любуюся табою, хараством паставы, цела,
За табою маё сэрца безаглядна паляцела.
Я ў пустыні апынуся — ці ж не ты таго хацела? —
Пагасцюю у Мяджнуна ці ў пячорах Тарыэла.

Праз цябе свяцілы збляклі, не пазнаць іх аніколі.
Без нажа мяне ты раніш, і няма нідзе мне волі,
Воч тваіх агонь імклівы мне схавацца не дазволіў.
Паварот зрабіла доля; загадаю хіба долі?

Знае бог, што асляпіла ты мяне сваёй красою,
Узняла ты веі-стрэлы і пусціла чарадою.
Як бязлітасна, як хутка быў я спалены табою!
Шляхам пройдзеным прайдуся, не знайду ўжо я спакою.

Уласцівы чалавеку дух самаахвяравання.
Існіне служэнне, праўдзе нам дае выратаванне.
Гора мне: жыццё дарыла толькі ростані, чаканні.
Абяздолены вандроўнік, дзе касцёр твайго кахання?

Сэрца сэрцу не гаворыць, не дыктуеш мне ты ўмовы,
Я душу табе падношу, але нораў твой суровы,
Калі ж ты яе не прымеш, я агню аддаць гатовы,
Не віно, а кроў маю ты п'еш, не кажучы ні слова.

Як міраж — усмешкі жэмчуг і твае рубіны-губы.
Чую, сэрцамі гандлюе нехта перакупшчык грубы,
Свет прадажны, свет фальшывы і маёй жадае згубы,
Кветка радасці марнее, бо не бачу сонца — любай.

Чысцінёй крыштальнай зззяе непаўторны твар жаночы,
Кветкі ружы — твае вусны, бляск гагата — твае вочы,
Сабраць кветкі прыгажосці я не змог ні днём, ні ўночы—
Усё калючкі сустракалі... Згоды, шчасця хто не хоча?

Сэрца, ты не пагасіла, а ўзняло агонь жаданняў,
І цяпер цябе чакае большае выпрабаванне:
Немагчыма дачакацца ад яе выратавання,—
Не дае жанчына-сонца ані промня абяцання.

Разам з розумам забрала маё сэрца мне на мукі,
А маёю ты не стала, і расце журба разлукі,
Сад без ружы абуджае пачуццё адно дакукі,
Сэрца ты маё спаліла — апускаю крылы-рукі.

Салаўі запелі раптам, ажно кроў кіпіць у жылах.
Пышнае цвіценне ружы сэрца зноў разварушыла.
І навошта прыгажосцю ты мяне заваражыла?!
Гора мне: ва ўсім сусвеце ты — адзінае свяціла.

Вяну я, о маё сонца! Без цябе я адзінокі,
Не ссушыла ты ні разу горкіх слёз маіх патокі.
Раз не вернецца ўжо радасць,— кажуць дум маіх
праракі,—
Дык прыходзьце, гора, скруха, я ўжо чую вашы крокі.

## ДЫЯЛОГ

Раз віно шапнула вуснам: «Словамі скажу табе, і...
Ты падобна да рубіну, усхвалю цяпер цябе, і...
Хараство прызнаўшы шчыра, табе выпіць дам сябе, і...
Я запоўню весялосцю сэрца тое, што ў журбе, і...»

І віну сказалі вусны: «Хвалішся ты весялосцю,
Я ж і розуму пазбаўлю закаханага кагосьці,
Упрыгожваю я сэрцы, несучы агонь мілосці,
Ну а яханты, рубіны для мяне — пустое штосьці».

Зноў віно гаворыць вуснам: «Можаш ты прынесці слёзы,
Бо ў каханні ёсць нярэдка і тугі і скрухі дозы.

Я ж прымушу чалавека піць, не быць скупым, цвярозым,
Ён са мною неразлучны, аж пакуль не страціць розум».

І віну сказалі вусны: «Ап'яняеш чалавека,
Пець яго ты прымушаеш... Пацяшаешся са здзеку.
За мяне ж ідуць на згубу — у агонь, у горы, ў рэкі.
Там, дзе я, табе не месца, так было яно спрадвеку».

І віно сказала: «Праўда,— пацяшаюся я светам,
Ды мяне, павер, наўрад ці вінаваціць можна ў гэтым,
Як зайграю я пунцова — і (не будзе тут сакрэтам)
Прагнуць вочы, прагнуць сэрцы падысці бліжэй да
мэты».

Вусны кажуць: «Праўды ў гэтым, разумею, ёсць нямала,
Толькі ты ці не са мною сябе дзёрзка параўнала?!
Уласцівасцей маіх ты проста, думаю, не знала,
Дый сама я не адразу іх адкрыла, іх спазнала.

Ў белым келіху іграе колер твой чырвоны гожа.
Толькі ён з маёй усмешкай параўнацца хіба можа?!
Вакол жэмчугу рубіны — чым мяне ты ўзброіў, божа! —
Як раскрыюцца гулліва — ўсё усмешка пераможа.

## ДЗЕ З ЁЙ СОНЦУ ПАРАЎНАЦЦА!

Дзе з ёй сонцу параўнацца! Вось яно ўжо цьмяна
свеціць,
Поўня дык зусім дарэмна поспех мае на прыкмеце,
Шчочкам любае ў рабыні не падыдзе ружа ў цвеце,
Я напоўнены любоўю для яе, адной на свеце.

Больш нідзе няма на свеце гэткай яркай прыгажосці,
Поўня ўбачыла цябе — і стала ўшчэрбнаю ад злосці.
Скруха, боль, агонь разлукі — ўсё няпрошаныя госці.
Я згараю з ношай страсці, мне ніхто не пазайздросціць.

Броваў чорны лук мне ў сэрца заганяе стрэлы веяў,
Вецер часу — быстры, вольны — цяжкай скрухі не
развеяў.

З-за красы тваёй чароўнай ружа слаба ружавее,
Па тваёй віне і поўня, ўся змарнелая, сівее.

Я красы такой не бачыў больш нідзе, ні ў якай далі,
Ад яе ў каменным сэрцы іскры мігам запалалі.
«Хто яна, калі не сонца?» — ўсе пра любую пыталі.
Я адказваў: «Ёй нябёсы велічным палацам сталі».

Пра яе, як пра свяціла, марыць неба калясніца;
Хто жыве на белым свеце, ёй павінен пакланіцца.
Як параніла мне сэрца — у вачах стаіць і сніцца,
Пастаянна ап'яняе страсці чыстая крыніца.

Салавей, што страціў розум з-за такой пяшчотнай ружы,
Дзе б ні быў, а ён спявае, песняй кліча, песняй служыць,
Песняй песціць несупынна, і душой над ружай кружыць,
Покуль ружа не завяне, покуль сам не занядужыць.

## РУЖЫ-ВУСНЫ ЗАХАЦЕЛІ...

Ружы-вусны захацелі выпіць кроў маю нарэшце.
Стогн мой цяжкі: «Ружы-вусны, без нажа мяне не
рэжце!»
Нож алмазны маё сэрца рэжа — вы сябе суцешце.
Я гаротнік, ружы-вусны,— гэтым вы сябе пацешце.

Салаўя ніхто не бачыў па-над ружаю калючай?
Ён крычыць, як звар'яцелы, ёю зранены балюча,
Стогне над сваёй забойцай — як над доляй немінучай,
«Нелюбімы я, забыты!..» — скардзіцца душой кіпучай.

Салавей, цябе ўсе бачаць, ты — жыццёвая ахвяра,
Ты ў калючках, ты бяздомны, над табой — страхою —
хмара,

Адкрываеш нам ты сэрца, у якім надзея, мара
І любоў крывёй сыходзяць, ты — пакутнік з добрым
дарам.

Сэрца вязня не пазбегла, каб не быць кап'ём
праткнутым,
Каб не піць бесперапынна чашу жалю і пакуты,
Каб не ведаць ран і лекаў, гэтых «каб» усёй атруты.
Як дагэтуль і жыву я, ў ланцугі нягод закуты?!

Сэрцу вязня — канавое: назаўжды скарыцца скрусе,
Што ад коп'яў ёсць ратунак, спадзявацца не бяруся.
Слёз патокі ўжо віруюць — я слязамі наталюся;
Калі здрадзіла мне радасць, у слязах я утаплюся.

Гэты свет і час праклятыя лёс мой кінулі на вецер,
Бед, няўдач маіх не зможа аніхто злічыць на свеце.
А рубінавая ружа дагарыць у пышным цвеце,—
Хоць на дзень, цябе малю я, стань маёй, пакуль ты
ў леце.

О змякчы агню паланне, сэрца,— не распальвай болей,
А іначай давядзецца мне спазнаць міджнура долю.
Сам не свой я: коп'і веяў назаўжды забралі волю,
У адчаі паўтараю: чым жа смагу я спатолю?

І чаму кінжал алмазны не спыняе вязню сэрца?
Страсць нязбыўнага кахання перайшла ў чаканне
смерці,
Не схаваўся я ў пустыні, не ўдаецца і памерці,
Думкі, быццам верацёны, кружацца, бягуць, як чэрці.

Рады стаць рабом я верным вам, какетлівыя вочы,
«Мы не хочам» — вы сказалі, абярнуўшы дні ўсе ў ночы.
І даўно гатовы ўпасці я да мілых ног жаночых,
Не дазволіш — дай прыпасці слоў губамі хоць аднойчы.

Чорны лук чароўных броваў трапна стрэлы выпускае:
Ад каханай смерць — раскоша,— сэрца ўжо крывёй
сцякае.

Ад святла маёй каханай поўня гасне і знікае.
Мудрацы, што маўчыцё вы? Гляньце, прыгажосць якая!

Вусны — ружы, зубкі — жэмчуг, дух займаюць стан
і плечы,
Воч азёры з неба ўпалі — ім зайздросціць зорны вечар.
Сонейку яна падтрымка,— так святло яе дарэчы,
А мяне ж яна знішчае, не жадаючы сустрэчы.

З кіпарысам параўнайце стан яе, усе паэты.
Як маланка, яе ўсмешка асляпляе вочы свету.
Напісаў ёй. Адказала: «Як асмеліўся на гэта!»
Сэрца, змоўкні ты ў пустыні,— не дайсці табе да мэты.

Сонцу роўная, яна мне за ляноту не даруе:
Усхваляць я ленаваўся тую, што сабой чаруе.
Чым жа большым адкупіцца — ёй жыццё я ахвярую.
Мо тады хоць пашкадуе, як ад роспачы згару я.

Гіну я, таму што промні сталі сілаю страшэннай,
Абярнулася ў маланку ўсмешка любае праменнай,
Ёй аддаў рукою лёсу сэрца з хуткасцю імгненнай,—
І спакой, і розум трачу з-за красы яе нятленнай.

Жыць асуджаны ў пакутах гэтым светам я каварным,
Ён мяне пазбавіў шчасця, ён зрабіў жыццё кашмарным,
Ад віна яно на хвілю мне здавалася бясхмарным,—
Аказалася бясплодным, апустошаным і марным.

Сэрцу час прыносіць толькі беды і расчараванні.
Дзе адкрылі коп'і раны, там адно агню паланне,
Шчыт алмазны не ўратуе ад няўмольнага кахання.
Ты — чысцейшая за поўню: плям не бачу — толькі
ззянне.

* * *

Не паспеў мне надакучыць традыцыйны клопат гэты.
Сэрца мудрасць паказаўшы, дасягнуў, здаецца, мэты.
Людзі славяць Руставелі і пісьма яго сакрэты.
Верш мой, лёгкі, мілагучны, будзь увагаю сустрэты.

Хоць і скончылася кніга, з ёю звязаны я крэўна.
Быць з народам гэта кніга заслугоўвае, напэўна,
Хай у сэрцах закаханых загучыць яна напеўна,
Хай жыве яна шчасліва, пасярод царыц — царэўна.

## ПАПРОК СВЕТУ ГЭТАМУ

Божа існы, паўнаўладны у сусвеце, у прасторы,
Ты ўсяму-ўсяму зямному і пачатак, і апора,
Д'яблаў безліч ты кідаеш ці не ў вогненнае мора,
За грахі ты свет караеш, ды не зычыш людзям гора.

Ад рабоў сваіх усюды славу чуеш, усхваленне,
Ад цябе ў няспынным руху усялякае стварэнне,
Чалавека адарыў ты духам, прагай ачышчэння,
Над часовым, над смяротным ёсць высокае памкненне.

Да таго прымкні, о дух мой, хто даў плоць табе,
аснову,

Знай, пякельныя пакуты пераджыць я не гатовы,
Змый грахі мае слязамі — вось адзіная умова,—
А інакш мяне асудзіць непазбежны суд суровы.

Хай жа льюцца слёз патокі, каб не зведаць долі злое,
Каб нябачны той нячысцік не адолеў нас з табою,

Каб пасля не захлынацца нам гарачаю смалою;
Лёгка, зрэшты, спакушацца, толькі шчасце ў тым малое.

Гневу я твайго баюся, твайго, божа, пакарання,
Адвядзі удар маланкі, уратуй жа ад згарання,
Дух за правіла прымае вечны рух да пакаяння,
Жыць праўдзіва, жыць прыгожа, не шкадуючы старання.

Грэшнік, думаю бясконца, ад грахоў як адкупіцца,
Перамогай над спакусай не магу я пахваліцца,
Слёзы з воч маіх павінны дзень і ноч ракою ліцца.
Што зямельцы замінае пада мною праваліцца?

Радасці душа не мае, я заўжды сумненнем скуты,
Канавое майму сэрцу — вострае кап'ё пакуты,
Дзень і ноч гатоў маліцца, каб мой голас быў пачуты,
І насіць жалобны колер — сімвал невымоўнай смуты.

Для маёй душы ранімай — гэткая цяжкáя доля:
То пячэ жыццё, то студзіць, прыбаўляе толькі болю.
Дактароў збяру і лекі, а хваробы не адолю...
Збегчы б некуды ў пустыню ад людзей, абы на волю!

І чаму, душа мая, ты прадаўжаеш існаванне?
Забяспечваеш ты ганьбу і павольнае згаранне.
Хмары, хмары засланілі наша сонечнае ранне.
Кіньма гэты свет прадажны — будзем мецць выратаванне.

Многа клопату зямнога, мітусні ўсялякай многа.
Ад дабра ўсяго адмоўся у імя святога бога,
Паслужы яму ўсім сэрцам — будзе светлаю дарога,
А інакай, а інакай не ўцячы ад кары строгай.

Гэты свет для ўсіх заўсёды напачатку быў прынадай,
Мы яму, нібы любімай, давяраецца дужа рады,
Толькі тут як тут адплата — непрыязь ідзе і здрада,
Асуджаю ўсіх, хто кажа свету гэтаму тырады.

Хто, скажыце, ў гэтым свеце шчасце, волю меў да скону?
У каго былі палацы, хто трымаўся моцна трону,
Галаву з таго здымалі, разумеецца, з каронай...
Кінь, душа мая, свет гэты, пойдзем з гэтага палону!

Падвяргаюцца крушэнню нашы добрыя надзеі:
Свет падманны, вераломны, і яго ліхія дзеі,
А паколькі час наземны гэткі хісткі, ненадзейны,
Хай жа радасці пустыя нас мінаюць, дабрадзеі.

Ўсё ілюзія дастатку — землі, пышныя палацы.
Прагне дух мой пакаяння — з плоццю прыйдзецца
змагацца:
Плоць не хоча, плоць не можа лёгка падпарадкавацца.
Ды няўжо душа павінна вечна ў путах аставацца?!

Я пустых забаў не слаўлю, знайце слова маё, людзі.
Прыйдзе ж некалі месія, а ён грэшнікаў асудзіць,
На каго ўжо спадзявацца, што рабіць тады мы будзем?
Хай жа голас майго сэрца шматграхоўны свет абудзіць!

Свет не вычарпаў каварстваў, мне падносіць іх
з ахвотай,
Напаіў смяротным зеллем непрыкметна ўсё, употай,
І мяне шпурнуў у бездань, дзе, вядома, іл, балота,
Даў мне саван,— і давольны гэтай споўненай работай...

Адрачыся непахісна ад спакусы ад ліпучай —
І не зведаеш ты кары, вогненнай смалы кіпучай;
Хіба ж я адзін, о людзі, тут у роспачы пякучай?!
Гэты свет, атруты поўны, расчаруе немінуча;

Мы яму аддана служым, іншы раз — самаахвярна,
Нас, прыручаных, ён лашчыць, хітры, як ліса, каварны,
Потым здрадай нечаканай кіне сэрца ў вір кашмарны,
«Свету нельга давярацца»,— продкам сказана не марна.

Грэх мой часу не пакінуў мне для пакаяння, божа,
І ляжыць на мне нязбаўна і журбы і скрухі ноша:
Як душа пакіне цела, што з душою стацца можа?
Пад агнём і вострым мечам ёй у пекле хто паможа?

Свет пракляты, бездухоўны, ты раскаяцца прымусіў,
Мне не пеў ты калыханкі, сон забраў, кажу я ў скрусе.
А народу Ізраіля з неба манну бог цярусіў
І старому Іакіму, Ганне шчасце даў чамусьці.

Каб не даў душы загінуць, бога я прашу мальбою,
Хай усе загоіць раны, вераю натхніць святою.
Нехта мучыцца на свеце, заўважаю я з журбою,
Нехта ж век палёгку мае і здаволены сабою.

Толькі розум і сумленне прынясуць душы збавенне.
Непакорлівую Еву загубіла спакушэнне,
Завядзе, напэўна, ў пекла забароны парушэнне,
Той, хто ў рай папасці хоча, дбае хай пра ачышчэнне.

Трыадзінага усхвалім, дар яго непараўнаны,
Ён стварыў зямлю і неба, недасяжны і жаданы,
Фараона гнеў асудзім і свае залечым раны,
Ці ж не радасці зямныя для душы няслі кайданы?!

Маці боская, ты — сонца з яснай гэтай вышынёю!
Бога ў лона прыняла ты і асталася святою,
Людзі дыхаюць тваёю неўміручай чысцінёю,
Дай збавенне хрысціянам верай, праўдаю сваёю!

# Арчыл II

## ЗВЫЧАІ ГРУЗІІ

Шчодры божа, міласэрны да пакутных і праўдзівых,
Ты вялікі ў трыадзінстве і па-боску ў ім адзіны,
Ахінуўся нашай плоццю, нашай сутнасцю радзіннай,
Гнеў здымаеш літасціва з тых, што ўпоцемку блудзілі.

Ты апора чалавеку, вучыш, як бяды пазбыцца,
Робіш слабага ты моцным, велікана палахліўцам,
Ты бяздольнага ўзвышаеш і кідаеш ніц пыхліўца,
Прымушаеш бруд у жэмчуг, зло ў дабро ператварыцца.

Расказаць хачу я, колькі маюць звычаяў грузіны,
І вайсковых, і царкоўных, колькі ўцех нам лёс пакінуў,
Баявых і паляўнічых колькі ёсць прыкмет старынных,
Колькі правілаў па службе на зубок мы знаць павінны.

Бога ўспомнім напачатку і ў канцы маліцца будзем.
Слоў падманных і атрутных не скажу я, верце, людзі!
Можа, Астрахань вясною яшчэ лепшыя абудзіць
Ці з царом Русі сустрэча новым сказам ляжа ў грудзі.

Добра ў гурт ісці сяброўскі, паспрыяць адзін другому,—
Гэта ў радасці і ў смутку ўцешна нораву любому.
Слодыч лёгкая спатканняў не псуе жыцця нікому:
Нават тым прамень засвеціць, хто, як ноч, выходзіў
з дому.

Хто праславіцца жадае — спосаб ёсць і ёсць удача:
Лук бяры, стралу да цэлі вышлі позіркам юначым,
Ці імчыся праз бар'еры на сваім кані гарачым,
Ці ў галопе віхралётным адбівай ракеткай мячык.

Спеў і вершаў насалода — для душы занятак чынны,
Наш закон і абавязак — быць і шчодрым і гасцінным,
Мілагучны голас добры, калі ён з душой адзіны,
Піць віно з сабой сам-насам — звычка, вартая скацiны.

А жаночы абавязак — пасадзіць, хто ў дом прыходзіць,
Стол прысмакамі аздобіць (і віно пры іх не шкодзіць).
Хай па вэнджанай лапатцы нож смычком напеў
выводзіць,—
Тут ёсць спосабаў не меней, чым бывае дзён у годзе.

Сам жартуй і не крыўдуйся, як падчэпяць эпіграмай,
Злосць хаваць, маўчаць зацята — то адказ найгоршы
самы.
Ці не лепш адпрэчыць крыўду — гэту ў посным целе
даму —
Пераклічкаю экспромтаў і гульні вясёлай гамай.

Шмат музычных інструментаў, ды ў аркестры іх
суладдзе,
Скокі, танцы — кожны мае ўласны нораў у паглядзе.
Есці ўсмак і піць умела — гэта ўсё ў тваёй уладзе.
За дзвярыма тых пахмелле, хто на стол з нагамі сядзе.

Апранайся, абувайся, каб вачэй не выеў сорам:
Прымацуй на пояс ножны, а на боты хопіць шпораў.
Карыстайся кожнай рэччу, і прыладаю, і ўборам
Асцярожна і з любоўю, каб служылі бездакорна.

Конюх, коннік, конны воін — кожны мае свой занятак.
Ёсць мастацтва дрэсіроўкі: навучыць лаўцоў крылатых

І пайсці на паляванне. Быць сакольнічым заўзятым —
Ганарова, як і зайца, весці з гончым памагатым.

Разбірацца ў конях, птушках ды і выжлах — звычай
варты.

Я дзялю яго на часткі, пералічваю не жартам:
Беручы адно, другое не бярэ вар'ят упарты,
І таму не выпадае мне яго зваць воем гарту.

Прашываць стралой мішэні і гуляць з мячом на полі,
Асядлаўшы хуткіх коней,— не пашкодзіць вам ніколі.
А цяпер занятак новы прызвычаіўся найболей:
Трапна біць — пяшком і конна — і са стрэльбы, і з
пістолі.

У вадзе трымайся рыбай, кіраваць вучыся лодкай —
З ёю да вады вялікай будзе шлях заўжды кароткі.
Берагі яднае лодка — і мастом і кладкай ходкай.
А плывец — ізноў тапельцу дасць пабачыць дзень
зіхоткі.

Галасіць, жалобу несці — звычай новы і няпэўны:
Колькі з мёртвага карысці, калі жыў твой брат
нікчэмна...
Хісткі слёзны мост, няцвёрды. Ды калі ўжо ты нязменна
Год пасціш, не знаеш мяса — як тады з пахтою
пеннай?..

Гульні ў шахматы і нарды — добры спосаб ад самоты,
Учыніць гармідар лахты і падужацца ў ахвоту,
Скокнуць дальш і камень кінуць,— сродкаў шмат
супроць ляноты,
А забаўнік добрым жартам развяселіць адзіноту.

Спрыту ўрок Прыдон засведчыў — акрабат між
акрабатаў:
Тарыэлу з Аўтандзілам паказаў ён зухавата,

Як у крэпасць перабрацца па спяжыначчы каната...
Так заўжды паможа людзям той, хто вопытам багаты.

Давялося нам пабачыць, як індус цераз вярблюдаў —
А было іх аж чатыры — пераскокваў нейкім цудам
Ды яшчэ ў палёце сальта ён рабіў. А потым люду
Паказаў палёт над строем з шабель востраю запрудай.

Прабягаў ён па вяроўцы, што ў руках трымалі двое,
Праз абруч з нажамі ў цэнтры і не раніўся ніколі,
Закладаў за шыю ногі, на руках ішоў паволі,—
І лунала захапленне: дзіва дзіўнае якое!

Ды яшчэ не ўсё: кінжал ён мацаваў лязом угору,
Цемем да яго лажыўся і выскокваў, нібы корак,
Твар праносіў над кінжалам і на ім рабіў апору
Падбародкам. І не слухаў, як натоўп жахаўся хорам.

Бервяно трымаў зубамі, што й шасцёра ўзняць не могуць,
Клаў на грудзі столькі дошак, што й валам падкосіць
ногі,
І ляжаў на вострых коп'ях без усякай асцярогі,
А ў дадатак плыў па сушы,— словам, цудаў знаў ён
многа.

Юнакі жадалі нашы: «Вось бы нам так навучыцца,
Спрыт ягоны рассакрэціць, гэтак целам налаўчыцца...»
Ды сказаў смуглявец гэтак: «Не магу, на жаль, спыніцца:
Паказаць сваё майстэрства я хачу ва ўсіх сталіцах».

Каб спусціць ваду і рыбы налавіць на мелкім плёсе,
Ці на бусла з паляваннем ястрабіным выйсці ўвосень,
Ці выжлятнікаў нацкоўваць і пускаць па следзе
ўроссып,—
Гэта звычай для пасмеху, тут і ў дурня клёку досыць...

След чытаць, нібыта кнігу, перапёлку і фазана
Свістам зманлівым завабіць, качак высачыць
старанна,—

Гэта ўмець павінен лоўчы. І са спрату нечакана
Ўзняць драпежніка на птушку — для забавы
слаўнай пана.

Навастрыць напілкам стрэлы, апярэннем іх аздобіць,
Лук на ўвесь размах нацягваць, а каб зброю не магло
быць,
У калчане трэба стрэлы і ўшчыльніць, і адасобіць,—
Але гэта ўсё не звычай — то з маленства кожны робіць.

Змайстраваць ракетку, мячык, на пляцовачнае ўлонне
Выйсці з ветлівай усмешкай, быццам ты герой сягоння,
Без падмогі рук ускочыць у сядло на ўсім разгоне,
А яшчэ лячыць умейце, даглядаць разумна коней.

Фехтаваць, кап'ём валодаць, калі ты не падшывалец,
Будзь гатоў. Лучнік павінен наканечнік мець на палец
І стралу пускаць, каб рукі да грудзей не ападалі,—
Хто на гэтае не здольны, тых ніколі не пахваляць.

Добра, як сваю кальчугу сам даводзіш ты да ладу,
Хоць без слесара і цяжка — у рыштунку знай парадак.
Каб у бойцы палахлівец свой цывільны страх не згадваў,
Ён вайсковую апратку мець павінен па загаду.

Покуль месяцу на небе сонца дзверы адмыкае,
Добры воін сам збярэцца і каня ўжо асядлае.
Чалавек, увішны змалку, скрозь маруду абганяе —
І на скачках, і ў паходзе хутканогі ўдачу мае.

Разумець пісьмо і ведаць мову іншага народа —
Рамяство высокай пробы і цанілася заўсёды.
Аб краінах дальніх весткі, мудрасць іх збярэ праз годы,
З госцем дасць паразуменне той, хто мовай авалодаў.

Соннік хітры ўмей тлумачыць, прагна ў веды
паглыбляйся,
Слухай іншых, ды пры гэтым сам да сэнсу дабірайся,

З мудрым словам кніг царкоўных, а таксама свецкіх —
райся,
Запявай у хоры, толькі, быццам пеўнік, не крыўляйся.

Знай, што ў пісьменнасці нашай свецкі ёсць і ёсць
царкоўны
Спосаб напісання літар, а паміж выяў галоўных
Не псаваў ніколі кнігу і аздобы лад змястоўны.
Толькі свецкі тэкст уголас не чытай, як малітоўнік.

Разумей глыбіннасць верша, спосаб жартаў лёгкіх ведай,
Будзь паважным, не крыўдлівым па ўсіх правілах бяседы,
Хоць калючы нораў мае — слухай ветліва суседа:
Хоча весці рэй гаворкі — ты ідзі пакуль што следам...

Добры звычай: справядліва рассудзіць людскую спрэчку,
Вылічáць, рахункі весці, іск няправільны адпрэчыць.
На пяску, каменнях, зорках — варажы, рабі засечкі,
Нельга толькі на лапатцы — на свіной ці на авечай...

Быць дарадцам не спяшайся, добра ўзваж навукі слова,
Як людзей знаёміць хочаш — знай абодвух адмыслова,
Перадаць папросяць думку — май дакладнасць тут
паслову,
І ніколі неадкладных спраў назаўтра не адсоўвай.

На турнірах вершатворцаў не загадкамі палоняць,—
Захапляюць мудрым сказам, без абразлівых іроній,
А не гэтак, як нядаўна рыфмаплёт — нібы спрасоння:
Ні спытаць, ні падступіцца, і з парога змрочна гоніць...

Якасць добрая: быць з тайнай абярэжным, нібы з дзіцем,
Слоў не слухаць нагаворных і самому не пладзіць іх.
Хто з даносамі шукае дзверы для сваіх амбіцый —
У мішэнь людскіх насмешак мае шанц ператварыцца.

Той слуга, што таямніцу выдае гаспадарову
Ці намеры раскрывае балбатнёй, нястрымным словам,

Варты, каб яму зняважна ў твар плявалі безгаловы,
Рот замкнулі, перад гэтым вырваўшы язык з асновай.

Працаваць — выдатны звычай і нагляд рабіць за працай,
Вінаград спяліць і помніць: сад павінен абнаўляцца,
Узараць зямлю, засеяць, са жнівом не закапацца,—
Той з дастаткам, хто не зломак і слугу вучыў старацца.

Навучыся чалавека зваць па імені выразна,
Знай прыкметы, каб дарогу і ў туман знайсці адразу;
Рэч старую зноў прыладзіць не лічы сабе абразай,
Знаўцам будзь віна і кухні — для сябе, не па заказу.

Дзверы ўзносяцца высока ў гаспадарскія пакоі,
Ды схіліся пры ўваходзе, а паўзком не лезь ніколі.
Як старэйшы возьме лыжку, пачынаецца застолле,
Ён жа і цара дарункі дзеліць — кожнаму па долі.

Гэткім доўгім пералікам я, напэўна, надакучыў,—
Пацярпі, не марнатраўству кожны верш усё ж мой
вучыць.
Трэба знаць: як стаць, як сесці, гаварыць, а не
канючыць,
Даць і міласціну трэба, каб твой хлеб не быў пякучы.

Хто б ні быў ты, а нягожа, каб табе старэйшы месца
Уступаў. Ты сам старайся, каб ён мог як лепей сесці,
Перад ім устань пачціва, прывітай яго пачэснасць,
Звычку май — не прыніжацца, ды і з пыхаю не лезці.

Калі ўстануць роўных двое прывітаць цябе з пашанай,
Не старайся адцясніць іх, побач сядзь — і не заганна
Будзе гэта, а пахвальна, для сяброў хвалой жаданай.
А яшчэ — танцуй да месца і спявай у час абраны.

Як сядаеш, не закідвай ног — калена за калена,
Памаўчы, калі запоўніш рот кавалкам здаравенным.
Не па густу будзе ежа — то на стол не плюйся з пенай,
А ўстаеш — кіёк не ўскладвай на плячо, нібы палена.

За сталом спіной да сценкі не адвальвайся задужа,
Не крыўляй паставу, бокам не хіліся, як у сцюжу,
І не гніся, як чаканшчык, зрок на ежу не натужвай,
Не ламай у носе палец і не лезь у зубы тут жа.

Гаспадар дае гасцінец — то бяры дзвюма рукамі,
Аддавай аберуч зноў жа: як-ніяк нясеш не камень.
Праваруч узяць што трэба, локаць не круці рыўкамі —
Левую руку працягвай. І падáць — «хада» такая ж.

Ні спіну, ні бок ніколі паказаць не мерся пану,
А нясеш якую вадкасць — не разлі, нясі старанна,
Прыбягай на кліч імгненна — хоць пакліча нечакана,—
Гэта знаць слуга павінен і выконваць пастаянна.

Хто часценька ў рог ці ў кубак зазірае, мочыць вусны,
Хто зубамі побач з панам распачне арэхі лускаць,—
Той псуе настрой і людзям, і цару ён не да густу,
Быццам сын-свавольнік бацьку: з ім і клопатна, і пуста.

Са старэйшым побач сядзеш — не развальвайся капою,
І не стой крыж-накрыж ногі, слуп не абнімай рукою
І на кій не апірайся, не займайся балбатнёю,—
А інакш сябе паводзіць горац, дружны з цемнатою...

Не махай рукамі, ногі прытрымай, калі гаворыш
Ты з царом, па-заліхвацку вус угору не падпорвай,
Рукі долу апусціўшы, прад сабой скрыжуй пакорна,—
Ганарліўца мне выхоўваць — нібы тыгра з хваткай
горнай.

Калі ты ідзеш пыхліва, з фанабэрыяй дваранскай —
Прэч з вачэй маіх, ніколі ты хвалы не ўчуеш царскай,
А ўгаворы не памогуць — дам вярбовую «падмазку»...
Калі ж ты мудрэц дасціпны — ля цара сядай, будзь
ласкаў.

Не кажы тады ні слова, калі бачыш: пан твой сумны,
Памаўчы з ім, стань бязгучны, не засмейся тут бяздумна.

А калі дазволіць смеласць, за вячэраю нятлумнай
Прыгадай няўзнак такое, што цяплом агорне ўтульным.

Калі двое размаўляюць — ці ідуць яны, ці едуць,
А ў твой бок бяруць кірунак,— пачакай ці адпаведна
Сам пайдзі насустрач, толькі не заблытай напаследак
І сябе ў пустую спрэчку: дзень прамелеш — без абеда.

Будзь уважлівы да слова гаспадарскага і помні,
Што наказваў ён, каб справу здзейсніць лепей
і грунтоўней,
Паслухмяны больш карысці прынясе, чым непакорнік,
Забаронным быць павінна, што належыць забароне.

Пан — па-панску размаўляе, у слугі — свая ёсць мова:
Слухаць моўчкі, не спрачацца з воляю гаспадаровай.
І ў старэйшага з малодшым лад гамонкі зноў жа новы,—
Гэта ўсё грузін павінен знаць для службы адмысловай.

Калі пан вядзе гамонку — незалежна, што там будзе:
Ці кароценькая прытча, ці гісторыя аб цудзе,—
Не перабіваць, а слухаць трэба ўсім пачцівым людзям.
Хто ж бясконца назаляе, цар такіх пагардай судзіць.

Нетаропкасць, як і хуткасць — добрыя заўжды па часе:
Канцылярыі начальнік не паспехам месца красіць,
А грунтоўнасцю. І хіба Руставелі сумняваўся,
Калі ён тварыў няспешна, быццам вечнасць у запасе?

Ёсць і «дробязяў» нямала, пра якія ведаць варта.
Не смаркайся прынародна і не плюйся — хоць і жартам.
Не бяжы наперад: будзе ў брудных пырсках гаспадар
твой,
Да багатых незнаёмцаў не хадзі штодзень упарта.

Калі верхам праязджае цар, не кідайся разявай,
Не бяжы цераз дарогу то налева, то направа,

На кані не пніся блізка, абганяць — не маеш права,
І не едзь услед, як войска аглядае цар дзяржавы!

Службаў многа, ды заўсёды ў пана ёсць улік асобы:
Славен той, хто не ляніцца, не кідае недаробак,
Хто загад і днём і ноччу смела выканаць гатоў быў —
А вось тут якраз і хуткасць пану вельмі даспадобы.

Трэба ўмець на службе царскай чуйна спаць і ўміг
прачнуцца,
Набягу не зашпіляцца — трэба дома апрануцца,
На савет у час прыходзіць, недарэкам не цягнуцца
І прысутным паслухмяна ды без лёстак усміхнуцца.

Што б рабіць ні ўздумаў — ведай: кожны ўчынак стане
яўным,
Кожны, нібы свечка ў цемры, бачны—добры і бясслаўны,
Знай, што справе ёсць і момант адпаведны і падстаўны,
І вучыся, як вучу я — быць старанным і цікаўным.

Зробіш тое, што сказаў я,— і пра іншае падбаеш,
Бо разумных павучанняў шмат народ грузінскі мае;
Штосьці цемра ахінала, ды святло перамагае,
І ў змаганні з боскай сілай нораў д'ябальскі канае.

Шмат пра звычаі сказаў я падрабязна і тактоўна,
Бо не ўсе іх добра знаюць, а найболей — павярхоўна.
Толькі той не падуладны злу, хто сэнс жыцця галоўны
Ўзяў са звычаяў, а іншы — жалю варты, безумоўна.

Шлях да мудрасці і ведаў хай настаўнік не ўскладняе,
Выхаванцам паступова сэнс навукі адкрывае,
Захапіўшыся вучэннем, хай абед не забывае
І няспешна плён вялікі з дробных зернятак збірае.

Калі з богам размаўляеш, небу шлеш малітвы слова,
Не хваліся гэтым, тайну ад людскіх вачэй ахоўвай,

Прыпадай душой і сэрцам моўчкі да святой асновы,
За малітву для паказу пакарае бог сурова.

Мужнасць, шчодрасць і гасціннасць — рысы, вартыя
грузіна,
Не вымольвай царскай ласкі,— помні: гэта не даніна,
З тым, хто верны клятве, слава размінуцца не павінна,
Хто заўжды па-боску служыць, цар аддзячыць лепшым
чынам.

Каб даваць каманды войску, не пашкодзіць голас зычны,
Ды найперш будзь асцярожны і загад цара улічвай,
Дзе няма гіены, стане кот галоўным паляўнічым;
Быць наперадзе ў атацы — воіна нязменны звычай.

Добра ўсіх умей расставіць і ўлічыць на паляванні:
Конь адзін рахмана пойдзе, іншы — дыбам тут жа
стане,—
Павады прыладзь для лесу, і для поля, і для стайні,
А найлепей — у расказах будзь праўдзівы па вяртанні.

Гэткі звычай у пашане, калі знаць усё імкнешся,
Ды па месяцу надвор'е прадказаць — пустая песня.
Той на гульні спец, а гэты — бондар, лыжачнік і цесля,
Ды найлепшы звычай — злосці не таіць у сэрцы цесным.

Можа з мудрасцю зраўняцца толькі мудрасць, і насенне
Дасць плады, не змерзне крона, і не высахне карэнне,
Мудрасць—вечны твой спажытак, на дарогу блаславенне,
Возьме смерць усё, а з ёю пройдзеш ты праз пакаленні.

Невук прэцца без аглядкі і нахабствам вымагае,
Толькі ў справе ён заўсёды, як падсечаны, кульгае,
То з ухмылкай, то са словам ён наперад выбягае,
А дурнота, як ні пнецца, з ім упоручкі сігае.

Мудрасць — скарб твой найвышэйшы, хоць і іншае не
ўлішак:
Байку збаіць, скласці казку, што на добры сон калыша.
Толькі хопіць мне пра мудрасць — рэштку іншыя
дапішуць,
Ну а хто спрачацца хоча — Мамука таго прыцішыць.

Чэзнуць звычаі з прычыны то нядужасці, то згону,
А без іх, як без рыштунку ты ў баі: безабаронны.
Толькі мудрасць застаецца назаўсёды ззяць—да скону.
Як і грэх—жывы ці ўяўны—ён з табою горкім плёнам.

Ёсць дастатак — не скупіся, а прасіць тут — чысты
сорам.
Там, дзе конна мяч ганяюць, што́ пяшком скакаць да
зморы?
Зрок аслаб — павесь на сценку лук, што славу знаў
учора...
Толькі з мудрасцю не будзеш знаць ні клопату, ні гора.

Я лічу: каня не маеш — не рабі, што робіць конны,
Не каваль — дык без умельства не ўчыняй кувалдай
звону,
Лепей богу памаліся і прасі яго да скону,
Каб вучыў ён і таланіў, не кідаў без абароны.

І такі мудрэц бывае, што размоўцу не знаходзіць,
Што, маўляў, няма дастойных... Я скажу: крыўляцца
годзе,
Маеш розум, дык успомні, хто ў сусвеце зоркі водзіць,—
Перад ім суняць зазнайства, пэўна, кожнаму не шкодзіць.

Хто ўнікае спраў духоўных — д'яблу лёгкая спажыва:
Ён акруціць, звабіць мігам, павядзе смыкам па жылах,
А пасля ўсявышні гнеўна пакарае злую сілу
І ў грахоўніка не будзе, каб узняцца з пекла, крылаў.

І няўжо не зразумела: д'яблу мы і тут патрэбны,
На зямлі, каб з нас смяяцца, ганьбаваць нас перад
небам,—
І нічога не дасягнем мы з яго грахоўным хлебам...
Калі я кажу няпраўду — то з-пад ног хай знікне глеба.

І не бачыце вы хіба, колькі ў свеце злых варункаў,
Колькі здрад, ілжывых клятваў і прадажных
пацалункаў?
Божы страх, куды зляцеў ты, і ў якім, скажы, кірунку?
Ці канец прыходзіць свету, каб падвесці зла рахункі?

Мудрасць моцная, якую даў настаўнік з юных летаў —
У таго, хто ў тройцу верыць, а не ў знакі Магамета,
Толькі з ёй юнак адкрые для сябе сакрэты свету
І не стане, як паганец, верыць зманным запаветам.

А настаўніка не знойдзе — хай бярэ юнак пісанне
І да сутнасці свяшчэннай дойдзе ўніклівым чытаннем,
Прывядзе заўжды да сэнсу карпатлівае старанне,
З ім адкрыюцца шляхі ўсе да загадкавых пытанняў.

Не падумайце, што стаўлю я сябе мудрэйшым з мудрых,
І настаўніка не меў я,— толькі веды браў не цудам,
А з свяшчэнных кніг, якія адкрываюць вочы люду.
Запавет — вучыцца век свой — я ніколі не забуду.

Мудрацоў святых пісанне — наша крэпасць, дух
і слыннасць,
Сцены ў ёй з каштоўных камняў — без адзінае цагліны,
І заве яна: «У царстве божым знойдзеш супачынак,—
Хіба ж радасць, хіба шчасце ў мітусні зямной,
хвіліннай?..»

Слова мудрых не даецца задавакам і лянівым,
Пастарайся зразумець іх — і дурное ўсё імкліва
Адляціць з каварствам разам, з крывадушшам і гуллівай
Маскай рытараў, што сеюць зелле зла на боскіх нівах.

Ёсць у справах дасканаласць, толькі ў мудрасці—ніколі,
Многае надакучае, а яна — вальней, чым воля,
На святой гары ці грэшнай з ёй шукае кожны долю,
Дасканаласці ж вяршыню тут нікому не адолець.

Мудрасць сэрцу чалавека прынясе агонь любові
Да ўсявышняга, і кожны з ёй цару — і сын, і воін.
Мудрасць праўду абароніць і расправіцца з маною,
Спыніць смуту,—і не ўздумай мудрасць высмеяць парою.

Мудрасць боскія пачаткі пакладзе вянцом галоўным,
Богу верны не шукае іншых ідалаў духоўных,
Мудрасць змрок таму развее, хто ступіў на шлях
грахоўны,
З ёю знак: на зло — адмоўны, а на добрае — ахоўны.

Мудрасць невука навучыць, а лянiўцу дасць памкненне,
Да стралы жаданняў боскіх прымацуе апярэннем,
Бедаку ў нязводным горы прынясе супакаенне.
А хто з мудрасцю не ў ладзе, знойдзе толькі
знеслаўленне.

Грэшнага скіруе мудрасць на свядомую дарогу,
Пройдзе ён усе спакусы, каб вярнуцца зноў да бога,
Дасць — нябачнага — пабачыць, недасяжнага, жывога,
Чэрпаць ісціну не жменькай—піць з калодзежа святога.

Баязліўца падбадзёрыць, духам слабага ўмацуе,
Злапыхліўца ўціхамірыць, неразумнага ўратуе.
Мудрасць — мудрага узвысіць, а старога не зблазнуе,
Смутак сумнага развее і нябогу пашкадуе.

Побач з бліжняга любоўю мудрасць сілы набірае,
Больш не будзе ганарліўцам, хто душой яе спазнае;
У ілжывага на слова мудрасць мову адымае,
А з любоўю да падростка ўсе дурноты выганяе.

Мудрасць трапіўшаму ў беды зніме з дум цяжару камень,
На нагах паслабіць путы, хто аблытаны грахамі,
З ёй і цела гоіць раны, і на душах боль сціхае,—
Добрых якасцей не злічыш, што людская мудрасць мае.

І яшчэ скажу: хай мудрасць будзе богу паслухмянай,
Хто ж без гэтага мудруе — д'яблаў выкармыш аддааны.
Мудрасцю Хрыста твой розум будзе хай загартаваны,
А інакш табе Мамона, бог раскошы, стане панам.

Не падумай, што я супраць радасцей жыцця зямнога,—
Жонка, дзеці, дом, радзіма,— гэта ўсё ў людзей ад бога.
Аўраам таксама ў свеце не цураўся анічога,
Ды ўсявышніх запаветаў ён заўжды трымаўся строга.

Толькі праўдаю рабіце ўсё зямное, без абману,
І да светлых спраў бяжыце ўсе ад кепскіх спраў,
паганых.
Ёсць няўжо карысць, скажыце, у хвальботах
пастаянных?..
За правіны ўсе адкажуць, як на суд на страшны
ўстануць.

І ніхто пакуль не знае, што наступны міг прыносіць,
Чым парадуе світанне, дзень спякотны, вечар росны,
Што нам ткуць душы блуканні: ка́ру ці надзеі кросны,
Смутак вечны і жалобу ці ў нас радасць будзе госцяй?

Вось таму і слаўлю мудрасць, аднаго душой жадаю,
Каб усё аддаць, што вопыт для мяне адкрыў з гадамі.
Ды і іншым буду раіць: мудрасць хай вас не кідае,
Бо шляхоў у гэтым свеце шмат з ілжывымі слядамі.

Трыста шэсцьдзесят пяць правіл, мудрых звычаяў і
звычак,
Ды з умельствамі рамёстваў ёсць у Грузіі,— так лічаць,
А з прыдбанымі — пяць тысяч,— пэўна, не пераялічу,
То найперш свае засвоіць я ўвесь час цярпліва зычыў.

Толькі розум чалавека можа ўсіх зямель абсягі
І глыбіні акіянаў змерыць з неадольнай прагай;
Толькі той, хто свет аб'едзе, вывучыць усё з увагай,
Той і ў звычаях народаў мой рахунак перацягне.

Не шукайце ж апраўданняў, што настаўніка не мелі,
Каб па звычаях народных гартаваць і дух і цела,—
Вось цяпер ён перад вамі — гэта кніга, што паспела
Расказаць усё, што знаў я, каб душой вы не чарсцвелі!

## АБ ВАСЬМІ ЧАСТКАХ ЧАЛАВЕЧАГА ЦЕЛА

Расказаць яшчэ мне трэба, як сябе ў жыцці паводзяць
Вочы, нос, язык і вушы, рукі, ногі, рот, а ў згодзе
Як усіх трымае сэрца, як на службе верхаводзіць,—
Коратка скажу, не ўсцешу тых, хто гне сп'яна абоддзе.

Ад каханай адвярнуцца не прымусіш, бо не хочуць —
Ці напоўненыя шчасцем, ці слязою горкай — вочы;
А яе парфумы водар нос лавіць заўжды ахвочы,
Без яе ўздыхае цяжка — удаўцом у цемры ночы.

На благое слепнуць вочы, невідушчымі бываюць
І любуюцца нявартым, як бяздумна пакахаюць.
І дарма вучыць іх будзеш — словам не пераканаеш,
Лепш маўчы, бо не паверацъ, покуль самі ўсё не
ўзнаюць.

Вушы — дзверы і прытулак для прамоўленага слова.
У адных яны адкрыцца толькі мудрасці гатовы,
У другіх — ад праўды будуць на запорах адмысловых,
А ману і плёткі ловяць, быццам птушак злых, на сховы.

Што рабіць тут слову праўды, калі ў дзверы не пускаюць,
А мяцеліца віруе, люты холад заціскае,—
Ці самому стаць прадажным і кінуць у праўду камень,
Ці праклясці тое вуха, што прадажны шлях шукае?!

Ты знайсці павінен слова ўсім належнае, як плату:
Простым — простае, а мудрым — што займела змест
багаты.
Сталым сталую дай ежу, малако дай немаўлятам,—
Так рабіў апостал Павел, так і ты рабі заўзята.

Мудрасць кажа: май двайныя вушы, а язык адзіны,—
Гэта будзе раўназначна аж траім дзвярам — з прычыны,
Што ўдвая пачуеш болей, да таго ж язык няспынна
Гаварыць адзін не зможа — пойдзе ў час на адпачынак.

Мудраму язык належыць — будзе лепш усякіх лекаў:
Ён заўсёды знойдзе словы, каб суцешыць чалавека —
Ці малое немаўлятка, ці зусім старога векам,—
Нельга ўсіх вучыць адразу, як імкнецца прастарэка.

Нельга ўсіх адным лякарствам ад усіх хвароб вылечваць:
Аднаму патрэбен цукар, а другому яд дарэчы,
Гэты — вільгаць паважае, той — сухмень, нібы на печы,
І напітак весялосці — ёсць юначы і старэчы.

Не прыродаю даецца языку яхіднасць злая...
Толькі добрую навуку лепш няхай ён спасцігае,
А як трэба, дык і строгасць для дзяцей нядбалых мае,—
У жыцці не будзе лішняй языку навука тая.

Вось адна бяда бывае, як язык сустрэне часам
Чалавека, для якога — ці ты словамі з прыкрасай,
Нібы цукрам, сып, ці шабляй секані — а ён абцасам
Стопча ўсё,— такі не чуе, бо з душою, як з матрацам.

Рот — найперпгы дэгустатар, сам на смак усё спрабуе:
Аднаму падай з гарчынкай, той — з кіслінкай патрабуе,

Хто салодкае, хто з перцам, хто з укропам аблюбуе,—
За сталом такі парадак: кожны хай сваё смакуе.

Ногі добрыя не будуць з кожным крокам спатыкацца,
Не вядуць туды, дзе можна і зусім без ног застацца
Ці ў мярэчы заблудзіцца, потым з гвалтам выбірацца,—
Ногі шлях шукаюць роўны, каб няўцямна не віхляцца.

Ногі слаўныя, што хутка на падмогу прыбягаюць,
Справу добрую дагоняць, а ад кепскай — уцякаюць,
І стаяць на боскай глебе цвёрда, здрады не шукаюць,
Па-аслінаму наўкола капытамі не брыкаюць.

Многа вартых спраў на свеце, што рукам здзяйсняць пад
сілу:
Рамяство, мастацтва, вершы,— рукі ўсюды, быццам
крылы.
Працаваць, маліцца небу, каб надзею не губіла,
Не паказваць дабрачыннасць і грахам капаць магілу.

Той руцэ заўсёды гонар, што не ўзяць, а даць імкнецца,
І дае не дзеля пыхі, а з адкрытым, шчырым сэрцам,
Служыць розуму старанна, не бунтуе ў паняверцы,
Кнігі мудрыя гартае, дзе святым хвала пяецца.

Сэрца — вось хто цар над целам: над усім і кожнай
часткай,
Без яго — усё змярцвела б, стала б масаю груваасткай,
Бессэнсоўнай і халоднай,—ды і хто, скажы, будзь ласкаў,
Слодычы тады б і гора выдаваў табе па-царску?

Не далічыцца, бывае, сэрца часткі — засмуткуе:
Без вачэй не бачыць сэрца, без вушэй яно не чуе,
Не заменіць ног рукамі... І калі чаго бракуе —
Можна неяк жыць, ды сэрца страту вечна помніць тую.

Часткі ўсе — рабы і слугі, а найперш для сэрца — дзеці,
І яно іх паяднала, каб тварыць дабро на свеце;
Сэрцу праведнаму толькі сэнсам дадзена сагрэць іх,
Напаіць з крыніцы мудрай, ласкай боскаю прывеціць.

Узнясе высока рукі, прыкуе да неба вочы,
Ногі схіліць у малітве, языку і ўдзень і ўночы
Слова дасць уславіць бога,— з намі сэрца, дар прарочы,
Сёння, заўтра і навекі сэрцам бог за намі сочыць.

# Іосіф Тбілелі

## ВЯЛІКІ МАУРАВІ

*(Скарочаны варыянт)*

Вернага слугу паслухаць выказаў Арчыл жаданне,
Пругкім руставельскім вершам напісаць мне даў заданне
Пра учынкі Тэймураза. І маё апавяданне —
Пра ўчарашні дзень сказанне, а не даўняе паданне.

### ДА ЦАРА АРЧЫЛА

О, Арчыл, мудрэц вялікі, гаспадар, любімец бога,
Што глыбіні веры зведаў лепш за святара любога!
Папрасіў ты растлумачыць прапаведніка старога,
Як загінуў мауравi — гарапашнік і нябога.

Не расказваў падрабязна вам ніхто, якую кару
Тэймураз яму прыдумаў на пацеху Веліару
І раскольнікам, якія ў сэрцах подлых песцяць мару,
Грузію знутры аслабіць, быццам шашаль той чынару.

*Раздзел першы*

Цар праводзіў з мауравi дні ў Цхінвалі бесклапотна —
Весяліўся і смяяўся, жартаваў, спяваў ахвотна.
На сяброў і пераможцаў з поўдня ветрык дзьмуў
пяшчотна.
Тыя дні, на жаль, мінулі для абоіх незваротна.

Тры адданых чалавекі падышлі да мауравi
І даверліва сказалі: «Мы цябе паўсюдна славім!
І прабач нам, што сягоння гора мы табе дабавім.
Ад прадвызначанай смерці, можа, тым цябе пазбавім».

Усміхнуўся ён: «Якое мне наканавана гора?
Што за змены адбыліся сёння раніцай ці ўчора?
Мо прычына злых намераў — гонар мой і непакора?
Толькі ж я цару заўсёды — служка верны і апора».

Даў ён клятву не расказваць пра пачутае нікому,
І тады сябры сказалі: «Стала сёння нам вядома,
Што цябе забіць рашылі раніцай, як выйдзеш з дому...»
Доўга прастаяў прад імі мауравi нерухома.

Стаў пахмурным Саакадзе: «Я ні ў чым не вінаваты,
Бо любому чалавеку аказаць паслугу рады.
Толькі як вам не паверыць, бо цяпер у модзе звады?
І Растом — славуты воін — стаў ахвярай подлай
здрады».

Супакоіўся душою мауравi пакрысе,
Шле пісьмо ён да Кайхосра, шле пісьмо да Іесе,
Каб яны абавязкова тайны выведалі ўсе
І сказалі, што наступны ранак сябру іх нясе.

Адказалі царадворцы: «Гэта ўсё, відаць, мана.
Злых людзей заўсёды цешыць міжусобная вайна.
Без цябе асірацее Картлі — наша старана,
Пойдзе поўня на змяншэнне, стане ветахам яна».

Людзі ж верныя сказалі: «Ты цара ўгнявіў і знаць,
За пагібель Луарсаба будзеш ты адказ трымаць.
Кажуць, быццам ты імкнешся раць шматлікую сабраць
І нібыта Тэймураза не жадаеш прызнаваць».

«Не да твару страх адважным,— адказаў Георгій ім.—
Ведаю, што мой дарадца стане ворагам маім,
Ды шукаць сабе не буду спрат на беразе марскім.
Быў я гордым, незалежным — і з жыцця пайду такім».

Завітаў епіскап з Мрові ў Тэймуразавы палаты
І спытаў: «У чым, скажыце, Саакадзе вінаваты?
Ён мячом булатным кроіў непрыяцельскія латы,
І бясстрашнаму герою не рабіў дагэтуль зла ты.

Не ўцякаў, як баязлівец, маураві з поля бою,
Шчодра золатам і славай ён асыпаны табою —
Небам зорным і бязмежным. Дык чаму ж цяпер герою
Давялося нечакана пазнаёміцца з журбою?»

І сказаў Аваліпвілі валадар такое слова:
«Саакадзе Луарсаба кроў праліў невыпадкова.
Серафімы і анёлы — Луарсабава ахова.
Цар нябесны і пакутнік ён цяпер адначасова.

Толькі я крывёю помсціць не збіраюся за кроў».
Спахмурнеў адважны воін ад халодных царскіх слоў.
«Ці ж не я сумленнай працай праслаўляю трон цароў?» —
З крыўдай шчыраю звярнуўся маураві да паслоў.

*Раздзел другі*

Перадаў цару Георгій: «О! Славуты Тэймураз!
Выслухай мяне, прашу я, да канца на гэты раз.
Дружба моцная яднала з Луарсабам доўга нас.
Я ў душы благаслаўляю той шчаслівы светлы час.

Ды прыйшоў канец аднойчы нашым помыслам і марам:
Хан спусціўся з Трыалеці — трэба даць адпор татарам!*

* У 1609 г. у час Ірана-турэцкай вайны на Грузію нечакана напалі з поўдня крымскія татары, якія ваявалі на баку Турцыі.

Цар загадвае адразу, каб Іаралі з Захарам
Перакрылі ўсе дарогі спусташальным іх атарам.

Цяжка перакрыць дарогі, што ўздымаюцца за хмары,
Ля якіх схавацца нельга ў цень тапалі ці чынары.
І, на жаль, перахітрылі слаўных воінаў татары,
Шматпакутнікі прынеслі богу душы, як ахвяры.

За прыблудамі ўзняліся ў затуманеныя высі
З косамі і тапарамі следам жыхары Манглісі.
Пад ударамі татараў палі Квелта і Адзісі.
Хан забыў, як іх у бойцы Свімеон разбіў калісьці.

Загадалі басурманы іерэю Феадору,
Каб ён іхнія атрады вузкай сцежкай вёў угору.
І духоўнік перад імі быццам праявіў пакору.
Больш ніхто не дапаможа ні бядзе яго, ні гору.

Лютых крымчакоў спыніла непрыступная гара,
І татары закрычалі: «Ты вядзі нас да цара!»
Феадор сказаў нябёсам: «Паміраць прыйшла пара.
Веру, дух мой застанецца там, дзе плешчацца Кура!

Басурманам не дазволю я так лёгка выйграць бой,
Да цара не павяду я іх дарогаю прамой,
Бо нячутна пойдзе следам рэць шматлікая за мной.
Смерці мінаваць не можа ні пастух, ні цар, ні вой».

Крымчакі прайшлі Квенадру, Эртацмінду мінавалі —
Апынуліся далёка басурманы ад Цхінвалі,
Злыя крымчакі нядоўга іерэя катавалі...
Мне крывавыя галовы спаць спакойна не давалі.

Падышлі Дэлу-Махмуда сямісоценныя войскі,
Коні сытыя іржалі, узнімалі пыл павозкі.
Воўчаскурыя грузіны білі ворагаў геройскі.
Будуць помніць век татары нашы горы, нашы вёскі.

Неўзабаве Луарсаба ў моцнай крэпасці сваёй
Мы прыветліва і шчыра сустракалі ўсёй раднёй.
Ружы шчасця рваў я шчодра, поспех сябраваў са мной,
Не спрыялі зоры болей мне пасля сустрэчы той.

У сваім наладзіў доме я багаты, пышны баль.
Як сястры маёй да твару падыходзіў лёгкі шаль!
Ад сябе яе ўвесь вечар цар не адпускаў амаль.
І зрабілася атрутай для мяне віно, на жаль!

Бачыў я, што хоча зганьбіць гасудар маю сястру,
Патушыць дачасна хоча яснатварую зару.
Будзе так — і я адразу для вялікіх спраў памру,
Кіну з берага крутога меч праслаўлены ў Куру!

Гасудар мяне заверыў: «Родная твая сястра
Стане жонкай неўзабаве кахецінскага цара.
Зразумей, што гэта будзе лепшая твая пара».
Я цару сказаў рашуча: «Не гані мяне з двара!

Бо, калі ты зробіш гэта, пры двары пачнуцца звады.
Шадзіман Бараташвілі ўсім пачне даваць парады,
Не лічыцца больш са мною, на мяне рабіць напады.
Стану сам сабе адразу я ад гэтых звад не рады.

О! Памазанік гасподні, гасудар, надзея трона,
Воін смелы і разумны, ўнук славуты Свімеона!
Апраменьвае, як сонца, горны край твая карона.
Не руйнуй, прашу, асновы старажытнага закона.

Як азоранае неба пачынае днець з усходу,
Так і ты павінен жонку браць з праслаўленага роду,
Дзе з царамі парадніцца лічыцца за ўзнагароду.
На маёй жыццёвай сцежцы не рабі ты перашкоду!»

Цар сказаў: «Не разумею, што за бунт, за непакора.
Свой намер абавязкова здзейсню я, і вельмі скора.
Гэты шлюб табе, Георгій, радасць зычыць, а не гора.
Ты слязам маім патокам не дазволь уліцца ў мора!»

Не марудзячы, прызначыў Луарсаб вяселля дзень —
І апошніх спадзяванняў для мяне патух промень.
З думкай аб уласным лёсе я сланяўся, быццам цень.
Думаў пра сястру-красуню — свежую, нібы струмень.

У прыгожым белым храме пазалочаны вянец
На сястру і Луарсаба надзяваў святы айцец.
Беглі ў храм па горных сцежках царадворац і купец,
І ніўто не прадвяшчала мой бязрадасны канец.

*Раздзел шосты*

Месяц май быў на зыходзе, добра помню я дасюль.
Цар стаяў каля Цаўкісі і пісьмо прыслаў адтуль:
«Прыязджай к нам тэрмінова, папалюем на касуль».
А каб я не ўцёк, дарогі перакрыў ужо патруль.

Днём і ноччу Луарсаба хітрыя князі і варта
Пераконвалі гурмою і настойліва, і ўпарта:
«Зразумей, што Саакадзе ўстараняць з дарогі варта.
Для яго, для ганарліўца, выпала такая карта.

Ён карыслівы і хітры, інтрыган і забіяка».
Ды, на шчасце, папярэдзіў вечарам мяне Баака —
Старшы служка Луарсаба, слаўны хлопец і рубака,—
Што застрэлены я з лука буду заўтра, як сабака.

Сцежкі ўсе і ўсе дарогі Луарсабам перакрыты,
І цясніны, і даліны сінім змрокам апавіты.
У вартаўнікоў сем коней выкралі мае джыгіты.
Я сказаў: «Цяпер як-небудзь мы ўцячэм ад царскай
світы!»

Паступова сціхлі крокі. Патушыла ноч святло.
У трывозе жонка, дзеці — плачам поўніцца жытло.
Я сказаў ім суцяшальна: «Праўда пераможа зло —
На мяне спагадным вокам гляне царскае жазло!»

Светлым ранкам у Душэці нас дарога прывядзе
Да Нугзара Эрыставі — на радзіму жонкі, дзе
Раскажу я падрабязна цесцю аб сваёй бядзе.
Скажа мне Нугзар: «Не кіну я цяпер цябе нідзе!»

«...Даражэй за ўсіх на свеце для бацькоў заўсёды дзеці.
Быць з табой заўсёды побач тут, у сонечным Душэці,
У балоцістай Калхідзе, у Самцхе * і ў Імерэці
Мне забараніць не можа, ведай, аніхто на свеце!»

Адказаў я так Нугзару: «Хоць не ведаю Каран,
Каб ад смерці ўратавацца, мушу я ісці ў Іран.
Шмат паклёпнікі нанеслі мне несправядлівых ран,
Я ўцякаю іх залізваць, быццам ранены джайран».

*Раздзел сёмы*

Як гасцей доўгачаканых, жэстам лёгкім Шах-Абас
У сваім палацы пышным прывітаў пачціва нас.
Даў усё, што пажадалі, нам праз некаторы час.
Толькі радасці агеньчык у маіх вачах пагас.

*Раздзел восьмы*

Аб'явіў вайну і рушыў Шах-Абас на Кандагар,
Персы Індыі нанеслі адчувальны, моцны ўдар.
Задаволены быў вельмі мной персідскі гасудар.
«Мы памром усе аднойчы»,— мудра мне сказаў Нугзар.

---

* Самцхе — паўднёвая правінцыя Грузіі, зараз вялікая яе частка знаходзіцца на тэрыторыі Турцыі.

Шах-Абас пайшоў паходам неўзабаве на Багдад,
У паходзе тым загінуў мой адзіны родны брат.
Ён забіў у лютай бойцы іншаземных вояў шмат,
Ды ніколі на радзіму сам не вернецца назад.

А правіцель ваяўнічы ў незабыўны чорны год
Воінам сваім на Картлі загадаў ісці ў паход.
Я ішоў таксама з імі ў край, дзе мой жыве народ.
Са слязьмі глядзеў, паверце, я на кожны плот і грот.

Прывяла спачатку персаў у Кахецію дарога,
Потым у Картлі, ды персы не забілі там нікога.
З Луарсабам вы сустрэлі нас ля роднага парога,
І, паверце, я — выгнаннік — не зрабіў радзіме злога.

Да сябе вас шах паклікаў: «Мір заключым—рушу прэч».
Не з'явіўся ты, бо толку не чакаў ад тых сустрэч.
Луарсаб прыйшоў да шаха. І, на жаль, дагэтуль меч
У хлуса з крывой душою не адцяў башку ад плеч.

А прывёў да Шах-Абаса Луарсаба Шадзіман,
Ён хваліўся ўсім, як лёгка цар паддаўся на падман.
Умярцвілі Луарсаба. У вачах маіх туман.
З-за яго я паміраю, быццам ад смяротных ран.

І яшчэ хачу сказаць я — не зласлівец, не зларадніk
І не дробязны мярзотнік, а сумленны, смелы ратнік:
«Не прыйшоў ты ў стан Абаса — у інтрыг і зла
расаднік —
І ў адносінах да сябра паступіў тады як здраднік».

Нада мной сабраў у хмару злосны вецер аблачынкі,
Плачу я, калі пачую песню сумную грузінкі.
Я адкрыў табе таемна ўсе дарогі і сцяжынкі,
Ты ў грахі ператвараеш добрыя мае учынкі.

*Раздзел дзевяты*

Каб застацца на радзіме, я ахвяраваў адзіным
Добрым і высакародным, мужным і прыгожым сынам.
Там ён зараз, дзе на троне шах сядзіць пад
балдахінам.
Не вярнуць яго ніколі ні чараўнікам, ні джынам.

Я не славалюб, і будзе мой кароткім успамін.
Зразумей, што я таксама спадчыннік і кроўны сын
Гэтай казачнай краіны, гэтых сонечных мясцін.
Не адзін атрад варожы дзеля іх разбіў адзін.

Я служыў табе заўсёды, а не шаху, не султану.
Даў адчуць я нашу сілу Шамхале і Дагестану.
Я цяжкім мячом любога ворага твайго дастану.
Я крамсаў у лютых бітвах сатанінскую сутану!

Знаеш ты, што не дазволю я сябе забіць нікому,
Ды праціўіцца не буду я твайму намеру злому,
Бо ад плётак і паклёпаў адчуваю ў сэрцы стому.
Плачу я, хоць не да твару слёзы воіну сівому.

Я царам не здраджваў, з імі поплеч ворагаў я сек,
Тое, што я мог, не можа аніводзін чалавек.
Мужна і цярпліва зношу я несправядлівы здзек
І, як наканечнік пікі, не зламаюся павек.

Ты забіць мяне жадаеш. І, відаць, намер такі
Ты выношваеш употай не адзін, не два гадкі.
Дык чаму ж на Саакадзе нацкаваў ты языкі,
А не ворагаў, што могуць пікамі праткнуць бакі?

### *Раздзел дзесяты*

Цар пацвердзіў: «Гэта праўда. Ка́ртлі ты служыў як мог.
І няма ў цябе прычыны аніякай для трывог,
Што жывуць у мужным сэрцы днём і ноччу, бачыць бог.
Клятва на крыжы гасподнім — ведай, гэтаму залог.

Мір, на жаль, не ўсталяваўся — і ўсё скончылася блага.
Нагаворы і паклёпы не перамагла развага —
У суседні край падаўся маураві як бадзяга.
Хай разлучнікаў іх подлых мучыць у пустыні смага!

Сам сабе сказаў Георгій: «Я хацеў бы зараз, каб
Згінуў дзень, калі са мною парадніўся Луарсаб.
Я пайду пад сінім небам на чужыну — божы раб.
А куды ісці — ўсё роўна. Вось у Турцыю хацяб!»

### *Раздзел адзінаццаты*

О, душа мая, чамусьці ты, нібы скразная рана —
Здзекаў, мук, выпрабаванняў шмат табе наканавана.
Колькі ты царам служыла шчыра, верна і аддана,
А цяпер спагады просіш у турэцкага султана.

Я сваю пакінуў крэпасць і бацькоўскі дом у Носце,
Я далёка ад суседзяў, поўных зайздрасці і злосці.
І няўжо ў чужой краіне на засмечаным пагосце
Ганарлівага грузіна гнісці будуць скора косці?

З крывадушшам і бяздушшам я з маленства на нажах.
О, душа мая, навошта ты такі зрабіла шлях?
Я сваіх пакінуў блізкіх, у якіх на сэрцы жах,
Ды не адзвіняць ніколі песні іхнія ў вушах!

Не шкадуе чалавека гэты жорсткі злосны свет,
Свету гэтаму ўсё роўна злодзей ты або паэт.

Абылганаму нялёгка сховішча знайсці ад бед,
Я далёка на чужыне — не дастане злы сусед.

Увялі царам у вушы плёткі нелюдзі-пачвары,
У прадажных душах песцяць подлыя і злыя мары,
Мне наносячы з-за спіны недазволеныя ўдары.
Прыйдзе час — крывёю чорнай афарбуюцца іх твары!

Ка́ртлі я абнёс сцяною — не знайсці крапчэй сцяны!
Зараз гнёзды ўюць, напэўна, за сцяною кажаны,
Што на свеце жыць не могуць без хлусні і без маны,
Бо са мной ні ў якай справе не спраўляюцца яны.

Я ніколі не баяўся навальніцы і віхуры,
Я нікому не зайздросціў, толькі зрэдку быў пануры,
Бо калі арла не маеш, не спатрэбяцца і туры,
Як бы я хацеў паслухаць зараз ціхі звон чангуры!

І Мурад — султан турэцкі, і персідскі шах Абас
На сваіх сядзелі тронах у адзін і той жа час.
Быў прылашчаны я імі, ды вярнуўся на Каўказ,
Каб сябе табе ў ахвяру мог прынесці, Тэймураз.

Я адданы быў радзіме, ды жыццё пайшло наўскос —
Сына я табе ў ахвяру, акрамя сябе, прынёс.
У блакітнай светлай Носце нарадзіўся я і рос,
Паміраць мяне закінуў на чужыну жорсткі лёс.

Шпарка пад гару імчыцца калясніца цяжкай долі,
Проста так бяда любая не адступіцца ніколі.
І, відаць, не дачакацца мне павек тваёй патолі,
І назад мая дарога не павернецца паволі.

Занядбаецца, аслабне край бацькоўскі без мяне,
Будзе вельмі цяжка ўстояць крапаснай маёй сцяне.
Я не ведаю, вядома, быць пабоішчу ці не,
Толькі ты мяне згадаеш неаднойчы на вайне.

Каб самому не наблізіць раптам свой канец дачасны,
Не звяртаць увагі трэба на суровы лёс уласны.
Звесіш рукі — і пахмурным зробіцца світанак ясны,
Смела возьмешся за працу — светлым стане лёс
няшчасны.

Быць павінен непадкупным і нязломным вой любы,
Той не вой, хто, баючыся нагавораў і кляцьбы,
Кажа: «Для чаго змагацца? Вораг дужы, я слабы».
Той прайграе бой адразу, хто баіцца барацьбы.

Тых люблю, хто не баіцца далучыцца да ахвяр,
Для каго бой рызыкоўны — не балючы ўдар, а дар.
Што з таго, калі патухне нечакана твой ліхтар?
Слава лепш за ўсё, хай нават уладар яе хазар.

Нарадзіўся ты мужчынам — не хавай далёка зброю
І не ўздрыгвай, як пачуеш нечакана кліч да бою.
Будуць неўзабаве плакаць нада мной і над табою,
І таму пра смерць не думай з хваляваннем і журбою.

Варты жалю той, хто ў сілы ўласныя не мае веры,
Хто любых пагроз баіцца і не прымае меры,
Каб самому папярэдзіць лютых ворагаў намеры.
Уступай у бой рашуча, ворагаў гані за дзверы!

Скінуць я з плячэй да скону не змагу цяжкой бяды,
Нада мною свеціць ветах, а не месяц малады.
Свечкі ўсе мае патухлі, карталінскія сады
Ноччу ветранаю стрэслі недаспелыя плады.

Мне дагэтуль сэрца грэюць пра былыя дні ўспаміны.
Колькі я зрабіў — не злічыш! — спраў карысных
для краіны.
Спадзяюся, што пра гэта ведаюць усе грузіны.
Крыўдна зносіць безупынна мне твой царскі гнеў
і кпіны.

Свет, скажы, чаму са мною ты бязлітасны, суровы,
Быццам змей мне цела джаліш, змей — каварны,
шматгаловы?
На мяне і днём і ноччу ставяць пасткі, чыняць ловы,
Твару сонечнае ззянне патушылі злыя словы.

І прыйшлося чалавеку — мужнаму, немаладому —
Ад паклёпаў і нападаў уцякаць далей ад дому.
Ён начуе ў чыстым полі і вачэй сваіх нікому
Не паказвае ў самоце пры сустрэчы з-пад шалому.

Быў гасцінным я, вясёлым, добрым, чулым—не зацятым,
Я з таварышам заўсёды абыходзіўся, як з братам,
І ніколі не зайздросціў самавітым і багатым.
Многія князі хацелі, каб я кумам стаў ці сватам.

Раніцой раней садзіўся я на жвавага каня,
Паляваў, пакуль стаяла навакол гарачыня.
Потым у малітвах шчырых слёзы ліў на схіле дня,
Вечарам спявала хорам за сталом уся радня.

Я любіў спраўляць з раднёю старажытныя абрады,
Для гаротнікаў знаходзіў словы шчырыя спагады,
Слугам — верным і адданым — быў рабіць паслугі рады.
У агні згарэлі нашы вечары і зарапады.

Навылёт мяне працялі стрэлы вострыя і пікі,
Я не збудаваў прыстанак для душы, на жаль, вялікі,
А мае ўсе перамогі больш нагадваюць пралікі.
Хто слабы са мной змагацца, хай маўчыць, як без'языкі.

Я звычайна пераможцам пакідаю поле бою,
Дзеля нашай перамогі я ахвяраваў сабою.
Я не скарджуся на долю, не грымлю пустой арбою,
Толькі пра сябе сказаць я маю права ўсё ж парою.

Ты сябе ў любым выпадку не паводзь бездапаможна,
Не ўступай у бой крывавы баязліва, асцярожна,
Бо змагацца паспяхова з Галіафам нават можна.
Смелым будзеш і адважным — меч узнімеш пераможна!

Чалавеку дапаможа ў скрусе розум і развага,
Памяркоўных не абыдуць літасць царская і ўвага.
Ад журбы няма карысці. І яшчэ адна заўвага:
Чалавек за скарб судзіцца не павінен, як суцяга.

Задаволься тым, што маеш, і не патрабуй замнога.
І за смутак, і за радасць не забудзь уславіць бога,
Бо няма на гэтым свеце, акрамя яго, нікога,
Хто заб'е або на небе узнясе цябе, зямнога.

Для людзей людзьмі застацца — вельмі цяжкая задача,
Робіць свіннямі іх сквапнасць і разбэшчвае удача.
Чалавек то весяліцца, то пакутуе, то плача.
Толькі творца апантаны хай ад радасці заскача.

Колькі я цярпеў і зносіў? Цяжка расказаць у творы
Пра ўсе подлыя даносы, здрады, здзекі, нагаворы,
Верыць слепа ў бессмяротнасць крывадушнік некаторы.
Смерць за ўсімі намі прыйдзе і паўдня не дасць на
зборы.

Я змаўкаю і спакойна пакідаю гэты свет.
Веру я, што хвалі часу доўга мой не змыюць след.
Гэтае апавяданне — мой апошні запавет.
А цяпер мяне праводзьце і заплачце неўпрыкмет.

## ЭПІЛОГ

Я, нашчадак мауравы, ўзяўся напісаць пра гэта,
Знаю, папракне зайздроснік за напышлівасць паэта.

Я ўсё роўна вельмі рады, што нарэшце песня спета,
Бо благаславеннем бога песня гэтая сагрэта.

Я спяваў пра Саакадзе, аб яго няшчаснай долі,
Я наўмысна не расказваў, як героя закалолі.
Шмат зрабіў мой слынны продак, і баюся, што ніколі
Не напішуць вершатворцы пра яго і сотай долі.

Я прашу вас, не судзіце пра напісанае мною
Строга, нядобразычліва, з мінай важнай, напускною.
Я не пабратаў ні разу слова шчырае з хлуснёю.
Што пісаў пра казкі свету, я лічу сваёй віною.

Мне б заняцца лепей справай больш карыснай
і прыкметнай —
Перакласці, растлумачыць словы кнігі запаветнай *.
Я ж надоўга захапіўся балбатнёю несусветнай.
Грэшніку і пустаслову не пазбегнуць апраметнай.

Чым апісваць падрабязна цяжкасці жыцця зямнога
І расказваць казкі свету, лепей проста славіць бога
З верай шчырай у праўдзівасць слоў апостала святога.
О, душа, ці памудрэла ты хоць трошкі, хоць нямнога?

## ДА ЦАРА АРЧЫЛА II

Я пісаў з трывожным сэрцам вершы гэтыя для тых,
Хто з табою славіць бога і ўшаноўвае святых.
О, душа мая, свабоднай будзь ад клопатаў зямных!
Святару бог аніколі не прабачыць слоў пустых.

---

* Маецца на ўвазе Біблія.

# Вахтанг VI

## СУЦЯШЭННЕ

*(Урыўкі з паэмы)*

Веру! Хрыстос зачыніў ненажэрнае пекла давеку.
Шлю да яго я малітвы, спрагнёны па леках.
Вы адратуйце, прарокі, мяне, чалавека,
І літасціва даруйце грахі недарэку!

Свет гэты жорсткі прыносіў мне кару за карай,
Скаргі мае не пачуў ён, а мару захмарыў.
З твару майго цяклі слёзы на хлеб мой і ў чару...
Марны мой плён, без карысці мае ўсе ахвяры.

Дом я пакінуў, маёмасць, айчыну, нашчадкаў
І на чужыну пайшоў, дзе ўсё быццам спачатку.
Злітуйся, ойча! Раструшчы напасці і звадкі,
Скінь з мяне сум і жалобу — ліхія апраткі!

Дзверы да шчасця майго зачынілі завалы,
Стрэламі вострымі роспач мне сэрца працяла.
Слёз маіх скрушных на дол пралілося нямала,
Гэта не грэх — не душой жыць, а госпадам дбала.

Прагну агнём апячы закаханых, маланкай,
Каб у іх слёзы ліліся і ноччу, і ранкам,
Змучыць іх доўгім расстаннем, стаміць спадзяванкай,—
Вартыя жалю, што мкнуць за спакусай-цацанкай.

Грузія! Ты прыгажосцю мяне апякаеш,
Дзідай сваёй маё сэрца наскрозь працінаеш.
Дзе паратунку шукаць ад любові параіш?
Гэй, падарожнік, слязу падаруй, калі маеш!

Броваў гагатавы лук, яркіх вуснаў рубіны
Змучылі сэрца, а дні звялі ў міг хуткаплынны.
Марна чакаю ўзаемнасці, плачу няспынна,
Літасці прагну, бо возьме мяне дамавіна.

Моц твая дзіўная вабіць мяне і карае:
Я — нібы мятлік, што ў цемры ляціць і згарае,
Нібы жабрак, прад якім зачыніліся весніцы раю,
Стала пакутаю радасць, і злыбедаў гойсае зграя.

Кветкі, што ў Кане красуюць, шчаслівыя доляй,
Луг аксамітны, ручай, сад зялёны і поле,
Ўзняўшыся гонка, ўпрыгожвае дрэва таполя:
Гэтак і ты між усіх прыгажуня найболей.

Ты адбіраеш, хоць ты не начное свяціла,
Ў сонца праменне, і зоркі сабою зацьміла.
Ты мне і сонца, і месяц, і ўсе небасхілы...
Кронас пацвердзіць: з табой ён раўняцца не ў сілах.

Ворагам сквапным сваім уладарыў на злосць я,
Шчодра адорваў падданых, не ў крыўдзе і госці.
Зведаў царкоўнае й свецкае шчэ ў маладосці.
Зараз грызуць мне зласліўцы, бязвіннаму, косці.

Узненавідзелі слугі мяне, точаць зубы,
Здрадзілі воіны тыя, што мне былі любы,
Ды падзялілі дабро маё, зводзяць рахубу,
Лаюць мяне, аддалі на знявагу і згубу.

Я злыбядою звязаны, і дзверы замкнуты.
Слухаю весткі, што горш за любую атруту,—

Шлюць мне пакуты, пужаюць нат ворагаў лютых.
З верай у бога чакаю ўсё ж лепшай мінуты.

Як я паверу ў набожнасць людзей, што зацята
Словы апосталаў глумяць, цкуюць свайго брата.
Быў я над імі царом, правіў мякка і здатна,
Грэбуюць гэтым падданыя, плацяць мне здрадай.

Здзіўлены я — свет са мной абышоўся так жорстка:
Смутак сабраў у адно, на мяне наваліў шорсткай горкай,
Цяжар які мне не зрушыць, на сэрцы так горка!
Свет, як ваўчок, дні былыя круціў надта порстка.

Хто ж вінаваты, дазнацца б, ва ўсіх маіх бедах?!
Хіба паверу, каб хто больш, чым я, гора зведаў?
Ружы буялі у садзе маім пракаветна,—
Зараз цярноўнік нявeтлы кладзе на іх вета.

Коннік удачлівы, мчаў па жыцці несупынна,—
Пакаштаваў я пладоў найсалодкіх і слынных.
Што ні жадаў, мог займець праз якія хвіліны...
Стаў жа здабычаю ворагаў хцівых і пільных.

Мной авалодала скруха, ці вернецца радасць?
Гора прыдбаеш, бядача, калі бога страціш,
Станеш жывёліне роўны, не даць табе рады.
Прэч ад мяне, недавярак, двурушнік і здраднік!

Крылы арла майго лёсу падрэзаны вострым:
Цар я, пазбаўлены ўлады, падданых і войска.
Слёзы я лью, ды варожыя сэрцы не з воску.
Доўжыць жыццё мне сярод мусульман невыносна.

Беды зазнала душа, што заўжды была вольнай,
Цяжка разблытаць сіло, што сціскае няўмольна.
Некалі быў валадар я над горадам стольным,
Зараз — вандроўнік-жабрак і выгнаннік бяздольны.

Небу аддзячыць не здолею і не змагу я
Пааддаваць, што пазычыў на ўцехі і гулі,—
Злы сухавей абпаліў, мае дні падагуліў.
Мудрасці мала было пад каронай шчыгульнай.

Як і мяне, дакаралі Арчыла — пакінуў,
Злоснікам даў спапяліць і спустошыць краіну.
Ведаю пэўна — хацеў ён ярмо персаў скінуць.
Мудры Арчыл шанаваў, як багіню, Айчыну.

Кажуць, што лёс нам наперад усё вызначае,
Ды мудрацы не павінны спыняцца ў адчаі.
Бог усеўладны пануе, грахі выбачае,
Людзі ж братоў сваіх крэўных варожа страчаюць.

Бога забылі і грэбуюць верай манахі,
Нават мула за мяне памаліўся алаху,
Бо хрысціян, а не ідалаў згадваю з жахам:
Выкрасці жонку хацелі, дзяцей, апранахі.

Горкім ахоплены смуткам, пішу ў паняверцы.
Ноччу ўсміхнуся жыццю, днём згадаю аб смерці.
Толькі дзіўлюся: душа ўсё трывае і церпіць,
Дзякуй таму, хто мне даў цягавітае сэрца.

## ЗА МАЕ НАЙДАБРЭЙШЫЯ СПРАВЫ...

Я стварыў космас, неба, зямлю і ваду, час, агонь
і прастору...
Аўраама пазваў я сваім і сынам абяцаў свет падзорны,
Манну з неба я сыпаў на іхнія цяжкія велькія жорны...
За мае найдабрэйшыя справы яны мне паставілі крыж.

Жах абрынуў я на егіпцян, знакам божым я іх
напалохаў,
Саранчу я паслаў на палі, а сады іх завялі, пасохлі.
Ратаваў толькі іх, іх — яўрэяў, усіх — маладых
і нямоглых...
За мае найдабрэйшыя справы яны мне паставілі крыж.
Я іх вёў, як дзяцей, бо не бачылі шлях без маёй
дапамогі.
Наталіў я іх смагу, і мора рассек, і зрабіў там дарогі,
Наталіў я іх голад і вопратку падараваў я нябогам...
За мае найдабрэйшыя справы яны мне паставілі крыж.
Іх завёў я нарэшце ў краіну святую зямлі запаветнай
І панішчыў іх ворагаў крэўных, а голад і беднасць
У суседніх краінах пасеяў, і там узышла
беспрасветнасць...
За мае найдабрэйшыя справы яны мне паставілі крыж.
Чалавекам, ад дзевы, я стаў — паказаў беззаганнасць,
Зрок сляпым дараваў і хваробы лячыў, незагойныя раны,
І нябожчыка я ўваскрасіў... Я любіў іх аддана...
За мае найдабрэйшыя справы яны мне паставілі крыж.

## ШЧАСЦЕ

Пра дзевяць шчасцеў скажу, усхвалю справу бога.
Той, хто ідзе да царквы, ён і дойдзе, ды толькі
з вымогай.
Дойдзе і ўзвысіцца над грэхатворам зямнога;
Дзякуй анёлу, бо д'ябал не зробіць нічога.

Добра было б, каб я стаў тым, хто просіць за друга,
Тым, хто ўратоўвае душы ад болю і скрухі,
Тым, хто ўсявышняга ўмее пачуць і паслухаць,
Тым, хто змагаецца з д'яблам і хто моцны духам.

Бачыў я зманы жыцця, ды жадаў іх усё-ткі,
Сэрцу даў волю, а духу — спачынак салодкі.
Цела хацела бяссмерця, жыло ж днём кароткім:
Вось жа — яго абчаперылі ганьбы калодкі.

Скардзіцца цела: «Мой дух! Ці ж не бачыў ты вырай
Пташак і рыбін і процьму казюрак над вірам,
Мноства жывёл, што жывуць і жылі ціхамірна?
Шчасця няма мне, канаю я ў свеце няшчырым!

Хочацца жыць мне — згрызоты ж пужаюць трунbackward.
Цешыць цяпер мяне дужа наўколле зямное.
Мудры мой дух неўміручы, ўладарыш ты мною,
Што ж ты дазволіў мне так захапіцца маною?»

Целу адказвае дух: «Я — ўладар твой адзіны.
Ты для мяне — абалонка, а я — сарцавіна.
Што ні жадала, ты мела — такая прычына.
Ты балявала, а д'ябал смяяўся за спінай.

Сквапны сабака грызе велізарную костку,
Смокча, рычыць, прагне слодычы, скаліцца жорстка...
Крышацца іклы, ды не разгрызаецца костка.
Так вось і ты за сталом забывала пра боскасць.

Выпусцяць барса, а ён не ўпільнуе ахвяры.
Б'юць яго, б'юць, ну а ён не прымае той кары.
Гэтак і я на цябе навёў бедаў удары;
Хто любіць лёсткі — ману не адпрэчыць ад твару!»

Я — марнатраўца, застаўся без войска, і біцца
Я не магу за святыя груды і крыніцы.
На шаўкапрада гляджу, не магу не дзівіцца,—
Ціха прадуцца яму не патрэбныя ніці.

Ёсць жа закон — за харошым прыходзіць благое,
Побач з нядобрым — дабро, як сваё і чужое.

Божа! Чакаю, калі пераменіцца злое.
Божа! Не дай, каб заўчасна згубіў я святое!

Да перашкоды вада непазбежна даходзіць,
Спыніцца, пойдзе назад, разальецца разводдзем,
З моцай збярэцца і дасць новы бой перашкодзе.
Так чалавеку ў жыцці неабходна паводзіць.

## СМЯРОТНЫЯ ГРАХІ

Я расказаў сем таемных законаў святога пісання;
Існы шлях бог падаруе табе, каб не брыў у тумане.
Я раскажу пра грахі, ты прымі, зразумей навучанне.
Ёсць сем смяротных грахоў, за якія няма даравання.

Як настаўляе паўлін хвост, расквечаны яркасцю блікаў,
Думае, быццам ён самы магутны і ворагі зніклі.
Котка маленькі прыйшоў, і паўліна схапіў страх вялікі;
Так разбураецца пыха і свет ганарлівых разлікаў.

Дробны святляк захапіўся нязначным святлом
каламутным,
Роўных сабе ён не бачыць і лічыць сябе наймагутным.
Толькі з'яўляецца пташка і з ім распраўляецца хутка.
Як светлякоў нас за пыху і гонар чакае часіна пакуты.

Блуд — гэта ўцеха сабакам, свінням — ненажэрнасць
і сытасць.
Ты паглядзі, а ці трэба каму неўтаймованая
прагавітасць?
Нібы чарвяк ты, калі праз ляноту згубіў працавітасць.
Нібы гарыла, калі ты лютуеш і згублена літасць.

Зайздрасць падобна да мухі, якую замучвае голад,
Ці на якую абрынуўся зімны, бязлітасны холад;
Ты ёй дасі і цяпло свайго дома, і цукар, і солад,
Муха за ласку атруціць, і згінеш, які б ні быў волат.

Пастку на сквапную малпу звычайна такую ствараюць—
Дзіркі у клейкіх арэхах свідруюць або прабіваюць,
Малпы хапаюць арэхі і ў клейкую пастку трапляюць.
Так з чалавекам здараецца сквапным. Падумай, бог раіць!

## ПРА СУЛХАН-САБУ АРБЕЛІЯНІ

Ён працаваў, і таму шанаваць і хваліць я павінен
Справы і словы яго, і той слоўнік, які не загіне,—
Лепшых няма ні ў чужыне, ні ў нашай Айчыне.
Як жа мне горка, што Арбеліяні у вечным спачыне.

Ён па сцяжыне да мудрасці крочыў з юнацтва,
Нават пры смерці ёй словамі сціплымі мусіў азвацца:
«Я так нічога не здатны спасцігнуць, дазнацца...»
Арбеліяні, цябе ўвекавечылі мудрасць і праца!

## ДЗЕСЯЦЬ ЗАПАВЕДЗЯЎ

*(Фрагмент)*

Людзі працуюць і бачаць у працы карысць і выгоду,
Ну а якая карысць усявышняму з нашага роду?
Бога любі і не згадвай святое імя без нагоды.
Горшым за звера не будзь, не кіруй да знішчэння
і зводу.

## Мамука Бараташвілі

### СВЕТ НАШ...

Жорсткі гэты свет і строгі;
Ці ж чакаць яго падмогі?
Можа, хіба толькі ўбогі
Цалаваць забойцу ногі.
Не кране дакор мой многіх,
Што раней сышлі да змогі.
Дома — ўсе твае парогі,
Ўцекачу ж — адны дарогі.

Прагнуў я зямное долі,
Мне змагацца з ёй? Ніколі!
Хоць нікому столькі болю
Не прынесла, я міжволі
Саступлю. З мяне даволі.
Бед хапае — аж да столі,
Свет адразу, не паволі
Шле іспыты маёй волі.

Хто б сцвярджаць пасмеў такое:
Змеі дзіваць дабрынёю,
І крылатай чарадою
Рыбы ўюцца над вадою,
Камень кветкі даў вясною,
Леў укленчыў прад казою?
Не крыўдуйце на зямное:
Злы рабіць павінен злое!

## ЛЕДЗЬ ТВАЁ АБЛІЧЧА ЎБАЧЫЎ...

Ледзь тваё аблічча ўбачыў — той жа момант закахаўся...
любка,
Ў стан твой, што, як чарацінка, тонкі, гнуткі,—
закахаўся.

У тугія лукі броваў тваіх чорных — закахаўся... любка,
Ў вейкі, што, як стрэлы, сэрца мне працялі,— закахаўся.

У пагляд, што Чорным морам паглынае,— закахаўся...
любка,
У жытло душы—у вейкі беззваротна закахаўся... любка,

У крыштальныя жаронцы цвёрдых шчочак—закахаўся...
любка,
У радзімку, што чарнее, быццам кропка,— закахаўся.

Мускусу духмяны посуд — я ў твой водар закахаўся...
любка,
Ў некранутыя бутоны вуснаў-ружаў — закахаўся.

У бялюткія, як жэмчуг, твае зубкі — закахаўся... любка,
Я, Мацвей, у слодыч гукаў тваёй мовы закахаўся.

# Дзмітрый Саакадзе

## ПАСЛАННЕ КНЯЗЯ ДЗМІТРЫЯ СААКАДЗЕ ДАБРАДЗЕЮ МАЙМУ І ЎЛАДАРУ, КНЯЗЮ МАМУКУ ГУРАМАВУ

### ЗАПІСКА Ж (8)

У Пецярбурзе дэрвішам, бруднаю ўкрыты папонаю,
З д'яблам якім, не ведаю, шэпты вядзеш штодзённыя;
Хто ён, каму скарылася сэрца тваё стамлёнае?
З намі маўчыш, сядзім мы тут, ціхія і ўтрапёныя.

Можа, анёлка нейкага стрэў ты, і гэта ўразіла?
Толькі зняменне доўгае стала гучаць абразаю.
Ты заспявай анёлачку, ціха падам твой сазі я,
Спевам тваім дзівуюцца і Еўропа і Азія.

Побач з табой святыя ўсе,— архарчашпелі мровелі —
Мольбы да бога ўзносячы, мокрымі водзяць бровамі.
Хіба айцы прарочыя да нематы прымовілі?
Ты б расказаў пра цуды іх мне звычайнымі словамі.

### ЗАПІСКА З (9)

Гэй, і чыё ты, сонейка? Глянеш — і трацім розум мы.
Скуль ты, такое светлае,— ружа, што ўкрыта росамі?
Цукрам, трыснёг, асыплеш ты лепшага пад нябёсамі.
Мне ж хоць два слоўцы вымаві, ды каб не джгалі восамі.

Стан твой—крыніца бруйная, шчокі—пладамі спелымі,
Бровы, як лук, напятыя, вейкі цаляюць стрэламі,

Твар твой падобны месяцу над леднікамі белымі.
Што ж не дасі ты лекаў мне, перад табой самлеламу?

Кветкі зямля не ведае гэткай, як ты, прыгожае.
Радасць — малым, вялікім — ты дорыш ахвотна кожнаму.
Мне ж — толькі церні колкія, на весялосць нягожыя.
Зараз, табою кінуты, вяну за агароджаю.

З сэрцам тваім з'ядналася б сэрца маё бязвіннае,
Зноўку з табой убачыцца — прага мая адзіная,
Ростань такая доўгая гора майго прычынаю.
Ды твае дзверы наглуха перада мной зачынены.

## ЗАПІСКА ІБ (12)

Ты маланкаю, Мелання, бліскаціш, сячэш ты градам,
Свету зычыш ты змаганне, даўшы волю чорным звадам,
Каго нішчыш вострым словам, каго ўзносіш добрым
ладам,
Адбярэш святло ты ў многіх назаўжды сваім паглядам.

Як пазбавіцца цябе мне! Ўсюды ты — душа замлела,
Лук, нацягнуты табою, ў сэрца мне пускае стрэлы,
У сіло тваё, у пастку ўсе ўлятаюць ашалела,
Хто спазнаў тваё каварства, сам сігае ў бездань смела.

## ЗАПІСКА ІВ (13)

Свет наш заганны, свет наш падманны, быццам старыя
сцёртыя карты.
Той, хто ім верыць, лёс імі мерыць, проста вар'ят,
неразумны і ўпарты.
Ганяць пракокі звадаў вытокі — свет, што каварства
мае за жарты,
Што без разбору цяжкаму гору ўсіх падвяргае —
вартых, нявартых.

Невук, што на розум кволы і не цэніць анічога,
«Ўсё маё,— гаворыць,— лепей», быццам ён — намеснік
бога.

З Піфагорам і Платонам параўнаў сябе самога
І не ведае, што паліць пад сабой салому стога.

## ПАСЛАННЕ ДА ДЗМІТРЫЯ ГЕОРГІЕВІЧА БАГРАЦІЁНА АД ТАГО Ж КНЯЗЯ ДЗМІТРЫЯ СААКАДЗЕ

### ЗАПІСКА Г (4)

Загадалі вы на Прэсні быць нам, каб склады праверыць,
Кожны дзень абедні слухаць, каб душой у святасць
верыць;

Пра мяне вы гаварылі: баязлівасці не змераць;
Я ж ля вас такіх не бачу, на каго б стралу аперыць.

Я дасюль не быў вар'ятам, а цяпер увідавокі
Я дарэшты страціў розум у няволі, адзінокі,
Памагчы ў глыбокім горы мне не могуць і прарокі,
Хоць кіруюся на Прэсню, ды ад слёз макрэюць шчокі.

### ЗАПІСКА Д (5)

Што б я толькі не надумаў, свет у колы ставіць палкі.
Гаварыў: шукаю жэмчуг! Шкла трымаю аскабалкі.
Больш нічога не чакаю, рвецца сэрца на кавалкі.
Я іду да вас і шчасця вам прашу ў маленнях палкіх.

Тут, на Прэсні, ўсе змарнелі, там жа ў вас —
ільвоў сабранне,
Вы, як той Растом, багаты вопыт маеце змагання,

Вашы гутаркі пра бога, вашы спрэчкі да світання —
Баль святочны, нам жа — плакаць, покуль слёз
ужо не стане.

Быў і я калісьці смелы, мужна з ворагам змагаўся,
Кожны знатны ці нязнатны шчэ здалёк са мной вітаўся,
Я да царскай службы здатны, спрытны быў, не ленаваўся,
Ды ў падступным гэтым свеце ў рэшце рэшт ні з чым
застаўся.

## ЗАПІСКА Е (6)

Не ў гуморы я, ўладар мой, з вамі мне за стол не сесці,
Аніхто не прапануе рог напоўніць ды пад'есці,
Сам капусту я шынкую, сам падлогу мушу месці,
Занядбанаму, старому цяжка ношу лёсу несці.

Дроў не маю, і завея хутка ложак мне засцеле,
Быць бадзёрым трэба ў горы, гэтак раіў Руставелі,
На карысць навука юным, што стаміцца не паспелі,
Не старому, у якога ледзь душа трымціць у целе.

На ступнях маіх, васпане, пазбіваліся падковы,
Я гляджу на іх: вядома, не набыць ужо мне новых,
Нават простае папоны не здабыць у дзень зімовы,
Гэта ўсё зрабіў са мною свет падманны і суровы.

## ЗАПІСКА Ё (7)

Дакараю лёс — чаму ён да мяне такі нямілы?
Не адказвае, як быццам каляснiца бег спыніла.
Што ж ты коламі сваімі з маёй доляю зрабіла?
Больш пяро пісаць не можа, жоўць на ім, а не чарніла.

Вам вядома, як са мною Мар'я Паўлаўна падступна
Абышлася, і сустрэча з вамі мне ўжо недаступна.

Хай яна за гэта ў пекле апынецца неадкупна,
Хай яе на спіну ўложыць д'ябал з хеўраю сукупна.

А яна па Прэсні ходзіць, ловіць новыя ахвяры,
Бессаромнасцю, спакусай прагне ўсімі заўладарыць,
Шмат пляце падману, толькі не пазбегне лютай кары,
Я прашу ў самога бога пакарання для пачвары.

Дзіўна мне, нашто гатуе з небыліц яна ласункі,
І нікога не цікавіць, дзе тут з праўдаю стасункі?
Хай усіх іх схопяць чэрці, як для пекла падарункі,
І на дно адразу кінуць, пераняўшы ўсе кірункі.

Хай агонь раздзьмуць пад імі, каб не кпілі
бессардэчна,
Хай калоцяцца ад страху перад карай неаспрэчнай,
Д'ябал ім на шыю сядзе, напяваючы бяспечна,
Мо тады яны ўжо змоўкнуць з ёю разам і навечна.

Як змяя, маной атрутнай не міне яна нікога,
Душы губіць, бо не верыць ані ў прычасць, ані ў бога,
Прычашчаецца крывёю, і забітых ёю — многа,
Што ёй бог — яна ў пашане у Люцыпара самога.

# Тэймураз II

## ГУТАРКІ ДНЯ І НОЧЫ

*(Урыўкі з паэмы)*

Як сказаць змагу я слова, звацца мудрым недастойны?
Гаварыць, нібыта рытар, я не ўмею красамоўна.
І таму пачну пачціва, без гардыні непрыстойнай:
Трыадзіны бог наш будзе мне апораю духоўнай.

Той, каго Ісая ўбачыў, быў на троне ў вечным ззянні.
Дзевяць мностваў святавойска — у адзіным парыванні—
Разам з мноствамі анёлаў богу ўзносілі спяванне.
Быў і праўда ўсемагуты ён у вечным існаванні.

Ці ўсхваліць святую тройцу можна невуку такому?
Вышыню яе спасцігнуць цяжка розуму людскому.
Слоў свяшчэннага Пісання не зыначыць анікому,
І скажу я пра служэнне сыну бога ўсесвятому.

Чалавечы голас бога хто пачуе выпадкова?
Хто двуісным не прызнае сына божага святога?
Пакланяцца будзем свята — вось якое гэта Слова —
Сыну-богачалавеку, што прыйшоў ад бацькі бога.

І калі скажу я нешта, дык нязначнае, малое,
Калі дасць мне час і сілу гэты свет — жыццё людское.
Дзе пісаў я гэта, пэўна, вы спытаеце, на што я
Адкажу вам: «У паходах, на кані пісаў усё я».

І Майсей, што ўбачыў бога, піша ў кнізе так сваёй:
«Бог стварыў зямлю і неба, як і ўсё, што ёсць на ёй.
Што было не ўладкавана, калі ў цемрадзі начной
Не прасвечваліся прорвы ні свяцілам, ні зарой,

І насіўся над вадою божы дух як дух тварэння».
Бог сказаў: «Святло хай будзе!» — і настала
прасвятленне.
І калі ён гэта ўбачыў, дык прыйшоў у захапленне.
Аддзяліў святло ад цемры ён тады ў адно імгненне.

Дзень — святлом, а цемру—ноччу ён назваў замілавана.
І пісаў Майсей: «Вось вечар надышоў неспадзявана...»
Справа зроблена, і золак, што ў тумане бліснуў рана,
Першы дзень прынёс і веру, што была людзьмі прызнана.

### Сказ дня

Ноч, скажу табе: навошта ты сябе са мной раўняеш?
Бачыш гэтую планету? І цяпер яна такая ж:
Як заззяе над зямлёю, будзе бачна — не схаваеш,—
Ці мы роўныя, ці, можа, ты мяне пераважаеш?..

### Сказ ночы

Чым жа, дзень, ты ганарышся? У цябе ж—адно свяціла.
У мяне ж — іх шэсць, і цемень іх ніколі не гасіла.
Марс, Сатурн, Венера... Месяц! Ён жа сонцу роўны сілай.
А Меркурый ці Юпітэр нам не свецяць з небасхіла?

А калі зусім спямнее, колькі іншых зорак зззяе!
Іх да вечара ў палоне сонца, свецячы, трымае.
Як яны ўпрыгожаць неба, бачу ў прыцемку адна я,
Калі чэрвеньскаю ноччу задыяк іх вызваляе.

Ноч, ты правільна сказала: права вуснамі сваімі
Ты дала мне параўноўваць... Дык нашто хваліцца імі?

Не зраўняеш зорак з сонцам: над абсягамі зямнымі
Цёмнай ноччу месяц свеціць толькі промнямі чужымі.

О, падзяка сонцу! Месяц цыкл трыццацідзённы мае:
Маладзік — змяняе поўня, поўню — вечар замяняе.
Потым нейкі час пануе цемень на зямлі начная.
Гэты цыкл трыццацідзённы кожны месяц паўтарае.

Сказ ночы

Тое, што сказаў ты зараз, напалову справядліва:
Сонца з месяцам трохфазным богам створаны як дзіва.
Быць раўнёю між сабою і належыць ім мажліва.
Дык не сей між імі зайздрасць з непачцівасцю зласлівай.

Сказ дня

Беспрычыннае шматслоўе авалодала табою:
Найвялікшае свяціла — гэта сонца над зямлёю.
І філосаф, рытар кожны рад вітаць яго хвалою,
Бо яно святло дарue, каб жыццё цякло ракою.

І нашто двурушша столькі? Не ўзвышай сябе дарэмна.
Хто сказаў: «Святло хай будзе!»? Хоць табе
і непрыемна —
Змоўкні! Спрэчка не пра тое, што высока ці нікчэмна...
Будзем, створаныя богам, паважаць сябе ўзаемна.

## ПРА СТВАРЭННЕ АДАМА

Сказ дня

Бог сказаў: «Хай болей будзе на зямлі раслін шматлікіх!
Хай навокал болей будзе і звяроў, і птушак дзікіх.
На вадзе і на раўніне, у лясах малых, вялікіх,
Каб адрозніць было можна іх па выгляду і крыках».

Ён стварыў жывёл на сушы, здольных жыць і
размнажацца.
І была на славу богу, сам убачыў, гэта праца.

І сказаў: «За чалавека я даўно хацеў узяцца.
Каб і ён з зямлі і пылу над зямлёю мог узняцца...»

Бог паслаў Адаму дзіўны і глыбокі, моцны сон —
І тады рабро ў Адама непрыкметна выняў ён
І яго напоўніў плоццю, і, як божай працы плён,
Ён стварыў Адаму жонку — не скажу праз колькі дзён.

Як Адам убачыў Еву, ён сказаў неспадзявана:
Плоць ад плоці маёй, Ева будзе мне служыць аддана.
Створанай з рабра мужчыны — гэта богу пажадана —
Ёй належыць волі мужа быць заўсёды паслухмянай.

Ды не жонку пакідае чалавек — бацькоў сваіх.
Яны голыя хадзілі ў садзе райскім удваіх.
Целам і душой адзіных, не прыгнечваў сорам іх.
Забаронены ім толькі быў адзіны плод з усіх.

## СПАКУСА ЕВЫ І АДАМА

### Сказ дня

І жыла з Адамам Ева, згодна божаму наказу.
Хітры шэпт — спакусы змея — не прымала як абразу.
«Плод, што бог забараняе, не сарвала ты ні разу?
Пакаштуй — і славы божай вы дасягнеце адразу».

З-за цікаўнасці жаночай паддалася Ева хлусу.
Потым плод дала Адаму, што не ведаў пра спакусу,
І пасля таго яны ўжо саграшылі без прымусу —
І тады спазналі сорам, бы хадзілі па абрусу.

І Адам, што жонцы грэшнай даў імя жыцця міжволі,
Каб яна прамаці стала з дня таго ў зямной юдолі,
З раю выгнаны быў з ёю, і яны па божай волі
Сталі жыць непадалёку ад яго садоў у полі.

Я цяпер, пасля патопу, расказаць пра тое мару,
Што такое вернасць богу... Большага няма цяжару.
Гэта ўдзень было, не ўпочы, як прынёс, нібы за кару,
Абрахам за веру ў бога сына роднага ў ахвяру.

## АПОВЕСЦЬ ПРА ІОВА

### Сказ дня

Ноч, хоць справаю зраўняцца і не можаш ты са мною,
Свой язык дарма стамляеш ты ліслівою маною:
Ні адну на свеце справу не заменіш балбатнёю...
Быў Іоў выпрабаваны божай воляю святою.

Гэты чалавек у сэрцы нёс агонь сапраўднай веры.
Жыў у краі ён аўсіцкім і ціхмяны быў без меры,
І, нібы на шалях праўды, меў ён чыстыя намеры,
Перад хітрыкамі д'ябла зачыніўшы шчыльна дзверы.

Сем сыноў і тры дачкі меў у абліччы чалавечым.
Меў тры тысячы вярблюдаў, пар пяцьсот запрэжак
з нечым.
Сорак пяць, не меней, тысяч у яго было авечак —
Так расказвалі, прынамсі, відавочцы пры сустрэчах.

Мноства слуг, рабоў... І жыў ён, зла не робячы,
на свеце,
Сам быў з княжацкага роду — з краю вечнага дасвецця.
Зла і крыўды не чынілі, як і ён, нікому дзеці,
Што збіраліся ўсе разам і былі як сад у цвеце.

Так балюючы, сядзелі ўсе да золку за сталамі.
У любові, згодзе сёстры весяліліся з братамі.
Кожны дзень пілі і елі — дом быў поўны галасамі.
Ім ваду для ачышчэння прысылаў Іоў з рабамі.

Уставаў ён рана-рана, каб ахвяры ўсім прынесці:
Можа, кепскае што-небудзь і яны зрабілі дзесьці?

Ахвяруючы жывёлу, каб ачысціць душы ўрэшце,
Ці хацеў ён сваю святасць усявышняму давесці?

І прыходзіў час ад часу дзень, калі ў парадку строгім
Зноў анёлы ўсе збірацца пачыналі перад богам.
Быў між іх і хмуры д'ябал, што кідаўся ў вочы многім.
Бог спытаў: «Адкуль ты сёння? Рады новым перамогам?»

Адказаў агідны д'ябал так з ухмылкаю крывою:
«Пакарыў я ўсё пад небам і стаю перад табою».
Бог спытаў: «Іова бачыў? Як жыве ён там з сям'ёю?
Я не знаю чалавека болей чыстага душою.

Справядлівы і ціхмяны... Хто яшчэ так служыць богу?
Хто ў жыцці ад зла ачысціў так, як ён, сваю дарогу?»
Д'ябал голас свой узвысіў і закончыў так размову:
«Ён табе аддана служыць? А ці ж кепска жыць Іову?

Дом яго абараніў ты ад бяды і вока злога
І зрабіў яго ўладанні раем, не знайсці якога.
Павялічыў і маёмасць, і зямлю яго намнога,
Бо здабыў усё, што мае, ён з тваёю дапамогай.

Як цябе ён будзе славіць, калі ты рукой суровай
Адбярэш усё адразу, што набыў ён паступова?»
Д'яблу бог сказаў: «Паслухай і запомні мае слова:
Аддаю ў твае я рукі ўсё, што ёсць адно ў Іова.

Ды глядзі: ніякім чынам ты не руш яго самога».
І ад бога выйшаў д'ябал, не сказаўшы больш нічога...
Ноччу дзеці ўсе Іова зноў сядзелі за размовай,
І віно пілі, і елі, і за ўсё ўсхвалялі бога.

«Іх старэйшы брат заклікаў, і сядзелі яны ў садзе,
Бога славілі ў малітвах і набожнасцю ў паглядзе.
На валах зямлю аралі — дым стаяў на даляглядзе.
Статкі пасвіліся ўсюды — і было вакол суладдзе.

Як аднекуль наляцелі раптам воіны чужыя,
Слуг з рабамі перабілі, як разбойнікі якія.
Аднаго мяне мінулі ў бойцы іх мячы крывыя...» —
Ледзь ганец сказаў Іову, як з'явіліся другія.

«З неба ўпаў агонь жахлівы, ясны дзень пагас над намі.
Статкі ўсе твае на пашах зніклі разам з пастухамі.
Толькі я адзін застаўся...» — і ганец развёў рукамі.
У адной з іх галавешку ён трымаў, як свечку ў храме.

«Мноства коннікаў, што ўзніклі, як віхор на небасхіле,
Твае статкі акружылі і вярблюдаў захапілі,
А рабоў тваіх на месцы ўсіх мячамі перабілі.
Я адзін жывы застаўся...» — і замоўк ён у бяссіллі.

І пачуў ён новы лямант — быццам некага хавалі:
«Тры дачкі твае з сынамі ў садзе брата балявалі,
За віном і ўсякай стравай бога існага ўслаўлялі,
Як віхуры падняліся і з зямлёй усё зраўнялі.

Дом іх згінуў... Не магу я перадаць табе ўсяго.
Ні сыны твае, ні дочкі больш не ўстануць з-пад яго.
Дык чаму мяне жывога бог пакінуў аднаго?»
Разарваў Іоў адзенне з гора — страшнага — свайго.

Галаву пасыпаў прахам... Што рабіць было яму?
Потым ніцма ўпаў і богу нізка кланяўся свайму:
«Голы выйшаў я з улоння маці роднай і таму
Гэты свет пакіну голым — толькі скрушна аднаму.

Бог мне даў усё на свеце, бог і ўсё забраў... Хай будзе
Так, як хоча ён, каб вечна моц яго ўслаўлялі людзі!
Хай ён будзе благаслаўлёны і напоўніць нашы грудзі
Чыстай верай, каб не згінуць у раскошы нам і блудзе!»

Быў той дзень, калі анёлы зноў з'явіліся да бога,
Каб са слодычнай уцехай на яго глядзець самога.

І, пачуўшы голас божы, стаў і д'ябал ля парога.
Бог спытаў: «Ну як Іоў там? Раскажы мне пра Іова.

Хіба знойдзеш чалавека, каб аддань быў без меры,
Справядлівы і праўдзівы, незвычайна чысты ў веры?
Недасяжны злу, прадбачыць ён і д'яблавы намеры.
І анёлы ўсе з пашанай перад ім расчыняць дзверы.

На яго паслаў дарэмна ты разбойнікаў і буру...
За душу аддасць усё ён — я спасціг яго натуру».
Але д'ябал не здаваўся: «Скура ў нас ідзе за скуру:
Божаю краиі рукою,— як і ўсе, завые здуру.

Плоць яго крануць і косці паспрабуй сваёй рукою,
І пабачым, як уславіць ён цябе — якой хвалою?»
Д'яблу бог сказаў на гэта: «Аддаю табе яго я —
Акрамя душы, якую не кране ніпто благое...»

Д'ябал, выйшаўшы ад бога, у Іова азвярэла
З галавы да ног абсыпаў мноствам ран балючых цела,
Што нясцерпна штохвіліны, нарываючы, гудзела.
Ён за горадам на пашы выціскаў з іх гной няўмела.

І праз нейкі час сказала жонка так яму з дакорам:
«І дакуль цярпець ты будзеш? Хіба можна ўжыцца з
горам?
Што скажу табе, паслухай — гэта ўсё вядома зорам:
Так імя тваё са свету знікне ўраз, а гэта — сорам.

Я дзяцей тваіх насіла ў чэраве сваім... Чаму ты
Іх забыў, а з імі боль мой і нясцерпныя пакуты?
Ды і сам сядзіш смуродны, дзікім болем, свербам скуты.
Як амаль штоночы церпіш ты цяжар бяссоння люты?

Я ж хаджу, твая служанка, з дому ў дом хадой пахілай
І прашу кавалак хлеба, як ніколі не прасіла.
Ды чакаю нецярпліва, як жыцця майго свяціла
Зойдзе, каб спачыць ад гора, што мне ўцеху засланіла.

Што ж не папракнеш ты бога? Усё роўна ж—дамавіна...»
Паглядзеў Іоў на жонку: «Неразумная жанчына,
Перастань! Табе б вось толькі пабурчаць была прычына.
Калі ты дабро прымала, дык і зло стрываць павінна».

І ніколі не зняважыў ён у думках нават бога,
І нічога ў хвілю скрухі не зрабіў людзям благога.
І багаславіў нарэшце за цярплівасць бог Іова
І паслаў яму багацце, яшчэ большае намнога.

І зямлі, валоў, запрэжак, і вярблюдаў стала болей.
А авечак у чародах не лічыў ніхто ніколі.
І сыноў, дачок меў столькі ж, колькі страціў ён
міжволі.
Днём старэйшую назваў ён, каб не ведаць горкай долі.

Даў маёмасць ім такую ж, як сынам,— жывіце, дзеці!
Год сто семдзесят, напэўна, ён пражыў яшчэ на свеце.
Касія — другой імя даў, ну а Радасць Наша — трэцяй.
Прыгажэй за іх нікога не прыпомніла дасвецце.

Ноч, пакінь мяне ў спакоі — так, як сум нас пакідае.
Я аповесць пра Іова расказаў — хай кожны знае.
І магу яшчэ расказваць — ёсць гісторыя другая.
Злоўжываў тваёю ўвагай, спадзяюся, нездарма я.

## БАГАВЕШЧАННЕ СВЯТОЙ БАГАРОДЗІЦЫ

### Сказ ночы

Дай і ты сказаць мне слова, дзень, я слухала даволі.
Раскажу табе праўдзіва — не хлусіла я ніколі.
Пра мае пачуўшы справы, ты мяне палюбіш болей.
Можа, мудрасцю прарокаў розум твой крану міжволі.

Слухай, вось псалмы Давіда. Што хацеў сказаць ён імі?
Бо звяртаецца да дзевы ён са словамі такімі:

«Ты глядзі, ты слухай,—кажа,—валадар хвалу не прыме,
Калі тое, што сказаў я, не прызнана будзе ўсімі».

І не ўбачыць бы Майсею цуд Сіная ля падножжа,—
Хіба куст шыпшыны дзікай у агні згарэць не можа?
Каб не мог прарок паверыць у праяву сілы божай...
Ды табе пачну расказваць з багавешчання я, можа.

Знаю я пра гэту дзею ад Лукі-евангеліста.
Чэрвень быў, калі з'явіўся ў горад Гаўрыіл вячыста.
Назарэт у Галілеі — горад славы прамяністай.
Там жыла Марыя-дзева, што слыла святой і чыстай.

Замуж выдалі Марыю, дзеву, чыстую душою,
За Іосіфа, якога надзялялі ўсе хвалою.
«Дык узрадуйся! — архангел абвясціў ёй.— Бог з табою».
І жахнулася Марыя: «Хто гаворыць гэтак з ёю?»

І сказаў тады архангел: «Ты баішся, як жанчына.
Слухай, богу дагадзіла ты душой сваёй нявіннай.
І зачнеш — пра гэта ведаць толькі ты адна павінна —
І народзіш неўзабаве ад святога духа сына.

Назавеш яго Ісусам, і, па звычаю людскому,
Ён на трон Давіда ўзыдзе, продка бацькі, па закону
Родам Якава ўладарыць вечным спадчыннікам трону.
І, зрабіўшыся ўсявышнім, не аддасць яго нікому...»

«Ды не зведала я мужа»,— ціха дзева адказала.
«Гэта так. Не трэба богу, каб і клятву ты давала.
Сыдзе дух святы, Марыя, на цябе і, як ухвала,
Ад спакусы абароніць, каб ты маці божай стала».

І сыходзіць на Марыю дух святы як азарэнне,
Ёй знаёмае з маленства, ну а з ім і благаславенне:
«Ты ўвасобіш майго сына» — ноч прынесла як збавенне
Багавешчанне святое і Хрыстова нараджэнне.

## НАРАДЖЭННЕ ІСУСА ХРЫСТА

### Сказ ночы

Што прадказваў нам Міхея, хутка здзейснілася тое:
«Віфліем, што на Еўфраце, ты — прыстанішча святое!
І між сёлаў Іудзеі мо не самае малое:
Ты дасі святога сына»,— слова божае такое.

Так сказаў таму Міхея, што пазней па божай волі —
І Ісаева прароцтва тут прыгадваеш міжволі —
Богахлопчык нарадзіўся ў Віфліеме, каб ніколі
Не забыць нам, што без веры мы не ўбачым лепшай долі.

Божы сын з уладай бога свету быў падараваны.
І анёлам дум высокіх потым будзе ён названы.
Несці мір, любоў і праўду між людзей ён быў прызваны
Як падтрымка тым, хто будзе хіжай сілай растаптаны.

Шмат гадоў назад казалі, што надыдуць дні такія:
«Прыйдзе час, калі народзіць сына божага Марыя».
Ды яго Імануілам звалі ўсе ў часы старыя...
Вось і здзейсніліся ўрэшце, як відаць, прароцтвы тыя.

І апоўначы сын божы нарадзіўся ў Віфліеме.
З радасцю Мацвей нам піша пра Хрыстова нараджэнне.
Шмат старонак прысвяцілі ўсе прарокі гэтай тэме,
Бо прынесла ўсім збавенне сына божага з'яўленне.

## СТРЭЧАННЕ

### Сказ дня

Апісаў Лука сустрэчу гэту словамі такімі:
«Быў доўгажыхар калісьці, жыў — у Іерусаліме.
Сам з Іудзінага роду, добры, шчыры быў з усімі,
Называўся Сімяонам, жыў імкненнямі святымі.

Ён чакаў здзяйснення слова — зараз я скажу якога:
У той час апавяшчэнне меў ад духа ён святога.
Што, калі не зможа ўбачыць ён памазанніка бога,—
Не памрэ, і ў храм свяшчэнны прывяла яго дарога.

І прыйшла з Ісусам Маці ўсім прысутным на здзіўленне
Стрэчання абрад правесці дзеля нашага збавення
Так, як трэба па закону, згодна з божым настаўленнем,
Сімяон яго на рукі ўзяў з нязвычным узрушэннем.

І, дзіця багаславіўшы, ён у бога даравання
Папрасіў з мальбою ціхай і журбою пакаяння:
«Я — твой раб... Хай нада мною будзе век тваё
уладанне.
Ты сваім увасабленнем нам прынёс выратаванне».

Так усё, чаго чакаў ён, бога просячы, збылося.
Ім былі багаслаўлёны і Марыя, і Іосіф.
Ён узнёс хвалу Адаму, што імя прабацькі носіць...
Ноч, ці чуць табе такое калі-небудзь давялося?

## ХРЫШЧЭННЕ

### Сказ ночы

Дзень, скажу табе я слова, што апостальскім прызнана,
Са Старога Запавета, і таксама прадказана.
Мора, бачачы Ісуса, адступіла нечакана,
І прайшоў у час хрышчэння ён праз хвалі Іардана.

«Што табе патрэбна, мора?» — не яго калісь пыталі?
«Дык цячы назад!» — пра гэта мы ў Давіда прачыталі.
«І ад посаха Майсея ў ім пасаладзеюць хвалі,
Як Хрыстос хрышчэнне прыме»,— так прарокі
прадказалі.

«Асірыйскі цар,— пра гэта і ў свяшчэнным ёсць
Пісанні,—
Падхапіў праказу недзе і ў жахлівым быў ён стане.
«Сем разоў,— яму сказалі,— пакупайся ў Іардане:
Пакупаешся — адразу і бяды тваёй не стане».

«Што прадказвалі — збылося»,— як адзначана ў Пісанні.
У Еванеллі ад Марка гэта знойдзеце вы самі,
Хоць збывалася не хутка прадказанае часамі.
Што ж пра гэтае хрышчэнне нам данеслі хрысціяне?

Вось Ісус Хрыстос прыехаў з Назарэта нечакана,
І хрышчэнне ў Галілеі ён прыняў ад Іаана.
І раскрылася над імі неба з гулам урагана:
«Сын мой любы!» — голас божы прагучаў усхвалявана.

На Хрыста сышоў умомант дух святы, каб апантана
Узляцець над сынам божым, што ў вадзе стаяў ціхмяна,
Белым голубам... Было ўсё гэта ў хвалях Іардана...
Ноч, кажы далей, і слухаць буду я зачаравана.

## ПЕРАЎВАСАБЛЕННЕ ХРЫСТА

### Сказ дня

Ноч, мяне не пераўзыдзеш ты тырадамі шматслоўя,
Не прымусіш мяне змоўкнуць, як пачну расказваць
зноў я.
Пра Фавор сказаць табе я — ёсць і слова, і прыслоўе —
І пра пераўвасабленне сына божага гатоў я.

Як не верыць нам Мацвею — у расказ яго праўдзівы?
Бо якраз шэсць дзён мінула, як Хрыстос негаманлівы
Запрасіў Пятра з сабою на гару ў той дзень шчаслівы.
Быў там Якаў з Іаанам, і раслі вакол алівы.

Як з Ісусам адбылося гэта пераўвасабленне?
Твар, як сонца, выпраменьваў незвычайнае свячэнне,

І яшчэ ярчэйшым стала беласнежнае адзенне.
Падышлі Майсей з Ільёю, і былі ўсе ва ўзрушэнні.

Размаўлялі між сабою, побач быў Майсей з Ільёю.
Пётр сказаў Хрысту: «Як добра нам тут гутарыць
з табою!
Як дазволіш, тры альтанкі мы тут зробім талакою.
Ты́, Майсей, Ілья... З вас кожны ў іх сустрэне нас
з душою».

Гаварыў ён так, і хмарка іх ад промняў засланіла,
І з яе пачуўся голас — не яна ж загаварыла:
«Гэта сын мой улюбёны — спадкаемца божай сілы.
Слухайце яго!» — за богам паўтарылі небасхілы.

І, пачуўшы гэта, вучні ўсе ад страху ніцма ўпалі.
Іх Ісус крануў рукою, і яны адразу ўсталі.
Ён суцешыў іх, сказаўшы, каб яны не смуткавалі.
І глядзяць яны: нікога больш няма на перавале.

І сказаў Хрыстос: «Насталі развітальныя хвіліны,
Ды, пакуль я не ўваскрэсну, вы пра ўсё маўчаць
павінны...»
Толькі гэты цуд адбыўся — дзень дайшоў да палавіны,
І спыняць расказ на гэтым у мяне няма прычыны.

## УВАСКРАШЭННЕ З МЁРТВЫХ ЛАЗАРА

### Сказ дня

Сведкам гэтага здарэння быць папросім Багаслова.
У Віфаніі жыў Лазар. Толькі воляю Хрыстовай
Ён, да ложка прыкаваны, ачуняў і стаў здаровы,
Калі лекары ў бяссіллі апускалі ўніз галовы.

Сёстры Марфа і Марыя — раскажу вам, як умею,—
Што Хрысту ўмасціла ногі дзіўным водарам алею

І працерла валасамі — калі страціла надзею,
Да збавіцеля паслалі чалавека ў Галілею.

І сказалі: «О Ісусе, друг твой Лазар памірае».
«Хоць і хворы ён смяротна, смерць паволі адступае,
Каб вялікі цуд адбыўся ў славу божую, якая
Мне паслана, каб мацнела вера вечная святая».

На два дні Хрыстос застаўся, каб зрабіць святую дзею,
І сказаў сваім ён вучням: «Пойдзем зноў у Іудзею!» —
«Хто табе, скажы, збавіцель, запярэчыць з нас пасмее?
Але там уратавацца ты не будзеш мець надзеі.

І, калі туды ты пойдзеш, хутка схопяць, каб забіць».
І сказаў Хрыстос ім: «Лазар там заснуў, мой друг. Ляжыць.
І яго вам абяцаю я пайсці і разбудзіць».
Вучні думалі: і праўда, ён заснуў і зараз спіць.

І не смерць на ўвазе мелі, а для ўсіх звычайны сон.
І тады сказаў пра гэта сваім вучням прама ён.
«Вы мне верыце і верце да сваіх апошніх дзён.
Але пойдзем, я не быў там. Мы ў Віфанію ідзём...»

І сказаў Фама, не ў сіле захаваць сваю трывогу,
Каб і ўсе яго пачулі: «Дык збіраемся ў дарогу,
Каб і нам загінуць разам, калі гэта трэба богу,
Бо наўрад ці спадзяюцца там на нашу дапамогу».

Хоць спяшаў Хрыстос да друга — мёртвым Лазара засталі:
Ён чатыры дні ў магіле быў ужо, як ім сказалі.
Нават з Іерусаліма іудзеі тут стаялі.
Яны Марфу і Марыю словам жалю суцяшалі.

І, калі пачула Марфа, што ідзе Хрыстос, у скрусе
Выйшла іх сустрэць, сказаўшы: «Гневу божага баюся,

Але брат мой не памёр бы, каб ты з намі быў, Ісусе,
І ад веры ў літасць бога я нідзе не адступлюся».

«Брат твой з мёртвых уваскрэсне».— «Знаю, пры другім
прышэсці.
У апошні дзень і Лазар уваскрэснуць зможа ўрэшце».—
«Хто майму паверыць слову — не загіне ўмомант дзесьці,
Можа нам выратаванне толькі вера і прынесці».

І Хрысту сказала Марфа: «У тваё я веру слова,
Веру, што да нас, сын божы, ты прыйшоў невыпадкова».
І пайшла дамоў: Марыі, можа, трэба дапамога...
«Там цябе настаўнік кліча. Ён прыйшоў і славіць бога».

І яна, пачуўшы гэта, хутка выйшла да яго.
З вучнямі стаяў паблізу, як і быў ён да таго,
Калі Марфа з плачам выйшла да настаўніка свайго.
Падышлі і іудзеі, зразумела ўсім — чаго:

Каб суцешыць... Як і сёстры, не заснулі ноччу тою.
Выйшла раніцай Марыя, і яны пайшлі за ёю,
Думалі: аплакваць брата будуць зноў яны з сястрою,
А яна да ног Ісуса ўпала з плачам і мальбою.

І ў сваім вялікім горы так настаўніку сказала:
«Быў бы з намі ты, і брата смерць дачасна б не
забрала».—
«Я ж сказаў: ён уваскрэсне! Хіба слоў маіх вам мала?»
І душою ён жахнуўся: так Хрысту шкада іх стала.

Ён тады спытаў Марыю: «Дзе ж яго вы пахавалі?» —
«Паглядзі ідзі».— І слёзы на вачах Ісуса сталі.
«Ён любіў яго заўсёды»,— у натоўпе паўтаралі.
«Мог бы вылечыць, вядома, каб...» — Ісуса дакаралі.

«Ён сляпых вылечваў... Мог бы ўратаваць і ад хваробы».
Вось прыйшлі і на магілу, і, як трэба ў міг жалобы,

Падышоў Хрыстос у смутку да пячоры без аздобы:
«Зрушце камень ля ўвахода».— «Не намарна будуць спробы?

Мо не трэба,— адказала Марфа,— бо смярдзіць ён, можа».—
«Я ж казаў табе: без веры ў волю бога жыць нягожа.
Калі будзеш моцна верыць, станеш сведкам славы божай».
Вось адсунулі і камень... Хто ж свой страх не пераможа?

«Лазар, выйдзі!» — гэты голас быў, як з неба, нечаканы.
І да іх нябожчык выйшаў — выйшаў звязаны, ціхмяны,
Ледзь не вобмацкам, бо ў саван быў і твар яго схаваны.
«Развяжыце! — хай ён будзе маёй сілай падтрыманы!»

Як не ўвераваць было тут у Ісуса іудзеям?
Днём, не ноччу, свайго друга ўваскрасіў пры грамадзе ён.
«Ёсць яшчэ пра што расказваць?» — запытаеш ты з надзеяй.
Раскажу пра ўезд Хрыстовы ў Іерусалім табе я.

## УЕЗД ХРЫСТА Ў ІЕРУСАЛІМ

### Сказ дня

Напісаў прарок Захарый — слова гэта ўсім адкрыта,—
Як у радасці вялікай гаварыў Хрыстос нібыта:
«О дачка Сіёна, ведай, як уехаў самавіта
Той у горад іудзейскі, чыя слава не забыта.

Да цябе ідзе ўсявышні, да цябе ідзе, але,
Справядлівы і ціхмяны, ён прыедзе на асле».
І Мацвей пра гэта піша, хоць парад нам не дае,
Праз Еванелле даводзіць прадраканні ён свае.

Шлях да Іерусаліма і прывёў яго ў Віфагу,
І ў Віфаніі спыніўся наталіць з дарогі смагу.
Там застаўся на гары ён, каб прынесці богу славу,
І паслаў сваіх двух вучняў учыніць святую справу:

«У пасёлак гэты хутка, не марудзячы, ідзіце.
Ёсць на прывязі асёл там, побач — ослік, адвяжыце.
І яго — ён паслухмяны — да мяне вы прывядзіце,
А калі «Нашто?» спытаюць, «Сыну божаму» скажыце.

Вучні гэта ўсё зрабілі так, як ім і загадалі.
Прывялі асла, адзенне на яго спіну паклалі.
Ён усеўся на адзенне, як прарокі прадракалі.
І яму дарогу веццем і адзеннем высцілалі.

Гэта вецце з дрэў ламалі ледзь не ўздоўж усёй дарогі.
І з уцехай захаплення кідалі аслу пад ногі.
Сярод іх былі і тыя, што ўсхвалялі гучна бога,
І праводзілі з «Асанай» — сын Давіда ж быў самога!

Гэта значыць: «Благаслаўлены той, хто прыйдзе з божай славай!»
Альбо «Выратуй нас, грэшных, як сядзіш ад бацькі справа!»
Стаў у Іерусаліме ўезд Хрыста вялікай з'явай:
«Хто такі?» — пыталі. Ведаць гэта ўсім было цікава.

І калі пыталі «Хто ён?», дык адказвалі пачціва:
«Ён — прарок, завуць Ісусам... Вось якое гэта дзіва!»
І казалі ў Назарэце потым гнеўна і злосліва:
«Што тут пра цябе гавораць? І паверыць немажліва...»

Ім сказаў Хрыстос: «А тое, што ў свяшчэнным ёсць Пісанні.
Прачытайце — і тады вам зразумелым гэта стане...»
Вуснамі дзяцей пацвердзі ты, Ісус, усё дазвання —
І хвалу сваю, і славу. Так збылося прадказанне.

## ТАЙНАЯ ВЯЧЭРА

### Сказ дня

Ноч, табе я нагадаю Багасловава прызнанне:
Ведаў ён, Хрыстос, якое бог пашле выпрабаванне.
Што было наканавана — ён выконваў без вагання.
І пасля вячэры тайнай пачалося амыванне.

Зняўшы верхняе адзенне, ён прынёс вады —ты слухай—
І, да пояса ручнік свой прывязаўшы звычным рухам,
Мыць пачаў ён ногі вучням, выціраючы насуха —
Так, як гэта і належыць, але быў ён смутны духам.

Да Пятра чарга даходзіць, ён са скрухай устае:
«Як магу табе дазволіць ногі я амыць свае?»
А Ісус: «Раблю, што мушу — час апошні настае»,
Ды значэння яго словам Пётр ізноў не надае.

І сказаў Хрыстос: «Табе я не амыю ног вадою —
І за гэты стол не сядзеш ты апошні раз са мною».—
«Калі так, не толькі ногі, ты амый рукой сваёю
Галаву маю і рукі, каб застацца мне з табою...»

І сказаў, Пятра амыўшы, словы ім Хрыстос такія:
«Аднаму з вас толькі ногі не амыў бы сапраўды я:
Той святы, хто амывае, і амытыя — святыя,
Акрамя...» Хто быў прадажнік, ведаў ён у хвілі тыя.

У Мацвея ёсць пра гэта. Ён пісаў невыпадкова:
«І сказаў Ісус: «Амін, вам я скажу такое слова:
З вас адзін мяне павінен тут прадаць абавязкова».
Абмяркоўвалі ў трывозе ўсе прадбачанне Хрыстова.

«Ці не я?» — пыталі вучні, чыстыя душой бязвіннай.
«Не, трывожыцца душою ў аднаго з вас ёсць прычына.
Хто душу сваю загубіць, вам прадбачыць немагчыма.
Як напісана ў Пісанні, так і здзейсніцца павінна».

«Можа, я?» — спытаў Іуда, зіркнуўшы вачмі пустымі.
«Кажаш сам! — сказаў настаўнік.— Гэты грэх не кожны
прыме»,
І, падзякаваўшы богу, хлеб узяў і перад імі
Праламаў яго, падаўшы ўсім са словамі такімі:

«Дык прыміце, пакаштуйце, гэта — плоць мая жывая,—
І віно ім даў, сказаўшы: — Чара гэтая — цяжкая.
Гэта чара — ачышчэнне. Піце кроў маю, якая
За грахі людзей праліта, з маёй плоці выцякае».

Быў чацвер. Вячэра гэта і была і вечна будзе.
«Гэты і прадасць»,— сказаў ён, хлеб падаючы Іудзе...
Выйшаў той і здзейсніў справу, свет якую не забудзе,
Як Ісусавы пакуты, што за вас прыняў ён, людзі.

## ПАКУТЫ ХРЫСТА

### Сказ ночы

Вось і ты цяпер паслухай, дзень, маё апавяданне,
Як прыняў Хрыстос пакуты без тугі і наракання,
І прынёс сваёю смерцю ён людзям выратаванне —
Тым, хто звернецца да бога ў цяжкі міг выпрабавання.

А Ісус да дня маліўся, не заснуўшы ноччу тою —
Пішуць так евангелісты — пад аліваю густою,
Покуль выступіў на твары пот крываваю расою...
Спалі вучні, зоркі ў небе ззялі дзіўнаю красою.

Ён, закончыўшы малітву, паглядзеў, ці вучні спалі,
І сказаў ім, разбудзіўшы, каб хутчэй яны ўставалі.
Суцяшаў, як мог, і словы так у сэрца ўсім запалі,
Што ў хвіліну смутку, скрухі іх у сіле ўмацавалі.

А над садам Гефсіманскім бліснуў золак яснагруды,
Ды Хрыстос не адыходзіў, штосьці чакаючы, нікуды.

А Іуда іудзеяў навакол збіраў усюды,
І прыйшлі яны з мячамі на чале таго ж Іуды.

«О, узрадуйся! — сказаў ён.— І ствары святую дзею».—
«Зробіш тое, што задумаў: я пярэчыць не пасмею»,—
Адказаў Ісус. Ці, можа, ён на літасць меў надзею?
Пётр, калі Хрыста схапілі, адсек вуха іудзею.

І Пятру сказаў настаўнік: «Пакладзі свой меч у ножны»,
Вуха вылечыў Малкозу, каб пакаяўся бязбожны.
Цуд Хрыста не зразумелі — з іх зайздроснікам быў
кожны.
Рукі звязвалі Ісусу — ён стаяў, бездапаможны.

Бачыце, каго Пілату аддалі на асуджэнне.
Ён прыняў за чалавецтва здзек, папрокі і глумленне.
Выкупіўшы гэтым самым грэх людскі — без абурэння
Вытрываў, велікадушны, ён і боль, і прыніжэнне.

І сухі вянок цярновы ён прыняў у засмучэнні,
І адзеты ён таксама быў не ў царскае адзенне.
І пасарамаціў д'ябла, што сумеўся на імгненне.
Пётр адрокся ад Ісуса і пакаяўся ў сумненні.

Ірад і Пілат дагэтуль між сабой варагавалі,
Але мір настаў між імі ў дзень, калі Хрыста распялі.
І адзін першасвяшчэннік, і другі руку ўздымалі
На Ісуса ноччу тою... Дзень, прашу, расказвай далей.

## РАСПЯЦЦЕ ХРЫСТА

### Сказ дня

Ноч, псалмы Давіда сведчаць — не раскажаш больш
праўдзіва:
«Як язычнікі паўсталі на мяне — ці ж гэта дзіва? —
І князі зямныя з імі аб'ядналіся зласліва
І сабраліся ўсе разам, каб судзіць несправядліва».

Сталі ў пятніцу збірацца зранку людзі за дарогай,
Каб распяць Хрыста за тое, што прынёс ён веру ў бога.
І раз'юшана крычалі ад старога да малога:
«На крыжы яго распніце! Ён і так жыве замнога».

Звычай быў у Іудзеі: як разбойнікаў каралі,
За каго народ папросіць — тым злачынства даравалі.
Быў адзін між іх — Варава: пакараць яго спяшалі —
Не адно ў той час забойства кінуў ён сабе на шалі.

І сказаў Пілат народу: «Аднаму жыццё дарую.
А каму — скажыце самі, і адразу адпушчу я.
Дык Вараву ці Ісуса? Ведаць,— крыкнуў ён,— хачу я?»
І вакол «Аддай Вараву!» закрычалі ў хвілю ж тую.

Не хацеў распяць Хрыста ён, але бачыў перашкоду...
Скажа слова за Ісуса — і сабе ён зробіць шкоду:
Узбунтуе іудзеяў, і Пілат на смерць даў згоду,
«Я ў крыві яго не вінен» паўтараючы народу.

«Хай на нас! На дзецях нашых! — сам натоўп ужо
уладарыў —
Будзе кроў яго!» Ісуса тут Пілат бічом ударыў
І аддаў яго натоўпу... Крыж усклалі на ахвяру,
Але ўпаў ён разам з крыжам — не стрываў яго цяжару.

Нехта Сімяон Кірынскі часам тым ішоў дадому,
І сустрэў натоўп ён гэты — шум яго быў чуць глухому.
На спіну яму ўзвалілі гэты крыж: «Нясі на строму!»
І яго перад натоўпам ён па схіле нёс крутому.

Дзе спачыў Адам калісьці, крыж цяжкі ў зямлю ўкапалі
І на тым крыжы Ісуса між разбойнікаў распялі.
Той, што злева быў, штохвілі зневажаў Хрыста ў запале,
А другі яго суцішваў — так яны і паміралі.

«Прыгадай,— Хрысту сказаў ён,— і мяне на царскім
лоне».
А Хрыстос: «Амін, у раі будзеш ты са мною сёння!»
І на момант сціх ад смагі, ад пакут сваіх, бяссоння.
«Вось твой сын»,— сказаў Марыі з прадсмяротнага
сутоння.

«Маці вось твая!» — праз момант прашаптаў да Іаана.—
«Піць хачу!» — і іудзеі воцат, з жоўцю размяшаны,
Падалі яму з насмешкай у пасудзіне глінянай.
«Што ж сасмягла唯 далі вы? Воцат?» — ён сказаў
ціхмяна.

Як натоўп бязбожны гэты кпіў [illegible] яго разлютавана!
Але вось, схіліўшы галаў, сціх Ісус. Было не рана.
І алтарная заслона ў міг была той разарвана.
Сонца ўдзень, а месяц ноччу пацямнелі нечакана.

Вось яшчэ псалом Давіда, што датычыць гэтай дзеі.
Што Давід прадрок Ісусу — добра знала іудзеі:
«Як адзенне падзялілі, кінуць жэрабя пасмелі
На хітон мой вартавыя, нібы сораму не мелі».

## ЗНЯЦЦЕ З КРЫЖА І ПАХАВАННЕ ХРЫСТА

### Сказ ночы

Іудзеі ў гэты вечар мелі не адну турботу:
«Здымем целы мёртвых зараз: як здымаць іх у суботу?»
З двух разбойнікаў распятых пацяшаліся ў ахвоту
І з крыжоў іх паскідалі як апошнюю брыдоту.

А Хрыста знайшлі ўжо мёртвым. Галаву сваю ў бяссіллі
Звесіў ён, і іудзеі ног яму не перабілі,
Як разбойнікам, са злосці ў бок кап'ё адно ўсадзілі.
Вучні і сябры ў Пілата яго цела папрасілі.

Быў між іх яшчэ Іосіф — яго вучань патаемны.
Зняў ён з крыжа цела—богу гэты ўчынак быў прыемны.
Пахаваў яго ў пячоры з Нікадзімам, што нязменна
Быў пры ім — пра гэта ў кнізе не напісана свяшчэннай.

Слова-мудрасць Бога-бацькі як і трэба пахавана:
На зямлі, па-чалавечы, як і ўсім наканавана...
Вось і выканаў ён тое, што было паабяцана
Ім Адаму... Што ў цябе там, ноч, цікавае схавана?

## СВЯТЫ ВЯЛІКДЗЕНЬ

### Сказ дня

На наступны дзень — пра гэта ўсё расказана Мацвеем —
Не было спакою жорсткім і бязбожным іудзеям,
Што, не веруючы ў бога, вераць толькі боскім дзеям:
«О Пілат, будзь асцярожны! Мы не ўсё тут разумеем.

Чулі мы — і гэта хутка Іудзею абляцела:
Праз тры дні ён уваскрэсне, толькі як, не зразумела,
Загадай, каб за магілай варта дзень і ноч глядзела,
Каб цябе не падманулі і не ўкралі яго цела».

І сказаў Пілат: «Ідзіце і вартуйце яго самі.
Па дваіх або ўсе разам, як удзень, так і начамі...»
І яны пайшлі адразу — дружна, з коп'ямі, мячамі,
І ўваход тады ў пячору завалілі камянямі.

І Марыя Магдаліна, як амаль ужо світала,
У нядзелю да пячоры падышла — зямля дрыжала.
Падышла з другой Марыяй, што пакутвала нямала,
І сышоў анёл тут божы на зямлю, і ціха стала.

Ён, адсунуўшы каменне, што пячору закрывала,
Сеў на ім — і нібы сонца ля ўваходу запалала,

І, як снег, яго адзенне беласнежнае заззяла.
Варта, страціўшы прытомнасць, ля пячоры ніцма ўпала.

І тады анёл звярнуўся да Марыі Магдаліны:
І да той, другой Марыі, чыстай думкамі дзяўчыны:
«Вы Ісуса з Назарэта тут знайсці былі павінны.
Уваскрэс Хрыстос, сын божы, усявышні і адзіны!

Уваскрэснуў наш збавіцель, ноччу выйшаўшы з пячоры.
Д'ябла ён пасарамаціў — цвёрды ў веры, як і ў горы.
Выкупіў ён грэх смяротны чалавечай непакоры
І да Бога-бацькі ўзнёсся, недасяжны нам як зоры».

## АГЛЯД РАНЫ ХРЫСТОВАЙ

### Сказ ночы

Дзень, і я не памылюся, перадаўшы слова ў слова,
Што напісана рукою Іаана Багаслова.
Аглядзеў Фама-апостал іх настаўніка нанова,
Устрывожаны душэўна гэтай ранаю Хрыстовай.

У нядзелю, як сцямнела, дзе — святым адно вядома,
Зачыніўшы добра дзверы імі знойдзенага дома,
Паслядоўнікі Ісуса, не зрабіўшы зла нікому,
Пачалі чакаць расправы — іудзейскага пагрому.

І зайшоў туды збавіцель. Той, хто быў пры гэтым цудзе,
Акрыяў душой, калі ён ім сказаў: «Мір з вамі, людзі!»
Паказаў ім рукі, ногі і параненыя грудзі,
Вучні радавацца сталі, што ізноў ён з імі будзе.

«Гэта дух святы. Прыміце!» — ён дыхнуў на іх вячыста.
Не было тады між імі аднаго евангеліста,
І калі Фаме сказалі пра прыход Хрыста ўсё чыста,
Паглядзеў ён з недаверам і сказаў ім ганарыста:

«След цвікоў пакуль не ўбачу на руках, нагах Ісуса,
Покуль пальцамі сваімі я да іх не дакрануся,
Не абмацаю рукою рану ад кап'я, клянуся:
Не паверу вам!» Ён думаў — гэта нейкая спакуса.

Зноў праз восем дзён сышліся ўсе, шчаслівыя без меры.
Непакоілі іх толькі фарысеевы намеры.
І ўвайшоў Хрыстос нячутна праз зачыненыя дзверы:
«Мір хай будзе вечна з вамі! І святло вялікай веры...»

А Фаме сказаў збавіцель: «Што глядзіш, лепш падыдзі
ты
І правер, ці мае ногі і далоні не прабіты,
У мой бок, кап'ём праткнуты, пальцы, хочаш, укладзі
ты...
Малаверцам быць не трэба. Лепей вер крыві пралітай...»

Адказаў Фама Ісусу шчырай верай і прызнаннем,
Што ён — божы сын і з мёртвых уваскрэс перад
світаннем.
І стварыў нямала цудаў ад змяркання да змяркання...
Дзень, мне час цябе паслухаць... Ты стаміўся ад
чакання.

## АЦАЛЕННЕ СЛЯПОГА АД НАРАДЖЭННЯ

### Сказ дня

Не, канца не будзе цудам, як і добрым справам божым.
І Хрыстову міласэрнасць мы прывесці ў доказ можам.
Ці не ён зрабіў калеку і здаровым і прыгожым?
Мы расказам пра сляпога — славу божую памножым.

Вось сустрэў Ісус сляпога, ідучы сваёй дарогай.
Варцімеем называлі, як дазнаўся ён, сляпога.
І Хрыста прасілі вучні, каб сваё сказаў ён слова:
«За чые грахі няшчасны пакараны так сурова?

За грахі бацькоў, якія заслужылі асуджэнне?» —
«Не, не за грахі чужыя ён сляпы ад нараджэння,
А таму, каб ваш настаўнік дзеля божага ўзвышэння
Мог паказваць дабрачыннасць і прыносіць суцяшэнне...»

І зямлю, змачыўшы слінай, маззю ён зрабіў сваёю,
І няшчаснаму сляпому ён павекі змазаў ёю:
«Ты адмый,— сказаў,— іх добра сілаамскаю вадою».
Той пайшоў, адмыў і ўбачыў свет і сонца над зямлёю.

Так Хрыстос — сярод дарогі — раптам вылечыў сляпога.
Шмат зрабіў ён дзеля славы духа божага святога...
Ты наслухалася ўдосталь, і табе я даў бы слова,
Ноч, ды час прыйшоў расказваць пра ўзнясенне мне
Хрыстова.

## УЗНЯСЕННЕ

### Сказ дня

Перад самым узнясеннем у Хрыста была патрэба
Дух святы евангелістам зноў паслаць, як бедным хлеба:
«Я па запавету бацькі дух святы пашлю вам з неба,
Толькі ў Іерусаліме гэтым часам быць вам трэба.

Будзеце аж покуль неба сілу духа вам не ўзніме».
І ў Віфанію павёў іх, непамерна горды імі.
Бласлаўляючы штохвілі, услаўляў перад усімі,
І пасля таго расстаўся з аднадумцамі сваімі.

Ён на неба ўзнёсся ў славе, і апосталы, аддана
Праслаўляючы Ісуса, разам выйшлі ў горад рана.
Храм свой іерусалімскі ўсе наведалі з пашанай,
Славячы Хрыста і бога несупынна, несціхана.

Шмат прароцтваў у Давіда. Вось яшчэ адно збылося:
«І сябе ён сцвердзіў богам, калі сам на неба ўзнёсся...»
Прыйдзе час—зайграюць трубы, і пад гукаў шматгалоссе
На зямлю Хрыстос зноў прыйдзе... Дзень, што потым
адбылося?

## З'ЯЎЛЕННЕ СВЯТОГА ДУХА

### Сказ дня

Трыццаць дзевяць дзён мінула, як збылося ўваскрасенне.
На саракавы прыпала сына божага ўзнясенне.
А затым — святога духа незвычайнае з'яўленне.
Гэта — дзень пяцідзесяты, дзень уцехі і малення.

Ледзь апосталам з'явіўся дух святы, як праз імгненне
Бог рассеяў па зямлі іх сеяць божае насенне.
Кінуць жэрабя — такое ў іх было прадвызначэнне:
Хто — на ўсход, а хто — на захад... Ноч, якое ж
заключэнне?

## СМЕРЦЬ СВЯТОЙ БАГАРОДЗІЦЫ

### Сказ ночы

Дзень, і я не адставала, каб угнацца за табой.
Пустаслоўе і шматслоўе — недахоп асноўны твой.
Адкажу табе адразу: сказ кароткі будзе мой.
Раскажу пра смерць табе я багародзіцы святой.

Гэта здзейснілася ноччу... Вось яна перад сабою
Ставіць вобраз свайго сына і схіляецца з мальбою.
Доўга моліцца святая — і гаворыць вобраз з ёю:
«Час прыйшоў,—паведамляе,—мы сустрэнемся з табою».

Разам з ёй былі і дзевы, што журботнаю хвілінай,
Слова божае пазнаўшы, з ёй маліліся няспынна
І пачулі ў час малітвы — ці пачуць былі павінны,—
Што сказаў ёй, Маці божай, незабыўны вобраз сына.

Ды магло б прынесці ўцеху ёй апосталаў з'яўленне.
Распаўсюджвалі па свеце ўсе Ісусава вучэнне.
І адсутнасць іх той ноччу ёй прыносіла мучэнне,
І прасіла яна сына, каб спаткаць іх на імгненне.

Надыходзіў міг апошні, змрок насунуўся злавесна.
І яна тады прылегла і малілася балесна.
І апосталаў Хрыстовых дух святы сабраў сумесна:
На гару Сіён хмурынка, падхапіўшы, іх прынесла.

Дом апосталы знаходзяць, дзе яна тайком жыла,
І спяваюць «Алілуя!» — сыну божаму хвала!
А святая, прывітаўшы іх, распытваць пачала,
Па чыёй таемнай волі ўбачыць іх яна змагла.

Быў складаны і цярністы прапаведніцкі іх лёс:
«Дух святы апавясціў нас — і, падняўшы да нябёс,
На хмурынцы таямнічай на Сіён нас перанёс.
І апосталы, і Маці не хавалі ўцешных слёз.

І святая пачала ім спавядацца ў хвілю ж тую:
Рыхтаваў дары святыя Якаў, як і мы рыхтуем,
І Хрыста нявіннай плоццю прычасціў ён прасвятую.
І анёлы папрасілі даручыць сваю душу ім.

Прасвятая ім сказала: «Хай мне мой гасподзь дарує,
Ды, пакуль я тут не ўбачу ўсіх прарокаў, не памру я».
І тады ўвайшлі прарокі, заспяваўшы «Алілуя!».
Дык гучыце, струны арфы,— хай збавіцель вас пачуе!

Ёй «Узрадуйся!» казалі ў невыказным узрушэнні
І на неба запрашалі, і спявалі песнапенні.
«Я душу сваю нікому,— стала Маці на калені,—
Не ўручу, а толькі сыну! О, пачуй маё маленне!»

Сына божага прышэсце на зямлю два Іааны —
Папярэднік і Хрысціцель абвясціць былі абраны.

І пачуўся голас бога: «Грайце, гуслі і цімпаны!
На зямлю сышоў сын божы — даць бяссмерце ўсім
прызваны».

«Дык узрадуйся, о Маці!» — Багародзіцы сказаў ён.
Хто там быў, спявалі хорам: «Славай божаю заззяў ён!
Божы сын да нас з'явіўся, як усім і абяцаў ён».—
«О, мой сын!» — сказала Маці, і душу святой узяў ён.

Багародзіца памерла — не канчалася маленне.
І апосталы панеслі яе цела з песнапеннем,
І напоўніліся сэрцы іудзеяў абурэннем.
Хтосьці з іх крануўся цела — рукі высахлі ў імгненне.

І апосталы, пачуўшы, што ён просіць прымірэння,
У святога цела Маці папрасілі благаславення —
І свае падняў ён рукі, што скавала амярцвенне,
І прыняў Хрыстову веру, як і ўсе без выключэння.

Цела Маці пахавалі, як і трэба, у магіле.
Правялі над ёй тры ночы — за душу яе малілі,
А на трэцюю пачаўся землятрус, што нёс бяссілле,
І апосталы з падзякай бога існага ўсхвалілі.

А Фама, апостал божы, быў у Індыі шмат дзён,
Прапаведаваў нястомна там святое слова ён.
Атрымаў ад бога вестку ён пра Маці божай скон,
І на воблаку імгненна перанёсся на Сіён.

Як усё было, распытваў у апосталаў Фама,
Як прыйсці прасіла сына Багародзіца сама.
Ды ўсяму, што адбылося, як вядома, нездарма,
Не паверыў ён, сказаўшы: «Веры ў гэта штось няма».

«Не магу я ў смерць паверыць Багародзіцы самой,
Што Ісуса нарадзіла. Слава бога — вечна з ёй.

І пакуль труну не ўбачу з мёртвым целам прасвятой,
Маё сэрца не паверыць... Як жа смерці быць такой?»

Ці былі такія клятвы, што рассеялі б сумненні
І Фаму пераканалі б у святым прадвызначэнні?
«Раскапаць магілу трэба»,— вынес Пётр сваё рашэнне—
І магілу Маці божай раскапалі ў засмучэнні.

З-за нявер'я раскапалі, не з-за божага прымусу.
Ды была яна пустая... Бог даруе ім спакусу!
Цела вынеслі анёлы і ў часіну землятрусу
Перанеслі ва ўладанні, што належалі Ісусу.

Ля магілы ўсе стаялі з невымоўнаю журбою,
І не думалі, што ўбачаць зноў яе перад сабою.
Пакланіліся ёй нізка, і з уцехаю зямною
Іх яна апавясціла, што было на небе з ёю.

І, пакінуўшы іх моўчкі, зноў узнеслася да бога,
І апосталы па свеце неслі зноў святое слова...
Так Фама сваім нявер'ем дзеі велічы Хрыстовай,
Відавочнымі зрабіўшы, паўтарыў як бы нанова.

## ПРА ДРУГОЕ ПРЫШЭСЦЕ ХРЫСТА

### Сказ дня

Ісціну скажу табе я: прыйдзе ўдзень Хрыстос ці ноччу,
Я не ведаю пакуль што і нічога не прарочу.
Калі прыйдзе ноччу цёмнай з весткай радасці:
«Я крочу!»—
Знікне цемень ад прышэсця бога чорнай патароччу.

Чалавечы сын, ён прыйдзе, каб людзей судзіць
праўдзіва.
З ім анёлаў дзевяць мностваў... Вось якое будзе дзіва!

І на троне сваіх продкаў у кароне зіхатлівай
Ён судзіць па справах будзе і па думках справядліва.

І судзіць тады ён будзе ўсіх — і мёртвых, і жывых.
Трубы велічна затрубяць, каб сабраць вакол усіх:
Хто хадзіў ці ездзіў недзе, перад ім з'явіўся ўміг.
І старыя пазайздросцяць лёсу ўсіх дзяцей малых.

Справа ад Хрыста і злева моўчкі стануць слугі бога.
Гэты божы суд ацэніць справы ўсе людскія строга.
І ахопіць справядлівых радасць — кожнага святога.
Ну а грэшных знішчыць сорам, не схавацца ад якога.

І Хрыстос, Суддзя ўсявышні, паглядзіць на тых, што
справа;
«Блаславёны той, хто ў раі будзе...» — скажа ён
ласкава,—
Тым, хто за любоў да бога вытрываў пакуты,— слава!
І праклён таму, хто злева — грэшны думкамі і справай!»

Пры скančэнні свету стане вечнай Ісціна святая.
Справядлівасць пераможа толькі ўдзень, як рассвітае.
Цемрадзь будзе толькі ў пекле — знікне змрок, імгла
начная.
Вечнай божаю раскошай ноч асвеціцца сляпая.

Гутаркаю дня і ночы мы захоплены былі,
Ды ва ўсім ім разабрацца да канца не памаглі.
Я і сам расказваў доўга вам, як некалі жылі
Людзі грэшныя, святыя і не толькі на Зямлі.

## Давід Гурамішвілі

### ДАВІДЗІЯНІ

*(Урыўкі з паэмы)*

*Вытлумачэнне імя і прозвішча таго,*
*Хто напісаў вершам гэтыя кнігі*

Пісаў «Давідзіяні» я, Давід,
А прозвішча маё Гурамішвілі;
Я плодам слова боскае назваў,
А Сына людства — парасткам у сіле;
І жыццядрэва рэчышчам назваў
Крыніц, што вечнасцю жыццё жывілі;
Таму сказаў, распяты на крыжы:
Рыдайце, каб пакуты не забылі.

Падаражэла чыстае віно,
Як люты Джар наслаў на Картлі хмары;
Сабраў я ў лесе чысты вінаград,
Не выціснуў ні кроплі на ахвяры;
А подлеткам па памяць пра сябе
Я згатаваў салодкае мачары,—
Выгоды злой не будзе мець купец,
Свае памкненні даручыўшы мары.

І не абнёс калючнікам таму
Я дрэва прытчаў, садзячы ў даліне:

Каб подлеткам залезці на яго
Было лацвей — яно плады ім скіне.
Піць завяшчаў салодкае пітво,
Не разліваць яго па пуставіне;
Я кнігу гэтую ўручаю ім,
Хай не дзяруць жывое ліставінне.

Калі прамудры рытар, сам Шата,
Даверыў дрэва прытчаў весняй белі,
Паглыбіў карані і даў расці
Галінам, а на іх плады паспелі,—
Яно ўдвая плады давала тым,
Хто трос яго, каб долы не ўтравелі,
Не бачыў ані ў кога вершаў я,
Каб так сказаць іх мог, як Руставелі.

У прыклад подлетку таму, які
Лазовы дубчык, што каня сядлае,
Сябе ўявіўшы коннікам самім,
Смялее даскакаць да небакраю,—
Услед за Руставелевым радком
Радок мой гул абвалу пераймае;
Ды выйшла, нібы ў зайздрасці сляпой
Памкнуўся веліч пераймаць дарма я.

Як подлетку, і засталося мне
Збіраць ападкі ў абабраным садзе,
За паляўнічымі цягнуцца ўслед
З дзіцячым лукам, з вераю ў паглядзе,
Пладоў я не знайшоў, не стала сіл
Звяроў адолець спрытам у засадзе,
Мне выпала, благому рыбаку,
Муціць ваду, чакаць, што іл асядзе.

Радок мой з Руставелевым радком,
Як дзішча саламянае з пярлінай;

Ды аздабляюць бісерам свой твар
Красунькі гожа з хітрасцю нявіннай;
Калі ад смагі ўсмягне працаўнік,
Яму вада смачней ад сілы віннай;
Час прыйдзе, з дзічак сушаных панта
Здаецца сакаўною садавінай.

Як скача конь адзін, здаецца, ён,
Караткапогі, скача быстранога;
Там, дзе высокага наўкол няма,
І нізкае ўзвышаецца да бога;
Прыгожым будзе гідкае, калі
Няма паблізу гожага нічога;
Хто іншай кнігі не здабыў, таму
І кніга гэтая раскажа многа.

Лёс пакараў бяздзетнасцю мяне,
У голаў выцяў, проста як дубінай:
Ён мне не даў ні сына, ні дачкі,
Зрабіў мой дом аглухлай дамавінай.
Сабраў я сіратлівыя радкі,
Блукаючы жыццёваю далінай,
Магчыма, хто і памяне мяне
Хоць словам спачування, хоць слязінай.

Бяздзетны, гэту кнігу-сірату
Я ўзгадаваў у злой бядзе, ў галечы:
Сваёй мізэрнай мудрасцю яе
Я адарыў ашчадна, па-скупечы.
Памру, бяздомнік вечны, а яна
Някшчонай застанецца недарэчы;
Малюся, хто ахрысціць, за таго
Губамі грэшнымі, ўгарбіўшы плечы.

Я чалавека мудрага малю,
Хай сіраце ён хросным бацькам стане;

Хоць будзе веры ён чужой — яна
Грузінкаю казацьме ўсе літаніі,
Як ашуканкай зробіцца, няхай
Зноў праведнай ёй стаць надасць жадання,
Каб не пахібіла душой нідзе,
Мае не патушыла спадзяванні.

Таму я ўславіў вершам і сабраў
Пачуткі свету, ўвітага маною,
Што спадчынніка не пакінуў я,
Гаротнік, ашуканы доляй злою.
За брата, подлетак, мне будзь, малю
Цябе, дзяўчына, будзь маёй сястрою,
Хто кнігу зможа прачытаць, мяне
Успамяніце, грэшнага, з журбою.

Браты мае жывыя, крый вас бог
Ад наслання, ад бедаў, ад разбою!
Хай смехам стане тое ўсё для вас,
Пра што вы богу плачаце з мальбою;
Мне, грэшнаму нябожчыку, адно
Вы пажадайце вечнага спакою;
Магчыма, і ўратуе бог мяне
Ад пекла, прасмярдзелага смалою.

Што засталося, я сказаць не змог,
Трымаўся, каб сказаць пра ўсё шматслоўна;
Чакаў, калі займею вольны час,
Ах, лепей не чакаў бы памяркоўна!
Дагнала дзіда смутнасці мяне,
Насмерць у сэрца выцяла раптоўна,
У апраметную ці ў неба я
Скіруюся — мне гэта не ўсё роўна.

Таму і не пяецца мне, таму
І плачу ў смутку вечара, нябога,

Смерць падступіла блізка да мяне,
А смерць яшчэ не лашчыла нікога;
Ні подкупам, ні мечам, ні мальбой
Не адагнаць кашчавую, любога
Яна адразу валіць пад сябе,
За ёй адной спрадвеку перамога.

Ты, Ойча, каб жывое ўсё акрыць,
Шацёр паставіў добры, быццам хорам,
Нерукадатыкальны твой шацёр
Шырокі і высокі, роўны зорам,
Пабыў і ў ім, ды некуды мяне
Ты выпхнуў выспяткам са злым дакорам,
Таму і слёзы хлынулі мае,
Зліваючыся ў горкай крыўдзе з морам.

Дарма цябе, імгненны, зманны свет,
Не кляў, а благаслаўляў з душой святога,
Здаваўся, горкі і агідны, ты
Мне саладзей ад мёду маладога.
Нашто на гэты свет на смерць прывёў,
Калі на той вядзеш мяне жывога?
Чаму мяне ты не пашкадаваў
І не прагнаў смерць ад майго парога?

Хай прадзеда, прабабку, ўсіх дзяцей,
Матулю, бацьку, жонку, назаўсёды,
Братоў, сясцёр найлітасцівы бог
Не пазбаўляе вечнай асалоды,
Няхай ад іх пагібель адвядзе
Дзеля таго, каб пестуном нагоды
Зрабіцьме гэту кнігу кнігай, каб
Чыталі ўсе для ўцехі і дагоды.

## НАСТАЎЛЕННЕ НАВУЧЭНЦАМ

*(Неабходныя подлеткам дзесяць карысных спраў)*

Табой, што да вучэння сочыць след,
Хай будзе запаведзь Давіда ўчута,
Спачатку не салодкае смакуй,
А горкае, што апякае люта;
Каб пад канец не каяцца, найлепш
Спачатку развязаць дакору пута;
Хто радасць прыгарнуў пасля бяды,
Таму вясёлай выдасца пакута.

Калі народзіць маці сына, больш
Былыя мукі ўспамінаць не стане,
Боль, што сціскаў, як заварот кішок,
Ад радасці патухне, як змярканне.
Шчаслівы, хто ў зямлю лазу садзіў,
Калі віно пачне стагнаць у чане;
Тады і навучэнец адпачне,
Калі сваё закончыць навучанне.

Да скону навучанне пры табе,
Ніхто яго не адбярэ ніколі;
Ты з навучаннем будзеш сам сабой,
Шукаць не давядзецца ветру ў полі.
А ўсё астатняе — капкан, куды
Ты з галавою ўсунешся міжволі.
Калі не мае ведаў чалавек,
Ён будзе мучыцца ў няволі долі.

За ведуном ступаюць веды ўслед,
Яго адорваюць сваім цярпеннем,
Бо веды скарб нябачны, не кране
Рука чужая іх сваім дакрананнем;
Не адабраць адкрыта іх, ані
Украсці ўпотай скваплівым памкненнем;

Карысці дурню з розуму няма,
Ім карыстацца трэба з разуменнем.

Заўважыў я па невуцтве сваім,
Што з дурнямі ў мяне адны заганы:
Мне ад дабра адрозніць цяжка зло,
Бо моцна так адно з адным злыганы.
Хачу іх аддзяліць, ды не магу,
Бо навучаннем бедна штукаваны.
Як слон без хобата, так чалавек
Зусім слабы, як неадукаваны!

Вось так, як і няўзброены храбрун
У бой уступіць, лютасцю сагрэты,
Няхай, як леў, але без кіпцюроў
Змагаецца, ды поспеху сакрэты
Схаваны ад яго, і ў барацьбе
Перамагчы не зможа воін гэты.
І невук, хоць і мае розум, ён
Не зможа дасягнуць жаданай мэты.

Шукаў, але нічога не знайшоў
Мудрэй ад запаведзі-настаўлення:
Валодае свабодаю мудрэц,
Сваёю воляй свет яго сустрэне;
Дзе б ні знаходзіўся мудрэц — пры ім
Яго багацце, што не возьме тленне,
І дзеля хлеба, як і я, мудрэц
Ні перад кім не стане на калені!

Спрадвеку слова корміць мудраца,
А майстра — рукі, што не чуюць змогі,
А святара — імша, купца-ўдальца —
Нялёгкія, далёкія дарогі,
Кроў корміць воіна, што ён пралье,
Ратая — пот, праліты на разлогі,

Кавалак з рук ласкавых — жабрака,
Як жыцьмеш ты, скажы свае трывогі?

Я толькі што сем сродкаў паказаў
На пражыццё, ты помніць іх павінны;
І корміць сродак восьмы ўладара,
Гаспадара ўсяе, як ёсць, краіны,
Дзевяты сродак корміць пастухоў,
Якія пасвяць горы і даліны,
Дзесяты — закаханых жывіць ён,
Дзесяты сродак — сродак галубіны.

Лічы: пастух і грозны валадар,
Жабрак і закаханы, і араты,
Купец, харобры воін і святар,
Прызнаны майстра, мудраслоў заўзяты —
Іх дзесяць, і пра кожнага табе
Я раскажу, як хто і чым заняты.
Адзін з заняткаў гэтых выбірай,
Каб век не зжыў свой, не адбыўшы раты.

*а*

А закаханы чыста так кахаць
Павінны, каб было зайздросна зорам,
Не расставацца з любаю нідзе,
Да іншых позірк поўнячы дакорам;
Павінна без каханае яму
І радасць кожная здавацца горам,
Смерць за яе салодкай мусіць быць,
Бо без яе жыццё гарчэй за сорам.

*б*

У пастухоўстве асцярожны будзь,
Спі мала, бо не звыкла спаць няшчасце;

Заўжды нястомна статак даглядай —
І скварі, і золь захочуць абакрасці;
«Гатовы добры за авец пастух
Сваю душу салодкую пакласці»,—
Хай ад мяне, хто мовіў, адвядзе
Звяроў нябачных зубы і напасці!

*в*

Цар самым справядлівым мусіць быць,
Як вучаць даўняй мудрасці крыніцы,
І міласэрнасці не шкадаваць,
І ў меру гневацца, і ўмець спыніцца,
Ён мусіць сам у цвёрдай веры быць,
Схіляць народ маліцца богу ніца,
Павінны пасвіць люд, і скіпетр ён
Трымае знакам пастырства ў дзясніцы.

*г*

Жабрак павінны дужа сціплы быць,
І красамоўствам засароміць дзіва,
Малітву слаць за кожную душу
Малую і вялікую пачціва;
Бог любіць жабрака, што, як Іоў,
Заплеччу мех пакут нясе цярпліва;
Адно гардыню ненавідзіць бог,
А жабрака без роду — асабліва.

*д*

І аратай, і сейбіт, і грабар,
І вінаградар, пасынак даліны,
Ад рання да змяркання дзень пры дні
На буданы свае забыць павінны,
Каб зацень астудзіла хоць на міг
Гарачым сонцам спаленыя спіны,

Нарobленае трэба з'есці ім
І накарміць заступнікаў краіны.

*е*

А воін малады павінны быць
Пашанлівым, гаспадарам адданым,
У смеласці пра сціпласць не забыць,
Любіць сяброў, быць сябрам паважаным,
З пакорай справядлівасці служыць,
Бадзёрым быць, харобрым, гартаваным,
Мець сілу волі, дужасць у руках,
Каб смела біцца з ворагам паганым.

*ж*

Прыбытак мусіць шанаваць купец,
Не піць, каб п'яным быць і балбатлівым,
Гульнёю ў косці пал свой не цяліць,
Да чысціні духоўнай быць руплівым,
Празмерна блытаць не павінны ён
Несправядлівае са справядлівым,
Аршын і вагі правільна трымаць
Павінны, непадлеглы злым парывам.

*з*

Адважным быць прыстала святару,
Святар баіцца толькі гневу бога,
Сказаць не мае права: «У бяду
Я не пайду, шкада сябе самога».
Нябожчыка павінен пахаваць
Святар, як чалавека возьме змога,
Абрад які-сьці можа прапусціць
Святар, калі віна прапусціць многа.

*і*

І майстра богазгоднага ў хвале
Узнёс Давід, спагаднік і дарадца,
Шчаслівы той, хто з мазаля жыве,
Каго, як чалавека, корміць праца!
Ён з жонкай, быццам вінаграднік той,
Што вырас, пладаносны, край палаца,
Маслінавымі дрэўцамі вакол
Стала і дзеткі іхнія садзяцца.

*к*

І трэба, каб на свеце жыў мудрэц,
Нібы манах у чысціні святое,
Каб мудрымі вучыў ён быць людзей,
І сам мудрэц павінны ведаць тое,
Што ён не можа дазваляць сабе
Нічога непрыстойнага, якое
Народ ягоны можа сапсаваць,
Калі народ бярэ ў яго благое.

Вось дзесяць сродкаў, расказаў пра ўсе,
А больш няма, адно сказаць магу я.
Дык выбірай, што даспадобы, сам,
Вазьмі рыдлёўку ўпартую, цяжкую,
Як хочаш жабраком блукаць — ідзі,
Як хочаш жаць — жні збажыну тугую,
Я часу на цябе не маю больш,
Бо перад подлеткам яшчэ ў даўгу я.

Як цяжка плесці кош з дубцоў старых,
Засохлых — пойдзе марнатой старанне,
Так цяжка пристарэлага вучыць,
Не можа вечар пачынацца з рання,
Лягчэй, вядома, памаладзь лазы
Лупіць і гнуць — не трэба намагання,

І лепей так і юнака вучыць,
Яму лягчэй даецца навучанне.

Паслухай, подлетак, яшчэ скажу,
Хай бог табе дае жыцця і клёку!
На цемру дужа доўга не глядзі,
Каб для святла свайго не страціў зроку;
Да злых людзей спяшацца пачакай,
Не дай сваймý туды памкнуцца кроку,
Зрабі цішэйшай музыку сваю
І дасылай пяшчотны спеў здалёку.

Умей трываць, умей сябе трымаць,
Хай пал пажадлівасці адпалае,
Не абражай спакусаю язык:
Спачатку мёд, пасля — гаркота злая;
Хай абміне і вуха і душу
Слоў небяспечных і хлусня малая,
Тады сваё каханне знойдзеш ты,
Звяселіцца твая душа жывая.

Памыты чыста збан не запаўняй
Гразёй і розным смеццем без карысці,
Дарэмна будзеш вохкаць і стагнаць,
Пасля ты паспрабуй яго адчысці;
І скажаш: «Што з сабой я нарабіў»,—
І ты зямлю гатовы будзеш грызці:
«Як дрэнным добрае здалося мне?
Не так Давід вучыў мяне калісьці!»

Павінны подлетак вучыцца, каб
Пазнаць сябе самога, на хвіліну
Задумацца, хто ён, адкуль прыйшоў,
Які ён пойдзе ў вечную краіну?
Што дасць ва ўзнагароду ён таму,
Які зрабіў насудзінаю гліну?

Каб, нібы жарабку без павадоў,
Яму не ўпасці ў яму напаміну.

І трэба, каб дзяўчына і юнак
Мацней язык трымалі за зубамі,
Не паслаблялі прывязі нагам,
Круцілі пустаслоўе ланцугамі;
Не дазвалялі лішні рух зрабіць
Сабе брывамі, веямі, вачамі;
Хай не дадуць аганьбаваць сябе
І іншага хай не ганьбуюць самі.

Мне не кажыце: вучыш нас таму,
Чаго не маеш сам у выхаванні.
Навошта, палахлівы чалавек,
Харобраму мячу твае старанні?
Ад невуцтва ўсё зло, паверце мне,
Акупіць потым вопыт намаганні.
Ад спёкі не згарайце так, як я,
Знайдзіце цень сабе і ветрык ранні.

Мудрэц над мудрацамі Саламон
Сваёю мудрасцю ў вяках вякуе;
Ён многа кніг выдатных напісаў,
З іх наймудрэйшаю назваць якую?
Аднак жа давялося і яму
Адну парушыць запаведзь святую,
Калі для вас найлепей будзе так,
Не слухайце яго — я вам дарую.

Крывога я нічога не сказаў,
І раскажу вам проста і прачула,
А гэта вочы бачылі мае,
Не плётка і не выдумка прачула:
Пабачыў я жывёліну адну
І прыгадаў, хоць часу шмат мінула,—

Яна сабе прыводзіць асляня,
А іншым дык прыводзіць проста мула.

Як добра б мудры лекар пульс ні чуў
У іншага, ён у сябе нічога
Не ўчуе, і няма яго віны,
Яму таксама трэба дапамога;
Хоць можа іншых лекаваць, сябе
Падняць на ногі просіць ён любога,
Калі я не спатрэбіўся сабе,
А вам спатрэбіўся, што ў тым благога?

Хоць я і сам сляпы, ды мне відаць,
Што больш, чым я, людзей жыве ўсляпую,
Шматвопытным сівым не рызыкну
Сказаць такое, подлеткам скажу я:
Як плаваць не навучыцеся вы,
І не цвяліце лепш раку крутую;
Хай лепей розгі болем апякуць,
Чым курчыцца ў агні, што век лютуе!

## ПРА НАБЫЦЦЁ СКАРБАЎ

І розум, як надзённы хлеб, таго,
Хто есць яго, трымае і сілкуе,
Умельства, веды ў кожнай справе, як
Прыправа, соль — і майстра іх смакуе,
Калі пра долю кажуць, мне няўцям,
Што ў долі пахваліць, я так мяркую:
Яна збярэ, а розум разнясе,—
Мець буду з гэтага карысць якую?

Што доля? Проста зменлівасць хвілін,
Як вечаровы прыцемак, як ранне,
То золь, то спёка, то ад аблачын
Не ўбачыць неба, то прыслепіць ззянне,

То ад разліву ніва пагніе,
То ад няшчаднага сухменю звяне.
Дасць сёння доля, заўтра забярэ,—
Да долі страціў я давер дазвання.

Спачатку гэта мне было відаць,
Што доля мае твар сляпой жанчыны.
Шукае мужа вобмацкам сабе
І ходзіць ад мужчыны да мужчыны;
Хто пад руку патрапіцца — бярэ,
І твар пачне абмацваць да маршчыны,
Як спадабаецца, дык прыхіне,
Не пад нара́ў — штурхне на дно цясніны.

Мне доля, шчыра кажучы, цяпер
Успамінаецца любой парою:
Як мудрацы ні вывучалі свет,
Былі незадаволеныя ёю,
Таму што ні бяда, ні весялосць
Не доўга заставаліся сабою;
Шчаслівым доляю завуць таго,
Хто не памёр, застаўся жыць душою.

Найлепшага ад розуму яшчэ
На свеце скарбу не было ніколі,
Калі ў душу пажадлівасць пусціць,
Імгненна знікне, што набыў паволі.
Асleплены пажадлівасцю, ўсё
Згубіўшы, і не знойдзе ўласнай волі,
Хто хоча скарб набыць, павінны той
Бы ў страве, ў справе вызнаць прысмак солі.

Пажадлівасць святло пададсць, як змрок,
Асляпіць ясназорцу паступова;
І палахліўца зробіць храбруном,
Яму пазычыць смеласці часова,

Ад пажадліўца, быццам той гарох
Ад сценкі, мудрае адскочыць слова,
Пажадлівасць вядзе, хто ўслед ідзе,
Да гібелі, да ганьбы канчаткова!

Філасаф старажытны Эпікур
Пакінуў нам нясхібныя ідэі:
Хто паслядоўна ўсё рабіць прывык,
Той працаўнік ніколі не збяднее,
Хто за пажадлівасцю ўслед ідзе,
З таго павек не будзе багацея,
Калі здабудзе драбязу, пасля
За большым марна гоніцца, пацее.

Каго пажадлівасць бярэ ў палон,
Каб для сябе прыдбаць раба тупога,
Апроч таго, што па душы яму,
Не зможа больш ён ухваліць нічога;
Ён паразгубіць гордых руж букет,
Ды пустазёлак набярэ замнога,
Ад вечнага свой позірк адвядзе,
Каб не ўпусціць імгненнага, зямнога.

Вам прытчу расказаць яшчэ адну
Дазволу папрашу па-чалавечы:
Смурод уласны іншаму псюку
Прыемней пахне чымся водыр нейчы;
Якой бы шкоды ён ні нарабіў,
І не ўпікне сябе — усё дарэчы,
З каханкаю буркоча галубком,
Але бурчыць на жонку па-старэчы.

Людскога кветніка не гàню я,
І ён каштоўным мне здаецца сёння;
Люблю, жадаю нюхаць кветкі я,
Быць у чароўным маладым палоне,

Ды я пакінуў боскія сады —
Не чуць бы іхніх салаўёў бяссонне,
Я казкі свету тленнага пачуў,
І казачнікам стаў, і склаў далоні.

Таму я і спяшаюся сказаць,
Зусім не маю часу затрымацца:
І сказана, нескарыстаны скарб —
Ён мёртвы скарб, ім нельга карыстацца.
Сад пасаджу я, дрэвы прышчаплю —
Каб лепшымі пладамі любавацца!
Гатункаў самых лепшых будзе сад,
Акупіцца мая карысцю праца.

Цяпер скажу, што мушу я сказаць,
Як разумею я жыццё зямное:
Шукае хто вялікае не так,
Няправільна, той згубіць і малое;
Калі зусім нічога не скажу,
Дык гэта будзе горай за пустое,
І далучуся я да табуна,
Як здолею сказаць, хоць і не тое.

## НАДПІС НА МАГІЛЬНЫМ КАМЕНІ

Рабіў праявы Іаан Святы,
Змушаў ён у Кахецыі, ў Зедазені
Як цудадзейца чыстую слязу
Цячы з каменнае сцяны ў здзіўленні,
А ў Картлі Шыо святасцю святы
Ў пячоры ўваскрашае косцяў цені,—
Я перад імі, вечнымі душой,
Схіляю памяць, кленчучы ў маленні.

У гэтых двух манастырах было
І месца мне, калі пакінуць сілы,

Адно для тленных вымаглых касцей,
Другое месца для сырой магілы;
А будаваліся манастыры
З цвярдога каменю, каб час панылы
Не змог, а ўгожаны манастыры
Дамамі, агароджамі — па схілы.

Хадок жыцця, наведайся сюды,
Пабач мяне, я тут цяпер як дома,
Тут мой прытулак вечны і спачын,
Тут мусяць тлець і плоць мая і стома,
І не пытайся, дзе цяпер мой дух,
Куды пайшоў, самому не вядома!

Падступны свет мне вечнасці не даў,
Так і табе не дасць ён нават кія,
Малітвай грэшнага мяне згадай,
Хай бог адпусціць нам грахі цяжкія.

# Саят-Нова

## ПАВЕР

Жалеза або дрэва назавуць,
І форму ім любую прыдадуць,
І золатам аздобяць для раскошы.
Але павер: жалезнае — жалезам,
Драўлянае — драўляным назавуць.

І сутнасць абалонкай абаўюць...
І слоў прыгожых плойму назавуць.
Ды толькі чорт ганяецца за дымам.
Хачу знайсці адзінае між мноства.
Траву ў траве, што хною назавуць.

Першааснова — вечнасці ключы.
Нядоўгі век у шоўка і ў парчы.
Хто золата быць золатам навучыў?
Не ўсё, што зззяе золатам завуць.

Калі б сябе пры золаце забыў,
Калі хто скажа — велькім панам быў.
«Лучына я»,— пачуе ад вярбы...
Я граў на сазе, Грузію любіў.
Ашуг я, Саят-Нова. Так мяне завуць.

## МІЖ НЕБАМ І ЗЯМЛЁЙ

Між смерцю і жыццём — высокая гара — і гэта праўда.
Між мною і табой — сцяна твайго двара — і гэта праўда.
Квітнеюць ружы — самая пара — і гэта праўда.
Зайздросціць ружам ясная зара — і гэта праўда.
Паўсвета абышоў — дзівос пабачыў шмат — і гэта
праўда.

Крануў я ружу ці ажынавую гольку?
Руку ўкалоў ці ў сэрца маё трапіла іголка?
На промень веснавы дыхнула восень золка.
На вочы я аслеп — сплылі няўцехай волкай.
Я без цябе — між небам і зямлёй — і гэта праўда.

Навошта сокалу аблезлая лісіца?
Шукай таго, хто джала не баіцца,
А на маіх грудзях змяёй табе не звіцца...
Табе шчэ строма не адна скарыцца!
Я скамянеў, мілей ад ружы камень мне — і гэта праўда.

Кранеш мяне — рассыплюся пяском.
Дзьму на ваду — апёкся малаком.
Валяюся разбітым я жбанком.
Навошта я табе? Вярні мне мой спакой.
Я стаў тваім рабом, Гурген-хана,— і гэта праўда.

## БЕДНАЯ ГАЛОВАНЬКА

Што з табой, з галованькаю стала?
Дзе ты, безгаловая, вітала?
Дзе мой скарб, мой розум прасвістала?
Бедная галованька
Ажно ўся зайшлася:

— Як жа я, разумная,
Ды дурню прыйшлася?

Я качаўся ў золаце, нібы сыр у масле.
Самацветы зыркія перад шкельцам згаслі.
Ну, нашто, галованька, на той час знайшлася?..
Бедная галованька
Ажно ўся зайшлася:
— Як жа я, разумная,
Ды дурню прыйшлася?

Кожнаму за брата, кожнаму — сябрук.
У цароў — салоўка, у князёў — жаўрук.
Кланяўся і дзячыў — аж сагнула ў крук.
І свяцей святога, нібы той манах.
У жалобе гэткай розум мой ачах.
Бедная галованька
Ажно ўся зайшлася:
— Як жа я, разумная,
Ды дурню прыйшлася?

Рысам быў, а — як жа! Гэта ж не панцак.
Ястраб хуткакрылы не гарласты грак,
Ды з галоўкай беднай заўсягды бядняк.
Бедная галованька
Ажно ўся зайшлася:
— Як жа я, разумная,
Ды дурню прыйшлася?

* * *

Я — твой раб, і лепшых служак не шукай — не трэба!
Хто цябе так пакахае? Не чакай — не трэба!

Царскі трон мяне не вабіць, не жадаю быць пашой.
Я зайздрошчу тым шчасліўцам, хто любуецца табой,
Хто сядзіць з табою побач пад страхою залатой.
Крэпасць ты, прайдох у сэрца не ўпускай — не трэба!

Ты — самшыт, густыя вейкі, нібы лес, кідаюць цень.
Ты — фіялка, што ў пялёсткі вечарам хаваеш дзень.
Салавей ты, што выводзіць песню аж на сто калень.
Размаўляй са мною шчыра, не змаўкай — не трэба!

Светлатварая, душою ты чысцейшая за снег,
Як званочак пад дугою, разліваецца твой смех,
Мар тваіх палёт імклівы, нібы сарны лёгкі бег.
Сарнай будзь, ды за гарамі не знікай — не трэба!

Каб ты ведала, як добра мне з табою разам быць!
Дай руку, маё ты шчасце, будзем вечна мы дружыць,
Радасць і бяду пароўну на дваіх з табой дзяліць.
Просіць Саят-Нова: світы не склікай — не трэба!

* * *

Нібы зорка-мілавіца ў летнім небе, ззяеш ты,
Жаўруковай песняй светлай новы дзень вітаеш ты,
У вясновых промнях сонца ружай расцвітаеш ты,
Гулкім звонам струн цымбальных сэрца мне кранаеш ты.

Ці ж табе ўжо надакучыў твой надзейны спадарожнік?
Без цябе чаго я варты — на стале сасуд парожні,
Капытамі і нагамі змяты ў пыле падарожнік...
Прыгажосць тваю, як лекі, піць згадзіцца сёння
кожны,—
На стварэнне гімнаў шчасця песняроў натхняеш ты.

Хоць мяне й не заўважаеш, не жадаеш нат прывеціць,
Без цябе мне, дарагая, цяжка, сумна жыць на свеце,
І далей сваё каханне ці ўтрымаю я ў сакрэце?
На высокім мінарэце залаты паўмесяц свеціць...
Скарб свой — залаты характар — для каго хаваеш ты?

Ты — як вольны тур каўказскі, і радня табе ўсе горы.
Ты — як воблак бесклапотны вольна носішся над морам,
Як джайран, ты аббягаеш неабсяжныя прасторы.
Я пакутую і плачу, ты ж заўсёды у гуморы,
Нібы кошка з мышаняткам, так са мной гуляеш ты.

Ад цябе сам цар індыйскі, кажуць, млее ў захапленні,
Піша ў вершах: рад памерці за адно з табой імгненне.
Нас жа, смердаў, і без вершаў мноства мрэ ў глухіх
скляпеннях.
Хоць гатовы прад табою прастаяць дзень на каленях,
Безнадзейна, Саят-Нова, ласкі тут чакаеш ты!

* * *

Размаўляць хачу з табой,
Бо твой стройны стан убачыў.
Ці ж я першы раз вясной
Як цвіце цюльпан убачыў?

Напісаў табе пісьмо,
Што п'яніш ты, як віно.
Нешта доўга йдзе яно...
Дом твой без заган убачыў.

На мяне хоць раз зірні,
Мо не спаліш на агні...
І надзею мне вярні,—
Сонца праз туман убачыў.

Лепшай долі не шукай,
Ў «голі-голі» пагуляй,
Ружа ў полі, расцвітай!
Я твой Гулістан убачыў.

Саят-Нова б'е паклон.
«Сані» з «тэні» — слава дзён,
«Ані» з «віні» — працы плён.
Што мая ты джан — убачыў.

* * *

Я ў сад кахання сам прыйшоў,
Скуль ведаць мне, што ён — турма?
А спахапіўся, выйсці б рад,
Ды выхаду назад няма.
Прашу: спалі агнём! — аддзячу,
Не муч, забі нажом! — аддзячу,
Дай спрахнуць пад акном! — аддзячу,
Шчаслівай толькі будзь сама.
Прывець, пяшчотна мне ўсміхніся,
Рукой да твару дакраніся
Ці хоць бы словам адзавіся...
Ты ж сарнай скокнула — й няма!
Султанам быў я — ўладу страціў,
Купцом я быў — прынаду страціў,
І вось тваю спагаду страціў,
Шукаю ў прыцемку дарма.
Мяне ты здрадаю здзіўляеш,
Кінжал да горла прыстаўляеш.
Адна ты лекі тыя маеш,
Што могуць сілы падтрымаць.

Ты ззяеш, нібы сонца ў маі
Ці поўня, што ўстае над краем...
Саят адну цябе кахае,
Бо лепшай на зямлі няма.

* * *

Ці ж галодны, піць ахвочы — да цябе я завітаў?
Любай паглядзець у вочы — да цябе я завітаў,
І застацца да паўночы — да цябе я завітаў.
Шчэ чаго?.. Ішоў... Ну, збочыў...— да цябе я завітаў.

Ты — як царская карона, як галінaчка самшыту.
На табе — убор заморскі: і шаўкі, і аксаміты...
Я ж стаю перад табою з галавою непрыкрытай,
Нібы хто мяне сурочыў — да цябе я завітаў.

Мне здалося, быццам зноўку я ў Марандзе на базары,
На сталах і на прылаўках розныя ляжаць тавары.
Ты — базар, купец заморскі — я ўсе грошы разбазарыў,
Асуджай мяне як хочаш,— да цябе я завітаў.

На мяне зірні пяшчотна — голас свой табе аддам я,
Слова мне скажы — і сэрца шчэ з душой табе аддам я,
Усміхніся — чуб агністы з галавой табе аддам я,
Ашчасліў ці знішчы тройчы — вось чаго я завітаў!

Свет увесь пяхай пачуе: гімн каханню я спяваю,
Прыгажосць тваю зямную сціплым вершам праслаўляю.
Саят-Нова пашкадуйце: як п'яны, ён век блукае.
Ад Алепа мужна крочыў — да цябе я завітаў!

# Бесікі

## У САДЗЕ ЖУРБЫ

З сэрцам, спазнаўшым горыч разладу,
Ружы збіраў я ў засені саду.
Гордая ружа з першага раду
Ў твар мне пусціла стрэлы пагляду,
Кволай надзеі збіўшы прынаду.
«Марна шукаеш,— кажа,— спагаду,
Покуль не прыйдзе сэрца да ладу».
Не зразумеўшы гэту параду,
Даў я тут волю слёз вадаспаду.

І да фіялкі, кветкі пяшчотнай,
Я нахіліўся: «Чым незваротна
Ружу ўгнявіў я?» — «Прэч, бестурботны! —
Мне адказала кветка маркотна.—
Раніў ты сэрца нам мімалётна,
Вось і бадзяйся ў садзе самотна.
Паліць учынак твой сэрцы спякотна:
Крыўду нанёс ён ружы гаротнай,
Іншай выконваць стаў ты загады!»

Гнаны фіялкай, я да вяргіні
Слёзна звярнуўся: «Ў райскай даліне
Ты расквітнела. Бачыш, як гіне
Сэрца, што трапіла у павуціне?

Хай жа спагада нас не пакіне,
Вера ў адданасць хай не астыне.
Ружы скажы, што ні ў чым я не вінен.
А не паверыць — у дамавіне
Толькі й забуду хітрую зваду!»

Стаў у вяргіні позірк туманны,
Ўпала слязінка з вейк нечакана,
Ціха сказала: «Як заблуканы
Ты падарожнік, з дому прагнаны.
Верны ў каханні — варты пашаны.
Быў для яе ты самы жаданы,
Раптам — пачуцці ўсе запядбаны,
Іншай шаптаў ты, што закаханы.
Што ж тут дзівіцца? Кара — за здраду!»

Час мне вярнуцца — столькі блукаю.
Сеў каля брамы, боль дапякае,
Слёз ручаіна долу сцякае:
Ў садзе ніхто ўжо нас не чакае.
Кожны, хто ўбачыць, моліць-гукае,
Каб прамінула доля такая.
Свет гэты многім дні падсякае.
Бесікі — смерці я не ўнікаю,
З ёю спаткацца зараз жа рады!

## ПРА ЦАРЫЦУ ГАННУ

Вандроўнік — на чужыне я
Зімую век і летую,
Заганы свету гэтага
Няславіць маю мэтаю.

Ды апяваць гатовы я
Не раз ужо апетую,
Яна — мая ўладарніца,
Пакутую праз гэта я.

Клянуся, што не ведаю,
Хто б параўнаўся з Ганнаю,
І поўня блякне побач з ёй,
Як прыгажосць падманная.
А зоркі незлічоныя
Ёй — як рабы адданыя.
Хто бачыў, той пагодзіцца:
Яна — непараўнаная!

І розуму і сэрца я
Пазбаўлены царыцаю.
Палону чарадзейнага
Не маю сіл пазбыцца я.
Пялёсткі ружы свежыя
Нарцыс паліў расіцаю.
Каханай лепш не мець зусім,
Чым жыць вярбою ніцаю.

За вуснамі — пярлінамі,
Як жэмчуг — зубы белыя,
Вачэй азёры чорныя
Ў мяне цаляюць стрэламі.
Хто б мог да іх наблізіцца?
Губляюць мужнасць смелыя
І прэч бягуць пустыняю,
Нібыта ашалелыя.
О, каб дарогу ведала
Душа мая збалелая!

Болей на ўхвалы
Сілы не стала,

Я вар'яцею так педарэчы.
Бачу — малое,
Сходнае з ёю,
З мілаю ўсмешкаю пешта ляпеча.
Зорак маністы
Срэбрам агністым
Ёй аздабляюць грудзі і плечы.
Здаўна спазнана:
«Хто закаханы,
Шалам кахання розум нявечыць!»

Сэрца ўладарка,
Ззяеш ты ярка,
Літасць твая мне — узнагарода.
Здолеўшы смагу,
Даў я прысягу
Служкаю верным быць ёй заўсёды.
А нечакана
Грэшнікам стану —
Смерць хай прыму я з гэткай нагоды.
Выкрыты ў здрадзе,
Буду ва ўладзе
Пекла — праклёнам людскаму роду.

## З САЛАЎЁМ Я СТАЎ СПРАЧАЦЦА

З салаўём я стаў спрачацца, славячы каханне.
Пра цябе мае ўсе мары з вечара да рання.
Ружа сэрца мне пранцяла цернем. Спачуванне
Кожны выказаць гатовы, хто на рану гляне!
Але марна я блукаю, прагнучы спаткання.

Ты — як ружа, што ў Эдэме свой бутон раскрыла,
Кветкі іншыя красою ўласнай надзяліла.
Салавей твой траціць розум і губляе сілы.
Не здзіўляйся: без цябе мне белы свет нямілы!
Закаханага ты можаш спапяліць дазвання.

Аддаю табе я сэрца, ты ў адказ ні слова,
Плачу я і ўдзень і ўночы, у труну гатовы.
Для цябе мае пакуты — радасці аснова.
Што замест жыцця дасі мне, каб ажыў нанова?
Я памру, калі ты будзеш так хаваць маўчанне.

На маім пакутным целе — тваіх дзідаў раны.
Ды такіх, як я, нямала можа быць сабрана,
Доказы тваіх злачынстваў у Кітай пасланы,
Калі ёсць дзе справядлівасць — будзеш пакарана!
Не глядзі ж ты гэтак грозна, маё сэрца вяне.

Ты паставіла мне пастку, а ў вачах — лагода.
Спадзяваўся, што ўсміхацца будзеш мне заўсёды,
А рукою дакрануўся, раны — ўзнагарода.
Як табе сваёй ахвяры — Бесікі — не шкода!
Гора мне, лунаць у марах я ўжо больш не ўстане.

# БІЯГРАФІЧНЫЯ ДАВЕДКІ

*Георгій Мерчулэ* — празаік, паэт і царкоўны дзеяч X стагоддзя, аўтар «Жыція Грыгола Хандзтэлі» (951). Гады нараджэння і смерці невядомыя.

*Іаанэ Мінчхі* — гімнограф і царкоўны дзеяч X стагоддзя, стваральнік тэкстаў і музычных матываў для іх. Працаваў у манастыры на Сінайскай гары. Гады нараджэння і смерці невядомыя.

*Іаанэ Зосімэ* — паэт, вучоны і царкоўны дзеяч X стагоддзя. Яго дзейнасць праходзіла ў грузінскіх манастырах Палесціны і на Сінайскай гары. Склаў і перапісаў шмат царкоўных зборнікаў. Гады нараджэння і смерці невядомыя.

*Іаанэ Мтбевары* — гімнограф і царкоўны дзеяч X стагоддзя. Першы епіскап Тбецкай епіскапальнай кафедры, а з 955 года — мацкверскі свяцідель. Гады нараджэння і смерці невядомыя.

*Мікаэл Мадрэкілі* — выдатны гімнограф і царкоўны дзеяч X стагоддзя. Захаваўся складзены ім у 978—980 гг. гімнаграфічны зборнік, што адыграў вялікую ролю ў развіцці грузінскай паэзіі. Складаў і матывы для гімнаў. Гады нараджэння і смерці невядомыя.

*Іаанэ Балнэлі* — гімнограф і царкоўны дзеяч (епіскап Балніскі) X стагоддзя. Да нас дайшло 13 яго пропаведзяў (казанняў). Гады нараджэння і смерці невядомыя.

*Апізскі вершатворца* (імя, гады нараджэння і смерці невядомыя) — гімнограф і царкоўны дзеяч XI стагоддзя, які вёў сваю дзейнасць у манастыры Апіза ў Паўднёва-Заходняй Грузіі (зараз на тэрыторыі Турцыі).

*Царыца Барэна* — жонка грузінскага цара Баграта IV (1027—1072), аўтарка адзінага верша, што дайшоў да нас (напісаны на золатачаканным абразе прасвятой Багародзіцы.) Гады нараджэння і смерці невядомыя.

*Эпрэм Мцырэ* — вучоны і літаратар XI стагоддзя. Мяркуюць, што яго прозвішча было Карычысдзе. Адукацыю атрымаў у Канстанцінопалі, працаваў у грузінскім манастыры на Чорнай гары (ля Антыахіі). Гады нараджэння і смерці невядомыя.

*Давід Будаўнік* нарадзіўся ў 1073 годзе. Грузінскі цар (з 1089 г.) з дынастыі Багратыдаў. Аб'яднаў грузінскія княствы ў адзіную цэнтралізаваную дзяржаву, аднавіў незалежнасць Грузіі ад сельджукаў. Гуманіст, апякун літаратараў і вучоных, аўтар паэтычнай споведзі «Пакаемныя песнаспевы». Памёр 25.01.1125 г.

*Арсен Беры (Манах Арсен)* — царкоўны дзеяч, багаслоў, празаік і перакладчык XI—XII стагоддзяў. Гады нараджэння і смерці невядомыя.

*Арсен Ікалтаэлі* — царкоўны дзеяч, філосаф і перакладчык XI—XII стагоддзяў. Вучыўся ў Манганскай акадэміі (Канстанцінопаль), працаваў у манастыры на Чорнай гары пад кіраўніцтвам Эпрэма Мцырэ (ёсць меркаванне, што Арсен Беры і Арсен Ікалтаэлі — адна і тая ж асоба). У 1114 годзе па запрашэнні Давіда Будаўніка вярнуўся на радзіму і ўзначаліў Гелацкую акадэмію, а потым заснаваў Ікалтойскую акадэмію ва Усходняй Грузіі. Апошнія гады правёў у Шыа-Мгвімскім манастыры. Гады нараджэння і смерці невядомыя.

*Дзмітрый I* нарадзіўся ў 1125 годзе. Цар і палітычны дзеяч, сын Давіда Будаўніка. Захавалася ўсяго некалькі твораў паэта, але яны папулярныя і сёння. Памёр у 1154 годзе.

*Ніколаз Гулаберыдзе* — паэт, перакладчык, гісторык і царкоўны дзеяч другой паловы XII стагоддзя. Патрыярх Грузіі ў 1176—1190 гг. Гады нараджэння і смерці невядомыя.

*Чахрухадзе* — паэт эпохі царыцы Тамары (1173—1213), аўтар зборніка вытанчаных панегірычных од «Тамарыяні», які дайшоў да нас у рукапісах XVII—XIX стагоддзяў моцна скажоны. Гады нараджэння і смерці невядомыя.

*Іаанэ Шаўтэлі* — одапісец канца XII — пачатку XIII стагоддзя, прыдворны паэт царыцы Тамары, аўтар панегірычнай паэмы «Абдул-Месія» («Раб Хрыста»), якую ўмоўна можна назваць «Хвала Давіду і Тамары», а таксама паэтычнага твора «Песнаспевы Вардзійскай Багародзіцы». Гады нараджэння і смерці невядомыя.

*Шата Руставелі* — паэт XII — пачатку XIII стагоддзя. Быў дзяржаўным скарбнікам царыцы Тамары. Аўтар адной з найвялікшых паэм сусветнай літаратуры — «Віцязь у барсавай шкуры», якая, мяркуюць, была створана ў 1189—1209 гг.

Прадвызначыў гуманістычныя ідэі Ранняга Адраджэння. Заканадавец і неперераўзыдзены майстра вершаванага памеру шаіры, заснавальнік новай грузінскай літаратурнай мовы. Гады нараджэння і смерці невядомыя.

*Тэймураз I* нарадзіўся ў 1589 годзе. Цар Кахецii (1606—1648) і Картлі (1625—1632), прыхільнік збліжэння з Расіяй. Адукацыю атрымаў на радзіме і ў Іране, пры двары Шах-Абаса. Выдатна валодаў персідскай і турэцкай мовамі. Уплыў персідскай паэзіі адчуваецца ва ўсёй яго творчасці. Пад канец жыцця пастрыгся ў манахі. Памёр у 1663 годзе ў Іране, у г. Астрабадзе, але прах, па яго завяшчанні, перавезены на радзіму і пахаваны ў Алавердзійскім храме, побач з астанкамі яго маці — пакутніцы Кетэван.

*Арчыл II* нарадзіўся ў 1647 годзе. Цар Імярэціі і Кахецii, паэт, гісторык і перакладчык. Беспаспяховая барацьба з Персіяй і Турцыяй, а таксама з міжусобіцамі феадалаў прымусілі яго ў 1699 годзе эмігрыраваць у Расію. Заснавальнік грузінскай калоніі ў сяле Усесвяцкае (зараз на тэрыторыі Масквы). Стварыў першую грузінскую друкарню. Памёр 16(27).02.1713 г. у Маскве. Пахаваны ў Данскім манастыры.

*Іосіф Тбілелі (Саакадзе).* Год нараджэння невядомы. Царкоўны дзеяч (мітрапаліт Тбіліскі з 1660 г.), паэт, каліграф. Выхоўваўся ў манастыры Квабтахэві. Удзельнічаў у культурным жыцці царскага двара, заснаваў кнігасховішча кафедральнага сабора Сіёні. Аўтар паэмы «Вялікі маураві» пра свайго славутага родзіча Георгія Саакадзе і некалькіх твораў на канфесіянальную тэматыку. Памёр у 1688 годзе.

*Вахтанг VI (Заканадаўца)* нарадзіўся ў 1675 годзе. Намеснік, а потым цар Картлі (1703—1724), паэт, асветнік, заснавальнік першай друкарні на тэрыторыі Грузіі, дзе ўпершыню была надрукавана паэма Руставелі (1709). Разам са сваім настаўнікам С.-С. Арбеліяні вёў вялікую перакладчыцкую дзейнасць, заснаваў руставелалогію. У 1724 годзе звергнуты іранцамі, эмігрыраваў у Расію. Памёр у 1737 годзе. Пахаваны ў Астрахані.

*Мамука Бараташвілі* — паэт і вучоны XVIII стагоддзя. Ён быў сярод тых дваран, што разам з Вахтангам VI эмігрыравалі ў Расію. Жыў літаратурным жыццём грузінскай калоніі пад Масквой, служыў у дыпламатычных місіях Расійскай імперыі. Аўтар падручніка па паэтыцы (1731). Гады нараджэння і смерці невядомыя.

*Дзмітрый Саакадзе.* Год нараджэння невядомы. Паэт XVIII стагоддзя. У грузінскай калоніі пад Масквой жыў з 1734 года, з 1741 года — на вайсковай службе. Жыў на Украі-

не, потым у сяле Усесвяцкім. Памёр у 80-х гадах XVIII стагоддзя.

*Тэймураз II* нарадзіўся ў 1700 годзе. Цар Кахецii (1733—1744), а потым Картлі (з 1744 г.), паэт і перакладчык з персідскай мовы. З мэтай збліжэння з адзінавернай Расіяй накіраваўся ў Пецярбург, дзе і памёр у 1762 годзе. Пахаваны ў Астрахані.

*Давід Гурамішвілі* нарадзіўся ў 1705 годзе ў в. Сагурама непадалёк ад Тбілісі ў сям'і знатнага грузінскага князя. У 1728 годзе яго выкралі лезгіны і палоннікам вывезлі ў Дагестан. Праз некалькі месяцаў ён уцёк і ў 1729 годзе апынуўся ў Маскве пры двары Вахтанга VI. Пасля смерці цара прыняў рускае падданства і ўдзельнічаў у войнах супраць Турцыі, Швецыі, Прусіі. Пакінуў службу ў чыне падпаручніка, пасяліўся ў маёнтку ў Міргарадзе. У 1787 годзе паэт перадаў свой зборнік «Давідзіяні» царэвічу Мірыяну, які прывёз творы ў Грузію. Памёр 21.07(2.08).1792 г.

*Саят-Нова* нарадзіўся ў 1722 годзе ў г. Тбілісі. Па паходжанні армянін, з прыгонных царэвіча Георгія, звалі яго Аруцін Саядзян (Саят-Нова — ашугскі псеўданім). Быў паэтам і співаком пры двары цара Іраклія II. Пісаў на грузінскай, армянскай і азербайджанскай мовах. З'яўляўся ашугам класічнага тыпу: складаў вершы і музыку і выконваў песні пад уласны акампанемент. Пакінуў палац, служыў у Кахі свяшчэннікам, а пасля жончынай смерці пастрыгся ў манахі (1768). Памёр у 1801 годзе.

*Бесікі (Бесарыён Габашвілі)* нарадзіўся ў 1750 годзе ў г. Тбілісі ў сям'і Захарыі Габашвілі, прыдворнага свяшчэнніка цара Тэймураза II. Выхоўваўся пры царскім двары, знаходзіўся на дыпламатычнай службе ў імярэцінскага цара Саламона II, які падараваў паэту княжацкі тытул. Вёў перагаворы з галоўнакамандуючым Пацёмкіным аб уваходжанні Імярэцінскага царства пад апеку Расіі. Потым быў накіраваны ў Кішынёў і Ясы, дзе праходзілі руска-турэцкія мірныя перагаворы. Памёр 24.01(04.02).1791 г. у Ясах.

## ЗМЕСТ

**Анталогія** грузінскай паэзіі: У 2-х т.: Пер. з
А 72 груз. Т. I./Рэд. А. Разанаў; Прадм. С. Цаішвілі.—
Мн.: Маст. літ., 1989.— 286 с., [3] л. іл.

ISBN 5-340-00139-3.

Антология грузинской поэзии.

У анталогіі адлюстраваны многавяковы — ад старажытнасці і да нашых дзён — шлях развіцця грузінскай паэзіі, якая арганічна з'яднала ў сабе, на багатай і самабытнай нацыянальнай аснове, дасягненні цывілізацый Усхода і Захада.

Першы том склалі творы паэтаў IX—XVIII стагоддзяў: Давіда Будаўніка, Шата Руставелі, Тэймураза I, Арчыла II, Вахтанга VI, Давіда Гурамішвілі і іншых.

**ББК 84Гр**

**А $\frac{4702170102-010}{М\ 302(03)-89}$ 128—89**

Литературно-художественное издание

*Антология грузинской поэзии*
*в двух томах*

**Том I**

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»
На белорусском языке

---

Літаратурна-мастацкае выданне

*Анталогія грузінскай паэзіі*
*ў двух тамах*

**Том I**

*Рэдактары Н. І. Тулупава, К. Я. Жук*
*Мастак Л. А. Трэстман*
*Мастацкі рэдактар А. І. Цароў*
*Тэхнічны рэдактар Т. М. Сокал*
*Карэктар Л. М. Маслоўская*

ІБ № 1669

Здазена ў набор 05.04.88. Падп. да друку 21.10.88. Фармат $70 \times 100^1/_{32}$. Папера друк. № 1. Гарнітура звычайная новая. Высокі друк. Ум. друк. арк. 11,7+0,49 укл. Ум. фарб.-адб. 12,84. Ул.-выд. арк. 12,03. Тыраж 2000 экз. Зак. 1314.
Цана 1 р. 20 к.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.